ВОСЬ ЯКІ ЁН, МЕСЯЦ!

БУДЗЕМ ВЕРНЫЯ СПРАВЕ БАЦЬКОЎ

ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ МАЛЕНСТВА

ДЭБЮТУЕ АРКАДЗЬ ПІНЧУК

ТЭАТР КАНДРАТА КРАПІВЫ

ПРА АДНУ МАЛАДЗЁЖНУЮ БРЫГАДУ

У ГАСЦЯХ — ТОНЕЖСКІЯ СПЕВАКІ

ВЯСНОВАЕ — ЛІРЫЧНАЕ І СВЕТЛАЕ

ПАМЯЦЬ У АМПУЛЕ



3

САКАВІК

МІНСК 1966

Выдавецтва «Звязда».

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе** — **№ 3 САКАВІК 1966**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **В. Шаранговіча.**

Галоўны рэдактар **Пімен ПАНЧАНКА.**

Рэдакцыйная калегія: **Алесь АСІПЕНКА** (нам. галоўнага рэдактара), **Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсень ВАНІЦКІ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ** (адказны сакратар).

# НОВЫ ПОДЗВІГ КРАІНЫ САВЕТАЎ.

## РАДЫЁМОСТ МЕСЯЦ—ЗЯМЛЯ ЎСТАНОЎЛЕН!



Першы краявід Месяца.

## ВОСЬ ЯКІ ЁН, МЕСЯЦ!

У пярэдадзень XXIII з'езду КПСС па ўсёй нашай краіне, на ўвесь свет праляцела хвалюючая вестка: савецкая аўтаматычная станцыя «Месяц-9» зрабіла мяккую пасадку на Месяцы. Радасць якая! Мы, савецкія людзі, зноў першыя ў штурме глыбінь космасу. Зноў выдатная перамога савецкай навукі і тэхнікі, трыумф працы і розуму будаўнікоў камунізма.

Аўтаматычная станцыя «Месяц-9», якая прылунілася 3 лютага 1966 года на ўсходняй ускраіне Акіяна Бур, наладзіла прамую сувязь з Зямлёй і на працягу трох дзён перадавала найкаштоўнейшыя звесткі з Месяца на Зямлю.

Зроблена кругавая панарама месячнага ландшафту, і адлюстроўкі перададзены на Зямлю. Па радыёкамандах з наземнага цэнтра касмічнай сувязі, па выбару вучоных, праведзены дэталёвы прагляд асобных участкаў паверхні Месяца.




**Схема палёту аўтаматычнай станцыі «Месяц-9».** **Схема палёту на ўчастку тармажэння.**

**На першым этапе палёту з дапамогай ракеты-носьбіта была выведзена на арбіту спадарожніка Зямлі аўтаматычная станцыя «Месяц-9» з ракетным блокам, прызначаным для наступнага разгону з арбіты спадарожніка; на другім этапе былі здзейснены запуск разгоннага ракетнага блока і вывядзенне аўтаматычнай станцыі на траекторыю палёту да Месяца; трэцім этапам з'явілася карэкцыя траекторыі руху, якая забяспечыла сустрэчу аўтаматычнай станцыі з паверхняй Месяца ў загадзя выбранай раўніннай частцы Акіяна Бур; чацвёрты этап палёту — тармажэнне і здзяйсненне мяккай пасадкі на паверхню Месяца.**

У раёне, які аглядала станцыя «Месяц-9», паверхня параўнаўча роўная. Яна дастаткова цвёрдая, бо здымак паказвае, што не было істотнага пагружэння апаратуры ў грунт; не заўважана прыкметных слядоў пылу на месячнай паверхні.

Паверхня Месяца вельмі шурпатая і мае шмат дробных паглыбленняў і ўзгорачкаў. На ёй раскіданы асобныя ўтварэнні тыпу каменняў. Камень, які адкідвае доўгі цень (гл. здымак), мае памер каля 15 сантыметраў і знаходзіцца на адлегласці парадку двух метраў ад станцыі. Удалечыні значна больш буйныя каменні, памер якіх на здымку скрадваецца перспектывай. Вялікія цёмныя плямы ўяўляюць сабой паглыбленні.

Наверсе злева на здымку бачна група буйных паглыбленняў і ўзгоркаў.

З прычыны адсутнасці на Месяцы атмасферы, неба выглядае зусім чорным. Адсутнасць рассеянага святла дае вельмі кантрасныя цені.

Першае ў гісторыі чалавецтва даследаванне Месяца прайшло ўдала, з выключным поспехам. Намечаная праграма выканана поўнасцю.

Мы ўбачылі, як выглядае наш даўні нябесны сусед, спадарожнік Зямлі. Недалёка той час, калі да яго ў госці завітае чалавек.

Чакай нас, Месяц!

*Шчырае камсамольскае вітанне XXIII з'езду КПСС!*


**Генадзь ЖАБІЦКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**


# БУДЗЕМ ВЕРНЫЯ СПРАВЕ БАЦЬКОЎ

Моладзь, якая ідзе ў жыццё, на змену старэйшаму пакаленню, імкнецца памножыць здабыткі і славу сваіх бацькоў, быць дастойным нашчадкам і прадаўжальнікам іх справы.

Кожны малады чалавек — сын сваёй Айчыны, ён горача любіць сваю Радзіму-маці, працуе дзеля яе росквіту, змагаючыся супраць усяго, што перашкаджае ёй расці і квітнець. Любоў да савецкай Радзімы — святое пачуццё, якім напоўнены гарачыя сэрцы маладых патрыётаў.

Прайшло ўжо больш дваццаці гадоў з таго часу, як замоўклі гарматы, як бомбы і снарады перасталі крэмсаць зямлю многіх краін Еўропы. Зараслі бур'янам акопы і траншэі, узняліся з папялішчаў гарады і вёскі. Загаіліся раны вайны. Вырасла новае пакаленне моладзі, якое не бачыла яе жахаў. Але не высахлі слёзы матак, якія ўсё яшчэ не трацяць надзеі сустрэць тых, каго забрала ў іх шалёная завіруха.

Ні з чым нельга параўнаць страты, якія панесла наша краіна людзьмі. Толькі на Беларусі гітлераўцы знішчылі звыш 2 мільёнаў 200 тысяч чалавек, каля 380 тысяч вывезлі на катаргу ў Германію. Кожны чацвёрты жыхар рэспублікі аддаў сваё жыццё за Радзіму.

Кожная пядзь беларускай зямлі захоўвае свяшчэнную памяць аб мужнасці і гераізме савецкіх людзей у часе суровых выпрабаванняў. Сімвалам стойкасці і непакорнасці стала цытадэль над Бугам — Брэсцкая крэпасць.

У родным беларускім небе зрабіў свой подзвіг Мікалай Гастэла. У дні гераічнай бітвы за Беларусь чатырнаццаць сыноў нашай Радзімы паўтарылі подзвіг Аляксандра Матросава. Толькі за фарсіраванне Дняпра і За-



**Алена Каваленка, Людміла Паташ, Леанід Шаўцоў, Святлана Кузьміна і Марыя Мяшкова — будуюць Гомельскі суперфасфатны.**
Фота **У. Адарыча.**

ходняй Дзвіны на тэрыторыі рэспублікі 328 воінам было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

На палях вайны, у партызанскіх лясах, у падполлі выкоўваліся баявыя традыцыі камсамола Беларусі. Адначасова з фарміраваннем партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп ствараліся і падпольныя партыйныя і камсамольскія арганізацыі, якія ўзначалілі ўсенародную барацьбу з захопнікамі. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з фашыстамі, падпольныя камсамольскія арганізацыі Обаля, Асінторфа, Мінска, Скідэля, Ліды занесены ў Кнігу гонару ЦК ВЛКСМ.

У грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны камсамольцы, юнакі і дзяўчаты рэспублікі з гонарам выканалі свой абавязак перад Радзімай. Савецкі ўрад высока ацаніў дзейнасць камсамола Беларусі, узнагародзіўшы яго ў 1945 годзе ордэнам Чырвонага Сцяга.

Сёння гэтыя традыцыі жывуць у буднях камуністычнага будаўніцтва, ярка праяўляюцца ў працоўных справах, якімі камсамольцы і моладзь сустракаюць XXIII з'езд КПСС.

Добрым падарункам з'езду партыі з'явіўся пуск першай чаргі Гомельскага суперфасфатнага завода. Завяршаецца будаўніцтва другой чаргі Баранавіцкага бавоўняна-паперовага камбіната, пачалася вытворчасць корду на Светлагорскім заводзе штучнага валакна.

На ўдарную вахту ў гонар XXIII з'езду партыі сталі маладыя рабочыя другога механічнага цэха Гомельскага завода трактарных пускавых рухавікоў. Моладзь вырашыла выконваць зменнае заданне за шэсць гадзін, а ў сёмую — выпускаць звышпланавую прадукцыю. Сваё слова маладыя патрыёты трымаюць моцна.

Члены брыгады камуністычнай працы, якую ўзначальвае Уладзімір Мудры з трэста № 16 «Нафтабуда», абавязаліся штодзённа даваць 130 працэнтаў нормы. У спаборніцтва за эканомію і беражлівасць, за апярэджанне графіка ўступілі маладыя станкабудаўнікі, аўтазаводцы, трактарабудаўнікі беларускай сталіцы. У перадз'ездаўскія дні наша рэспубліка нагадвае гіганцкі цэх, у якім гучыць сімфонія стваральнай працы. Як заўсёды, камсамолія — у першых радах, камсамольцы — запявалы новых спраў, карысных пачынанняў.

У сваёй практычнай дзейнасці мы імкнёмся, каб рэвалюцыйныя ідэі, палітычныя веды сталі перакананнем, каб кожны малады чалавек быў пераемнікам і прадаўжальнікам гераічных спраў старэйшага пакалення, каб моладзь ведала гісторыю нашай краіны, шлях, пройдзены партыяй і народам. За апошнія гады камсамольскія арганізацыі набылі пэўны вопыт выхавання моладзі на традыцыях старэйшага пакалення. Глыбокім ідэйным зместам вызначаюцца самыя разнастайныя формы камсамольскай работы. На пленумах гаркомаў, райкомаў камсамола ўсё часцей ідзе размова пра тое, што азначае быць рэвалюцыянерам-ленінцам сёння.

Магутным сродкам патрыятычнага выхавання моладзі стала вывучэнне, раскрыццё і яркі паказ гераізму і велічы подзвігу народа на ўсіх этапах яго барацьбы за справу рэвалюцыі. Гэта тым больш неабходна таму, што маладое пакаленне, якое нарадзілася пасля вайны, у поўнай меры не ўяўляе вялікага працоўнага подзвігу бацькоў, што пабудавалі першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву і адстаялі яе свабоду і незалежнасць сваёй гераічнай барацьбой у гады грамадзянскай і Айчыннай войнаў.

Наша моладзь, якая імкнецца прадаўжаць подзвігі бацькоў, загартоўвае сябе духоўна і фізічна. Словы чэшскага нацыянальнага героя Юліуса Фучыка «Няхай жа тыя, што загінулі ў баі, будуць блізкія нам, як сябры, як родныя, як вы самі», — сталі дэвізам нашай моладзі.





**Ударная камсамольская будоўля — Гомельскі суперфасфатны. Першая чарга ўступіла ў строй: цэх сернай кіслаты.**

У кожнай вобласці, у кожным раёне выйшлі ў паход камсамольскія следапыты. Яны збіраюць звесткі пра баявыя дзеянні часцей Савецкай Арміі, партызанскіх брыгад і злучэнняў, падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый. За апошнія гады выяўлена многа новых, раней невядомых імёнаў герояў вайны, сабраны шматлікія дакументы, факты, каштоўныя рэліквіі. Сустрэчы з удзельнікамі гераічных падзей, наведванне памятных мясцін — усё гэта прымушае маладых людзей як бы стаць удзельнікамі тых падзей, узбагачае іх яркімі, хвалюючымі ўражаннямі, усяляе пачуццё гордасці за свой родны край, нараджае імкненне ўсюды і ва ўсім следаваць прыкладу герояў.

Многія камсамольскія арганізацыі ствараюць музеі гісторыі Ленінскага камсамола. У рэспубліцы ўжо ёсць звыш 2500 музеяў, пакояў і куткоў баявой славы.

Зусім нядаўна ў Обалі, там, дзе дзейнічала буйнейшая падпольная камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы», адкрыты Рэспубліканскі музей баявой камсамольскай славы. Гэта — хвалюючы летапіс таго, як у рэспубліцы ствараліся першыя камсамольскія арганізацыі, як гартавалася камсамолія на рыштаваннях будоўляў першых пяцігодак, як бараніла сваю Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны і як множыць працоўную славу сёння.

Своеасаблівымі музеямі ў нас сталі 50 адноўленых партызанскіх зямлянак, куды цяпер пракладзены турысцкія сцежкі. Камсамольцы і моладзь Рагачоўшчыны аднавілі зямлянку, дзе размяшчаўся былы падпольны райком партыі. У зямлянцы — рэчы і прадметы партызан, фотакопіі дакументаў, карты, абсталяваны стэнды, якія расказваюць пра партызанскія будні.

Добрай формай патрыятычнага выхавання моладзі з'яўляюцца клубы рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы, дзе праходзяць сустрэчы моладзі з вядомымі людзьмі — героямі вайны, удзельнікамі рэвалюцыйных падзей. Саветы клубаў памагаюць ствараць куткі і музеі баявой славы ў школах, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах.

У цеснай дружбе з камсамоліяй працуе рэспубліканскі савет ветэранаў, які аб'ядноўвае сотні ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Ветэраны ўсё часцей сустракаюцца з моладдзю. Такіх сустрэч толькі летась было каля 150 тысяч.

А экскурсіі, турысцкія паходы па дарогах баявой славы! Яны зрабіліся дзейснай формай ваенна-патрыятычнага выхавання. Гэтыя экскурсіі і паходы часта ўзначальваюць былыя франтавікі, партызаны, падпольшчыкі. Кожны паход — гэта не толькі пройдзеныя кіламетры, але і новыя яркія старонкі нашай гісторыі.

«Ніхто не забыты, нішто не забыта!» — пад такім дэвізам камсамольскія арганізацыі рэспублікі разгарнулі работу па ўвекавечанню памяці загінуўшых герояў.

Як вядома, летам 1941 года выхаванец Ленінскага камсамола Мікалай Гастэла разам з экіпажам самалёта — камсамольцамі Анатолем Бурдзенюком, Рыгорам Скарабагатым і Аляксеем Калініным накіраваў свой палаючы самалёт на калону нямецкіх танкаў і браневікоў. На тым месцы каля шашы Мінск — Маладзечна збудаваны манумент.

Наша беларуская камсамолія з дапамогай галоўнага Упраўлення шасейных дарог паставіла таксама манументы Героям Савецкага Саюза — генералу Льву Даватару, Пятру Купрыянаву, Канстанціну Заслонаву, Міхаілу Сільніцкаму, віцэ-адміралу Дразду; узвышаюцца манументы і там, дзе здзяйснялі свае подзвігі выхаванцы ленінскага камсамола.

Хутка будуць устаноўлены — манумент Феліксу Эдмундавічу Дзяржынскаму, помнікі выхаванцы маскоўскага камсамола Лене Колесавай, праслаўленаму снайперу Фядосу Смалячкову і іншым героям. Пачаліся работы па збудаванню ў Мінску галерэі герояў, рыхтуюцца да выпуску графічныя партрэты камсамольцаў-патрыётаў.

Гістарычным помнікам стане Вілья — невялікая беларуская вёска, якая,



**Маладыя будаўнікі Нова-Полацка — брыгада Уладзіміра Мудрага** (трэці злева).

як і сотні іншых, была знішчана гітлераўцамі за сувязь з партызанамі. Фашысты спалілі ўсіх яе жыхароў. І толькі попел і абгарэлыя камяні нагадваюць пра страшную трагедыю. Маладыя архітэктары распрацавалі праект адраджэння вёскі ў мемарыяле. Кожны спалены дом стане помнікам, імя кожнага яго жыхара будзе высечана на камені.

Помнікі, абеліскі, мемарыяльныя дошкі — гэта не толькі даніна памяці аб загінуўшых. Каля манументаў герояў, ля брацкіх магіл праходзяць урачыстыя мітынгі, піянерскія лінейкі, гучыць клятва Радзіме, на былых партызанскіх стаянках праходзяць сустрэчы з удзельнікамі баявых дзеянняў.

Імёны тых, хто адстаяў шчасце нашага пакалення, імёны герояў жывуць у назвах вуліц, сквераў, паркаў, школ, прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, камсамольскіх арганізацый, піянерскіх дружын.

Важная роля ў працэсе выхавання моладзі належыць літаратуры і мастацтву. Тэма гераічнага подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне стала вядучай у творчасці беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, скульптараў.

Плённа працуюць у гэтым напрамку тэатры Беларусі. За апошнія два гады на сцэне нашых тэатраў пастаўлена больш як пятнаццаць новых спектакляў, якія ярка паказваюць гераіку Айчыннай вайны. Гераічнай тэме прысвечаны многія дакументальныя і мастацкія фільмы беларускіх кінастудый.

А колькі тэм яшчэ чакаюць свайго вырашэння, колькі яшчэ не раскрытых герояў! Абавязак творчых работнікаў — праяўляць усё большую цікавасць да гераічнага мінулага нашага народа. Моладзі патрэбны новыя творы пра герояў-камсамольцаў, добрыя вершы і песні пра камсамол. Патрэбны творы, вартыя нашай эпохі, нашых цудоўных людзей, творы, поўныя рамантыкі і аптымізму, якія клічуць маладое пакаленне на новыя гераічныя і працоўныя подзвігі.

Яшчэ ў кастрычніку 1922 года, пасля V з'езду РКСМ, камсамол Беларусі ўзяў шэфства над баявымі злучэннямі Балтыйскага Флоту. З таго часу шэфскія сувязі нашых камсамольскіх арганізацый з воінамі Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту ўсё мацнеюць і набываюць большы размах. У сучасны момант абласныя камсамольскія арганізацыі падтрымліваюць з балтыйцамі цесную сувязь. На прадпрыемствах, пры райваенкаматах дзейнічаюць на дабраахвотных пачатках універсітэты будучага воіна, лекторыі, моладзь спраўляе дні працаўніка, наладжвае спартакіяды дапрызыўнай моладзі.



**Гэтая сустрэча адбылася ў Брэсце ў верасні 1965 года. Вучні Іканскай школы на Барысаўшчыне зрабілі шмат, каб уславіць подзвігі сваіх землякоў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта і расказвае Косця Жукоўскі генералу А. Сабураву.**

Фота **В. Ждановіча.**

Многія камсамольскія арганізацыі падтрымліваюць сувязь з тымі, хто пайшоў у Армію, вядуць з воінамі перапіску, наладжваюць сустрэчы з імі, калі тыя прыязджаюць на пабыўку. На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах можна ўбачыць Дошкі гонару, дзе разам з партрэтамі перадавікоў вытворчасці змешчаны фатаграфіі воінаў-землякоў, выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

Ужо колькі гадоў праходзяць рэспубліканскія экспедыцыі піянераў і школьнікаў пад дэвізамі: «Па партызанскіх сцежках», «Па дарогах герояў», «Запаветы Леніна — у жыццё».

У школах праводзяцца дні памяці герояў, лекцыі пра людзей незвычайных, камсамольскія і піянерскія злёты пад дэвізам «Помні тых, хто легендай авеяны»; ствараюцца музеі і пакоі баявой славы.

Рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі цесна ўзаемазвязаны і служаць адной мэце — выхаванню ідэйна-пераконаных, свядомых будаўнікоў камуністычнага грамадства.

У працоўных буднях нарадзіліся такія формы камуністычнага выхавання моладзі, як спаборніцтва паміж брыгадамі, звеннямі, экіпажамі за права насіць імя героя-земляка, за права занесці яго імя ў склад свайго калектыву. Трывала ўвайшлі ў быт нашай моладзі святы працы, першай зарплаты, першай баразны, урачыстая перадача маладому рабочаму станка, інструмента, якім працаваў ветэран, вечары ўшанавання перадавікоў вытворчасці. Своеасаблівым гімнам працы сталі святы Вясны, Ураджаю. Яны шырока праводзяцца, напрыклад, у Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай абласцях. Трэба, каб кожны малады чалавек лічыў працу на карысць грамадства — першай жыццёвай неабходнасцю.

Вялікая Айчынная вайна, гады мірнага будаўніцтва паказалі і паказваюць, што наша краіна — адзіная, дружная, моцна згуртаваная сям'я народаў. Сілу гэтай дружбы заўсёды адчувала і адчувае Савецкая Беларусь, якая з братэрскай дапамогай народаў усёй краіны паспяхова залячыла раны вайны, стала рэспублікай высокаразвітай індустрыі і сельскай гаспадаркі.

На тэрыторыі Беларусі ў гады суровых выпрабаванняў у радах Савецкай Арміі, у партызанскіх атрадах, у падполлі з мужнасцю і адвагай змагаліся прадстаўнікі ўсіх народаў нашай краіны, людзі самых розных нацыянальнасцей. Для іх лёс беларускага народа быў уласным лёсам.

У партызанскіх атрадах Беларусі супраць агульнага ворага — фашызму змагаліся таксама палякі, чэхі, славакі, балгары, французы, прадстаўнікі іншых народаў Еўропы. У барацьбе з фашызмам мацнела інтэрнацыянальная дружба народаў. Былыя воіны, партызаны сёння падтрымліваюць сувязь з таварышамі па зброі. З мэтай інтэрнацыянальнага выхавання моладзі мы шырока выкарыстоўваем геаічныя подзвігі партызанскіх злучэнняў Каўпака і Сабурава, воінаў першай польскай дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі, чэхаў і славакаў пад камандаваннем Яна Налепкі, лётчыкаў эскадрыллі «Нармандыя — Нёман».

Пра ўсё, што тут сказана, ішла вялікая, шчырая размова на VIII Пленуме ЦК ВЛКСМ, які абмеркаваў пытанне «Аб рабоце камсамольскіх арганізацый Беларускай ССР і Іванаўскай вобласці па выхаванню моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях савецкага народа». Пленум яшчэ раз падкрэсліў, што нам ні на хвіліну нельга забываць пра тое, што нашы ворагі, імкнучыся прытупіць рэвалюцыйную пільнасць савецкай моладзі, падарваць класавую салідарнасць працоўных, няспынна прапагандуюць ідэі пацыфізму, абстрактнага гуманізму, прапаведуюць мірнае суіснаванне ў галіне ідэалогіі.

Не абараняцца, а наступаць — вось крылаты дэвіз камсамола.

Ухваляючы дзейнасць камсамольскіх арганізацый Беларусі і Іванаўскай вобласці, Пленум ЦК ВЛКСМ звярнуў увагу ўсіх камітэтаў і актывістаў на максімальнае выкарыстанне набытага вопыту, усіх форм і сродкаў ідэйнага і эмацыянальнага ўздзеяння на моладзь. Галоўным у змесце ўсёй нашай работы па патрыятычнаму выхаванню юнакоў і дзяўчат павінна быць павышэнне адказнасці кожнага за ўсё, што робіць ён сам, яго калектыў, увесь народ у імя перамогі камунізма.

І ў рашэннях XXIII з'езду ЛКСМ Беларусі, які нядаўна адбыўся, распрацавана канкрэтная праграма нашай работы па выхаванню падрастаючага пакалення на слаўных традыцыях партыі і народа, з тым, каб моладзь усе свае думкі і ўчынкі вымярала ратнымі і працоўнымі подзвігамі бацькоў.

Наша краіна ідзе насустрач 50-годдзю Савецкай улады, і, вядома, што ўсю нашу работу трэба вельмі цесна спалучаць з падрыхтоўкай да гэтай знамянальнай даты. Нядаўна прынята пастанова ЦК КП Беларусі «Аб далейшай рабоце па ўвекавечанню геаічных подзвігаў савецкіх людзей у перыяд Вялікай Айчыннай вайны». Яна прасякнута вялікімі клопатамі пра ўшанаванне памяці сыноў і дачок нашай Радзімы, якія аддалі жыццё за наша сённяшняе шчасце. Камсамол рэспублікі прыме самы актыўны ўдзел у рабоце па выкананню гэтай пастановы.

Камсамольцы і моладзь рэспублікі, як і ўсе савецкія людзі, дастойна, з вялікім творчым натхненнем сустракаюць XXIII з'езд роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Няхай самым лепшым доказам вернасці традыцыям нашых бацькоў, нашай роднай партыі, самым велічным помнікам тым, хто аддаў сваё жыццё за мір, за справу камунізма, будзе самаадданая творчая праца на карысць усяго народа, імкненне кожнага маладога чалавека зрабіць усё, каб яшчэ больш прыгажэла і квітнела наша любімая Айчына.

**Уладзімір ШУРПА**



# СУД ВАЙНЕ

**Ліецца з прыёмніка музыка Грыга,**
**Хтосьці смяецца ў пакої сумежным.**
**Я ж бачу разумныя вочы камбрыга**
**І кроў на абрусе,**
**скамечаным**
**снежным.**

**Гаснуць праменні зімовага сонца,**
**Як мары, знікаюць гукі лагодныя...**
**Выбухі мін, страляніна бясконца,**
**Ахрыплі ад крыку камбаты, узводныя.**

**Слова пяшчотнае,**
**ціхае «мама»**
**Змяшалася з грубымі, бруднымі матамі...**
**Заціхла.**
**Але ненавісная «рама»**
**Заводзіць гульню з палявымі гарматамі.**

**Ізноў у зямлянках бяссонныя ночы:**
**Карты,**
**разлікі,**
**плывуць разведданыя.**
**Салдат,**
**або проста**
**рознарабочы,**
**Лісты перачытвае**
**доўгачаканыя.**

**Дзень абвяшчаюць грымотныя выбухі.**
**Нехта спаткнуўся аб кулю гарачую.**
**Сцямнела.**
**Заціхлі праклёны і выгукі.**
**Снег акрапіўся крывёю юначаю.**

А хто генералы, байцы і камбаты?
Няхай у іх розныя званні...
Гэтыя хлопцы
не толькі салдаты,
А людзі
з душой
і з каханнем.

Зямля ажывала,
чаргою прастрочана,
Вёска за вёскаю,
горад за горадам.
Але барацьба была не закончана,
Баі пачыналіся
з холадам,
з голадам...

Ізноў цішыня.
Зноў цудоўная музыка.
Ды сэрца сціскае
«Набат Бухенвальдскі»...
Ды ззяе радамі начышчаных гузікаў
Новых фашыстаў мундзір генеральскі.

А хлопцы такія нам родныя,
блізкія,
Тыя байцы,
генералы,
камбаты
На плошчах і скверах стаяць абеліскамі,
На п'едэсталы бяссмерця узняты.

Яшчэ не аднойчы гісторыя выцягне
Жахі гадоў,
пакалечаных
чорных тых.
І нат праз стагоддзі
ніколі не высахне
Скупая сляза
на старонках
разгорнутых...

Калі ўжо бандыты ад войн ацвярозяцца?..
Календары
запярэсцілі датамі...
Салдатамі людзі
наогул не родзяцца.
А ці ж неабходна быць ім
салдатамі?

## ЗІМОВЫ ВЕЧАР

Чатыры сцяны. Два акны невялічкія.
Столік пісьмовы, кніжак гара.
Гадзіннік-сячкарня
хвіліны адлічвае,
Чуецца гогат гусіны з двара.



У цёплы пакой цераз фортку маленькую
Ірвецца пагрэцца нават зіма.
Я лаю сівую:
Куды ж ты, дурненькая?
Хіба не бачыш —
месца няма.

Кінь сваю зброю —
пагрозы зімовыя...
З табою змагацца няма мне калі.
Бач, госці — газеты,
часопісы новыя —
Месцы пачэсныя
ўсе занялі.

Стаяць на паліцах, нібы на парадзе,
Часопісы-госці з «Москвой» на чале.
І нават прыемна «Гродзенскай праўдзе»
У гэткім суседстве
ляжаць на стале.

Пакой мой маленькі напоены пахамі
Снягоў Запаляр'я, зялёных дуброў.
Смяюцца пад сонцам,
ківаюць папахамі
Тысячы шчырых, разумных сяброў.

Як з братам, са мною лагодна вітаюцца
І вучаць мяне, як малое дзіця.
Гадзіннік ляскоча,
старонкі гартаюцца.
Старонкі у кніжках —
старонкі жыцця.

## БАЛАДА АБ ЛЕСЕ

Заходжу я ў лес,
як у горад вялікі.
З намерам здзіўляцца,
убачыць,
адкрыць.
Зусім па-сяброўску ківаюць ялінкі.
І лес пачынае са мной гаварыць.

Лясныя сцяжынкі — экскурсаводы
Зблудзіць не дазволяць,
падкажуць маршрут.
Раскажуць,
як пешыя людзі,
падводы
Скрозь мірны гушчар прабіваліся тут.

Як памяць,
узбоч інваліды-яліны
Прыкрылі ядлоўцам крывыя камлі.
Па іхніх карэннях ляглі каляіны,
Глыбока пралеглі па роднай зямлі.

Дубы,
што к дарозе выходзілі блізка,
Памерлі, каб меншых братоў зберагчы.
І сёння,
падобныя да абеліскаў,
Стаяць іх высокія пні і карчы.

Ды нельга дашчэнту знішчыць жывое,
Жыццё, нібы праўду, не знішчыш ніяк.
Ужо з-пад ялін пакалечаных,
хвояў,
З-пад шэрых карчоў устае маладняк.

Дубкі маладыя выпростваюць плечы.
А хвоі — адна за адну прыгажэй!
Няхай паспрабуе дарога пралегчы!
Цяпер давядзецца ёй значна цяжэй...

Як дзеці да маці,
кусты-навасельцы
Імкнуцца пад сховы зялёных шатроў.
І сёння іх кволыя дубчыкі-цельцы
Прыкрыты надзейна ад жорсткіх вятроў.

Як дрэва
падобнае да чалавека!
Вунь нават некалькі
дрэваў-стыляг.
Ды іх
утаймуе рука дрывасека,
Да сонца другім пракладаючы шлях.

А лес будзе вечна стаяць на планеце —
Мастацтва прыроды,
багацця кубы.
Каб мірна раслі навасаджанцы-дзеці,
На варце стаяць будуць вечна дубы.

Аркадзь ПІНЧУК



# • МНОГА—МАЛА

Апавяданне

## АЛЕСЬ

Сонца ўзыходзіла ціха і павольна. Супакоеная зямля чагосьці чакала. І дачакалася: высокае неба раптам заіскрылася і коса абурыла на зямлю тугія пасмы дажджу. Цяжкія кроплі гулка заскакалі па страсе, зашыпелі ў тапаліных лісцях. А за домам адразу ўскінулася вясёлка.

Хацелася кружыцца і крычаць. І я кружуся пасярод двара, шырока раскінуўшы рукі. Я не хачу хавацца ад дажджу, не хачу пакідаць гэты лапічак асфальту таму, што адсюль вельмі добра сачыць за расчыненым акном.

— Ва-а-ля!

У акне паказваецца схіленая на бок галоўка з прыжмуранымі ад яркага святла вачыма, з пасмай валасоў на лобе. Я спыняюся, як укапаны, і ўжо ніякая сіла не можа адарваць мой позірк ад акна.

— Алесь,— кажа Валя з усмешкаю,— табе не сорамна? Я ж пасля дзяжурства толькі-толькі задрамала...

Я маўчу і гляджу на яе паднятыя да неба рукі, бачу, як цяжкія кроплі разбіваюцца аб яе далоні. Мне хочацца голасна смяяцца. Ну хіба так цяжка зразумець, што я павінен быў паказаць ёй гэта незвычайнае, абмытае росамі сонца, гэтую вясёлку і штосьці яшчэ такое, што можна ўбачыць і зразумець толькі сонечным дажджлівым ранкам!

— Ты, Алесь, невыносны тып!— кажа яна спакойна.— Не крычы!

Валя паказвае мне кулак, але ад акна не адыходзіць, глядзіць, як я мокну, як на галаву мне падаюць важкія кроплі халаднаватага срабрыстага дажджу. Першага вестуна лета. Мне нястрымна хочацца крычаць. І я крычу:

— Барыска! Барыс!

Нечага і яму храпсці. Трэці дзень чалавек у водпуску. Колькі можна адсыпацца! Ды і дождж такі ці бачыў ён на сваёй Камчатцы...

— Усё,— кажу я Валі,— шумець больш не буду. Спі.

— Дзякуй за клопаты,— ківае яна быццам з крыўдай, але вочы ўсміхаюцца, дзякуюць.— Паспрабуй, засні, калі ты ўвесь дом на ногі падняў. Ненармальны...

Яна глядзіць у неба і зноў жмурыць вочы, і мне не хочацца, каб акно на другім паверсе апусцела і замест шэрых усмешлівых

Мал. Г. Скамарохава

вачэй на мяне глядзелі халодныя шыбы. І Валя ведае, што, як толькі яна адыдзе ад акна, я зноў буду крычаць і зваць яе. І яна не адыходзіць.

## БАРЫС

Павінен вам далажыць, што быць адпускніком найвялікшае задавальненне. Асабліва, калі ты тры гады не паказваў носа ў родным горадзе. Дзяўчынкі сталі нявестамі, хлопцы перажаніліся...

— Барыска! Барыс!

Гэта Алесь гарлапаніць на двары. Да дваццаці чатырох гадоў дажыў, ды так шкаляром і застаўся. Шкада, не пашанцавала яму, дактары нешта ў вуху знайшлі, а то разам лcraталі б. Хлопец ён порсткі, законны лётчык быў бы. А праз вуха — у тэхнары прыйшлося падацца. Алеся я люблю. Багата сяброў пагублялася па свеце, а от з ім моцна спаяліся. Яшчэ ў пятым класе сядзелі за адной партай. Нават дзяўчынкі нам адны і тыя ж падабаліся. Толькі Алесь ніколі не прызнаваўся ў гэтым. Кіно!

Што ж рабіць — уставаць ці не ўставаць? Юрка ўжо электрабрытву ўключыў. А што рабіць, калі ўстану? Пра тайгу слухаць? Эх, доля адпускніка...

— Юр! А да чаго ты падключаеш брытву там, у тайзе?

Юрка смяецца.

— Мабыць думаеш, мы як дагістарычныя людзі жывём? Ды ў нас у партыі свая электрастанцыя, самалёт дзесяць рэйсаў робіць на дзень. Уставай, Алесь заве. Пад дажджом пасярод двара мокне.

— Дзівачыць усё?

Мне тут пра яго расказваюць анекдоты. Якуюсь рацыяналізацыю ў часці прыдумаў, а яго не падтрымалі. Ён прыехаў у водпуск і паказаў на авіяцыйным заводзе, дзе працаваў да вучылішча. Убачылі ўсё гэта канструктары, ахнулі, за чарцяжы і ў Маскву. Хтосьці прылятаў з вайсковай часці, прасіў прабачэння... А год назад Алеся ледзь пад суд не аддалі. Калі быў у адпачынку, вечарамі з дружыннікамі хадзіў. У адно з дзяжурстваў адлупіў Ромку-Караля (ёсць тут у нас у горадзе тыпчык адзін), каб той не клянчыў ля гасцініцы.

Пабіў ён гэтага падонка з веданнем справы. «Кароль» зняў пабоі — і ў суд. Алесю пашанцавала, сярод народных засядацеляў надарыліся людзі, якія ведалі яго: дырэктар кнігарні і загадчык аддзела сацыяльнага забеспячэння. Першы памятаў Алеся як лепшага ў горадзе грамадскага распаўсюджвальніка кніг. Гэтым Алесь займаўся да арміі.

— Мне ён, шчыра кажучы, калісьці парадкам надакучыў,— сказаў загадчык аддзела соцзабеспячэння,— адвакатнічаў, пенсіі старым рабочым дабіваўся. Настырны такі. Але калі разглядаць яго маральны воблік...

Алесь абышоўся лёгкім перапудам.

З дзівачынкай хлопец. Вось, калі ласка, яшчэ адзін нумар — стаіць пасярод двара пад дажджом. З дзяўчынай размаўляе.

Дождж вылепіў з Алеся скульптурную фігуру, абазначыўся кожны мускул. Вясло б яму ў рукі — і можна ставіць каля ўваходу на водную станцыю. Алесь стаў высокі і дужы, як алень. У яго добры і мужны твар. Яму крыху нахабнасці, і дзяўчаты ліплі б да яго. Ды дзе там... Правінцыя. Тундра. Вучыць трэба.



А дзяўчына гэта — што трэба. Валя, здаецца, завуць. Калі нічога другога не падвернецца, можна пазабаўляцца ў часе водпуску. Два месяцы трэба ж неяк пражыць. Да Дашкі хіба махнуць? Толькі зноў гэтыя слёзы... Ніяк не зразумее, дурненькая, што мужа з мяне не будзе, хоць жонка з яе была б добрая. Да таго ж яшчэ — і красуня... Як Гэля Сарокіна. І каб здарылася са мной тое, што здарылася з Сарокіным, уцякла б да другога праз паўмесяца. Тамара аж дрыжыць ад злосці, калі я прабую параўноўваць яе з Гэляй Сарокінай. Але фокусы гэтыя мы ведаем.

Тамара праводзіла мяне ў водпуск да варотцаў на аэрадром. Вылет чамусьці затрымліваўся, і я доўга праз круглае акенца бачыў яе, скурчаную ад холаду, самотную. Яна вельмі лёгка апранулася, хацела быць прыгожай. І калі б я ў гэты момант выйшаў і сказаў: «Паляцім разам», яна б села ў самалёт, нічога не пытаючыся... А калі я загіну, яна праз паўмесяца... Не, я не выйшаў з самалёта, і яна самотна стаяла каля нізенькай агароджы, пакуль наш «ТУ» не адкацілі на ўзлётную паласу. І нават калі мы ўзляталі, мне здаецца, я бачыў яе блакітнае, як неба, плацейка. Можа і не трэба было так злосна жартаваць у апошнія хвіліны. Яна ж не заслужыла...

А, да д'ябла гэта самакапанне! Заслужыла, не заслужыла. Усе яны добрыя да часу. І гэта, Алесева, мабыць, не лепшая...

## АЛЕСЬ

Прамоклы спартыўны касцюм вісіць на балконе, а я апранаю адпрасаваныя матуляй штаны, кіцель з залатымі пагонамі і бягу да Барыса. У іхняй кватэры зараз усё ўверх дном — адразу два адпускнікі. Геолаг і лётчык. Цётка Соня з ног валіцца, але рада страшэнна. Юры Аляксеевіч памагае маці на кухні, Барыс прыхарошваецца перад люстэркам.





— Ну што,— пытае ён мяне,— прамыў мазгі цыганскім дажджом?

Барыса цяжка чым-небудзь здзівіць. Нават такім незвычайным сонечным дажджом.

— Мілы Алесік,— ляпае ён мяне па плячы,— ад гэтага сонечнага бляску ў мяне ў вачах мігаціць. Праб'еш хмары — тут табе малахітавая шкатулка. І ледзь не кожны дзень. На перахват аднойчы пад вясёлкай праляцеў, як пад аркай трыумфальнай. А ты цыганскім дажджом здзівіць хочаш... Хто гэтая красуня, што ў акенца выглядвала?

— Валя. Я табе казаў ужо — суседка, дзіцячы ўрач.

Барыс перастае галіцца, стрэліўшы ў мяне хітраватым позіркам. Мы аднагодкі, але мне заўсёды здаецца, што ён старэйшы за мяне гадоў на пяць.

— А калі дакладней?

— Летась інстытут закончыла. У дзіцячай бальніцы працуе.

— І ўсё?

— Ну, ведаеш... Я не павінен...

— О, божа! Мяне заўсёды расчульвае твая дзіцячая наіўнасць. Добра, сам высветлю. На дзень нараджэння запрашу заўтра. Прыйдзе?

— Адкуль я ведаю?..

Мне нешта не хацелася размаўляць з Барысам пра Валю. Зразумела, яна прыйдзе. Каб Валя ды раптам не прыйшла! Смешна і думаць. Неяк у нядзелю кажу ёй: «Пойдзеш па грыбы са мной?» Яна аж заскакала ад радасці. Потым усю нядзелю толькі і размовы, што пра грыбы. А нядаўна грошы мне з часці перавялі. Я жартам сказаў: «У рэстаран хіба заваліцца?» «Алесь, ты геній! — запляскала ў далоні яна.— Гэта здорава!» А потым прызналася, што яшчэ ні разу не была ў рэстаране. На стыпендыю не вельмі разгуляешся. Валя—дзетдомаўская. Цяпер яна самастойны чалавек. Урач. Карыстаецца аўтарытэтам. Прынамсі, так кажа мая матуля. Яна ж наказала Валі паглядзець за мною, покі буду ў водпуску, станоўча ўплываць. Мне што, мне нават цікава. Хай сабе ўплывае. Але калі пра гэта даведаецца Барыс, мне крышка. Ён жа, каб паздзекавацца, не пашкадуе ні бацьку, ні брата.

— Дык куды мы кіруем? — Барыс прыгладжвае шавялюру, зашпільвае гузікі на кіцелі. Ён як дзве кроплі вады падобны да касманаўта-два.

— Ведаеш, ты проста як Герман! — кажу я.— Дальбог, падобны...

— Не кажы. Аднойчы ў Петрапаўлаўску хлопцы такі нумар выкінулі. Так што ты не першы гэта заўважыў. І дзяўчаты, мабыць, таму ліпнуць да мяне. Як у цябе на гэтым фронце? Хутка жэнішся?

— Пасля цябе.

— Дарма чакаеш, Алесік, старой дзеўкай застанешся. Я, між іншым, ужо збіраўся...— Барыс раптам змоўк, прыпаліў цыгарку, адвярнуўся да акна, зрабіў зацяжку. У куточку губ залёг цень.— Потым у нас камэска загінуў...— Голас у Барыса раптам асіп.—Жонка яго, цяжка паверыць, праз паўмесяца выйшла за другога. Вось як... Цяжка паверыць — праз паўмесяца...

Я, зразумела, не хацеў верыць. Я кожны дзень бачу жонак нашых лётчыкаў. Дзікая поўнач, тундра, але ніводная не паскардзілася, ніводная не ўцякла. Ды, мусіць, Барыс кажа праўду. Вельмі крута збегліся яго бровы, і вельмі раз'юшана смактаў ён цыгарку. Мабыць, гэты камэска быў добры хлопец.



Я куплю заўтра Барысу добры падарунак — кінаапарат. Хай здымае. Калісьці ў школе ён толькі і марыў пра кіназдымку.

## БАРЫС

Вось дзівак, такія грошы аддаў... Хочаш — не хочаш, а прыйдзецца здымаць. Машынка выдатная. Здыму Камчатку і прышлю Алесю поўную стужку. Шкада, касета пустая. А то б юбілей свой зняў.

Д'ябал, дваццаць чатыры гады... Вешай мяне, а я не ведаю — многа гэта ці мала? Перад самым водпускам, у часе палёту над акіянам, у мяне здарылася нешта з рухавіком. Акіян хваляваўся, з вышыні здаваўся змрочным і цяжкім. Я выразна ўявіў смерць. Так выразна, што ўвесь пахаладзеў. Мяне ахапіў жах. Я не мог далажыць пра тое, што здарылася. Самалёт падаў у акіян. Тады мне здалося, што пражыў я вельмі мала, што, па сутнасці, я жаўтароты блазнюк, і мне стала да болю шкада сябе.

— Не працуе рухавік,— нарэшце далажыў я на КП.

— Не працуе?.. Ну і што? — спакойна і нават сярдзіта загаварыў камандзір палка. У гэты дзень ён кіраваў палётамі.— Не ведаеш, як запусціць?

Я тады адчуваў сябе вопытным лётчыкам, дарослым мужчынам. А тут зразумеў: супраць яго я хлапчук. У адзін момант знайсці словы, той адзіна магчымы тон, якім можна ў момант смяротнай небяспекі вярнуць чалавека да жыцця — вось у чым сталасць.

Мне ўсяго дваццаць чатыры.

Ужо — дваццаць чатыры.

Чорт! Многа гэта ці мала? Калі многа, то чаму я адчуваў сябе бездапаможным блазнюком, які зусім не ведае жыцця? А калі мала, то адкуль у мяне гэта пачуццё перавагі над Алесем? Мы ж аднагодкі. Абодва афіцэры.

— Алесь...

Алесь нічога не бачыць і не чуе. Перад ім зараз Валя.

— Алесік,— я шапчу яму ў самае вуха, каб не спалохаць паэтычную атмасферу,— чуеш? Алесь, адкажы мне шчыра: дваццаць чатыры — многа ці мала?

— Пачакай, потым...

— Ёлупень закаханы...

Алесь разгублена чырванее, смешна мігае доўгімі павекамі. Кіно, дый годзе...

— Маўчу, маўчу. Адзначаю — густ у цябе добры. Глядзі, каб паклікаў на вяселле...

Дваццаць чатыры... Чаму ж мне ніколі не хацелася стаяць пад дажджом пасярод двара? І ніколі я разгублена, як Алесь, не мігаў вейкамі. Былі і ў мяне дзяўчаты, не горшыя, чым Валя. І ўсё было проста, даступна, зусім не так. А мне ж, як і Алесю, дваццаць чатыры...

— Алесік, ты адкажаш мне? Многа ці мала — дваццаць чатыры?

— Гэта, як жыць... Я так думаю...

— Філосаф... Падай лепей гарэлку...

## АЛЕСЬ

Барыс многа п'е. Выдумаў праблему — многа ці мала дваццаць чатыры? Усё толькі пачынаецца. Першы крок.

— Усё толькі пачынаецца, Барыска.

Хай падумае. А я запрашу Валю на танец.

Яна падымаецца насустрач мне з бліскучымі, нібы абмытымі дажджом, вачыма. Мне хочацца трошкі сціснуцца, стаць ніжэй, таму што побач з ёю я нагадваю бегемота. У яе вузкая пяшчотная далонь.

— Алесік, ты мяне не пакінеш адну? — Голас яе прытворна-капрызны.— Мяне прымусілі выпіць некалькі чарак віна. Не пакінеш?

— Можа цябе дамоў адвесці?

— Не, дамоў я не хачу,— кажа яна ціха. Глядзіць мне прама ў вочы.— Я хачу быць з табой.

Яна кладзе на мае плечы рукі і даверліва прыхінаецца да маіх грудзей. Мяккія, як лён, валасы казычуць мне вуха, шыю. Сэрца ўжо не грукае, а кідаецца, як злоўленая птушка. Я адчуваю сябе так, быццам нейкія цёплыя пругкія патокі лёгка падхапілі мяне і нясуць усё вышэй і вышэй...

Нас штурхнулі, і я беражліва прыкрываю Валю. Хачу нешта сказаць, але ў роце перасохла, язык бы прыклееены.

— Алесік,— яна зноў прыгарнулася да мяне, паглядзела ў вочы цёпла і аддана,— ты нават і не ведаеш, які ты харошы, Алесік.

Мяне калоціць. Я саджаю яе ў крэсла і, схапіўшы на стале бутэльку з віном, выбягаю на вуліцу.

Нешта здарылася. Нейкая таямніца адчыніла мне свае дзверы. Нешта запоўніла мяне ўсяго з ног да галавы незвычайным захапленнем, хацелася абняць свет, бегчы насустрач блакітнаму святлу далёкіх зорак. І я пабег, размахваючы бутэлькай...

У нейкі момант мільганула думка: трэба вярнуцца, ліха ведае, што падумаюць! Але яе тут жа змяніла другая: няхай думаюць, хіба гэта мае зараз якое-небудзь значэнне. Хай думаюць, што хочуць...

## БАРЫС

Кіно, дый годзе... Дзіцячы садзік. І што яна яму сказала? Сядзіць, пасміхаецца, як ні ў чым не бывала. А тое дзіця зараз можа натварыць такога, што ўсе святыя загалосяць. Я штурхнуў локцем брата.

— Юра, ты камандуй тут, а я Алеся прывяду. Яшчэ пад машыну трапіць.

Я знайшоў яго недалёка ад нашага дома на дзіцячай пляцоўцы. Ён сядзеў пад грыбком на краі пясочніцы і размаўляў з сабакам. Каля ног ляжала непачатая бутэлька віна.

Я сеў побач. Закурыў.

— Што здарылася, Алесь? Яна цябе пакрыўдзіла?

— Што ты, Барыс! — Алесь абедзвюма рукамі трымаў псіную морду.— Валя святы чалавек. Я ўтаплюся, калі пачую ад яе хоць адно крыўднае слова.

— Дзівак гарохавы. Жанчыны сілу любяць. Нахабнасць, калі хочаш. А такімі, як ты, пакутнікамі яны пагарджаюць. Зразумеў?

Алесь усміхаецца.

— Глупства ты, Барыс, мелеш. Гэта ж — святая жанчына.

— Эх ты! — мяне злавала яго наіўнасць. Пабачыў бы хоць раз, як праз паўмесяца выходзіць замуж жонка загінуўшага лётчыка.— Хадзем! Я табе кіно пакажу. Святая.

Мы ідзём па прыціхлай вуліцы. Звесіўшы галаву, за намі брыдзе сабака. Вось і наш дом.

Алесь астаецца на кухні. У пакоі кружацца пары, і я праціскаюся ў той кут, дзе Валя разглядае пласцінкі.





— Дазвольце?

— А дзе Алесь?

— Зараз прыйдзе.

— Валя...— Мы ўжо побач з дзвярыма на кухню,— вы не пакрыўдзіцеся, калі я, як імяніннік, папрашу вас выканаць адно маё жаданне?

— Калі не вельмі цяжкое,— яна какетнічае, як гэта ўмеюць рабіць усе жанчыны. Яна — «святая». Ах, чорт мяне забяры!

— На гэтым вечары вы самая прыгожая...— Яшчэ трошкі да дзвярэй, і Алесь усё ўбачыць.— Я хачу, каб вы падарылі мне адзін пацалунак... Я павязу яго ў сваім сэрцы на край свету, узніму за хмары, да самага сонца.

— Ого! Так далёка і так высока... Зараз пацалаваць ці тады, калі будзеце на край свету ад'язджаць?

Я раблю апошні крок. Куды? Навошта? Што я раблю?

— Цяпер. На гэтым месцы.

Мы супыняемся каля расчыненых на кухню дзвярэй. Алесь усё бачыць. Я адчуваю яе дыханне...

## АЛЕСЬ

Усё, што здарылася на вечары, мне і цяпер здаецца незразумелым сном. Праз мінуту-другую кранецца поезд, а я не хачу выходзіць на перон. Там мяне чакае Барыс. Я не ведаю, аб чым гаварыць з ім. Навошта ён г э т а зрабіў?

Благі сон.

Яны тады спыніліся за тры крокі ад мяне. Я ўвесь напружыўся, нібы ва мне раптам завялася тугая пружына. І калі іх вусны сустрэліся, нешта саскочыла, зрэзала шплінт, і пружына секанула, як маланка. Барыс адляцеў у кут пад вешалку. Валя ўскрыкнула і спалохана закрыла далонямі рот. Я кінуўся да дзвярэй. У англійскім замку нешта заела, і ён доўга не адкрываўся.

На ганку спатыкнуўся, упаў, заплакаў. Не ведаю, колькі я праляжаў. Мяне раскатурхала нейчая цяжкая рука. Гэта быў Юры Аляксеевіч, Барысаў брат. Ён трымаў шклянку і бутэльку з мінеральнай вадой. Гулка праехаў па апусцелай вуліцы апошні тралейбус. Я выпіў шыпучай вады, уголас падбадзёрыў сябе:

— Нічога, перажывем...

Потым мы сядзелі на трухлявым палене каля хлеўчыка. Да самага світанку. Ён цярпліва слухаў маю споведзь. Я спяшаўся выгаварыцца. Потым слухаў Юрыя Аляксеевіча, ён расказваў пра Байкал, тайгу, геолагаў.

Я ведаў, што болей не застануся тут ніводнага дня, таму што побач з ёю жыць не змагу. Хутчэй у часць, да самалётаў. Там праца. Вельмі багата працы.

І вось праз некалькі мінут поезд кранецца. Я бачу скрозь запыленае акно Барыса. Ён у парадной форме. Рот сціснуты. Ён чакае мяне. Я не выйду.

## БАРЫС

Можа гэта і добра, што ён не выйшаў. Што б я яму сказаў? Прабач? Не крыўдуй?.. Я незнарок?.. Я знарок?..

Паплылі побач чорныя квадраты вокан. Закружыліся людзі, будынкі. Наплылі гукі. І толькі адзін усё выразней прабіваўся да памяці: «Чак, чах-чах... Чак, чах-чах... Знарок-незнарок... Знарок-незнарок... Многа-мала... Многа-мала... Чак, чах-чах»... І стрыманае ўпэўненае Алесева: «Гэта, як жыць...»

З пятага класа мы сядзелі за адной партай. Перад выпускным вечарам мы беглі са школы дамоў. Адносілі атэстаты. За весніцамі разгарнулі, палічылі адзнакі: у мяне на адну пяцёрку было болей.

Алесь увесь вечар круціўся ваўчком, выконваў камсамольскія даручэнні. Мне было загадана весяліць дзяўчынак, і я добрасумленна нёс свой крыж.

...Калі я быў на чацвёртым курсе, Алесь закончыў вучылішча. Я таксама ўжо лятаў. Тэхніка пілатавання, агонь, манеўр, пасадка — усё гэта я выконваў, як бог. Мне казалі, што я нарадзіўся для неба, мае партрэты віселі на ўсіх дошках. Былі і ў газеце. Дзяўчаты з лётнай сталоўкі выразалі і хавалі іх на памяць. І Даша таксама.



Нам тады стукнула па дваццаць адным. Я паспяшыў быць дарослым. А ён дзівачыў. Адкрыў у банку рахунак для збірання сродкаў на помнік якомусьці кампазітару-земляку. За пакрыўджаных хлапчукоў учыніў скандал у школе. У дваццаць адзін Алесь заставаўся хлапчуком.

...Далёкая, сівая Камчатка. Першы самастойны вылет. Другі, трэці... «Бой» з камандзірам... Тамара. Яна добрая дзяўчына. І я, здаецца, люблю яе. Але мне ні разу не прыйшло жаданне стаяць пад дажджом каля яе акна.

А калі загінуў Сарокін, калі праз паўмесяца яго Гэля пабегла за другім, я, асліплены злосцю на ўсіх жанчын, помсціў Тамары, цешыўся яе болем, пакуль не сціх мой боль. Няма сярод іх святых. І не мая гэта віна, што давялося мне зрабіць гэтае страшнае адкрыццё.

«Гэта, як жыць...»

Хіба я пагана жыў? Хіба дарогі лёгкія шукаў? Тады, чаму ж я сарваўся ў штопар? Алесь, жаўтароты Алесь вырас. Абагнаў мяне. Не выйшаў з вагона... Не выглянуў. Дзе ж ты мяне абагнаў, Алесь?

## АЛЕСЬ

Смешна і сумна. Благі сон. Дзе і калі мы не зразумелі адзін другога? Я любіў Барыса. Я ганарыўся і даражыў яго дружбай, з нецярпеннем чакаў лісты з далёкай Камчаткі. Цяпер не буду чакаць. Мне ўсё роўна. Толькі ледзь-ледзь халодзіць душу адзінота: ні Барыса, ні Валі. Так нечакана, так адразу. Смешна і сумна.

Другія суткі ў моры. Параход лёгка рассякае цяжкія хвалі. Мора — цуд. Прыгожае і чароўнае. Зараз яно злуецца, і наша пасудзіна ўзлятае на хвалях, як парожняя бляшанка. Паглядзела б Валя на гэта.

...Гэта праўда, я думаю пра яе. Не хачу думаць, але думаю. А мне не трэба гэта рабіць, таму што кожны раз востры і халодны боль працінае наскрозь. Мне робіцца жудасна. Усё плыве. Але чаго я? Барыс — лётчык, я — тэхнік. Ён яшчэ ў школе падабаўся дзяўчатам. Ды і яе дакараць не маю права. Проста трэба ўсё забыць. Узяць і паступова ўсё забыць. І я гэта зраблю. Кажуць, што адлегласць і час — добрыя пасобнікі ў гэтай справе. Як будзе з часам — хто яго ведае, а з адлегласцю поўны парадак. Зараз тут восем гадзін раніцы, а там, у нашым горадзе, тры гадзіны ночы. Валя спіць. Не, не спіць, дзяжурыць каля сваіх малых.

Мора шуміць сярдзіта і загадкава. Праз ілюмінатар у каюту ляцяць пырскі. Часта дрыжаць пераборкі...

Калі я не памыляюся, сёння яна дзяжурыць...

## БАРЫС

Яе зменяць у сем. Я на шэсць завёў будзільнік. Навошта ўсё гэта раблю — не ведаю. Мяне нясе, быццам выйшаў са строю рухавік і я не магу адшукаць кнопку запуску. Не ісці ж ёй праз увесь горад адной у такі ранні час. Сустрэнецца які-небудзь дурань, пакрыўдзіць. А мне ўсё роўна няма чаго рабіць, адпускнік. Удзень высплюся.

Пасля таго вечара яна стала ціхая і задуменная. На маё прывітанне адказвае паспешна, не паварочваючы галавы. Яна саромеецца за сябе, за Алеся і не ведае, што ні яна, ні Алесь ні ў чым не вінаваты.





«Ад пошласці да подласці — адзін крок»,— сказаў мне Юры. Ніколі б не падумаў, што дакачуся да пошласці. Юры дарэмна не скажа.

Куды мяне нясе? Што я хачу даказаць? Што ўсе падобныя на Гэлю Сарокіну? Тады на якое ліха дзяжуру пад яе вокнамі. Устаю на світанку, каб убачыць, як яна ідзе на работу. Чакаю да цямна каля пад'езда, каб сказаць «добры вечар!» Навошта ўсё гэта?

«Ад пошласці да подласці — адзін крок». Ці не гэты крок я хачу зрабіць?

Будзільнік не паспеў як след вызваніць, я яго адразу накрыў далоняй. У вачах яснасць, нібы і не клаўся спаць. Пачынае світаць. На вуліцах пуста. Вярнуцца? Не ісці?

...Яна на ганку надзявае лёгкі плашч і, пакідаючы бальніцу, напамінае Алесевай маці, што праз гадзіну якомусьці Косціку трэба зрабіць ін'екцыю. Лаўлю сябе на тым, што любуюся яе светлымі валасамі, спакойным позіркам, сумнай усмешкай.

— Прывітанне, Барыс,— кажа яна такім тонам, нібы ёй даўно вядома, што ў шэсць гадзін раніцы я буду тырчаць каля бальніцы.— Мабыць не ведаеце — Алесь ліст маці прыслаў.

Мы ідзём амаль побач. Яе рукі ў кішэнях плашча. Шыя агорнута блакітнай хустачкай. Яна глядзіць пад ногі, толькі часам узнімае галаву, каб адкінуць непакорную пасму валасоў. І ўсё гаворыць, гаворыць...

— У Алеся там увесь час дзень. На паляванне ў тундру ходзіць, мішку бачыў жывога... Алесь ужо ўкараняе сваю рацыяналізацыю. Да іх цяпер самалёт рэйсавы лятае. Нядаўна ўвялі...

Усё так. Усё добра. Ад Алеся ідуць лісты. Але не мне, і не ёй.

— Валя,— кажу я ціха,— паглядзіце, якое чыстае сонца ўзыходзіць.

— Расой абмылася,— кажа яна,— а ў Алеся ўсё дзень і дзень...— І раптам падымае на мяне вочы. Яны перапоўнены горам і нянавісцю. І мне робіцца холадна.

## АЛЕСЬ

Зноў у нас пахаладала. Над гарызонтам застылі пасінелыя хмары, на ўзлётнай паласе гуляе халодны вецер. А ў нас на пляцоўцы горача. Мы паабяцалі закончыць рэгламент на некалькі гадзін раней. Пакуль усё ідзе добра. Толькі б не сарвацца, цьфу-цьфу...

Прымянілі мы тут некалькі навінак: і час зберажэм, і якасць





работы выдатная. Увялі з вялікім скрыпам, так што цяпер трэба вуха трымаць востра. Маленькі правал, і ўся наша рацыяналізацыя будзе перакрэслена. Інжынер палка ўжо некалькі разоў заглядваў на пляцоўку, моўчкі глядзеў і гэтак жа моўчкі адыходзіў.

Мне засталося праверыць муфту счаплення, і работа на рухавіку будзе закончана. У кабіне корпаецца Ніканоравіч, механік самалёта. Ён таксама заканчвае цяжкую аперацыю, цяжкую таму, што нязручна падступацца — замінаюць пнеўматычныя паскаральнікі. Але я за яго не хвалююся — ён ветэран. Самалёт ведае на зубок.

Усё ідзе выдатна. Устаўляю рукаятку ў гняздо і пачынаю пракручваць рухавік. Позірк прывычна знаходзіць мацаванні, правады, кантоўкі...

Кантоўка павінна ісці па гадзіннікавай стрэлцы. А чаму тут наадварот? На іншых балтах як трэба, а тут — наадварот. Не інакш — заводскі брак. Трэба новую паставіць.

Пакідаю на невялікі час рукаятку ў гняздзе і дастаю абцугі. І ў гэты момант рухавік гыркнуў, рукаятка ўдарылася аб арматуру і са звонам адляцела на бетон. Рухавік заціх... Вось табе і зберaглі час. Цяпер усё трэба пачынаць спачатку...

— Нязручна там,— вінавата апраўдваўся Ніканоравіч.— Ужо калі рухавік крутануўся, я заўважыў, што локаць на кнопцы запуску... Чорт яго ведае...

Зноў падышоў інжынер.

Я сяджу побач і чакаю прысуду. Ніканоравіч усё хоча растлумачыць інжынеру, што віна толькі яго. Але я ведаю, гэта не паможа. Рацыяналізацыі нашай крышка.

Мінуты бягуць марудна. Каб адчапіцца ад горкіх думак, я сачу за пасажырскім «Лі-2», які толькі што прызямліўся. Бачу, як выйшлі двое — лётчык (нехта з нашых, відаць) і нейкі хлапчук з рукзаком за плячыма. Афіцэр з чамаданам. Мабыць з водпуску. Нешта пытае ў начальніка ТЭЧ. Той паказвае ў наш бок.

— Трэба замяніць трубаправод,— кажа інжынер,— а ўсё астатняе зроблена добра.

Я разгубіўся, не ведаю, куды мне кінуцца: да інжынера ці да Барыса.

Гэта ён прыляцеў. Я бягу насустрач Барысу. І раптам спыняюся, нібы мяне штурхнулі ў грудзі. Я пазнаю хлапчука з рукзаком.

Я пазнаю Валю. Здагадка абпальвае грудзі, я непрыкметна адступаю да самалёта, хачу схавацца ў кабіну, але Барыс ужо ўбачыў мяне, стомлена ўсміхаецца. Навошта ён тут? Хоча апраўдацца? Ляцеў бы сабе на сваю Камчатку. Не хачу я слухаць яго апраўдання, ды і яе таксама. Ляцелі б лепей міма.

## БАРЫС

Валя баіцца. Спынілася і чакае. А я іду напрамкі да Алесевага самалёта. Я разумею яе, мне самому ўсё цяжэй падыходзіць да Алеся, быццам зноў раблю крок за крокам да адчыненых дзвярэй кухні.

Паміж намі каля дзесятка метраў. Алесь насцярожана чакае. І Валя чакае. А мне трэба ісці. Трэба зрабіць яшчэ некалькі крокаў і прамовіць даўно падрыхтаваныя словы: «Прабач мне, дружа...» Але падысці трэба як мага бліжэй, каб Валя не чула нас. Валя баіцца. Гэта добра. Валя — герой, усё-такі паляцела, не пабаялася.

Я стаўлю на бетон чамадан і сядаю на яго зверху.

— Ды ну вас да д'ябла! — крычу я Алесю.— Яна кахае цябе, і не глядзі на мяне, як на новыя вароты! Я прывёз яе табе, назаўсёды. Разбірайцеся самі!..

Я адлятаю гэтым жа самалётам. Ён ляціць праз некалькі хвілін. Думаю, што так будзе лепш для ўсіх. Я мог бы пажыць тут некалькі дзён, але будуць пытанні, на якія адказваць абы-як нельга. Іх ніхто, мабыць, і не будзе задаваць, але яны будуць. Будуць у позірках, нават у маўчанні. «Прывітанне і пакуль...» — так лепей для ўсіх.

«ЛІ» робіць разварот і вельмі нізка пралятае над аэрадромам. Я бачу разгублены ад шчасця Алесеў твар, бачу, як Валя прыгарнулася да яго плячыма. Мне б парадавацца за гэтых дваіх, але ў сэрцы пустата, нібы праз яго люты ўраган прамчаўся, усё раскідаў, захаладзіў.

Я спяшаюся ў свой полк. Там баявыя сябры, там мае крылы, і там — Тамара. Я патрэбен ім. Яшчэ больш патрэбны яны мне.

Самалёт набірае вышыню, і дзве постаці каля доміка ТЭЧ хутка зліваюцца ў адну. Толькі тырчыць у Валі за плячыма туга набіты рукзак. Алесь, дурань, дагэтуль не здагадаўся вызваліць яе ад такога цяжару.

Хлапчук. Дваццацічатырохгадовы хлапчук.

А мне таксама дваццаць чатыры. Многа гэта ці мала?

◆ ◆ ◆

**Нэла ТУЛУПАВА**



●

●

Неба яснае, яснае.
Дзе-нідзе толькі
Павуцінкаю хмарка празрыстая...
Ля шашы на абочыне
Маленькія елачкі,
Як зялёныя вожыкі,
Начапілі кляновае лісце.
Аб іржэўнік колецца вецер,
Студзіць крылле на беразе Проні...
На далоні
Пяро жураўлінае...
Журавы адлятаюць далёка.
Прызямляцца на роднай планеце.
А ў нас, у людзей,
Сусвет на прыкмеце.
Разлятаемся. Зноў вяртаемся.
Да грудзей Зямлі прыпадаем,
У яе прабачэння просім,
Свае скарбы мы ёй прыносім...
Журавы па-над полем.
Нам у вырай пара:
Рукзакі абдымаюць плечы...
Да сустрэчы, Зямля,
Да сустрэчы!

## ЧУЕШ, КАМУНА?

Стральба чуваць ля варот Сен-Клу.
Агонь барыкады ліжа.
Роў кананады, набатны тлум.
Версальцы ў Парыжы.

Падаюць, нікнуць паўстанцаў рады.
Вочы слепіць гарматны дым...
Да палаючых барыкад
Дзяўчына са сцягам ідзе ў руках.

— Гэй, камунары! Не трэба падаць!
Зброю рукі могуць трымаць?..
На барыкады!
Камень ёсць, калі зброі няма,—
На барыкады!..

Чуеш, Камуна, ў агні гару.
Куля мяне падкасіла...
На барыкады! Я не памру...
Расія, мая Расія!

Яе, беспрытомную, з логава ворагаў
На мужных руках паўстанцаў,
Прыкрытую сцягам, прапахлым
порахам,
Насустрач Расіі вынесла Францыя.

●

Зноў ударыў зялёны гром,
Загула ледзяная сеча...
І прачнуўся ад сну Дняпро,
Распраўляе з палёгкай плечы.

Ён азябнуў, ільдамі скуты.
Дзень-другі непрыкметна пройдзе,
Затрашчаць ледзяныя путы,
Ірванецца Дняпро на поўдзень.

Захвалюецца па-хлапечаму,
Бо сустрэча з вясной ля мора.
Шлях ляжыць твой, Дняпро, ля
Рэчыцы,—
Прывітай жа мой родны горад.

Ён даўно на мяне у крыўдзе,
Што знайшла я іншы прытулак...
Маці зранку на бераг выйдзе:
Мой паклон перадай матулі.

Ты вярнуцца, Дняпро, не зможаш,
Каб адказ мне яе прынесці...
Пэўна, зноў яе сны трывожаць,
Зноў у думках унучку песціць.

Белай пенаю талы снег.
Узмахні ты ёй, нібы стужкай...
Знаю: вестку матуля мне
Сёння з першай паслала птушкай.



Алена ВАСІЛЕВІЧ



# • МАЯ ІДЫЛІЯ

ПАДАРОЖЖА Ў АДНУ ДАЛЁКУЮ КРАІНУ

Мал. В. Шаранговіча.

## КРЫХУ ГЕАГРАФІІ

...У вас яна таксама ёсць, гэта чароўная краіна з нетутэйшай назвай — Ідылія. Праўда, у вас яна — свая. У мяне — свая.

Хочаце ведаць, дзе яна знаходзіцца?

З гэтым, праўда, крыху цяжэй. Справа ў тым, што людзі, якія складаюць геаграфічныя карты, чамусьці заўсёды забываюць нанесці маю Ідылію на карту.

Ну, ды нічога. Я раскажу вам пра яе і без карты.

Паўночная мяжа мае Ідыліі — вясёлая таліцкая сенажаць. Вясною, адразу пасля паводкі, патанае яна ў залатой лотаці, потым палае ад ружовай загары. Летам, у касавіцу, звініць у тысячу званоў усімі кветкамі, якія толькі ёсць на свеце.

На паўночнай мяжы стаяць тры сястрыяліны. Не такія, як у лесе, панурыя манашкі ў чорным адзенні. А гонкія, прыветныя — дамоўка дзікіх галубоў.

З поўдня некалі маю Ідылію вартавала ржавае Кляпчанскае балота і Шэндараў брод. Каб перайсці Кляпчанскае балота, нават летам, у пятровіцу, мужчыны скідалі нагавіцы. Шэндараў брод браў сваю назву з таго часу, як праглынуў урэцкага анучніка Шэндара — з возам і з канём разам. Каня і воз сяк-так выцягнулі, а Шэндара так і не знайшлі...

Зялёная гаманкая Дуброва замыкала чароўную Ідылію з усходу. Варта было выскачыць з кашом за веснічкі (вядома, да таго яшчэ, як выганяць кароў на ранкі) і перабегчы Першыя нівы, а потым Доўгія — і ты быў ужо ў Дуброве! І тут жа з краю, пры самай ніве настаўніка Васіля Барана (праўда, якая там была «ніва» — у жыце рос адзін толькі гірс ды калючы куколь) можна ўжо было збіраць бабкі... Былі ў Дуброве мясціны, у ельніку, каля таліцкага поля, дзе адзін пры адным, адзін пры адным сядзелі рудагаловыя, учэпістыя, як падкулачнікі, баравікі. Канцавая Міхаліха з дочкамі пільнавала іх яшчэ звечара. І не раз здаралася так, што, набраўшы поўныя кашы, Міхаліха і яе дочкі скідалі на баравікі верхнія спадніцы. І дадому варочаліся ў адных споднiх, за вярсту абходзячы вёску, каб не стрэцца з кім.

Я не кажу пра тое ўжо, што ў ягадны год у Дуброве было, бы гразі, ягад. Што арэшнік трашчаў ад арэхаў. Што вадзілася ў Дуброве процьма зайцоў. А некалі, яшчэ

хлапчуком, дзядзька Мікалай стрэўся там з мядзведзем. Дзядзька да смерці спалохаўся, а мядзведзь, мусіць, спалохаўся таксама, бо раптам — як павярнуў у гушчар, як даў дзёру!..

Цёмны Барэцкі лес быў заходняй мяжой мае Ідыліі. Ён надоўга заставаўся для мяне неразгаданай таямніцай. За гэтым лесам штодня хавалася нанач сонца. (А прачыналася і ўсходзіла яно заўсёды з-за вясёлай Дубровы.) Апрача таго, недзе за Барэцкім лесам быў Слуцак!

«Міхал лічыў Нясвіж Парыжам»... Маім недасягальным «Парыжам» быў Слуцак.

...Такая вось геаграфія мае Ідыліі — невялікай вёсачкі — засценка, усяго толькі на дванаццаць хат, з адпаведнай ёй назвай — Зялёная Дуброва.

Там, у далёкай чароўнай краіне з нетутэйшай назвай, і жылі некалі, гадоў трыццаць пяць назад, героі гэтага апавядання...

## ДЗЕД ГРЫСЬ

Хата дзеда Грыся стаіць якраз пасярэдзіне вёскі. Улетку, калі суха, тут гуляе ў «пупа» і ў «лазуку» ўся вясковая дзятва. Восенню ж, у дажджовіцу, па вуліцы каля Грысевае хаты пройдзеш, чапляючыся толькі за платы, па кладках. Гразь па калена.

Зіму і лета дзед не злазіць з печы. Хіба толькі злезе накрышыць сякерай на лаве тытуню, які ён смаліць за комінам без пярэдыху. Ці ў цяпло ссунецца пагрэцца на прызбе. І то не скідае валёнак і аблезлай зімовае шапкі. Ад старасці дзед пачаў не толькі кепска чуць і бачыць. Ад старасці ён згорбіўся і, нібыта той камень, што ляжыць каля канавы, парос сівым мохам...

Ганька не любіць дзеда, і таму яна не верыць, калі расказваюць, што яе дзед быў некалі малады і вельмі дужы. Што ніхто іншы, а менавіта ён, дзед Грысь, на гэтым самым месцы, дзе стаіць іх вёска, некалі з малодшым братам Ігнатам павалілі першую яліну. А потым яны высеклі цэлую дзялянку лесу і пабудавалі тут першую хату... А затым ужо каля іх, як маладыя сыраежкі пасля дажджу, палезлі ў радок і хаты суседзяў.

Ганька не ведае сваю бабулю Матрону — дзедаву жонку. І прыгожая і добрая вельмі была бабуля, успамінаюць усе. І Ганька верыць у гэта. І заўсёды шкадуе: няхай бы лепей дзед Грысь памёр, а бабуля няхай бы жыла...

У дзеда Грыся было васьмёра дзяцей. Ды жывыя засталіся толькі трое. Сын Мікалай — «амерыканец» (да першай імперыялістычнай вайны ён ездзіў шукаць заработкаў і дабра ў Амерыку — адсюль і прозвішча такое атрымаў), і дочкі — Паўліна і Алена. Паўліна пайшла добра замуж і жыве недзе аж пад Бабруйскам. Аленіна замужжа не ўдалося. Яна засталася ў бацькавай хаце і жыве з дачкой на другой палавіне.

Нявестка Іваніха, гэта ведаюць усе, без свёкравага дазволу не адважыцца заскварыць гаршка: «Зарабеце спачатку, а потым аб'ядайцеся скорамам...» Такі парадак заведзены дзедам. І паспрабуй паруш яго! Прасцей, праўда, бывае ў пост: сушаныя грыбы, цыбуля, кіслая капуста — усё гэта расце, сушыцца і соліцца на месцы.



Траціцца даводзіцца хіба толькі на тараны ды на алей. Ну, дык на тое ж ён і святы пост...

Праўда, здараецца часам, што і ў дзедавай хаце раскашуюць.

— Мо сёння пакладу ў капусту цэлага тарана? — спытаецца, палячы ў печы, нявестка.

— А што гэта за свята такое, што мала аднае галавы, дык цэлага тарана яшчэ?..— аж прыўстане за комінам Грысь.

— Ды вербная ж нядзелька сёння...

— А-а... Ну, калі вербная нядзелька, то кладзі...

І з крэхтам, трымаючыся аберуч за вышмальцаваны бок старое, як і сам ён, печы, Грысь злазіць на падлогу. Ім толькі дазволь, дык яны гатовы ў гэтую капусту трох тараноў уперці... Старэчымі падслепаватымі вачыма ён доўга і падазрона цікуе за нявесткай, за ўнукамі. Гэтакія павырасталі, а яна гатова і ў пост іх карміць скорамам...

Над дзедам заўсёды насміхаецца сярэдняя ўнучка, васемнаццацігадовая Анюта:

— Дзед, а блінцы здорам на вербную нядзельку можна мазаць?

— Мазаць... Здорам... Выгаладаліся вельма. І так можна ў барану кожную запрагаць, гультаек...

— Дзіва што, вельмі ж аб'еліся ды выгуляліся...— не вытрымае, заступіцца за дачок маці. Як памёр гаспадар, сярэдні дзедаў сын Іван, большай самай, Сашы, ішоў дванаццаты год. А малодшай, Ніне, было сем... Дык адразу ж і ўпрэгліся ў гаспадарку: і ў барану, і ў плуг.

— Патурай ім! — карабкаючыся назад, на печ, строга, недзе ў цёмны куток, усяго і буркне дзед. І ўсе змоўкнуць. Толькі каторая з дзяўчат не вытрымае, пырхне ад прыдушанага смеху. Ды маці мацней сцісне вусны.

Стары і дачцы роднай, ніяк не даруючы, што яна, шляхцянка, пайшла замуж за мужыка, забараніў пераступаць свой парог. І Алена, жывучы цераз сенцы, не ходзіць на бацькаву палавіну. Зойдзе хіба калі толькі забраць дачку, бо Ганька, хоць і баіцца дзеда, да цёткі і да сясцёр усё ж забягае. Цётка яе кожны раз пачастуе чым-небудзь, а дзяўчаты прыбяруць яе, расчэшуць цёмную, як гарох, кучаравую галаву, дадуць істужак. Толькі дзед, лежачы за комінам, ніколі не стрывае:

— Прыцяглося ўжо мужычаня...

Ганька ваўчком пазірае на комін, але сказаць што-небудзь баіцца. За яе заступаюцца стрыечныя сёстры.

— А вам там цесна, лежачы на печы, дык абы чапляцца да дзіцяці...

Малодшая, шаснаццацігадовая Ніна, ніколі не сцерпіць дзеду яго няпраўды. І толькі яе аднае ў хаце і пабойваецца дзед.

— Паагрызайцеся мне, паганкі...

І ўжо зусім кепска бывае, калі на такі выпадак надарыцца Алена.

— Ізноў?..— усяго толькі і скажа яна, намагаючыся здавацца спакойнай.

— Я мужычак да сябе ў госці не зваў,— напышліва, з-за коміна, абзываецца дзед.

— А да вас ніхто і не ішоў.

— «Не ішоў»?.. Цяпер ходзіш, як той твой паўстынец узяў ды кінуў цябе, дурную...

— Не ваша дзела! — голас Алены звініць, здаецца, вось-вось сарвецца.

Ганька разумее, што мацеры цяжка, што ёй балюча, і яна цясней



туліцца да маці і з нянавісцю пазірае на печ: узяць бы ды забіць гэтага дзеда!

— А ты гэта чаго, як ваўчанё, пазіраеш? — накідваецца дзед на Ганьку.

— Хачу! — агрызаецца Ганька і на ўсякі выпадак хаваецца за матчыну спадніцу.

— Ах ты, мужычаня паганае! Вон з хаты!

На печы, па суседству з дзедам, вякуюць атопкі валёнкаў, старыя — лата на лаце — рукавіцы, тоўстыя суконныя панчохі. Дзед хапае атопак і шпурляе яго на хату. Атопак трапляе ў Алену.

— Дальбог, здзяцінеў стары, з малым дзіцем біцца надумаўся! — абураецца нявестка.— Ну, чаго вы прычапіліся да яе?

— І ты? І ты яшчэ!..— заходзіцца на печы ад злосці дзед.— Вон! Вон з мае хаты!..

— Удушэцеся вы сваёю хатаю...— на дзіва спакойна адказвае Алена і бярэ дачку за руку.— Хадзем, дачушка. Нам у гэтым дваранстве няма чаго рабіць...

І потым ужо доўга абедзве яны не заходзяць на дзедаву палавіну.

— Пачакай, дачушка, некалі і мы купім сваю ўласную хату...— каб суцешыць дачку, кожны раз абяцае Алена.

— І няхай сабе гэты дзед хутчэй здохне! — верачы ў гэта абяцанне, усклікае з надзеяй Ганька.

— Няможна гэтак казаць, дачушка, грэх. Дзед стары...

— Ну, і няхай памірае! — пабойваючыся грэху, крыху адступаецца Ганька.

— Няхай сабе жыве...

— А я яго таксама выганю з новае хаты! — тут ужо Ганька не бачыць ніякага грэху.— Чаму ён нас з табою заўсёды выганяе?

— Дзед, дачушка, стары...

— Дзед дурны! Вось які ён!..

## ФОТАВА ЯМА

— Ганька! Ганька! Хадзем на Фотаву яму! — пасталі на лаўцы і штосілы крычаць пад вокнамі Ганьчыны сябры: Грышка Адамаў, Анютка Корбутава і Маня Паўлава.

— Мама, я пайду! — саскоквае з печы Ганька.

Маці, у цёплым гарсэце, у суконных панчохах, у хустцы пад бараду, сядзіць за варштатам — тчэ кросны.

— У чым ты пойдзеш? — пытаецца яна.— Валёнкі за цэлы дзень ніяк у печы нават не высушу.

Раніцай Ганька пайшла на свой агарод, што пад рэчкаю, і так улезла ў глей, што сусед дзядзька Павел, пачуўшы лямант, ледзь выцягнуў яе з гэтага глею. Валёнкі потым ужо шукаў, па слядах...

— Яны ўжо высахлі,— кажа пра валёнкі Ганька.

— Дзе яны высахлі... А калі і высахлі, дык ізноў улезеш па вушы.

— Не ўлезу-у...

А з вуліцы адно чуецца:

— Ганька-а!... Ганька-а!..

— А ліха вашай матары! — нязлосна грозіць Алена, вылазячы з-за кросен.— Узяліся!

І яна ідзе на двор, каб адправіць няпрошаную дэлегацыю, а заадно і курам сыпнуць жменю аўса.

— Якая вам цяпер Фотава яма! — крычыць яна на дзяцей.— Яшчэ патопіцеся — гэтак разлілося кругом.

— Не патопімся! Мы вялікія. Мы не баімося! — за ўсіх адказвае Адамаў Грышка, саскокваючы з лаўкі.

Грышка ў нейчых вялікіх ботах,— няйнакш матчыных,— у кароценькім кажушку крочыць паперадзе. Яго дзявочая каманда ў хустках-мультаноўках і ў картовых світачках шыбуе ззаду.

— Ма-ма! І я пайду-у!..

— А ты чаго гэта — босая? — азіраецца і дае плескача Ганьцы маці.— А ну, марш у хату!

Ганька, без хусткі, босая, выскачыла і стаіць, як бусляня, на адной назе на прызбе.

— Горача! — смяецца Ганька, уцякаючы ад маці ў сенцы.

А ў хаце, пазіраючы ў акно на чорную і сапраўды ўжо на сонцы цёплую прызбу, яна пачынае румзаць:

— Як усім дык можна... А як мне дык няможна...

— А табе няможна! — каротка адказвае маці, зноў залазячы за кросны.

Грукаюць набіліцы. Мільгае чоўнік. Свішча берда. Маці спяшаецца: да вялікадня трэба паспець вынесці кросны з хаты — а ў яе яшчэ добрая палавіна не выткана.

— Як усім дык можна... А як мне дык не...— не сціхае Ганька.

Маці не адказвае: трэба якраз яшчэ, каб нітка парвалася — будзеш цяпер гадзіну лазіць у нітах, шукаць, пакуль завяжаш...

— Дай я табе берда патрымаю,— перастаючы ныць, прапануе Ганька.

Яна вельмі любіць, калі няма ў хаце маці, сесці за кросны і самой ткаць, як дарослай. Лясь набіліцамі, а потым прапусціць чоўнік з цэўкай праз аснову, а потым зноў — лясь набіліцамі! Праўда, Ганька не дастае нагамі да панажоў, і таму палатно ў яе атрымліваецца няроўнае і непрыгожае. І маці сварыцца за гэта на Ганьку.

— Мама, дай я табе буду памагаць...— не адстае ад маці Ганька.

— Ото бо дзіця! Ну на — патрымай берда,— дазваляе маці, усё яшчэ шукаючы парваную нітку.

— Мама, а мы будзем бяліць палотны? — пытаецца Ганька.

— А чаму ж не... Будзем.

— На Фотавай яме?

— Чаго ж гэта мы пацягнемся за свет... Хопіць нам і копанкі,— адказвае маці.

— Я таксама буду бяліць палотны! — падскоквае, седзячы на месцы, Ганька. Ёй не цярпіцца дачакацца тае пары, калі палотны будуць мачыць у копанцы, калі будуць слаць іх па маладой, зялёнай траўцы, калі можна будзе бегаць па гэтых палотнах босай.

— Лоп-лоп-лоп-лоп! — лапочуць пад нагамі цупкія палатняныя сцежкі на траве — толькі цёплыя пырскі ляцяць ва ўсе бакі.— Лоп-лоп-лоп-лоп! — перабягаеш ты з палатна на палатно: — Лоп-лоп-лоп-лоп!..

Што яшчэ можа быць прыемней за гэты вясёлы вясновы занятак... Палотны трэба мачыць не раз і не два, а некалькі разоў на дзень, і Ганька кожны раз бегае за сёстрамі і за маткай на копанку пад дубам, што за дзядзькі Мікалаевым гумном.

Спачатку палотны шэрыя і нібыта нават брудныя. Але дзень за днём яны ўсё святлеюць і святлеюць, усё больш вымываюцца ў цёплай вадзе і ў начных вясновых росах. Праходзіць тыдзень-другі — і палотны робяцца ўжо зусім белыя.



Тое, што потым іх яшчэ параць у чыгунах і палошчуць у цэбрах каля калодзежа — гэта ўжо нецікава. Цікава бяліць палотны!..

— Будзеш і ты бяліць, дачушка,— адшукаўшы, нарэшце, парваную нітку, адказвае Ганьцы маці.— І ты будзеш...

— А ў дзявок дык поўна палоцен, а ў нас дык мала...— бяруць раптам завідкі Ганьку пры ўспаміне пра палотны сясцёр.

— Дык іх жа і саміх поўна, дзявок...

— Я таксама хачу, каб у нас поўна было.

Маці смяецца:

— Дык садзіся ды тчы!

Ганьцы гэтага толькі і не хапала.

— І давай! І буду ткаць! — мосціцца яна за варштат да маці.

— Не! Не, дзеткі,— няма нам часу калі дурыцца... Да вялікадня паўтара тыдня засталося, а ў мяне яшчэ траха не цэлы навой...

— Цэлы навой...— ные зноў Ганька.— Я хачу есці! — нарэшце прыдумала яна сабе занятак.

— Калі ж ты выгаладалася? Мы ж толькі што палуднавалі.

— Хачу-у...— цягне Ганька.

— От, не дурыся! Лезь лепей на печ ды падзірай пер'е,— строга ўжо загадвае маці.

— Пер'е ўсё гэта ды пер'е...

Маці маўчыць. Яна ведае, што ва ўсім вінавата гэта, каб яна спрахла, Фотава яма.

А Ганька лезе на печ і каторы ўжо раз уяўляе гэту Фотаву яму... Цяпер да яе не падступіцца. Рэчка выйшла з берагоў і заліла ўсю сенажаць да самых сядзіб. Можна толькі ад краю дарогі хадзіць і рваць лотаць. Лотаці цяпер колькі хочаш. Грышка з Анюткай і Маняй, мусіць, паналатошвалі ўжо цэлыя пукі... Заўтра і яна, Ганька, як высахнуць валёнкі, пойдзе ў лотаць... А пасля, як спадзе вада, як высахне сенажаць, якая загара будзе пад Фотавай ямай!.. Тады ўжо можна будзе купацца... Купацца можна цэлы дзень — ніхто нікому не забараняе. Ганька звычайна як пойдзе са сваімі сябрамі з раніцы на Фотаву яму — так цэлы дзень і праседзяць яны там. Купаюцца, плаваюць, даюць нырца!.. Разгонішся з берагу — і бух у ваду! Праўда, Ганька ніяк не навучыцца плаваць. Грышка, Анютка і Маня чаго толькі не выраблюць у вадзе: плаваюць і на спіне, і сажонкамі, і па-сабачы. А Ганька ніяк не ўмее, нават па-сабачы. Сябры вучаць яе, вяжуць паплаўкі з чароту — і ўсё роўна, абы пусцілі рукі — Ганьку, як камень, цягне на дно. Добра, што дно неглыбокае — і не ўтопішся.

Рэчка ўецца па сенажаці, хаваючыся ў вербалозе і алешніку. Падмыўшы карчы старых дрэў, вада стаіць глыбокімі ямамі. Самая глыбокая на рэчцы Фотава яма. Адзін бераг яе зялёны і пахучы ад мурагу і кветак. Другі — высокі і голы. На тым беразе расце стары магутны дуб. Ён нібы вартуе Фотаву яму.

У сховах Фотавай ямы водзіцца рыба. Лавіць рыбу можна тут кашамі і нават рукамі. Хіба не захапленне — выцягнуць з-пад карча, з глею проста рукамі старога, тоўстага ўюна. Або кашом злавіць серабрыстага шчупака з вострым ашчэраным ротам. А ў жываце ў шчупака — маленькія плоткі...

Такія вось спакуслівыя карціны малюе Ганьчына ўяўленне на печы над рэшатам пер'я: і ёй здаецца, нібыта яна нагамі адчувае цёплую вільгаць сцежкі, што бяжыць да рэчкі сенакосам. Здаецца, адчувае, як сцёбаюць па босых нагах і па руках мятлюк і сырчыкі. Яна ловіць зялёных konікаў, задыхаецца ад паху аеру і незабудак.

З разгону тварам кідаецца яна ў гэты цёплы траўны пах. А потым хуценька скідае суkenку і гэтак жа з разгону плюхаецца ў халодную ваду. Толькі пырскі срэбрам ляцяць ва ўсе бакі! І такі смех цябе разбірае, што не вытрываць!

Хутчэй бы ўжо сохлі гэтыя валёнкі...

## ЮРАЙ

На Юр'я маці пайшла замуж. На Юр'я праз год нарадзілася Ганька. Падзеі гэтыя ніколі адмыслова ніхто, вядома, не адзначае. Юрай святкуюць, як добрае вясновае свята. У кожнай хаце святкуюць.

Падвечар, на заходзе сонца, ідзе ўся вёска — ад старога да малога — у поле славіць Юр'я. Нясуць людзі, што ў каго ёсць выпіць, нясуць святочную закуску. Збіраюцца сем'ямі ці ўсёй раднёй на чыёйнебудзь ніве, сцелюць абрус па руні і сядаюць вакол гэтага абруса, як вакол стала. Жытнёвая рунь у гэтую пару шаўкавістая, пругкая, і таму гэтакі харошы і прыемны сэрцу гэты незвычайны зялёны стол. Людзі п'юць, закусваюць, паволі гамоняць, гадаючы, якое выдасца лета, якая будзе ўрода на збажыну, якая паша будзе скаціне...

А выпіўшы ўжо і закусіўшы, пачынаюць спеўную размову з Юр'ем:

— Дзе ты, Юрай, валачыўся-а,
Што па пояс умачыўся-а?

— Я па полі хадзіў.
Людзям жыта радзіў.

...І каб не абмінуў Юрай нічые нівы, пакідаюць на кожнай паласе па скібцы пірага са святочнага стала ці па кавалачку закусі. А каб не было засухі, рунь абпырскваюць астаткамі пітва.

Так вядзецца ад веку.

Як і на вялікдзень, на Юр'я фарбуюць яйкі.

У адным чыгунку Ганьчына маці парыць шалупінне ад цыбулі, у другім — жытнёвую рунь. Ад цыбулі — яйкі чырвоненькія, ад руні — жоўценькія. Ганька кладзе ў кішэню па такім і па такім яйку і з самае раніцы выпраўляецца з хаты. І на Юр'я, як і на вялікдзень, калі пойдзеш у госці, абавязкова даруюць пафарбаванае яйка. Як і на вялікдзень, на Юр'я можна таксама гуляць у мацакі. Дык як не хадзіць па гасцях!..

Па дарозе — а дарога гэта цераз сенцы ўсяго — Ганька першнаперш заходзіць да цёткі. Хата ў цёткі прыбрана па-святочнаму. Сёстры Саша, Анюта і Ніна таксама прыбраліся ўжо, і ўсе сядзяць за сталом, снедаюць. Ганька пазірае на комін (за комінам дзед!) і зусім як дарослая вітаецца:

— Добры дзень!

— Добры дзень!

— Добры дзень.. Куды ты выбралася гэтак рана?

— Гуляць.

— Дык можа, перш у нас паснедаеш?

Ганька пацягвае носам: пахне верашчакай!.. Але маці яе заўсёды вучыць толькі дзякаваць і адмаўляцца, калі прапануюць пачостку. Як добра выхаваная дзяўчынка, Ганька дзякуе і адмаўляецца.

— Мы ўжо з мамай снедалі...

— Ну, то было з мамаю, а ў нас паснедай яшчэ раз!..

За комінам шамацяць вянкі цыбулі.

Ганька зноў баязліва пазірае на печ.



— Тата,— разумеючы Ганьку, звяртаецца на печ, да свёкра, цётка,— можа я вам яшчэ падам верашчакі?..

— Даволі...

Спрактыкаваным вухам у гэтым «даволі» Ганька не ўлоўлівае звычайнага дзедавага: «Самі аб'ядайцеся... Не наясцёся ўсё...» Не, дзедаў голас нават як быццам задаволены. Як-ніяк свята. Грэх сварыцца. Так разумее дзедава «даволі» Ганька. І тут жа яна хуценька распранае сваю лёгенькую світачку, скідае з ног чаравікі і — раз! — сядзіць ужо з нагамі на лаве, на самым покуце — паміж сясцёр Анюты і Ніны.

Ёй падсоўваюць міску з верашчакай, кладуць блінец, падаюць відэлец. І хоць Ганька хвалілася, што яны з мамай паснедалі ўжо — над верашчакай завіхаецца ўпраўней за сясцёр.

— Смачная верашчака? — пытаецца ў яе Саша.

— Угу! — ківае галавой Ганька. І каб выказаць свае, асаблівыя, адносіны да гэтай верашчакі, яна маніць:— Мая мама не ўмее варыць верашчакі...

— От і хлусіш! — кажа Ніна.— А ў тую нядзелю твая маці хіба не варыла верашчакі?

— Не-э...— круціць галавою Ганька.

— Што тая маці яе ўмее...— хоча падтрымаць Ганьку цётка.

Такі паварот справы Ганьцы ўжо не зусім да спадобы (яе маці — ды нічога не ўмее!), але адступаць назад няёмка. І яна маўчыць.

— Во!..— дастае яна з кішэні па яйку.

— Гэта маці табе пафарбавала?

— Угу.

— А на росу вы пойдзеце?

— Пойдзем... А цяпер я пайду да дзяўчат.

— Ну, ідзі, калі наелася... На вось табе наша яшчэ яечка. Твая маці хіба ўмее гэтак пафарбаваць? — бярэ з макатра і падае Ганьцы сіняе яйка цётка.

Ад здзіўлення і захаплення Ганька аж падскоквае: і праўда, яе маці гэтак не ўмее.

На печы зноў чуваць, як шамацяць вянкі цыбулі.

— Мо я вам, тата, налью макароны з малаком? — новы тактычны захад робіць нявестка.

— Не хачу...

Э, не! Дзедаву задаволенасць зняло, як рукой... Ганька адчувае... гэта па дзедавым голасе. І яна пераглядаецца з сёстрамі. Дзяўчаты смяшліва ёй падміргваюць, памагаюць хутчэй апранууцца.

— Далей пойдзеш у абход? — смяецца Анюта.

Ганька ківае галавой: пайду.

І яна ідзе да Адамавага Грышкі.

У Грышкі цікава. Па-першае, Грышкава маці «сапраўдная амерыканка». Грышкаў бацька, гэтак, як і Ганьчын дзядзька Мікалай, некалі да імперыялістычнай вайны ездзіў у Амерыку на заработкі. Там ён ажаніўся на Грышкавай маці Адэлі і прывёз яе ў сваю Зялёную Дуброву. У хаце ў Грышкі і да гэтага часу многа дзіўных рэчаў. Такіх, якіх няма ні ў кога на вёсцы. Напрыклад, вельмі дзіўны нейкі куфар. Не такі, як вясковыя куфры, дзеравяныя, вялізныя, а меншы, жалезны і вельмі бліскучы. І на ложках у Грышкавай хаце коўдры не такія, як ва ўсіх, а крамныя, з рознымі намаляванымі карцінамі... А яшчэ ёсць у Грышкавай мацеры «патрэт» (яна любіць паказваць яго дзецям, калі няма нікога ў хаце: ні гаспадара, ні свёкра са свякрухай). На тым «патрэце» Грышкава маці стаіць на ўвесь

рост. І прыгожая яна, прыгожая! Зусім не такая, як цяпер: у шырокай чорнай спадніцы, у шэрай хустцы... Цяпер яна зусім ніякая не «амерыканка». Проста звычайная жанчына, як і ўсе жанкі на вёсцы, як і іх мацяркі: Ганьчына маці, Анютчына, Маніна...

І ў Грышкі яшчэ снедаюць. Але тут, хоць і запрашаюць, Ганька ўжо не садзіцца за стол. Тут яна ўжо добра памятае матчын наказ (у чужых брыдка!). Яна сядзіць на лаве каля дзвярэй і цярпліва чакае Грышку. Той паспешліва даядае, выкочваецца з-за стала і хуценька апранаецца, каб ужо ўдваіх з Ганькай рушыць у далейшы абход.

Адэля дае чырвонае яйка Ганьцы. І хоць у Ганькі іх ужо тры — яна не адмаўляецца. Яна толькі, як і належыць прыстойнай дзяўчынцы, дзякуе.

— Разумная дзевачка...— хваліць Ганьку Адэля, і Ганьцы вельмі прыемная гэта Адэліна пахвала.

На вуліцы ўдваіх з Грышкам яны абмяркоўваюць свой далейшы план дзеяння: ісці спярша да Мані Паўлавае ці да Анюткі Корбутавае. Маня жыве на другім канцы вуліцы. Анютка ж тут, побач — хаты страха ў страху з Грышкавай. Толькі да Анюткі боязна ісці — будзе іхні бацька сварыцца. Ён не любіць, каб швэндаліся чужыя дзеці. Можна, вядома, Анютку паклікаць у акно. Але не зайсці ў хату, значыць, не мець у кішэні яшчэ па адным пафарбаваным яйку. Грышка і Ганька доўга стаяць каля Анютчыных варот, не адважваючыся зайсці. Дапамога прыходзіць сама. Адчыняюцца сенечныя дзверы: Анютчына маці паяўляецца на парозе.

— Чаго ж вы гэта не заходзіце? Анютка дома.

Ганьку і Грышку не трэба ўпрошваць. На парозе яны доўга выціраюць аб дзяркач ногі (у Корбутавых чыста, і не дай божа нанесці гразі!). Заходзяць у хату. У Корбутавых таксама ўжо свята: у «чыстай хаце» абрус на стале. Над ложкам у Корбутавых вісіць дыван. На ўсёй вёсцы ні ў кога няма такога дывана... Аграмадны леў з закручаным абаранкам хвастом. Унізе пад ільвом — возера. Па возеры плаваюць лебедзі. А на беразе, спусціўшы ногі ў ваду, сядзіць прыгажуня і ўсміхаецца таму льву і тым лебедзям!

Ганька без зайздрасці не можа бачыць ні таго льва, ні тых лебедзяў, ні прыгажуні. Здаецца, усё аддала б на свеце, каб толькі павесіць такі дыван на сцяне ў сваёй хаце!.. Нейкі мастак, які хадзіў па вёсках, намаляваў ім гэты дыван за дзве гадзіны. І платы ўсяго папрасіў толькі кварту самагонкі... А больш нікому не намаляваў, бо некуды тады спяшаўся. Абяцаў вярнуцца — усім панамалёўваць такія дываны. Але так і не вярнуўся: відаць, у другіх вёсках самагонка была таксама.

У Корбутавых «чыстая хата» прасторная і светлая. Зімой, калі дзеці ідуць вучыцца, хата іх — самая лепшая школа... Тады дзеці з усяе вёскі, з грыфельнымі дошкамі і кніжкамі сядзяць на ўслонах за сталамі, састаўленымі, «як у школе», і вучацца... А Анютка і яе кампанія — Ганька, Грышка і Маня — сядзяць на печы, слухаюць, як вучыць вучняў дарэктар (так завуць настаўніка). А потым і самі яны між сабою «вучацца» на той жа печы. А як надакучыць «вучэнне», пачынаюць вырабляць розныя штукі. Запрагуць, напрыклад, у кошык кацяня і пусцяць яго на хату. Перапалоханае кацяня скача па ложках, з ложкаў на вучнёўскія сталы, па грыфельных дошках, па чытанках і задачніках... Вучні кінуць свой занятак і кінуцца лавіць кацяня... Крыку. Піску. Смеху!

У такіх выпадках да шкоднікаў на печ лезе сам дарэктар з расперазанай папругай у руках... Але хто гэта будзе чакаць тае яго папругі!..



...У Корбутавых, як і звычайна, ціха. Бацька спіць, і чутно, як праляціць муха. Анютка выстраілася ўжо ў новую сукенку (у Ганькі няма новае сукенкі), завязала чырвоную тараноўку (і тараноўкі ў Ганькі няма)... Яна таксама гатова ў паход, бо адной сядзець дома сумна.

— Хадзем на вуліцу,— шэпча Анютка,— а то тату пабудзім.

Атрымаўшы даніну яшчэ і ў Анютчынае маці, сябры выходзяць задаволеныя.

Паўдзесятка яек ледзь памяшчаецца ў Ганьчыных кішэнях... А наперадзе яшчэ Маніна хата. А затым ужо ўсім гуртам яны пойдуць да Ганькі — трэба ж каб і яе маці абдарыла гасцей.

Маніна хата — крайняя ў вёсцы. Вялізная Маніна сям'я, з шасці дачок, двух сыноў і бацькі з маткай, туліцца ў старой, цеснай хаце. Зруб на новую хату, або «зданне», як заве яго Маніна маці, стаіць з забітымі вокнамі. Браць тыя грошы, што ляжаць у банку! Ніколі! Паўліха хутчэй згодзіцца адсекчы сабе правую руку. А так грошай, каб скончыць зруб, няма ніколі. Таму і стаіць і буцвее будыніна, як дамавіна, з забітымі вокнамі.

Маня сядзіць на лаўцы пад клёнам, таксама прыбраная і таксама з яйкам у кішэні. У Мані ёсць план: ісці ўсім гуртам на Палянку, раскласці там вогнішча і частавацца.

Цудоўна! Як гэта ім нікому дагэтуль не прыйшло ў галаву? Спачатку вогнішча, а вечарам з усімі дарослымі ісці на росу!

Грышка, як мужчына, адказнасць за вогнішча бярэ на сябе. І таму ён бяжыць па запалкі.

Праз гадзіну на Палянцы (за рэчкай, сярод поля, стаіць зялёны чуб лесу — ён і завецца Палянкай) Ганька, Анютка і Маня цягаюць сухое ламачча. Грышка раскладвае вогнішча. На Палянцы на прагалінах цвіце ўжо кураслеп.

Агонь хітруе. Ён не адразу ўступае ў дзяцінную гульню. Спачатку ён нібыта ўпіраецца. Лізне вузенькім гарачым язычком сухую галінку, глытне паветра і раптам нібыта захліпнецца. Дзеці тады яму — сушняку, і ён зноў павесялее. Яны яшчэ дроў на яго, таўсцейшых, а ён яшчэ раз прытоіцца, прытоіцца і нават не паказваецца праз густую кудзелю дыму... І толькі калі надакучыць ужо яму гэтая гульня ў хованкі, ён раптам як ірване ўсю гэтую кучу сушняку! Як затрашчыць, як сыпане з гарачага свайго мяшка іскрамі! Даўгі салапаты язык ледзь не хапаецца зялёных яловых галін. Кругом на вярсту гарачыня... Весела!

А дзеці ўсё падкідаюць ды падкідаюць то сушняку, то дроў! Каб не толькі да ніжніх галін, каб да самай яловай вяршыні дастала...

Самі ж тым часам частуюцца, скачуць вакол вогнішча, пераскокваюць цераз маленькія агеньчыкі, што адскочылі ад свайго вялізнага таты. Тым часам гульня гэта вясёлая не такая ўжо бяскрыўдная. Ганька прапаліла світку. У Грышкі штаны ўжо таксама ў дзірках. У цудоўнае чырвонае Анютчынае тараноўкі падкурэлі махры. Толькі асцярожная Маня неяк уберагласся. Яна не скача цераз агонь. Яна толькі ўсё падкідвае ламачча ў вогнішча. А агонь разышоўся не на жарт. Ён абсеў усе ніжнія галіны і па сухой кары, па ствалу, як вавёрка, скача ўсё вышэй і вышэй. Скача і перакідваецца на суседнія дрэвы. Падсохла і ўзялася агнёмігліца, цягнучы агонь, нібыта чырвоны кажух, усё далей і далей у лес...

Дзеці топчуць агонь нагамі, прыбіваюць мокрымі яловымі лап-

камі. (Добра, што непадалёку глыбокая лужына.) Але дзе там! Агонь ужо ні на што не зважае. Абхапіў яліну з усіх бакоў і — як страсяне, страсяне яе ўсю! І яліна шугае на ветры, як чырвоны сцяг...

— Давайце ваду хутчэй насіць!

— Давайце залiваць агонь!

Але колькі ты яе наносіш, тае вады, прыгаршчамі ці няхай сабе і Грышкаваю шапкаю...

— Што нам цяпер рабіць?..

— Вось цяпер нам будзе...

— Давайце зваць дарослых...

Але ў вёсцы дарослыя самі ўжо ўбачылі.

— Лес нехта падпаліў!

— Палянка гарыць!

— Хутчэй з Паўстыня трэба пажарную выклікаць!..

І вось ужо нехта памчаўся вярхом на кані — у Паўстынь выклікаць пажарную. Вось ужо з рыдлёўкамі, з вёдрамі, з сякерамі кінуліся па дарозе цераз мосцік на Палянку людзі.

А полымя шугае ўжо не з аднае яліны. Агонь захапіў увесь край лесу.

Палянку ратуе ўся вёска. І агонь шалее. Кідаецца з краю на край, нібыта дражніцца. Але людзі не адступаюць, не здаюцца... Праз гадзіну прыязджае з Паўстыня пажарная каманда. Каманда — гэта дзве конныя двухколкі і на іх дзве жалезныя бочкі з гумавымі «кішкамі». Цяпер ужо і самому пажару не да жартаў. Ён яшчэ кідаецца, пагражае, але пастунова аціхае.

Бойка з лясным пажарам канчаецца толькі на заходзе сонца.

— Вось вам і схадзілі на росу — праславілі Юр'я...— кажа нехта з жанок.

Нехта ўспамінае, нарэшце, калі ўжо ўсё скончана, пра віноўнікаў пажару.

— А дзе ж яны самі, гэтыя вужы печаныя, што нарабілі гэтулькі работы?

Некаму прыходзіць думка пакараць «вужоў» так, каб дзесятаму заказалі... Каб на ўсё жыццё запомнілі, як жарты жартаваць з агнём. (А крый божа, каб у засценку расклалі агонь!..)

А «вужоў» тых, тых злачынцаў, і шукаць не трэба. Яны варочаюцца ў вёску ў гэтым самым натоўпе. Ідуць разам з усімі — замурзаныя, задымленыя, чорныя.

Яны не адступіліся ад свае віны. Не схаваліся ад страху. Яны таксама тушылі пажар...

## СЛУЦАК

Ганька едзе ў Слуцак!

Сястра Саша і Ганьчына маці вязуць у Слуцак на продаж клубніку і бяруць з сабой і Ганьку. Папільнаваць воз, калі мацеры і Сашы спатрэбіцца адскочыць за якімі пакупкамі.

Воз рыхтуюць з вечара. Мажуць дзёгцем калёсы, мосцяць канюшынай (пакарміць Сіўку) сядзенне, кладуць для нечага дошкі... Назаўтра, ледзь паказалася сонца, умасціўшы кашы, выязджаюць з двара.

Цётка зачыняе вароты, наказвае на дарогу:

— Глядзіце ж, кабылу на барацкай грэблі не ўпраўце... Ды як на шашу выедзеце — абавязкова зацугляйце, а то яшчэ ўпудзіцца...



Ганька не вельмі разумее, як гэта яны могуць на грэблі «ўправіць» кабылу... Незразумела і боязна крыху і ад таго, што на шашы Сіўка чамусьці абавязкова павінна ўпудзіцца.

Сіўка — рахманая старая кабыла — разумее, што дарога наперадзе немалая, і таму вельмі не чакае прынукі. Як толькі выехалі з вуліцы, адразу ж і ўзялася спорным роўным трушком. Толькі хіба дзе на калдобінах падкіне воз, дык і то тут жа выверне з каляіны на раўнейшае, на гладкае месца.

Ганька ў захапленні!

Яна прыбраная, нават абутая — у сандалі і панчохі. Яна ні на хвіліначку не сціхае, не зачыняе рота:

— А што як стрэнем у Барэцкім лесе воўка?

— А што як воўк кінецца на Сіўку?

— А што як Сіўка ўпудзіцца?

— А што як утопімся на грэблі?

— А ці доўга будзем ехаць у Слуцак?

— А ці купіце мне марожанае?

Маці і Саша не паспяваюць адказваць на ўсе гэтыя «а ці...»

— От бо дакучлівае дзіця! Абмарочышся, пакуль даедзеш з ім да таго Слуцка. Памаўчы хоць хвіліну якую,— злуе маці.

У іх з Сашай свая гаворка, дарослая. Каб удалося хаця добра прадаць клубніку... Каб хоць трохі ўтаргаваць... Каб дарогу гэтакую апраўдаць, а то крыўдна будзе: ехаць за свет — і вярнуцца з пустымі кішэнямі...

Тым часам за Барэцкім лесам пачынаюцца суседнія вёскі: Баркі, Папоўцы, Мялешкі.

І тут Ганька, якая і сапраўды памаўчала хвілін якіх з дзесяць, зноў бярэцца за сваё:

— А чыя гэта хата?

— А чый гэта дзед?

— А чый гэта сабака?

— А чыё гэта гумно?..

Маці і Саша адказваюць ёй з пятага на дзесятае. Няма калі адказваць. Едучы па чужой вёсцы, трэба вітацца з людзьмі, каб не падумалі, каб не сказалі, што вось праехалі, як свінні, не пазнаючы, не вітаючыся. І таму Ганьчына маці, а ўслед за ёю і Саша, толькі і ківаюць галовамі:

— Дзень добры вам!

— Дзень добры!

Нядзельная раніца — і людзі нікуды вельмі не спяшаюцца. Жанкі каля студні падоўгу абгаворваюць кожны чужы воз і кожнага ездака на возе.

— Чыя гэта дзеўка гэтака хароша з Аленаю Гурновічаваю паехала?..— чуецца ўслед.

Ганька натапырвае вушы: можа гэта пра яе кажуць — «хароша дзеўка»?

— Ды гэта ж Іванішына старэйшая... Да якой сватаўся Тодар Жаўрыд...

— От скажа! Тодар за сярэднюю сватаўся. Тая хароша дык хароша! Не раўня гэтай...

— І гэта не брыдка дзеўка! Не дасі ганьбы...

Так праводзяць Ганьчын воз барэцкія жанкі.

Саша чуе гэтую гаворку і чырванее — прыемна пачуць, што ты хароша, і не вельмі прыемна, калі кажуць, што ты не раўня няхай сабе і роднай сястры, што сястра харашэйшая за цябе...

— От, калатоўкі барэцкія... У печы ў кожнай паліцца, а яны каля калодзежа языкамі менцяць...

Гэта ўжо Ганьчына маці кажа пасля таго, як яна вельмі далікатна павіталася з гэтымі ж «калатоўкамі».

Аднак доўга прыслухоўвацца да жаночай балбатні не даводзіцца. Адразу ж за Баркамі пачынаецца грэбля. Тая самая грэбля, пра якую папярэджвала цётка Іваніха, каб не «ўправілі» кабылу.

Ганька глядзіць на гэту грэблю — і ўсё ў сярэдзіне абмірае. Наперадзе, як кінуць вокам, вада! З вады дзе-нідзе вытыркаюцца гнілыя чорныя маснічыны. Разабраць, дзе дарога, дзе недарога, немагчыма. Убачыўшы грэблю, стрыжэ вушамі і Сіўка. Ганька бачыць, як дрыжыць на Сіўцы скура. Перад самай грэбляй Ганьчына маці нацягвае лейцы.

— Давай бо, Сашка, пакладзем дошкі ды паднімем кашы, каб вады ў клубніку не налілося.

Яны доўга перамошчваюць воз, перастаўляюць кашы, падымаюць сядзенне. А Ганька стаіць збоку на дарозе каля воза і ўжо нічога іншага не адчувае, як толькі жах у кожнай сваёй жылцы перад гэтай грэбляй. Яна нічога не кажа ні мацеры, ні сястры. Яна ўжо нічога не хоча — ні гэтае паездкі, якое яна столькі дамагалася, ні таго Слуцка... Яна цяпер упэўнена ў адным: усе яе жаданні, усе яе надзеі скончацца назаўсёды на гэтай праклятай грэблі. Ганька ўпэўнена, што жывымі адсюль ні яны ўсе трое (яна, маці і Саша), ні Сіўка ні за што ўжо не выберуцца...

— Ну, лезь на воз,— кажа маці Ганьцы.

Сама яна забірае лейцы ў Сашы і садзіцца ў перадку — кіраваць Сіўкай. Саша з Ганькай садзяцца на перакладзеную цераз білы дошку.

— Каб не сядзець у вадзе...— тлумачыць маці, і Ганьчын дух канчаткова ўжо развітваецца з яе аслабелым целам. Значыць, вада пойдзе і ў палукашак...

— Н-но, кабылка! — ласкава гукае на Сіўку маці і паволі торгае за ляйчыну.

Сіўка нервова пераступае з нагі на нагу, стрыжэ вушамі.

— Н-но, маленькая, но!..— маці разумее і не прымушае яе, не грозіць — дае волю самой кабыле.

Сіўка паволі, каб не аступіцца, каб не бухнуць у яму, робіць крок наперад. Пад нагамі ў яе хлюпае вада, трашчыць гнілая маснічына, перадок воза напірае ёй на заднія ногі.

— Н-но, маленькая! Н-но! — падахвочвае Сіўку маці, ледзь толькі пашавельваючы лейцамі.— Памаленьку, памаленьку...

Вада спачатку даходзіць да трубак колаў. Потым яна пакрывае колы. Наліваецца ў палукашак. Ганька і Саша працягваюць ногі на дошку, на якой сядзіць Ганьчына маці. А вада ўсё прыбывае і прыбывае. Воз то падкіне на маснічыне, то грукне ўніз. Сіўка ўжо не ідзе — яна плыве, паволі перабіраючы нагамі. Плынь адносіць доўгі Сіўчын хвост убок. Плыве воз. Плыве Ганька. Яна ўжо ні пра што не пытае. Яна ўжо развітваецца ў думках з тым мілым светам, які пакінула сёння сама, каб пусціцца ў гэтую дарогу і ў гэтай дарозе, на гэтай грэблі, загінуць назаўсёды...

— Н-но, кабылка! Н-но, маленькая! — маці адпусціла лейцы і толькі голасам падбадзёрвае кабылу.

Сіўцы на гэтай грэблі лейцамі не паможаш. І нічым не паможаш...

А грэблі ўсё няма канца. Ганьцы здаецца, што яны плывуць цэлы дзень, а мо нават цэлы год, ці мо сто гадоў...



— Но, маленькая! Дзякуй табе! — весялее, нарэшце, маці.

Ганька не разумее, чаму радуецца маці. Яны ўсё яшчэ плывуць... Але весялее, адчувае яна, і сама Сіўка. Значыць, можа яны і не ўтопяцца?..

— Н-но-о, маленькая!..

— І-і-і-г! — тоненька адгукваецца мацеры Сіўка.

— І-і-і-г!..

— Выбраліся, кабылка, выбраліся! — гамоніць з Сіўкаю маці.— Каб якое другое дурное каняня, то быў бы нам Слуцак, была б нам клубніка...— вясёлым голасам кажа яна ўжо да Сашы і Ганькі.

— Міша Няронскі ў тую нядзелю ехаў тут на сваёй Вішні,— гэтаксама весела расказвае Саша,— пакуль ехалі па грэблі, усе маўчалі,— дык яна як лягла ў аглоблях, дык хоць ты забі яе. Сам ускочыў у ваду па шыю... І мусіў назад вярнуцца.

— Вішня-дурніца!..— зняважліва махае рукой Ганьчына маці і зноў звяртаецца да Сіўкі.— Н-ну, кабылка, пастой, я цябе абатру хоць... І яна абцірае кабыле мокрую ад пырскаў і халоднага поту спіну, дае жменю канюшыны — дае ёй супакоіцца...

А потым яны едуць далей. Мінаюць яшчэ дзве грэблі (меншыя за барэцкую), мінаюць вялізныя крылатыя ветракі, што стаяць тут за кожнай вёскай, выязджаюць на шашу. А на шашы чакай новага ліха... Па шашы часам чэрці носяць аўтамабілі — вялізныя машыны на чатырох колах. Коні пудзяцца ад іх страшэнна. Палохаецца аўтамабіляў і пудзіцца і Сіўка. Таму маці, як толькі яны пад'язджаюць да шашы, злазіць зноў з воза зацугляць Сіўку.

Але гэтую нядзелю ціха. Аўтамабіляў няма.

І вось ён, нарэшце, Слуцак. Ганька глухне ад грукату. Грукоча па бруку іх воз. Грукочуць вазы спераду, ззаду... Гамана, крык, тлум. Вішчаць свінні, рыкаюць каровы, кудахчуць куры, і нічога не разабраць... Маці і Саша стараюцца не затрымлівацца, стараюцца хутчэй заехаць на «плашчадку», каб заняць падыходзячае месца. «Плашчадкай» завецца пляц, дзе ідзе ўвесь гандаль — тлумны, шматгалосы, з тысячай розных пахаў. Пахне газай, мылам, селядцамі, конскім потам...

Нарэшце сярод чужых вазоў прытыкаецца і Ганьчын воз. Уга, тае клубнікі тут, як гразі... Не вельмі кідаюцца яе і купляць. Маці і Саша развязваюць кашы. Клубніка іх за гэткую дарогу патаўклася, пацякла. Пакупніцы падыходзяць і круцяць насамі:

— Гэта ў цябе клубніка?

— А што гэта?

— Я не ведаю...

— Не ведаеш, дык ідзі...

— А па чым хочаш?..

— Даражэй за людзей не хочу...

— А яйкі ў цябе ёсць?

— Ёсць дзесятак. Будзеш браць, дык дастану.

— Буду, ну, буду... Чаго ты хаваешся з гэтымі сваімі яйкамі?..

— А сыр — сыр у цябе ёсць?

— І сыр ёсць...

— Што гэта за сыр... Лыжка тварагу. Даць залатоўку? Хочаш залатоўку?

— За залатоўку я без цябе сама з'ела б.

— Не таргуйся. Я добра табе даю... Ну, чуеш?..

— Чую, чую... Ідзі далей, пашукай на другім возе.

Ганьцы робіцца сумна. Ёй хочацца пахадзіць па вуліцах, пагля-

дзець, якія дамы ў Слуцку, хочацца цукерак, хочацца марожанага...

Але мацеры і Сашы няма калі з ёю займацца. Толькі к вечару паспяваюць яны распрадацца. Потым бягуць па ларках купіць рознай драбязы. Ганька сядзіць на возе, пільнуе. А кругом гэтакія ж вазы, як і іх воз. Кругом толькі хрумсцяць коні. Крычаць людзі.

«Падумаеш, Слуцак!» — злуецца Ганька. На маці, на Сашу, на сябе, што паехала. «Падумаеш, вялікае шчасце!.. У нас дома яшчэ лепш...»

Маці і Саша варочаюцца з газай, з мылам, з вязкамі тараноў і абаранкаў. Потым яны збіраюць воз, пакуюцца.

А потым едуць назад, дадому.

І Ганьцы ўжо зусім нецікава...

## ЦЫГАНКА

Вечарам, падаіўшы карову, маці сказала Ганьцы:

— Ну, дачушка, заўтра прыедзе ўжо Ошар...

— Ошар? Заўтра? — Ганька не данесла да рота кубак малака.— І Цыганку забярэ?

— Забярэ, дзеткі.

— А як жа мы самі цяпер будзем?

— Неяк жа будзем...

— Мне шкада Цыганкі...

— А мне, думаеш, не шкада. Але дзе ж ты грошай тых возьмеш... Хіба гэта я прадаю — гэта, дзеткі, гора маё прадае. Бо трэба прадаваць... Дзе ты бачыла, каб чалавек будаваўся ды яшчэ і з малаком быў...

Трэба прадаваць Цыганку, бо няма грошай на хату... Пра гэта ў Ганькі з маткай размова ідзе ўжо даўно. Трэба то трэба, але як без Цыганкі жыць?.. Таму ўсё і адкладваўся гэты продаж. Ужо і купцы наведваліся не раз. Ужо і цану прапанавалі (і, людзі кажуць, прыстойную цану — пяцьдзесят пяць рублёў), а маці ўсё не адважвалася, усё адкладвала, усё нібыта ніяк не магла старгавацца.

І Ганька прасіла:

— Пачакайма, мамачка, яшчэ трошачкі...

І яны чакалі. І яшчэ пяшчотней даглядалі і песцілі сваю кароўку. Рахманую, як жук, чорную Цыганку — іх апору і багацце.

І вось заўтра ўсё павінна было скончыцца. Ганька не дапіла малака. Не пайшла пасля вячэры гуляць у «лазуку» — яна нават не адгукнулася сваім сябрам, калі яны звалі яе на вуліцу. Улучыўшы момант, калі маці пайшла нечага да дзядзькі Мікалая, Ганька непрыкметна прашмыгнула ў хлеў, пералезла ў Цыганчыну загарадку. Цыганка ляжала на мяккай падсцілцы і жвакавала.

— Цыганачка... Цыганачка...— Ганьчына рука намацала ў цемнаце цёплую пяшчотную мысу.— Хто цяпер будзе любіць цябе так, як мы цябе з мамай любілі...

Карова лізнула гарачым шурпатым языком маленькую далоньку і, беручы з яе пахучы акрайчык хлеба, коратка, удзячна рыкнула:

— М-му-у...

— Хто цяпер цябе даглядаць гэтак будзе? — па Ганьчыных шчоках каціліся слёзы, і яна выцірала іх аб цёплую Цыганчыну галаву.— Хто цяпер табе свежай траўкі прынясе? Хто цябе хлебам паласуе? — ціхенька прыгаворвала Ганька, і сэрца яе разрывалася ад жаласці і болю.



...А назаўтра прыехаў на возе са Слуцка Ошар — худы гарбаносы яўрэй у доўгім чорным сурдуце. Ганьцы Ошар спадабаўся. Ён здаўся ёй вясёлым і добрым. Дастаў з кішэні і даў Ганьцы гасцінца — перніка. Як камень, цвёрдага, затое салодкага, як цукар! Маці з Ошарам доўга не таргавалася. Ошар налічыў шэсць чырвонцаў — шэсць храбусткіх чырвоных паперак — і, аддаючы іх Алене, пахваліўся:

— Каб я гэтак і здаровы быў, як я пашкадаваў бедную жанчыну і заплаціў ёй столькі, колькі ніякі іншы дурань не заплаціў бы.

— Дык і карова ж, грэх сказаць благое слова: і доіцца траха не круглы год. І што малако, што смятана — адно масла!..

— Ат, масла-шмасла! — адмахнуўся Ошар.— Я такія старыя дрыбы купляў па паўсотні за галаву... Каб я так жывы быў. А тут... Каго тут ашукваць? Каго тут абіраць?.. Гэтыя голыя сцены ашукваць? — ён ткнуў пугаўём у неатынкаваную сцяну.— Ці вось дзіця гэта абіраць? — зноў тым жа пугаўём ткнуў Ошар на Ганьку.— Дзякуй богу, я сам бацька. Я сам ведаю, што дзеці хочуць есці... А ў мяне іх, дзякаваць богу, сямёра, каб яны былі ўсе жывыя і здаровыя...

— Дзякуй вам,— расчулена прамовіла Ганьчына маці.

А сама Ганька, грызучы Ошараў пернік, думала: «Вось каб гэты Ошар кожны дзень да нас прыязджаў...» На двары, аднак, ён не здаўся ёй такім добрым. Ошар залыгаў вяроўкай Цыганку за рогі, прывязаў яе да задка і, мосцячыся на сядзенні воза, больш ужо не звяртаў увагі ні на Ганьку, ні на яе сумную матку.

— Дык вы ж, Ошарка, глядзіце ўжо... Дайце вось ёй у дарозе, пакуль да месца даедзеце...— і маці паклала на сядзенні поруч з гандляром некалькі скібачак хлеба.— І бурачніку падкіньце ёй... Я паклала ў воз...

— Дам, дам...— Ошар пугай перацягнуў свайго каня, і конь ірвануў воз з месца.

Услед за возам ірванулася і Цыганка. Ад нечаканасці ногі яе раскінуліся неяк смешна і бездапаможна, быццам Цыганка хацела ўзляцець і тут жа спалохалася, каб не ўпасці...

— Ну, бывайце здаровенькі! — выязджаючы з варот, яшчэ раз узмахнуў пугай Ошар, і конь подбежкам вынес з двара і воз і Цыганку.

— Бывайце...— каб утрымаць слёзы, закусіла вусны Ганьчына маці.

А Ганька раптам кінулася ўслед за возам і загаласіла на ўсю вуліцу.

— Мама! Не аддавай нашу Цыганку!.. Аддай яму назад грошы...

Але Ошар быў ужо на сярэдзіне вёскі. Ён паганяў каня пугай. Конь бягом каціў воз. А за возам, нязграбна расстаўляючы ногі, бегла старая Ганьчына Цыганка. Ганька ніколі не бачыла, каб яна так бегала.

— Цыганачка! Цыганачка мая родненькая! — залівалася слязьмі Ганька.— Мамачка, аддай яму назад грошы...

## НОВАЯ ХАТА

Кожнаму стрэчнаму Ганька хваліцца:

— А ў нас новая хата...

Новая хата — маці купіла яе ў Тодара Гурына за сто рублёў —

гэта перасыпаная са старой варыўні будыніна на тры невялікія акенцы. Адно на дарогу. Калі сядзець на лаве з нагамі і глядзець у гэта акно, відно ўсё чысценька: хто адкуль едзе, хто куды пайшоў. Да самай вёскі Заградздзе. У гэтае акно, таму што глядзіць яно на поўдзень, сонца свеціць амаль цэлы дзень. Два другія акны глядзяць на Палянку, глядзяць за рэчку Параску. (У каго ні спытайся, чаму іх рэчка завецца Параскай — ніхто не ведае. От людзі...) У гэтыя вокны сонца свеціць толькі на захадзе, тады, калі яно робіцца вялізнае, як рэшата, і чырвонае, як агонь. А потым сонца тухне і хаваецца ў Барэцкім лесе.

Чацвёртае акно таксама павінна было глядзець на дарогу, але яго забілі дошкамі. Бо не хапіла шкла... Забілі дык забілі: хопіць і трох. Ганьку гэта ніколечкі не турбуе. Не вялікі клопат таксама, што ў новай хаце не будзе падлогі і што замест дзвярэй маці павесіла зрэбную посцілку. Падлогі няма не толькі ў Ганьчынай хаце — у другіх хатах на сяле таксама не ўсюды яе кладуць. А дзверы — дык без іх яшчэ лепш. Не трэба хоць, як ідзеш, кожны раз зачыняцца. Дый наогул, навошта на лета тыя дзверы — хіба толькі каб гарачыню ў хаце трымаць? Маці зусім дарэмна турбуецца.

Новая хата прыносіць Ганьцы новыя клопаты і новыя абавязкі. Але яны прыемныя, і яна выконвае іх з ахвотаю. Няма дзвярэй — значыць, хату трэба пільнаваць ад зладзеяў. А калі пільнаваць — дык свіней ужо гнаць на выган не трэба! І Ганька тады збірае ў новай хаце сваіх сяброў. Тых, каму, як і ёй самой, нейкім чынам пашанцавала адкараскацца ад выгану і свіней. У новую хату дапускаюцца не ўсе, а толькі тыя, у каго няма віны перад Ганькай. Гэта першая ўмова. Другая: дапускаючы нават самых лепшых, Ганька пакідае за сабой права камандаваць. Гуляць толькі ў тыя гульні, у якія скажа яна, рабіць тое, што загадае таксама толькі яна.

Умовы, сказаць праўду, суровыя, але дзе ты лепш схаваешся ад пугі? І таму прымаюцца яны без пярэчання. Тым больш, што, захапіўшыся гульнёй, вельмі хутка Ганька забывае пра сваю камандзірскую ролю і сама ахвотна падпарадкоўваецца загадам.

Крычаць, забараняць сваволіць у Ганьчынай хаце няма каму. Маці на полі. А больш у Ганькі няма нікога — ні бацькі, ні братоў, ні сясцёр. І таму нядзіўна, што Ганьчына хата ўсёй дзяцінай грамадой аднагалосна прызнаецца самай лепшай на ўсёй вёсцы.

Часам Ганьку апаноўвае турбота. Тады яна бярэ венік і пачынае бязлітасна дзерці земляную падлогу ў хаце і сенцах. Ад гэтай «чысціні» ўздымаецца такая густая хмара пылу, што немагчыма раскрыць рота. Але Ганька не звяртае на гэта ўвагі — толькі венік мільгае! Калі ж чарга даходзіць да двара, ад гэтага веніка больш за ўсё пападае дурным цыбатым куранятам. Яно, праўда, і не дарэмна: варта толькі Ганьцы адхінуць посцілку, як усе яны злятаюцца да парога. І тады пільнуйся: збрудзяць усю тваю работу. А Ганька так ужо стараецца, так стараецца — свае ўласныя сляды нават венікам замятае.

Ганька не абыякавая гаспадыня. Пакуль маці вернецца з поля, усё ў яе дагледжана, усё ў парадку. І каб маці пахваліла яе, Ганька не палянуецца, збегае яшчэ на бульбу, нарве малачаю і накідае галодным свінням: ешце, музыкі, а то так завялі, што аглухнуць можна.

У жніво маці варочаецца з поля позна, пасля заходу сонца. К гэтаму часу Ганька паспее стрэць з пашы і загнаць у хлеў дзве чорныя авечкі. Стрэне таксама цялушку Падласку. Падласку Ганька любіць



і шкадуе: ёй выносіць яна акрайчык хлеба і кошык бурачнага лісця.

— Еш, Падласачка, еш...

Падласка — Цыганчына дачка, і маці і Ганька чакаюць добрай кароўкі.

Авечкам жа Ганька нічога не рыхтуе — усё роўна яны падохнуць. Маці кажа, што ў іх матыліца.

Апошнімі гоняць з пашы коней. Звычайна, каб не забягалі ў патраву, коней не распутваюць, і яны так і гопаюць у путах.

Ганька баіцца коней — у іх з маці няма свайго каня — і таму яна ўзбіраецца на самую верхнюю жэрдку варот, садзіцца на ёй «верхам» і, каб напужаць коней, штосілы махае дубцом. Коні наскокваюць адно на другое, брыкаюцца і злосна ржуць. Пастух Пецька Бурбалка — кісель і плакса, з вечна вільготным чырвоным носам — замахваецца на Ганьку пугай і грозіць ёй добра даць... Але цяпер яму не да гэтага: ён бачыць, што адчынены вароты на сядзібы, а там агароды, а там капуста... І Ганька яшчэ мацней гікае ўслед спуджаным коням.

Бурбалка — з крыкам і лаянкай кідаецца пераняць коней. Ён свішча колькі сілы пугай і, спатыкнуўшыся аб нейкую патарчаку, ляціць вобземлю.

— Ага, Бурбалка, так табе і трэба! Будзеш ведаць, як здумляцца! — пляскае ў далоні Ганька і падскоквае на варотах. Ёй здаецца, што сама яна едзе вярхом на кані.

За гэтым вясёлым заняткам і застае яе маці.

Маці прыходзіць з поля стомленая і негаваркая. Худы твар яе за дзень пажаўцеў. Рукі вісяць, як цяўнік, слаба і бездапаможна. На бледных матчыных губах успыхвае на нейкі момант слабая ўсмешка. Але яна тут жа і гасне. Ганька ведае: значыць, маме зноў было нядобра, зноў балеў жывот і пякла пячайка... І ўсё гэта пачалося з таго дня, як схадзіла яна летась у буякі. Ці то яна з'ела іх лішне, ці чаму, але з таго дня вось ужо цэлы год маме ўсё горш і горш. І ніхто не можа нічым памагчы. Ні доктар Пігулеўскі, ні кубліцкая бабка Паўліха, ні цётка Марыля. Доктар выпісвае ўсё нейкія парашкі і мікстуру, а бабка Паўліха і цётка Марыля шэпчуць на ваду. Качаюць маме спалох, а папраўкі няма ніякай.

Сустрэўшыся з матчыным позіркам, Ганька і сама неяк раптам вяне і цямнее тварам.

— Дай, мамка, я табе серп паднясу,— кажа яна і борздзенька злазіць з варот. І каб хоць чым-небудзь усцешыць маці, хваліцца: — А я, мамка, свінням малачаю нарвала, і Падласку накарміла, і авечак загнала ў хлеў...

— Работніца мая залатая...— худая матчына рука пяшчотна гладзіць непакорныя Ганьчыны віхры.— Ты ж цяпер мая адзіная падмога...

Пяшчотныя матчыны словы горкай крыўдай сціскаюць Ганьчына сэрца: сапраўды, хто ж яшчэ, калі не яна, паможа маме?

— Каб ты паглядзела, як я падпужала коней! Як паляцелі ўсе ў капусту! — хваліцца Ганька.

— Навошта ж ты, дурненькая...— слаба папракае маці.— Яны ж людзям шкоды наробяць.

— Няхай наробяць — тады Бурбалцы добра дадуць!.. А то ён вельмі разумны. Будзе ведаць, як кожны раз здумляцца...

— А як жа ён на цябе, дзеткі, здумляецца?

— «Як, як»? — Сама ведаеш, як... Кажа, што мой бацька...

Бацькі ў Ганькі няма. Ён пакінуў яе і матку тады, калі Ганьцы не было яшчэ і двух год. І цяпер усе на вёсцы, абы размова зайшла пра Ганьчынага бацьку, кажуць, што ён сабакам сена косіць... Ганька не можа зразумець, чым сабакам спатрэбілася столькі сена, што бацька так доўга косіць і ўсё не варочаецца. І наогул, чаму сена — сабакам? У іх вёсцы ні адзін сабака сена не есць...

Яна не ўсё разумее, але крыўдны сэнс вясковых кпінаў не абмінае яе душы, і яна сама, злуючыся на бацьку, ніколі не ўспамінае пра яго, ніколі не пытае пра яго ў маці.

— Нічога, дзеткі,— яшчэ больш слабее і, не заходзячы ў хату, садзіцца на парозе маці.— Нічога. Падрасцеш. Вывучышся, будзеш разумнай — і ніхто не будзе тады на цябе здумляцца..

— А дзе мы тады будзем жыць? — жвава пытаецца Ганька.

— Калі?..— маці думае ўжо нешта другое, сваё, далёкае ад Ганьчынага настрою.

— Ну, калі я вырасту?

— Дзе захочаш, там і будзем жыць. Свет, дачушка, вялікі і жыццё вялікае... Хто яго ведае, куды яно цябе завядзе...

— А цябе?

— Мяне? У мяне, дзеткі, мусіць, ужо адна дарога...

Ганька ведае, пра якую дарогу гаворыць маці.

— Не кажы так... Я баюся,— просіць яна.

— Не буду, дачушка, не буду... Вось вырасцеш вялікая, вывучышся — і мы з табой зусім іначай будзем жыць, добра будзем жыць.

Гэта матчына мара: каб Ганька хутчэй падрасла, каб вывучылася «на чалавека». Так заўсёды гаворыць маці.

— А я ўжо ўвесь буквар на памяць ведаю. Хочаш, дык я табе ўсё чысценька прачытаю. Думаеш, я забылася за лета? — ускоплівaецца Ганька.

— Не трэба, дзеткі. Вочы сапсуеш. Цёмна ўжо чытаць.

— А каб цяпер, мама, пайшоў да ветрака, стрэў бы чарцей ці не?

— Якіх чарцей?

— Ну, сапраўдных: з хвастамі і капытамі... Ванька Корбут учора нам на выгане расказваў, што ён некалі служыў на млыне, дык кожны вечар ганяў іх качаргою.

— Гэта ён маніў вам.

— Не, не маніў! Казаў, што раз нават лапцем на хвост наступіў чорту!

— Не слухайце вы яго, гэта ён жартаваў, каб вас напалохаць.

— А бабка Матрона казала, што калі доўга глядзець і глядзець на месяц, дык можна ўбачыць, як Каін Авеля забівае. Каін усадзіў нож у грудзі Авелю, і кроў льецца ў цэбар... Толькі трэба доўга глядзець. Ты бачыла, мамка?

— Не бачыла, дачушка, і ніхто гэтага не бачыў.

— А бабка Матрона бачыла! — упэўнена пярэчыць Ганька і пільна ўзіраецца на маладзік.

— Не глядзі, дачушка, будзеш дрэнна спаць.— Маці туліць Ганьку да сябе, а потым паволі цяжка ўстае.— Хадзем, дачушка.

І сапраўды: пачула голас гаспадыні — і абзываецца ў хляве цялушка. Вішчаць галодныя свінні.

— Хадзем, дзеткі, памажы мне што-небудзь па хаце.

— Ай,— умомант псуецца Ганьчын настрой.— Цэлы дзень усё рабі і рабі, і цяпер... Я есці хачу...



— Дзіва што хочаш, хіба не пара!..

Маці тупае каля гратаўкі, рыхтуе вячэру, а Ганька, цяпер толькі адчуўшы, што яна з паўдня нічога не ела, падганяе матку:

— Хутчэй, мамка... Што ты мне дасі?

— Дам кіслага малака, дачушка. І яшчэ нешта дам, калі будзеш слухмяная.

— Буду! Буду! — не дае скончыць маці Ганька.— Што ты прынесла?

— А вось,— разам з міскай кіслага малака маці кладзе перад Ганькай добры кавалак каўбасы. Сухой і цвёрдай, хоць цвікі забівай. Але затое якой смачнай! Каўбаса так спакусліва пахне, што Ганьцы здаецца, што яна з'ела б дзесяць, дваццаць, нават сто такіх кавалкаў! І каб надаўжэй працягнуць асалоду, Ганька хітруе: спачатку есць нясмачнае кіслае малако, а потым ужо закусвае каўбасой.

— Мамка, хто табе даў?

— Цётка Іваніха дала. Але я не з'ела. Кепска мне ад каўбасы. Яшчэ горш пячайка пячэ.

— Ты заўсёды, мамачка, прынось мне ўсё смачненькае, калі табе кепска,— у захапленні падказвае матцы Ганька, на поўны рот аплятаючы каўбасу.

А калі ад каўбасы ў яе руках астаецца толькі моцная суровая нітка, яна раптам спахопліваецца:

— А ты зусім не хочаш?

— Не, дзіцятка, няможна мне.

Вось і добра, што няможна, а то каўбасы ўсё роўна ж не засталося. І Ганька, задаволеная такой нечаканай вячэрай, ледзь вылазіць з-за стала.

— Мамка, я спаць хачу.

— Кладзіся, дзіцятка, кладзіся. А то не пара хіба?

Ганька ледзьве варочае зусім абвялымі рукамі, ледзьве сцягвае з сябе сукенку. Вочы яе зусім не глядзяць, і, ледзь дабраўшыся да ложка, яна, як сноп, валіцца ў пасцель і тут жа моцна і бестурботна засынае.

А маці яшчэ доўга тупае па хаце, перамывае назаўтра бульбу, зашывае парваную Ганьчыну сукенку.

«Божа мой, божа,— шэпча яна ў цёмны куток, да іконы Міколы-Цудатворца,— памажы мне выкараскацца з хваробы, дай сілы падгадаваць мне маё дзіцятка...»

Але твар божага ўгодніка зацяты і суровы: яму няма справы ні да Аленінай хваробы, ні да яе малое дачкі...

Алена распранаецца і са стогнам кладзецца на край ложка, поруч з соннай цёплай Ганькай.

— Бурбалка! — сярдзіта, спрасоння выгуквае Ганька, разбрыкваючыся і шырока раскідаючы рукі.

— Спі, маё дзіцятка, спі...— укрывае яе коўдраю маці.

І Ганька спіць.

## РАДАСЦІ ЖЫЦЦЯ

Ганька расплюшчыла вочы. Паліцца печ, значыць, маці дома. Ганька пацягнула носам. Смачна пахне гарачымі бліньцамі. Трэба хутчэй уставаць! Ганька хуценька нацягнула сукенку, спаласнула ў мыцельніку з конаўкі твар — доўга вымывацца няма ахвоты. А то



яшчэ вароны ўкрадуць — падумаюць, што сыр... Так жартуе заўсёды з Ганьчынае ляноты маці. І Ганьцы гэта на руку. Чырвоная, з вільготнымі ад мыцця вачыма, яна з нагамі забіраецца на лаву, на самы покуць — снедаць. І не паспявае маці адчыніць дзверы, не паспявае скінуць пад прыпечак бярэмя дроў, як Ганька камандуе:

— Мама, есці!

— Ты ўжо выгаладалася? — пытаецца маці.

— Яшчэ як!

— Ды ты ж вачэй яшчэ не расплюшчыла як мае быць.

— Не расплюшчыла? Глядзі — во!

— Але, праўда,— смяецца маці.— Ну то садзіся, будзем снедаць.

Снеданне — прыемны, вясёлы занятак. Тут не трэба ні просьбы, ні прымусу. Жытнія бліньцы пахнуць рошчынай, гарачынёй печы і яшчэ нечым такім, што не мае нават назвы, што мае толькі смак. Той цудоўны смак простай сялянскай яды, які ні з чым не параўнаеш. Ганька мажа бліньцы здорам і запівае іх салодкім малаком. Адзін, другі, трэці блінец...

— Наядайся, дачушка, ды выгані свіней, папасі якую гадзіну. А то двор перавернуць.

Зноў свінні!.. Яны азмрочваюць Ганьчын бясхмарны настрой. Вочы яе тухнуць. Губы надзімаюцца. Усё гэта не ўнікае матчынае ўвагі, але маці ведае, чым узняць настрой дачкі. І яна нясе Ганьцы гарачае яечка — толькі што з печы, з гаршка, які яшчэ бушуе на прыпечку кіпенем.

Ганька перакідае гарачае яечка з рукі на руку, прыкладае яго да шчакі — то да адной, то да другой і цешыцца яго цеплынёй. Настрой яе зноў расцвітае. Вочы ззяюць, рот расплываецца да вушэй.

— Мамачка, я яго на выган вазьму.

— Вазьмі, дачушка, вазьмі. Я табе яшчэ і агурок зялёны палажу. І солі насыплю. З'ясі на выгане.

Зборы ў Ганькі нядоўгія: узяла торбачку з ядой, узяла дубец — і гатова.

— Куды, воўча тваё мяса! — адкуль толькі бярэцца ў яе гэты грубы голас! Свінні ведаюць яго, ведаюць Ганьчын дубец — і трушком, трушком, тоненька павіскваючы, падаюцца на вуліцу.

Ганька таксама трусіць за сваім статкам подбежкам. Паспявае па дарозе напалохаць і сагнаць з шула Тодарышынага ката Хапалу. Уся вёска ведае гэтага злодзея. Летась Хапалу нехта адсек хвост, і старая Тодарыха хадзіла і ўсё кляла віноўніка. Гэтай вясной Хапала з'еў на гары ў Ганькі мала што не цэлую каўбасу.

Тонкі лазовы дубец свіснуў у паветры — і стары Хапала каменем гопнуў у агарод, на гуркоўнік. Напэўна, паламаў... Але так і трэба — гэта ж яго гаспадыні гуркоўнік.

Параўняўшыся з вокнамі Корбутавай Анюткі, Ганька становіцца на лаўку і заглядае ў агародчык. У Корбутавых так зацвілі вяргіні, што нават вокны засланілі. Трэба будзе папрасіць у Анюткі.

— Анюта! — заве Ганька ў адчыненае акно.

Анюта не адгукаецца.

— Падумаеш!..— крыўдзіцца Ганька і саскоквае з лаўкі.

— Анютка ўжо даўно на выгане! — высоўваецца з акна лысая галава Анютчынага бацькі, Ванькі Корбута. Ганька баіцца яго рыжых вусоў і маленькіх, як калючкі, злосных вачэй. Яна баіцца хадзіць да Анюткі, калі дома бацька: бо калі да іх не прыйдзі, ён заўсёды або злосны, або спіць...

Затое якім цудоўным чалавекам робіцца Анютчын бацька, калі

ён п'яны! Тады ён не злосны, тады ён любіць сабраць вакол сябе гурт дзяцей, любіць расказваць ім здарэнні, якія траляліся толькі з ім адным.

Яшчэ адзін невялічкі прыпынак Ганька робіць каля хаты свайго дзеда Грыся. Ну і смеху было з гэтым дзедам нядаўна! Мала што цэлую зіму, дык і летам сядзіць, не злазіць з печы. І да таго ўжо даседзеўся, што праваліўся разам з чараном на чыгуны і гаршкі тады якраз, як палілася ў печы... Ледзьве выцягнулі... Але Ганьцы дзеда не шкада. Няхай не сварыцца на яе матку. Няхай не заве дурніцаю, што пайшла замуж за мужыка, за Ганьчынага бацьку.

Доўга злавацца на дзеда ў Ганькі няма часу. Насустрач, робячы выгляд, што мчыцца на стаенніку, вярхом на кійку едзе Пецька Бурбалка.

— Тр-р-р! Стой! — і Пецькаў стаеннік, параўняўшыся з Ганькай, спыняецца, як укопаны. А сам Пецька — пафарбаваныя палатняныя портачкі трымаюцца на адным матузку, ногі чорныя, нібыта ў чаравіках — кідае на Ганьку зняважлівы позірк.

«Эх і фарсун, Бурбалка!..»

Але Ганька стрымлівае сябе: учора Пецька выразаў ёй з чараціны дудачку. І таму, стараючыся здавацца прыязнай, яна кажа зусім другое:

— Дзе ты купіў такога каня?

— Скажы табе!..— яшчэ вышэй задзірае аблуплены чырвоны нос Пецька.

— Падумаеш, бурбалка!..— учарашняя Пецькава ласка не мае ўжо ніякай улады. Ганька свішча ў паветры сваім лазовым дубцом і подскакам, быццам і яна едзе вярхом на кані, імчыцца даганяць сваіх свіней.

— А ты... А ты — мужычка!..— знаходзіць чым пацягнуць Ганьку наўздагон Пецька.

— Бурбалка лопнула — твая маці здохнула!.. Бурбалка лопнула — твая маці здохнула!..— штосілы крычыць здалёку Ганька, імкнучыся заглушыць балючую абразу.

А ўслед за ёю гоніцца-даганяе Пецькава скарагаворка:

— Мужычка-паўстынка! Мужычка-паўстынка!..

Хутчэй! Далей ад гэтай абразы! Хутчэй на выган!..

І вось ён — выган.

Ганьку на выгане страчае высокае сонца, старыя дубы і доўгая паўз плот яма жоўтага свежага пяску. Сонца ласкава расчэсвае Ганьчыну галаву, дубы прыветна сцелюць яе свінням абрус зялёнае травы, залатая яма кліча хутчэй брацца за работу.

Жыццё цудоўнае! Тут, на выгане, Ганька адчувае гэта ўсёй сваёй істотай.

Як і належыць руплівай гаспадыні, сваю раніцу яна пачынае з печы. (У гэтай цудоўнай яме ў кожнага з іх, дзяцей, ёсць свая печ — сапраўдная, з прыпечкам, з чараном, з комінам.) Ганька спазнілася. Людзі ўжо выпаляць скора. Вунь як садзіць дым у Анюткі Корбутавай і Мані Паўлавае... І толькі ў Грышкі Адамавага не відно агню. Ды і самога яго чамусьці няма ў яме. А Анютка і пірагі ўжо рашчыніла і выставіла іх на сонца, каб падыходзілі. І Ганька, забыўшы пра ўсё на свеце, завіхаецца каля свае печы, каля сваіх пірагоў («мукі» — жоўтага пяску — колькі хочаш. Вады можна нанасіць і ў прыгаршчах — купайла недалёка.) Ёй вельмі хочацца спячы такія пірагі, як у Анюткі Корбутавай. Высокія. Жоўтыя. Але Анютка скупая — нізашто не дасць яна сваю форму,



іржавую бляшанку з узорыстым дном. Выкінеш з гэтай бляшанкі пірог, а на ім — кветка!..

І ўсё ж Ганька просіць у Анюткі. Просіць далікатна, так, як просяць сталыя людзі:

— Можа б вы, кума, пазычылі мне вашу форму?

— Ага, хітранькая, «пазычылі»... А што ты мне дасі? — Анютка іншых умоў не прызнае, толькі так: а што ты мне дасі?

Ганька азіраецца наўкола: што яна дасць Анютцы... Але ў яе няма нічога... А Анютка тоўстая, ружовая, з белымі, як лён, валасамі, глядзіць на Ганьку сінімі, нібы валошкі, бязлітаснымі вачыма — і не дае бляшанкі.

— Ты не ўмееш, толькі сапсуеш,— цавважна кажа Анютка.

Гэта злуе Ганьку: так бы, здаецца, і ўчапілася ў белыя кудлы.

— Ты вельмі ўмееш!

— Бо і ўмею...

— Ну, і ўмей... І не патрэбна мне твая бляшанка.

Як усё нядобра атрымліваецца. Ну, хіба ж хацела Ганька пасварыцца з Анюткай? Не хацела ж. Не хацела! А ўсё роўна пасварылася... Ганьцы робіцца сумна.

Але якраз на гэты час прыязджае Грышка Адамаў. Ён накасіў ўжо сабе сена і прывёз яго да ямы на возе-ламачыне. Грышкава сена — пахучы дзяцелеўнік — мяняе Ганьчын настрой. Яна бярэ жменю вільготнай травы, з асалодай нюхае яе і гэтак, як і маці яе, уздыхаючы, кажа:

— Людзі ўжо сена косяць, а я яшчэ і не бралася...

— Я табе памагу,— абяцае ёй Грышка.

— І воза свайго таксама дасі прывезці?

— А хіба мне шкада...

Ганька зноў весялее: не ўсе такія жмінды, як гэта кадушка Анютка.

— А я табе за гэта пірагоў напяку,— Ганьцы хочацца і самой зрабіць нешта прыемнае чалавеку, які хіліцца да яе з дабром.

— Напячы, а то я не ўмею.

— Толькі ў мяне формы няма, дык я рукамі.

— Пячы рукамі...

— А ты збегай у купайла і прынясі мне вады.

Грышка ў прыгаршчах прыносіць Ганьцы ваду, і яна замешвае новае цеста. Потым, як і Анютка, выстаўляе пірагі на сонца, каб падыходзілі. Грышка тым часам прыносіць дроў і падкладвае ў печы — у сваю і ў Ганьчыну. Дровы палаюць. Пірагі пякуцца... Добра жыць на свеце!

— Ганька паддобрываецца да Грышкі, хоча замуж за яго пайсці,— шэпча Паўлавай Мані тоўстая Анютка.

— Адкуль ты ведаеш? — пытаецца Маня.

— Я ўсё ведаю.

Ганька чуе гэты шэпт.

— Ты сама, кадушка, хочаш замуж! — накідваецца яна на Анютку.

— Гэта ж ты хочаш, паддобрываешся да Грышкі.

І зноў тухне радасць. Зноў, зусім таго не хочучы, Ганька сварыцца з Анюткай і сама выдумляе на яе рознае. Нарэшце, яна кідае сваю печ, кідае свае пірагі і ідзе прэч з гэтае ямы. Збіты з панталыку, Грышка не ведае, як быць яму: шкада, што так раптоўна разбурылася іх з Ганькай гульня. Аднак ісці адсюль таксама шкада: тут агонь, тут пірагі, тут сена сушыцца...

Не ўмеючы зладзіць са сваімі расслабанымі сяброўкамі, ён, нарэшце, зноў складае сваё сена на воз-ламачыну, ні да кога не звяртаючыся, панура кажа:

— Я свае свінні паганю ўжо дадому...

— Не гані,— просіць Ганька (яна сядзіць недалёка пад дубам).— Хадзем у беразак — я табе птушачкі пакажу... Наша Ніна мне паказала.

«Птушачкі» — гняздо дрозда, і ў ім чатыры рабенькія яечкі, Ніна паказала Ганьцы ў лесе. Ганька гэта добра памятае, і, аднак, яна маніць Грышку. Робіць гэта яна таму, што адной ёй сумна аставацца на выгане.

Грышку «птушачкі» цікавяць.

— Хадзем,— кажа ён,— пакажы. А я табе дастану ластаўчына яечка. У нас у гумне. Я сам дастаю рукою.

— Ластаўчыны яечкі браць няможна. Рабацінне будзе на твары,— як дарослая, тлумачыць Ганька.

Пабраўшыся за рукі, Ганька і Грышка ідуць у беразак. Тут вясной уся вёска спускае сок з бяроз. Сок салодкі і смачны. І капае ён у гладышы і дзежачкі па тонкіх латаках. Лізнеш — соладка!

Ганька і Грышка доўга блукаюць сярод старых бяроз. Нехта звязаў з бярозавых галін гушкалку і забыўся развязаць галіны. Першай садзіцца ў гушкалку Ганька.

— Раз-два! Раз-два!

— Грышка! Папхні ззаду...

Грышка хоча дагадзіць Ганьцы: разганяецца і штосілы таўхае яе ў спіну. Ганька не ўтрымліваецца на гушкалцы і вылятае з сядзення. І абое заходзяцца ад смеху!

Потым на гушкалку садзіцца Грышка. І тады Ганька разганяецца і таўхае яго ў спіну. Як сапраўдны мужчына, Грышка ўжо знарок падае з гушкалкі. Ганька хоча падняць Грышку за руку, ён не даецца, і ўжо абое падаюць яны на траву і доўга не могуць устаць ад смеху...

— Ганька! Ганька! — даносіцца раптам да іх Манін голас. — Дзе твае свінні?!

Ганька і Грышка ўмомант усхопліваюцца на ногі і нясуцца на выган. Так і ёсць: старая Ганьчына свіння Сукала зрабіла ў плоце дзірку і што ёсць сілы верне лычом бульбу. Ганька хвошча свінню дубцом, шпурляе ў яе сухімі грудамі і папраўляе вывернутыя карчы бульбы.

— Ага! Будзе цяпер табе ад Васіля! — седзячы вярхом на плоце, пасміхаецца тоўстая Анютка.

Ганька маўчыць. Яна і сама ведае, што ёй цяпер будзе, няхай толькі ўбачыць іх сусед Васіль. А Анютка не супакойваецца:

— Дасць табе Васіль! І маці дасць!..

— А табе будзе лягчэй! — накідваюцца на Анютку Маня і Грышка.

— Лягчэ-э-й! — цягне Анютка.

— Ну і радуйся! — Ганьку абнадзейвае падтрымка сяброў: а можа Васіль яшчэ і не даведаецца... І раптам яна ўспамінае пра сваю торбачку. Торбачка гэта ляжыць пад плотам — Ганька зусім пра яе забыла.

— А ў мяне вось што ёсць! — урачыста круціць яна ў паветры гэтай шэрай торбачкай і тут жа развязвае яе.

Грышка і Маня з цікаўнасцю заглядаюць у Ганьчыну торбачку: ого!.. Ганька запрашае сяброў:





— Сядайце! Будзем есці ўсе разам...

Яйка крутое, і падзяліць яго на траіх няцяжка. Соляць і дзеляць на траіх лусту хлеба. Свежы зялёны гурок кусаюць па чарзе. А на плоце сядзіць і пагойдваецца Анютка. Валасы ў яе белыя, як лён. Вочы сінія, як валошка...

— А я скажу-у! А я скажу-у! — спявае яна.

— Ну, і кажы! — нязлосна адказвае Ганька, бесклапотна верцячы пустой торбачкай у паветры.

У яе ёсць сябры — і з імі ніякая бяда ёй не страшная.

## БРАТ КОЛЯ

Калі прыходзіць Коля — тады ўжо Ганька не дружыць з дзецьмі. У яе тады — брат!

Брат вялікі, яму чатырнаццаць гадоў. Жыве ён не з Ганькай і Ганьчынай маткай, а то ў Слуцку, то яшчэ дзе — з Ганьчыным бацькам (бо ён бацькаў сын). І хоць Ганьчына маці і зусім не Колева маці, яна любіць Колю і радуецца, калі ён прыходзіць. І Коля любіць яе таксама і, як і Ганька, заве мамаю.

Ганька ганарыцца, што ў яе ёсць старэйшы брат. Маці заўсёды тлумачыць ёй, што яны з Колем родныя.

Коля худы, цыбаты хлапчук, чарнавалосы, з рабацiннем на носе (Ганьцы ён здаецца вельмі прыгожы). Зімой ён прыходзіць у кажушку, у ботах і заечай шапцы. Летам — заўсёды ў вузкіх караткаватых штанах і рубашцы. Ганька кожны раз страчае Колю віскам:

— Коля прыйшоў! Коля прыйшоў! — вісне яна ў яго на шыі і тут жа прымушае насіць яе «на гэршках». Не даючы Колю вымавіць нават слова, трашчыць і трашчыць, як сарока, і вытрасае Колевы кішэні: «А што ты мне прынёс?»

Рада Колю і маці. Яна адразу ж саджае яго за стол і пачынае карміць. Яна нічога не кажа, яна толькі робіцца вельмі сумная. І гэтакая яна заўсёды і тады, калі латае Колевы старыя штаны і рубашкі.

А Ганька з братам сядзяць на печы і не нарадуюцца, не нацешацца, што яны разам.

Звычайна Коля прыносіць з сабой кніжкі з малюнкамі, паперу і каляровыя алоўкі. Ён вельмі прыгожа малюе. І Ганька тут жа чапляецца да яго:

— Намалюй мне чалавека!

Коля малюе («сталом» для малявання служыць блінцоўка, што стаіць заўсёды на печы).

— А цяпер ваўка.

На паперы з'яўляецца воўк — пашча ашчэраная, хіб натапыраны, хвост, як палена.

— А вось! А вось табе! — сашчэплівае зубы і штосілы малоціць ваўка Ганька: — Будзеш ведаць! Будзеш ведаць!..

Нядаўна на начлезе воўк заеў Тодараву жаробку Кветку. Перагрыз горла. Выдраў цэлы бок... І Кветку закапалі на конскім могільніку, у барку пад сушняй.

З ваўком скончана, і Ганька зноў лагаднее.

— А цяпер намалюй рэчку, лазу на беразе, і гусі каб плавалі...

І рэчка, і лаза, і гусі: Колю гэта намаляваць — усё роўна што плюнуць. Аднак і гэтага Ганьцы мала. Яна патрабуе ад Колі маляваць яшчэ іх хату, лялек, Тодарышынага ката Хапалу, сабаку Барса. Гэты Барс разумнейшы за ўсіх сабак на свеце. Ён не баіцца нават шалёных сабак. Як яны яго пакусаюць, ён тады збягае з двара і ўсё на лузе каля рэчкі нешта шукае, нейкую траву ўсё есць. І праз некалькі дзён вяртаецца дадому ўжо зусім здаровы. Мусіць таму, што Барс такі разумны, і ружовае пахучае мыла так называецца: барскае мыла. Ганька бачыла такое мыла летам у дачнікаў, што жылі ў іх вёсцы. Дачнікі кожны дзень мыюцца гэтым барскім мылам.

Коля малюе Барса.

Але маляванне — гэта не ўсё. У Колі ёсць скрыпка. І ён заўсёды носіць яе з сабою. Ён сам навучыўся іграць на скрыпцы. Маці хваліць Колю за гэта і заўсёды просіць яго іграць ёй усе песні, якія яна любіць. І Коля іграе. Прыцісне скрыпку да плечука, водзіць смычком па струнах, а сам галаву схіліць, прыціснецца і слухае сваю скрыпку, нібыта блізка, пад вухам, яна спявае яму яшчэ нешта прыгажэйшае, нешта яшчэ больш таямнічае... І дзіўны твар тады робіцца ў Колі. Пабялее. Шэрыя вочы загарацца, а вусны то сціснутыя, строгія, то нейкія добрыя, добрыя.

У такія хвіліны Ганька яшчэ больш любіць Колю. Ні ў кога няма такога брата, як у яе. Хіба Ціма і Кордзя — яе стрыечныя браты — такія? Яны нічога не ўмеюць — ні маляваць, ні іграць, ні рабіць гадзіннікі, як Коля. Прынёс вось з сабою кішэню вінцікаў, гаек і шасцяронак. Сядзеў, сядзеў над імі цэлы дзень, нешта ўсё збіраў, закручваў, падганяў, прыкладваўся вухам — к вечару павесіў на сцяне ходзікі! Зусім як купленыя, як у дзядзькі Мікалая. У Колі не было аднае гіры, дык клопат вялікі — ён даўмеўся і гіру замяніў зубам ад бараны. І яшчэ як пайшлі з гэтым зубам ходзікі. Куды лепш нават, чым дзядзькавы Мікалаевы. У дзядзькі ці-іхенька так: цік-так, цік-так...

А ў Колі моцна, на ўсю хату:

— Цік! Так!

— Цік! Так!

Такіх братоў ні ў кога няма.

На гэты раз Коля прыносіць Ганьцы такі цуд, пра які яна ніколі і не сніла нават. Ляльку! Ляльку, якая заплюшчвае і расплюшчвае вочы, плача і кажа: «Мама». Ні ў аднае з Ганьчыных таварышак і блізка няма такое лялькі. Падумаеш, у Анюткі і Мані лялькі, пашытыя з ануч. Шчасце вялікае: Ганьцы маці таксама пашыла такую! А вось гарадское лялькі — ні ў кога няма!.. Ды яшчэ ў такім ружовым шаўковым плацці з брыжыкамі. (Вось каб такое плацце ёй, Ганьцы!) Гарадская лялька ў саламяным капелюшы з блакітным бантам, у белых туфельках, у панчошках, у панталонах з брыжыкамі таксама...

Лялька ляжыць у прыгожай каробцы з кардону, засланай блакітным атласам. Прыслала Ганьцы ляльку дзяўчынка Тамара — дачка гаспадара, дзе кватаруюць Коля з бацькам. Гэты Колеў гаспадар мае сваю краму і ў той краме гандлюе лялькамі. У яго дачкі такіх лялек можа мільён. Ганька нямее. Яна не можа нават уявіць сабе, якая ж сама тая Тамара? У яе таксама, мусіць, як і ў гэтай лялькі, гэткія ж блакітныя вочы і гэткія ж доўгія, як лён, валасы.

Чаго Ганьцы хочацца, што ёй трэба сёння, як паветра, — гэта ўзяць ляльку з каробкі і пайсці з ёю па вуліцы. З канца ў канец вёскі. Каб бачылі ўсе! Каб усе глядзелі ёй услед. Каб усе ад зайздрасці паўміралі! І Анютка Корбутава, і Маня Паўлава, і Грышка, і Бурбалка... Каб паўміралі нават іх маткі... Вось што трэба сёння Ганьцы. І больш нічога.

Маці бачыць Ганьку наскрозь.

— Не,— кажа маці,— на вуліцу з лялькай не пойдзеш. Выгнюсіш, выпэцкаеш адразу. І наогул выхваляцца, што ў цябе адной толькі такая лялька, а больш ні ў кога няма, нядобра, брыдка.

Брыдка... Нядобра... Нічога Ганьцы не было б — ні нядобра, ні брыдка. Наадварот, няхай бы ўсе бачылі, няхай бы ўсе зайздросцілі...

«А як часам хто і сапраўды возьме ды яшчэ выпэцкае,— прыходзіць, аднак, у галаву Ганьцы другая думка.— Бурбалка такі шкодны, возьме яшчэ ды плюне на ляльку, ці схопіць за руку, ці за нагу ды яшчэ адломіць...» Можа лепей пазваць дзяўчат і Грышку і гуляць з імі дома?

— Ну, і пакліч,— згаджаецца маці.— Няўжо ж ты будзеш хавацца з лялькай і адна заўсёды будзеш гуляць. Пакліч дзяцей і гуляйце хораша. Толькі не пэцкайце лялькі, не цягайце яе абы-як.

Праз паўгадзіны ў Ганьчынай хаце ідзе ўжо гульня «ў лялькі». І вядома ж самая пачэсная, самая слаўная ў гэтай гульні — Ганьчына лялька. Ганька паспела ўжо яе і «ахрысціць»: лялька таксама Тамара, як і тая слуцкая дзяўчынка.

А ўсё гэты Коля! Ганька так яго любіць!

На другі дзень, калі маці Колю абмые і аблатае, Коля з Ганькай ідуць у лес (больш нікога браць з сабой Ганька не хоча). У лесе Коля ўзлезе на любое дрэва, ён ведае кожную птушку, умее знайсці самае патаемнае гняздзечка. Гняздзечкі, як іншыя хлапчукі, ён ніколі не разбурае. Ён толькі возьме яйка ці голае птушанятка і пакажа Ганьцы, каб паглядзела. І пакладзе абавязкова гэтак, як яно і ляжала ў гняздзе: каб маці-птушка не пазнала і не адцуралася.

У грыбную пару Коля і Ганька бяруць кошыкі, бяруць яду і ідуць на цэлы дзень у грыбы. Гэтаксама добра Коля ведае і ўсе грыбныя мясціны. У Барэцкі лес, напрыклад, яны ходзяць у рыжыкі. Рыжыкі растуць у Глінішчы, з самага краю лесу. Зверху зялёныя, знізу рыжанькія — пахнуць, як не пахне ні адзін грыб. Коля выбірае толькі самыя маладзенькія, каб не было чарвей.

Ганька ж, каб назбіраць больш за Колю, цягне ўсё, што трапіць пад руку. Старыя, як рашоты вялізныя, рыжыкі аж кішаць чарвямі. Коля ножыкам надрэзвае карэньчыкі,— і ўсе Ганьчыны грыбы закідвае ў бок, у бок — у траву. Ганька надзімаецца.

— Не выкідай маіх рыжыкаў!

У Пожар яны ходзяць у асавікі. Там іх пад кожнай асінай — цэлыя сем'і сядзяць. У Дуброве баравікі...

У лесе ў Ганькі з Колем ёсць свае ўлюбёныя мясціны, пра якія не ведае ні адзін чалавек на свеце. Коля, напрыклад, ведае, дзе можна асадзіць чмялёў у Булгашчыне... Выкрадзе чмяліныя шашкі, а потым яны з Ганькай цягнуць цераз саломінку з сотаў салодкі чмяліны мёд.

На Калькавым — так называецца рэдкі дубняк за рэчкай каля поля — у іх ёсць «свой» дуб. Кругом усе дубы, як дубы. Гонкія, высокія. А гэта ў арэшніку — усё роўна як дзядзькі Мікалаева яблыня-разгата. Нізкі, раскідзісты, нейкі дзіўна гарбаты. На яго не толькі лёгка лазіць — на яго раскладзістых галінах можна сядзець і нават ляжаць.

Першым на дуб лезе, вядома, Коля. (Ён і па высокіх дубах лазіць — што яму!) Лезе на самую вяршыню і там ужо якіх толькі штук не вырабляе! І гайдаецца на руках, і стаіць на адной назе, і перакручваецца ўніз галавой. За Колем плішчыцца і Ганька. Яна таксама хоча быць, як і Коля, «вялікай». І таксама пачынае выкручвацца на ніжніх галінах. Аднак моцы ў яе руках яшчэ мала, і Ганька гопаецца з дуба вобземлю.

— А вось і не моцна! — стараецца яна стрымаць слёзы (не так вытнулася, як напалохалася).

— Эй, глядзі! Араплан ляціць! — крычыць ёй з дуба Коля і, каб падбадзёрыць сястру, сам таксама гопаецца з дуба...

У грыбах яны ходзяць цэлы дзень. І калі стомяцца і захочуць добра есці — тады ў іх для яды ёсць ужо другая даўно аблюбаваная мясціна. Гэта — курган. Ён стаіць на ўзлессі, каля хутара Мішы Корзуна. На кургане шуміць старая бяроза, а ўнізе пад курганом — чародкай сабраліся маладзенькія бярозкі — усе, як адна, у белых вясновых плаццях. Непадалёку ад бярозак красуецца арабіна-прыгажуня, стромкі ясень, а далей ідзе драбяза розная — хмызняк...

Хто і калі насыпаў гэты курган, ніхто ў Ганьчынай вёсцы не ведае. Кажуць, нібыта біліся ў гэтых лясах некалі князі. Адзін хацеў сабе гэтага лесу, другі сабе. І нібыта адзін князь забіў у бойцы другога. І вось дружына забітага пахавала свайго князя на гэтым месцы і насыпала яму курган. Ну, а калі ў кургане хавалі князя, дык пры ім няйнакш клалі ж і зброю (шаблі, напэўна!), клалі многа рознага багацця і срэбра. Закуплялі князю яго ўладанне.

Курган спрабавалі раскопваць, спрабавалі адкапаць князевы шаблі і срэбра. Але, мусіць, рука цяжкая была ў таго, хто браўся за гэтую справу. Ванька Корбут, напрыклад, божыцца, што каб ён толькі захацеў, ён бы дабраўся да тых шабляў і да таго багацця князевага, як плюнуць. Ён толькі не хоча. І калі ўсе пачынаюць дапытвацца ў яго, чаму ўсё-такі ён не хоча, Ванька толькі круціць цыгарку, толькі зацягваецца дымам і таямніча адказвае:

— А што, мне жыццё надакучыла?

І калі ўжо вельмі настануць на яго (асабліва малыя), дадасць коратка і павучальна:

— Таму, што курган зачараваны. Трэба ведаць слова!

Ванька яго ведае, гэта слова. Але яго нельга вымавіць да пэўнага часу... Ванька чакае таго часу — і тады ўжо ўсё князева дабро ў яго руках!

Ганька і Коля палуднуюць на кургане. Маці паклала ім хлеба, паклала сала, цыбулі з грады, напякла яблык. Палуднуюць, не спяшаючыся, як і належыць людзям, якія ведаюць і што такое работа, і што такое яда і добры адпачынак. Коля расцягнуўся пад бярозай. Ганька, выпрастаўшы ногі, сядзіць поруч.

Коля марыць:



— Вось каб мы з табой раскапалі курган!

— Каб... Але ж няможна.

— Ты думаеш, Ванька праўду кажа пра слова? — насмешліва пытаецца Коля.

— Праўду, усе гэта ведаюць.

— Усе... Усе... Ніхто нічога не ведае! Бачыла? — Коля ўстае і таямніча, пальцам, кліча Ганьку за сабой.— Бачыла? — пытаецца ён зноў у сястры.

Не, Ганька нічога не бачыць.

— Ну, вось гэта... Бачыла, нехта капаў.

Праўда, цяпер і Ганька бачыць: нехта капаў курган.

— Дык што?

— Дык што!.. Дык тое, што ніякага слова няма і няма ніякіх чарцей! Ванька толькі палохае.

— А чаму ж ён сам тады не раскопвае?

— Не раскопвае... Не раскопвае... Каб раскапаць — трэба мець сілу. А дзе яна ў Ванькі?

Дзе яна сапраўды ў гарбатага Ванькі тая сіла, каб раскопваць курганы? Ганька і сама гэта добра ведае. І яна глядзіць на Колю з надзеяй і чаканнем: вось ён, Коля, дык напэўна раскапаў бы, бо ў яго столькі сілы!

— Калі хочаш ведаць, дык тут...— Коля нешта абдумвае, яму няма з кім сур'ёзна пагаварыць, але калі ўжо тут з ім толькі яна, Ганька, дык ён можа паведаміць ёй свой план.

Раскопваць курган пачне ён, Коля. Праўда, сёння ў яго няма рыдлёўкі, няма лома. Але нічога: ён пачне справу сваім сцізорыкам. Сцізорыкам таксама можна раскопваць курганы. Прынамсі, пачынаць хаця б раскопкі. Ганька спрабуе яшчэ раз напомніць Колю пра Корбута і пра яго слова. Але Коля толькі зняважліва махае рукой: глупства!

І ён пачынае раскопкі. Пачынае з таго краю, адкуль над курганом узыходзіць сонца. Гэта ён каб на злосць чарцям. Яны вельмі любяць вырабляць свае штукі пасля заходу. Дык ён ім падсуне сонца! Няхай паскачуць! Коля капае. Капае сцізорыкам, а рукамі выграбае зямлю. Ганька стаіць зводдалі і баязліва пазірае на брата: а што, калі ў яго раптам загарыцца рука ці прападзе мова. Але нічога, Колевы рукі толькі мільгаюць: глыбей, глыбей сцізорыкам! Ён ужо спацеў нават. Выцірае пот рукавом і бадзёра крычыць сястры. Ганька не здагадваецца, што Коля крычыць знарок, каб не гэтак было страшна, каб самому, калі чэрці надумаюцца з-пад зямлі джгануць яго чым-небудзь пякучым, напалохаць чарцей.

— Во, бачыла, колькі я ўжо адкапаў!..

У Колі свае падлікі, і па гэтых падліках дакапацца да князевых шабляў і срэбра ён здолее толькі на трынаццаты дзень. Ганьку бярэ сумненне: а што, калі хто даведаецца, што яны раскопваюць курган, і апярэдзіць іх? І забярэ ўсё... Што тады?

Колю гэта не прыходзіла на думку. Аднак і тут у яго ёсць свой план.

— А мы будзем прыкідваць сваю яму голлем, каб не было відно.

І сапраўды, калі сонца пачынае ўжо хіліцца на захад, калі пара ісці дадому, яны пакідаюць раскопкі і пачынаюць ламаць хмызняк, што расце ўнізе пад курганом. Потым Коля саджае свежыя зялёныя галіны ў зямлю, прыкідвае імі жоўты пясок, і калі яны злазяць з кургана, то ўжо і самі не пазнаюць, на якім месцы яны капалі. Расце сабе лаза ды расце...

Раскопкі працягваюцца і назаўтра. І на трэці дзень, набраўшы яды, ідуць Коля з Ганькай на курган. І на чацвёрты... Яно б ужо, мусіць, і пара было б дакапацца хоць да якіх медзякоў. Але чамусьці няма і медзякоў. Выкопваюцца нейкія чырвоныя каменьчыкі, нейкія чарапкі... Ат, абы-што! Ганька пачынае ўжо сумнявацца. Калі не было ніякіх чарцей, дык можа няма і срэбра, і шабляў. Можа ніякага і князя не было... Але Коля перапыняе Ганьку:

— Вельмі ты разумная! Можа б ты захацела адразу дакапацца?..

Ці хацела б яна? Вядома, хацела б адразу! А то хадзі, хадзі. І дажджы якраз пайшлі, і холадна.

А як быццам бы ён, Коля, гэтага не хацеў бы... Але ж ён не дзяўчынка, каб кіснуць, каб кідаць справу.

Аднак здараецца так, што справа сама кідае Колю. Прыходзіць пісьмо: бацька патрабуе Колю назад. Са Слуцка ён пераязджае ў Бабруйск.

Маці збірае Колю ў дарогу. Зноў перамывае і пералатвае яго старэнькую адзежу. Рыхтуе яму яду на дарогу. І плача. Плача і Ганька. І ёй шкада Колю. І Коля сумны. Яму так добра з Ганькай і з маткай...

Да Слуцка васемнаццаць вёрст, і Коля пойдзе пехатой. Ён ведае дарогу.

Ганька і маці праводзяць Колю. Яны праводзяць яго да мосціка. Коля цалуецца з Ганькай, цалуецца з маткай і, павесіўшы сваю торбачку на кіёк, са скрыпкай пад пахай крочыць па дарозе ў напрамку да Барэцкага лесу.

— Коля! — крычыць наўздагон брату Ганька,— хутчэй вяртайся! Будзем курган раскопваць!

— Вярнуся! — абарочваецца Коля і нейкі час ідзе гэтак, задам наперад.

Ганьчына маці махае Колю рукой і выцірае слёзы.

— Не мог ён прыехаць сам забраць дзіця...— кажа яна.

Ганька ведае, што «ён» — гэта бацька. Яе і Колеў...

# ТОДАРАЎ ГАРОХ

Заўтра прыйдуць жанцы дажынаць жыта, і Ганьчына маці рыхтуецца яшчэ з вечара. Загадвае Ганьцы нарваць вішань, таўчэ «на пясок» два вялізарныя драбы цукру (А Ганька і не ведала нават, што яны ёсць, што маці хавала іх у скрыні!..), рашчыняе блінцы. Жанцоў трэба карміць смачна. Настрой у маці ўзняты, яна рухавая і — цяпер гэта здараецца з ёю рэдка — гаваркая.

— Глядзі, дачушка, вішні рві самыя чорныя, каб варэнне смачнае было. Дасць бог, і мы, як і людзі, скончым у пару жніво. Заўтра за дзень дажнецца, а на тым тыдні папрашу Тодаравага Ігналя запрэгчы каня і звезці снапы ў гумно. Некалі пасяджу паўднёўку-другую і пашыю ўсім ім, хлопцам, порткі і сарочкі. Тодарыха даўно прасіла...

Ганька слухае матку і таксама радуецца разам з ёю. Дажынкі — гэта як свята. А тым больш, што прыйдуць жанцы. Праўда, жанцы — гэта ўсяго толькі Ганьчыны стрыечныя сёстры: Саша, Анюта і Ніна. Ганька бачыцца з імі штодня, штодня бегае да іх у хату, есць у іх, а часам летам, у гумне на сене, і начуе з імі. (От весела спаць на сене! Хлопцы на адным стаўпу сцелюцца, а дзяўчаты на другім. Пакуль паснуць — дык папакідаюцца сенам ды пагубляюць коўдры. Смеху!) Але заўтра — заўтра ўжо іншая справа. Заўтра яны будуць жанцы, і Ганька пойдзе з імі на поле і будзе памагаць ім...



Падзея, якая мусіць быць заўтра, цэлы вечар поўніць Ганьку і яе маці Алену пачуццём задавальнення і шчасця. З гэтым пачуццём, моцна абняўшыся, яны і засынаюць на старым ложку, насланым гарашынамі.

Назаўтра маці будзіць Ганьку, лёгенька кратаючы яе за плячук.

— Уставай, дачушка, ты ж прасіла пабудзіць цябе... Дый пара ўжо. Сонца высока.

Ганька сонна круціць галавой і не адразу ўсведамляе, пра што кажа маці.

— Ай, я спаць хачу,— расплюшчыўшы на момант вочы, яна тут жа зноў іх заплюшчвае і паварочваецца на другі бок да сцяны.

— А ты ж учора прасілася ў жанцы. Дзяўчаты ўжо, уга, каторую пару жнуць — мо па паўкапы ўжо нажалі.

Апошнія матчыны словы ўмомант зганяюць з Ганькі санлівасць, яна ўсхопліваецца і паспешна саскоквае з ложка.

— Чаму ж ты мяне раней не пабудзіла? — злуецца яна на маці.

— Пашкадавала будзіць гэтак рана. А цяпер умыйся ідзі, дзеткі, ды вазьмі занясі дзяўчатам гладыш вады. А я са снеданнем таксама неўзабаве надыду. Толькі вось з печчу ўхаджуся ды свіней накармлю.

Ганьчыны зборы кароткія. Не конча вельмі вымывацца, няма калі вельмі і снедаць. Жанцы ідуць на поле — Ганька гэта добра ведае — не снедаўшы. Ім потым ужо снеданне прыносяць: як пажынаюць добра, як выгаладаюцца.

Маці сёння сама прынясе ім снеданне ў поле. А покуль што ад Ганьчынае ўвагі не ўнікае горка тоўстых белых блінцоў на стале. Тут жа, на стале, дзве гліняныя міскі: адна з тварагом са смятанай (мусіць, маці папрасіла ў цёткі Тодарыхі — потым адшые!), у другой місцы — вішнёвае варэнне. «Варэнне» — гэта ўчарашнія Ганьчыны вішні, перацёртыя з цукрам. Смачнейшай за гэту няма яды на свеце: есці спачатку блінцы з тварагом і смятанай, а пасля мачаць іх у варэнне!

Тут жа на стале ляжыць і некалькі пахучых зялёных агуркоў, яшчэ запатнелых, росных — толькі што з грады.

Іншы раз Ганька ні за што не ўцярпела б — абавязкова працягнула б руку па агурок, паспытала б тварагу, абавязкова лізнула б варэння... А сёння — не! Сёння, як і ўсякі сталы чалавек, які разумее, што такое нялёгкая работа, сёння яна перамагае спакусу. І тварог, і агуркі, і варэнне — сёння ўсё гэта для жанцоў!

Ганька бярэ за вочапку збан вады і выходзіць з хаты. Па вуліцы яна ідзе паважна, як сталая, крышку перагнуўшыся на адзін бок — цяжкі збан перацягвае ёй руку, хіліць да зямлі.

Вуліца ўжо даўно прачнулася і жыве сваім звычайным жыццём. Гаспадыні падаілі і выгналі наранкі кароў. Дым верне з комінаў. Скрыпяць вочапы ля студняў. І толькі Кацярынка заспала з авечкамі — надумалася калі выганяць. Ганька разбеглася ў самую чараду, закружылася са збанам у руках. І чарада як шарахне ў вулку! Вот дурніцы, быццам за імі воўк пагнаўся!

— Сто ты робіс? Куды ты маіх авецак гоніс! — бяжыць услед за чарадой кульгавая Кацярынка. Яе нанялі з суседняй вёскі на ўсё лета да авечак.

Як кажа Ганьчына маці, вот ужо каго бог пакрыўдзіў дык пакрыўдзіў: мала што калека, дык яшчэ трэба было і розум адабраць у няшчаснай. Кацярынцы гадоў сорак, яна шчуплая, як пёрачка, лёгенькая і ўсё пасміхаецца. Убачыць незнаёмага хлопца, упадабае яго,

і потым па ўсёй вёсцы ўжо расказвае, таямніча пасміхаючыся:
— Ён мне каза: ідзі за мяне замус, бо ты самая хароссая за ўсіх дзяўцат... А я казу: не хацу.

На першых нівах, акурат ад дарогі, расце гарох Тодара Гурына. Для Ганькі гэты гарох — найвялікшая спакуса! Яе маці ніколі не сее гароху. А ў Тодара такія ўжо тоўстыя струкі, такія салодкія! І Ганька не вытрымлівае: азірнуўшыся па баках (ці не відно дзе каго паблізу), яна нізенька прыгінаецца, робіць некалькі крокаў — і вось!..

Салодкія зялёныя струкі самі так і просяцца спачатку ў рукі, а потым у рот... Стаіўшы дыханне, Ганька спяшаецца — рве, рве гэтыя струкі — і за пазуху, за пазуху! (Як дарэчы, што сукенка паяском падпяразана!) Мо б ужо і хапіла (Вунь які тоўсты «жывот» зрабіўся!), але далей, на сярэдзіне, струкоў яшчэ больш! (З краю паабрывалі — хто гэта абміне?) Да таго ж Ганьцы хочацца занесці гароху дзяўчатам на поле...

— Ай-яй-яй! Гэтака вяліка дзеўка ды заблудзіла на дарозе!..

Ад нечаканасці, перапуду і сораму ў Ганькі не хапае адвагі павярнуць галавы на голас. Нейкі час яна так і застаецца сядзець у гаросе, яшчэ больш утуліўшы галаву ў плечы. А потым, чырвоная, няшчасная, брыдкая, устае і паволі брыдзе па гаросе да дарогі. А гарох блытаецца ў нагах, чапляецца за сукенку, нібыта хоча затрымаць Ганьку, нібыта хоча на ўвесь свет паказаць яе сорам! Ага, папалася! Будзеш ведаць, як красці чужое! І Ганьцы здаецца, што ў яе пад нагамі гарыць і расколваецца зямля.

— Ай-яй-яй! — пры дарозе, каля плоту стаіць з доўгім кіем у руках дзед Васіль. Ён нічога больш не кажа, ён толькі трасе кароткай сівой бародкай, і ў вачах яго скача, скача смех. Ганька хоча абысці дзеда Васіля, але дзе там! Дзед заступае ёй дарогу:

— Гэта цябе маці вучыць красці чужы гарох?

— Н-не...— ад сораму і гора Ганька не можа прамовіць больш ні слова.

— А я думаў, што гэта твая маці цябе вучыць. А каб Тодар застаў цябе?

Ганька і сама пра гэта думала, з самага пачатку. Што, як нарвецца сам Тодар? Колькі разоў і маці наказвала ёй: не зайздросць на чужое, ніколі не бяры чужога. А яна ўсё роўна, як зладзейка якая, улезла ў чужы гарох. А што будзе, калі дзед Васіль возьме ды раскажа Тодару, раскажа мацеры? Ці даўно біла яе маці за чужую клубніку? Свая ж дома ёсць, аж дзве грады, дык не, ёй захацелася паспытаць чужое! Ганьцы прыкра ўспамінаць гэты другі свой нядаўні сорам. Гэтак жа было якраз, як і сёння. Толькі яны тады ўдваіх з Маняй Паўлішынай былі. Спачатку Маня палезла ў Міхалаву клубніку, а Ганька пільнавала, каб ніхто не ішоў, а потым Ганька палезла, а на плоце сядзела і пільнавала Маня. Ганька не паспела тады і жмені ягад нарваць, як нечая рука пацягнула яе за сукенку. Ганька азірнулася: за сукенку яе трымала Міхаліха, а Мані не было нідзе і следу. Сама Міхаліха не біла Ганьку, а завяла да маці. І маці так тады адлупцавала Ганьку паскамі...

А чым скончыцца сённяшні гарох?

На поле да жанцоў Ганька прыходзіць нязвычна маўклівая і не падобная на сябе. Пад снапом у цяньку паставіла гладыш з вадой і без загаду, без просьбы сама ўзялася зносіць снапы ў бабкі.

Сёстры спачатку не звярнулі на яе працавітасць увагі, аднак хутка ўсё ж здзівіліся.

— Чаго гэта ты нейкая сёння, Ганька? — спытала Анюта.





— Нічога...
І гэта «нічога» вымаўлена было так горка і пакутліва, што пакінулі жаць і Саша з Нінай.
— Можа цябе хто набіў па дарозе? Дык я яму дам! — паабяцала ваяўнічая Ніна.
— Н-не..— больш стрымліваць плач Ганька ўжо не здолела.
— Ну, дык што ж здарылася?!
— Я... Я...— Ганька развязала паясок, і на ржышча пасыпаліся струкі гароху.
— Цябе злавіў Тодар?! — адразу здагадалася, у чым справа, Ніна. Яна сама добра ведала смак Тодаравага гароху.
— Н-не... Дзед Васіль...
— Дык чаго ты спужалася дзеда Васіля? — Старэйшай, Сашы, хацелася суняць Ганьчыны слёзы.— Ты ж не ў яго гарох палезла. І колькі ты там яго нарвала, таго гароху...
Ганьцы не палегчала ад гэтых суцяшэнняў. Яна ніяк не здолела б растлумачыць сёстрам, што плача яна не таму, што баіцца пакарання. А таму, што ёй сорамна, што яна гэтак сапсавала такую раніцу, як сённяшняя. Што да яе, гэтай роснай сонечнай раніцы з пахучым іржышчам, з тугімі снапамі, з зялёнымі конікамі ў траве, яна рыхтавалася разам з мамай яшчэ з учарашняга вечара. Што яна сніла ноччу гэту цудоўную раніцу. Вось чаго плакала Ганька, не ўмеючы растлумачыць прычыны сваіх слёз. Ганьку зразумела Анюта. Яна не стала абнадзейваць малую, не стала яе суцяшаць, яна ўзяла толькі яе да сябе ў памочніцы.
— Ну, што ж цяпер плакаць! Больш толькі гэтак не рабі, ты ж ужо вялікая, брыдка. А цяпер давай мы з табой пасастаўляем снапы ў бабкі. Маці прыйдзе і абрадуецца. Вось, скажа, малайцы! Колькі нажалі, колькі бабак наставілі! А ты сабе ў бабцы хату зробіш...
— Давай пасастаўляем,— выціраючы слёзы, ахвотна згаджаецца Ганька. Удваіх яны носяць снапы. І Ганька, як і дарослая Анюта, плішчыцца таксама браць па снапу пад паху ды яшчэ па адным у кожную руку. Анюта сварыцца на яе:
— Ты яшчэ малая, насі па адным, а то падарвешся...
— Не, я ўжо вялікая! — пярэчыць Ганька, цягнучы па іржышчы тугія жытнія снапы. Снапы пахнуць вільготнай зямлёй, роснай травою і пяшчотным уюнком.
У гэтай рабоце непрыкметна аціхае Ганьчын сорам і боль.

## ТОЛЯ

— Толя прыйшоў! Толя прыйшоў! — з гэтай навіной, пачутай на вуліцы, Ганька перш за ўсё бяжыць да цёткі Іваніхі.
І застае, як і хоча, адну Анюту.
— Толя прыйшоў! — засопшыся, яшчэ з парога крычыць Ганька.— Я сама бачыла!.. У скуранцы і ў насованцы,— паспешна дадае яна, каб пераканаць Анюту ў тым, што яна кажа праўду.
— Ну дык што, калі прыйшоў...— Анюта знарок гаворыць абыякава.— Няхай сабе прыходзіць.
«Няхай сабе прыходзіць»... Ганька крыўдзіцца ад такой няўвагі. Але ж яна бачыць, як пачырванела Анюта, як паспешна адвярнулася да шафы і як пачала раптам нешта перакідваць і парадкаваць у гэтай шафе.
— Я пайду дадому,— кажа Ганька.



— Пачакай,— спыняе яе Анюта,— дай я табе валасы расчашу, а то збіліся ў каўтун. Ніколі ў твае мацеры няма часу цябе дагледзець.
Валасы ў Ганькі і сапраўды збіліся «ў каўтун», але на маці ёй крыўдзіцца нельга: у маткі ніколі няма прасветлае гадзіны. Ганька гэта ўжо добра разумее. І таму яна заступаецца:
— А вот мама і даглядае мяне...
— «Даглядае»... А дзе ты яго бачыла? — пытаецца Анюта.
Ганьцы трэба было б памучыць сястру за няўвагу, прыкінуцца, што і самую яе больш не цікавіць гэты Толя, але яна не ўмее прыкідвацца.
— «Дзе бачыла... Дзе бачыла»... Мы з дзецьмі ішлі з Палянкі, дык і бачылі. Каб ты бачыла, колькі мы грыбоў назбіралі! Я можа сто баравікоў падняла! А Грышка Адамаў дык можа мільён. А Анютка Корбутава як спужалася сабакі! — непрыкметна Ганька і сапраўды забывае пра Толю і пераключаецца на ўласныя грыбныя прыгоды.
— Ну і што?..— перабівае Ганьку Анюта.
Ганька здагадваецца, што гэта сястрына «Ну і што?» не адносіцца ні да яе грыбоў, ні да сабакі, якога так напалохалася Корбутава Анютка.
— Ну і нічога. Ішоў у скуранцы і ў шапцы-насованцы. А ў руцэ многа-многа звязаных кніжак,— адказвае Ганька. І сапраўды, што яна яшчэ можа расказаць пра Толю? Што яны ўсе замахалі яму здалёку кашамі і хусткамі і закрычалі: «Толя! Толя!..» І што ён спыніўся і таксама памахаў ім рукою: «Добры дзень, падшыванцы!» А яны тады таксама ўсе разам закрычалі яму: «Здрастуй! Здрас-туй!..» А ён яшчэ раз памахаў ім рукою... А потым яны спыніліся на мосціку і паласкалі, пачапляўшыся за парэнчы, у рэчцы ногі. А Грышка Адамаў сарваўся і зваліўся ў рэчку — у штанах і рубашцы...
— Ну, добра, добра... Калі ўсё гэта слухаць — да вечара не праслухаеш.— Ідзі ўжо дадому, мне трэба мыць падлогу,— выпраўляе Ганьку дадому Анюта.
— Дык хіба ты забыла — ты ж у сыботу яе мыла...— нагадвае сястры Ганька.
— У сыботу мыла і сёння буду мыць,— строга кажа Анюта.— Ідзі дадому.
— Я буду табе памагаць. Буду вазоны мыць,— просіцца Ганька. Яна ўжо здагадалася, навошта гэта спатрэбілася сястры раптам сярод тыдня мыць падлогу. Але Ганька нічога не кажа і прыкідваецца такой паслухмянай, толькі каб сястра не праганяла яе.
— Мый сабе,— дазваляе Анюта, невядома для чаго перасцілаючы раптам ложкі. Знімае посцілкі і сцеле святочныя коўдры.
«Бо Толя прыйшоў, дык і падлогу будзем мыць...» — хапаючыся за вазоны, пра сябе зазначае Ганька. Але ўголас яна не кажа нічога.
— Ведаеш што, Ганечка,— раптам мяняе план Анюта,— вазьмі вось гэты дзяркач і пайдзі чысценька двор замяці...
І двор?.. Двор жа таксама замяталі ў суботу... Але Ганька згодна на ўсё, на любую работу. Толя ёй таксама падабаецца. Яна таксама любіць Толю.
...А вечарам вымытая і вышараваная Іванішына хата звініць ужо маладымі галасамі, смехам і спевамі. Пасярэдзіне хаты стаіць Толя. Скураная тужурка расшпілена, па сіняй касаваротцы цераз плячо папружка, на грудзях з левага боку — камсамольскі значок: маленькі чырвоны сцяжок, а на ім — Ленін.
«Значыць, не толькі ў Паўстыні ёсць камсамольцы. У нас камса-

мольцы таксама ёсць!» — сочыць з захапленнем за Толем з печы Ганька.

Толя высокі, шыракаплечы. Твар смуглы. Гладкія валасы спадаюць на лоб цёмнаю пасмаю. Толя ўвесь час адкідвае іх рукою і весела гаворыць, звяртаючыся да вясковых хлопцаў і дзяўчат:

— Ну, браткі мае, дальбог, дзе ні цягаўся па свеце, а лепшага за свой родны кут няма нідзе!..

На Толю скіраваны ўсе позіркі, Анюта не адводзіць з Толі вачэй. Яны абое — ён і яна — самыя тут харашэйшыя. Так здаецца Ганьцы.

А старой Іванісе боязна. Бачыць і яна, як не зводзіць з Толі вачэй яе сярэдняя дачка. Ды якая карысць з гэтага? У хлапца ні кала, ні двара. От толькі затлуміць кожны раз галаву дзеўцы... «Каб у камсамол не пачаў яшчэ ўгаворваць,— непакоіцца маці і разважае далей: — Вялікая карысць з таго камсамолу. Сала ён табе ў кубел накладзе, ці жыта ў засек насыпле...»

— Раскажы бо, дзе ты гэтулькі цягаўся? — звяртаецца яна да Толі.

Дочкі глядзяць на маці з дакорам. Анюта ад сораму за недарэчнае матчына пытанне ўспыхвае агнём і ледзь не плача.

— От, вам няма чаго казаць, дык абы-што...

— Я ж нічога кепскага не сказала...

— Раскажу, цётка, раскажу. У бацькі быў. Вы ж самі ведаеце, што настаўнічае ён. Гэты год у Старэве. Дык і я быў каля яго. Вазіў карчы на смалакурню ва Урэчча.

— І многа ты гэтымі карчамі назарабляў?

— Не многа, цётка! — неяк асабліва лёгка і весела адгукваецца Толя.— Трэба больш надзейны занятак шукаць, чым гэтыя карчы. Вось я і пакінуў іх, мяркуючы падацца ў Слуцак.

— А ў Слуцку ж хто там цябе вельмі чакае?

— Ды не вельмі, цётка, каб чакалі... Думаю, вучыцца пайсці. Прафшкола там такая ёсць.

— А хто ж цябе вучыцьме? У бацькі, апрача цябе, яшчэ сямёра.

— На бацьку спадзявацца няма чаго. Бацьку яшчэ трэба памагаць. Работу пашукаю, цётка.

— А сваё поле пырнікам зарасло,— з дакорам кажа Іваніха і выходзіць з хаты.

— Допыт скончаны. Я вольны, грамадзяне! — смяецца Толя.

Смяюцца і хлопцы і дзяўчаты.

Ганька злуецца на печы: «Ну і дурная гэта цётка! Няхай бы Толя ажаніўся на Анюце...»

— Эх, браткі, і песню ж я вам прынёс! Хату цётчыну разбурыць можна... Хочаце паслухаць?

— Давай, Толя!

— Спявай!

— Толькі ша! Дзе сама цётка? Анюта, зірні...

Анюта адчыняе дзверы ў сенцы.

— Яна, мусіць, да суседзяў пайшла. Збіралася.

— Ну, тады памажы божа!

Толя з выклікам ускідае галаву, звычным рухам адводзіць з воч пасму валасоў, запявае:

Мы не паклонімся богу.
Бога стварыў чалавек.
Шырай да праўды дарогу,
Лгانству не месца ў наш век!

К чорту касцёлы, капліцы,
Цэрквы, званіцы, званы!
Мы ўжо не будзем маліцца —
Нам не патрэбны яны!..



Апошні куплет падхопліваюць і спяваюць усе гуртам. Пішчыць з печы да гурту, да ўсіх, нешта сваё і Ганька. Ёй, як і ўсім гэтым дарослым хлопцам і дзяўчатам, крыху боязна і нястрымна весела:

К чорту касцёлы, капліцы!..

Вось каб пачула маці, яна б дала ёй за такія спевы! Або каб цётка пачула, што спяваюць у яе хаце. Добра, што яна сышла якраз на гэты час...

Так разважае Ганька, і ў гэты самы час адчыняюцца дзверы. На парозе з бярэмам дроў старая Іваніха... Моладзь спачатку яе не заўважае, а калі заўважае, дык рэагуе ўжо на яе прыход па-рознаму. Дзяўчаты сарамліва заціскаюць ад смеху далонямі раты і змаўкаюць, а хлопцы яшчэ мацней паддаюць галасамі... Іваніха кідае дровы пад прыпечак і абурана ківае галавой.

— Навучыў ён вас, дурняў, гэты камсамол... Пáгаліў, пáгаліў недзе цэлы год, а гэта з'явіўся і адразу стаў вучыцелем... А вы хоць бы зірнулі, дзе вы седзіцё, каго вы няславіце...

Хлопцы і дзяўчаты азіраюцца: яны і сапраўды занялі ўвесь покут пад абразамі — пад Міколам-цудатворцам і Варварай-вялікамучаніцай...

— Ён вам прыпомніць гэта, ён вас навучыць,— грозіць цётка Іваніха, маючы на ўвазе пад «ім» — бога...— Ён, усевідучы і міласэрны, зробіць так, што гэтыя вашы дурныя языкі яшчэ параспухаюць, як калоды! — палохае яна.

Хлопцы рагочуць. Не вытрымліваюць і дзяўчаты — пырхаюць у хусткі. Смешна і Ганьцы, яна ўяўляе, як распухае, што калода, язык... У Толі? Не! Не трэба! У сястры Анюты ці Сашы? Таксама не трэба! У Мішы і Антося Няронскіх ці Базіка Бараноўскага? Ого, яны такія прыгожыя хлопцы... І Ганька ўяўляе, як возьме раптам ды распухне язык у самой цёткі Іваніхі... Фэ, якая брыдкая яна будзе! І Ганька заходзіцца ад смеху і ад сваіх думак.

— Яшчэ і яно тут, гнюснае! Глядзі мне, а то не пагляджу, што няма мацеры, высвячу паскам! — грозіць цётка Ганьцы і сама лезе на печ: чым слухаць такія дурныя спевы ды гнявіць госпада-бога, лепей легчы ды заснуць.

А хата яе тым часам ужо разлягаецца ад другое новае песні, што прынёс сёння Толя:

А куда ты, паренек?
А куда-а ты?
Не ходил бы ты, Ванек,
Во солдаты!

В Красной Армии штыки,
Чай, найдутся.
Без тебя большевики
Обойдутся...

Толя стаіць пасярэдзіне хаты — ён натхнёна дырыжыруе гэтым імправізаваным хорам. Чорная скуранка расшпілена. На грудзях, з левага боку, камсамольскі значок. На ім хітравата-дабрадушна жмурыцца Ленін. Як быццам хоча падбадзёрыць:

— Таварышы моладзь, галоўнае не здавацца!..

## «ШПІКТАКЛІ»

Ніхто пэўна не здолеў бы сказаць, калі і як яно перакінулася цераз Кляпчанскае балота — гэта таямнічае слова «шпіктаклі». Ведалі толькі, што прыйшло яно з Паўстынскае школы і што прывезці

і паставіць «шпіктаклі» дакляравалі паўстынскі настаўнік Гладкі і камсамолка Аўдоцця — таксама з суседняга Паўстыня.

Малыя ўмомант разнеслі навіну па хатах. Ганька пабегла спачатку, як заўсёды, да цёткі Іваніхі хутчэй паведаміць гэта дзіва сёстрам.

Цётка і Саша стрэлі Ганьчыну навіну скептычна:

— От, няма чаго гультаям рабіць, дык будуць бэрсацца па сёлах,— абрэзала Ганьку цётка, скручваючы ў «куклу» жменю абтрапанага лёну.

— Такія ўжо артысты! — азвалася і Саша.

Цётка з усімі трыма дочкамі трапала лён у падпаветцы.

— А якіх табе трэба артыстаў? — узгарэлася Анюта.— Можа пагледзімо на іх, ды і самі будзем ставіць...

— Мала вам яшчэ шпіктакляў. Кожны вечар паскаляецеся і так: улетку да рання на вуліцы, а зімой на вячорках.

— Толя казаў, што як прыедзе другі раз, дык абавязкова зробіць і ў нас шпіктаклі,— уставіла малодшая, Ніна.

— Дзіва што, гэты бязбожнік зробіць. У яго ў галаве толькі і ёсць, што гэтыя розныя выдумкі...

— От, вам абы-што, абы гаварыць... Каб хаця ўсе такія былі, як ён,— зноў не стрывала Анюта, загарэўшыся макавым цветам.

— «Каб усе такія»... Ты мне выкінь гэтую дурноту з галавы,— раззлавалася маці.— Я табе ўжо не раз казала...

— Бо Толя і сапраўды не такі, як усе,— заступілася і Ніна.— З ім заўсёды цікава.

— Дык мо і ты запісалася б, як і ён, у гэты яго камсамол? — ужо на меншую дачку накінулася маці.

— Мо і запішуся.

— Як Аўдоцця Паўстынская? Косы паабразаеш...

— Ну і што ж! Затое яна вунь за артыстку ездзіць.

— Паагрызайся мне!

— Чаго гэта вы, мама, усхадзіліся? — не ўцерпела Анюта.

— Бо гэта малое дурное прыбегла, а вы ўжо гатовы пакідаць работу і лётаць па вёсцы: шпіктаклі, бач, нейкія там дурныя да іх едуць! Сараматніцы!

— Дык яны ж, мама, яшчэ не едуць.

Так ці інакш, а навіна гэтая за якое толькі паўднёўкі паспявае абляцець усе хаты, паспявае перакінуцца і ў суседнія вёскі — Таліцы і Баркі. Дарослыя хлопцы гавораць пра нейкія ўжо афішы, якія трэба будзе разносіць і расклейваць па суседніх вёсках.

— Мы панясём! — не ведаючы яшчэ і не ўяўляючы нават, што гэта за такія афішы, гатова прапанаваць ужо зараз свае паслугі Ганьчына таварыства.

— Абыдзецца без смаркатых,— зняважліва, з усведамленнем уласнай перавагі, адхіляюць гэты бескарыслівы парыў дарослыя. Але малыя не крыўдзяцца:

— А мы ўсё роўна панясём!..

«Шпіктаклі», безумоўна, будуць ставіцца ў хаце Ганьчынага дзядзькі Мікалая. Дзядзька Мікалай у вёсцы лічыцца багатым «амерыканцам». Вялікая дзядзькава сям'я ціснецца — спіць і есць — у «сталовай» і на маленечкай кухні. Зала ж, у якой не жывуць і якую ніколі не паляць, стаіць пустая, як адрына.

І Ганька задзірае нос: калі яе дзядзька і калі дзядзькава хата, дык і «шпіктаклі» таксама амаль... яе! Цяпер яна нават хоча паддобрыцца ўжо да свае стрыечнай сястры Валі, мала за яе старэйшае,



з якой яны ніколі не мірацца. Але дзе там! Валя свой нос задзірае яшчэ вышэй за Ганьку: «Наша хата! Значыць, і шпіктаклі нашы!»

Да «шпіктакляў» рыхтуюцца дружна, усёй вёскай. Дарослыя хлопцы сцягваюць з вышак і з-пад стрэхаў дошкі, габлююць іх, прыганяюць — майструюць сцэну! Дзяўчаты адна перад другой навыперадкі дастаюць з куфраў самыя лепшыя коўдры і таксама зносяць іх у дзядзькаву «залу» — на заслону, на кулісы... Малыя, як удзельныя, носяцца з хаты ў хату і ў соты раз расказваюць, што робіцца ў «ціятры» (так цяпер называюць Мікалаеву хату). А потым, дамогшыся ўсё ж свайго, усім гуртам садзяць у Таліцы, у Баркі расклейваць афішы.

Ганька — самае малое са свае кампаніі — не адстае ні на крок. Засапецца, стоміцца, згаладае за дзень, але не паддасца! Маці ўжо і грозіць, і просіць, і ўгаворвае:

— Пасядзела б ты, дзіцятка, у хаце... Прыедуць артысты, тады і пабачыце ўсё адразу...

— Ага, тады!..

— Я табе ніколі не расказвала, дачушка, а я ж таксама была некалі артысткай,— маці ўсміхаецца і ад тых даўніх светлых успамінаў на нейкі момант як быццам святлее і сама.

— Раскажы!

— Была, дачушка! «Паўлінку» мы ставілі, і я за Паўлінку была...

— Ты?!

— Я...

— І што?

— Нічога. А за Якіма Сароку быў...— маці раптам зноў хмурнее і змаўкае.

Адчуўшы, што ўспамін гэты ёй балючы, Ганька нічога не пытаецца пра Якіма Сароку. Памаўчаўшы нейкі час, нібыта сама з сабой яна разважае:

— І я, як вырасту, буду за Паўлінку. А за Якіма Сароку будзе Грышка Адамаў.

— Ой, дачушка, каб ты ўжо хутчэй расла.

Людзі старыя, сталыя глядзяць на ўсе гэтыя сутаргавыя зборы да шпіктакляў, як на забаўку. Ат, няма чаго рабіць, дык абы-што выдумляюць. Але ім таксама цікава... На стук сякеры ва ўласнай хаце заходзіць сам гаспадар. Дзядзька Мікалай — высокі, сутулы, з белым «вожыкам» стрыжаных валасоў і ў акулярах. Ён крытычна аглядае сцэну, дае парады.

— Тут вось, хлопцы, дошкі трэба акуратней падагнаць, падгабляваць лепш трэба...

Сам Мікалай, за што ні возьмецца, у любой справе ён — майстар: ці то боты пашыць, ці канапу адмысловую змайстраваць, ці падстрыгчы «пад польку»... («Амерыка, халера на яе, усяму навучыла,— кажа сам сабе Мікалай,— горы перастаўляць толькі не даводзілася»).

Цэлы вечар смаліць цыгарку і павучае хлопцаў, як трэба рабіць сцэну (хоць сам зроду палена дроў не рассек), Ванька Корбут. Ён прыходзіць звычайна крыху падпіўшы (і таму ў гуморы), і з ім цікава і весела.

— Ат, што цяпер за моладзь!..— нязлосна абураецца Ванька, сплёўваючы сабе пад ногі недакурак.— Вот, скажам, вы — цяперашнія хлопцы ці дзяўчаты. Ці вы ўмееце паскакаць як след, ці ўмееце паспяваць?

— А вы, дзядзька, мусіць, некалі хвацкім кавалерам былі? — непрыкметна падколе Ваньку які-небудзь хлопец-жартаўнік.

— «Некалі быў»... Няўжо ж не быў?! — аж прыўстае Ванька, і яго рыжыя калючыя вусы таксама, здаецца, прыўстаюць. Ванька гарбаты, і голас у яго тонкі і скрыпучы.— Я і цяпер, каб захацеў, любога яшчэ з вас абскачу!

— Дзядзька, запрасеце мяне ў сыботу на кадрыль!..

— Цябе? — Корбут крытычна, нібыта бачыць яе ўпершыню, разглядвае Анюту — прыгажэйшую з усёй вёскі дзяўчыну. Паважна зацягнуўшыся самакруткай, ён, нарэшце, згаджаецца:

— Ну, з табой я яшчэ згуляў бы...

Хлопцы і дзяўчаты паміраюць са смеху.

Заходзіць у Мікалаеву хату, каб напалохаць карай божай сына (ён заганяе ўжо апошнія цвікі ў сцэну) і ўсіх яго сяброў, Ларыёніха.

— Мацер гасподняя, прасвятая дзева Марыя! — хрысціцца з парога, як жэрдка, доўгая, худая Ларыёніха.— Што ж гэта вы, бязбожнікі, робіце. Няма вам святой нядзелькі. З сякерамі, з піламі... Прыйдзе на вас страшны суд! Паўстанеце вы перад усявышнім. Напомніць ён вам гэтыя трэскі, што насеклі сёння, не шануючы госпада. Будзеце вы на гэтых трэсках, як вужы, у пекле пячыся.

— Завяла ўжо... «Усявышні»...— передражнівае маці сын. Алесь, дужы шыракаплечы дзяцюк, з панурым позіркам.— Святая вельмі знайшлася. Як сама дык здорам блінцы мажа, а як мне дык з алеем...

— Цьфу! Цьфу! Згіньце! — не адказваючы сыну, урачыста знікае за дзвярыма грозная Ларыёніха.

Услед ёй нясецца новы выбух маладога дружнага рогату.

Малыя, вядома, таксама ўсе тут. Ад іх не адбіцца, аж пакуль не выйдзе гаспадыня Фядора.

— А вы, саранча, што тут робіце дасюль? — Фядора выходзіць са «сталовай» з паскамі ў руках.— А ты чаго гэта не дома? Маці хворая ляжыць адна, а яна па чужых хатах пáгаліць,— сарамаціць яна Ганьку, пляменніцу па мужу.

Ганьцы і сапраўды брыдка: маці хворая, а яна і не ўспомніла пра яе ад раніцы. Днём як пад'ела ў цёткі, так яшчэ і не стыкалася дадому... І ўсё роўна ёй не хочацца пакідаць гэту цікавую дзядзькаву хату.

— А ну, марш! Марш на седала! — выганяе з хаты ўсё Ганьчына таварыства Фядора.

Ганьцы робіцца лягчэй: усё ж не адну яе выганяюць.

«Шпіктаклі» прыязджаюць у суботу пад вечар на возе, запрэжаным порсткім сівым конікам. На возе сядзяць і артысты: настаўнік Паўстынскай пачатковай школы Гладкі, худы высокі хлопец у чорнай скуранцы, і падстрыжаная па-хлапечы камсамолка Аўдоцця. Яна ў чырвонай касынцы, завязанай назад, і ў сіняй сацінавай касаваротцы. Касаваротку наўскасяк перасякае вузкая блішчастая папружка.

Аўдоцця — першая і адзіная на ўсю акругу камсамолка. Яна адмовілася хадзіць у царкву, абрэзала косы і ходзіць на сходы разам з хлопцамі і мужчынамі. І таму яе ўсе ведаюць, і таму ўсе глядзяць на яе, як на дзіва. Тутэйшыя дзяўчаты глядзяць на Аўдоццю таксама з цікавасцю. Напэўна і сярод іх знайшлася б не адна такая, якая захацела б запісацца ў камсамол. Захацела б насіць такую ж чырвоную касынку і блішчастую папружку на сіняй касаваротцы. І вось гэтак, як Аўдоцця, смела ездзіць па вёсках і ставіць «шпіктаклі»... Але хіба дазволяць дома?.. Ого!..



Мікалаева хата, асветленая аж трыма лямпамі-сямілінейкамі, не змяшчае ўсіх ахвотнікаў паглядзець на «шпіктаклі». На пярэдніх лаўках сядзяць людзі сталыя і паважныя. Ззаду — хто маладзей. Дзятва тут жа верціцца пад нагамі ў старэйшых, усім замінае, і ўсе яе гоняць: «Не замінайце!» Хлапчукі-ўзрэзы абляпілі вокны Мікалаевай хаты з вуліцы. І хата ад гэтага, здаецца, асела і ледзь дыхае. Ад чакання, ад цікавасці, ад нецярпення: хутчэй бы пачыналі ўжо!

І вось пачынаецца!

Паволі, з шоргатам, рассоўваецца па працягнутым ад сцяны да сцяны дроце заслона.

На сцэне — сялянская хата. З сапраўднай печчу, з сапраўднымі вілкамі і качаргамі ў качарэжніку. На ўслоне каля печы хлебная дзяжа. Драўляны ложак з гарой падушак... А перад ложкам — калыска! (Узялі ў Заброцкіх.)

— Трэба ж гэтак усё прыдумаць! — шчыра захапляецца «зала».

На сцэне з'яўляюцца артысты. Іх таксама страчае дружны выбух рогату. Паўстынскі настаўнік Гладкі ў белых палатняных портках, у расхрыстанай на грудзіне кашулі, у лапцях... Не пазнаць і камсамолку Аўдоццю — сялянская жанчына ў андараку, у цёмнай кофце, у хустцы пад бараду. Хіба гэта яна, тая стрыжаная дзеўчына з папружкай цераз плячо?

— Ото ж умеюць! — цешыцца «зала».

— Ціха вы! — крычыць «зале» нехта з-за сцэны. І «зала» пакорна сціхае. «Шпіктаклі» пачынаюцца.

...Пасварыўшыся з гаспадаром, жонка кідае ўвесь хатні небыт, а сама бярэ касу і ідзе на сенажаць. Каб правучыць чалавека, каб ведаў, каму з іх лёгка жывецца. Галасіла ў калысцы на сцэне дзіця. Паднялося і паплыло з дзяжы па падлозе цеста. Кіпелі ў печы гаршкі, кудахтала, як апантаная, квактуха, саскочыўшы з рэшата з наседжанымі яйкамі... А небарака гаспадар да знямогі мітусіўся па хаце: ад дзіцяці да гаршкоў, ад дзяжы да рэшата. І ўсё паўтараў: «Яйкі стынуць, яйкі псуюцца...»

«Зала» памірала ад шчырага вясёлага смеху. Вёска глядзела нібыта ў люстэрка і нібыта бачыла свой уласны твар. І быў ён, гэты твар, і смешны, і няшчасны, і такі праўдзівы.

Разыходзіліся пасля «шпіктакляў» у добрым гуморы — з гоманам і жартамі. Гэтак усё спадабалася!

— Ото, ліха іх галаве, шпіктаклі дык шпіктаклі! — не ўцярпела, пахваліла, ідучы дадому, Іваніха, забыўшы, што тыдзень назад праз гэтыя самыя «шпіктаклі» яна пасварылася з дочкамі.

— Няхай толькі прыедзе Толя, дык мы ўжо і свае паставім! — Ніне хацелася самой вось гэтак, як паўстынскія артысты, ставіць і вазіць па вёсках «шпіктаклі».

— Мо і ў камсамол пазапісваецеся, як прыедзе ваш Толя?

— І пазапісваемся!

— Я запішуся!..

— І чаго ты гэтак на іх? — заступілася Алена.— Няхай пішуцца. У камсамоле іх кепскаму не навучаць.

— Добраму іх там навучаць — бога не паважаць...

— Ну, і малецеся свайму богу! Хто вам перашкаджае? — са смехам пераскоквае лужыну Ніна.

— Пагавары мне! — зноў прыгразіла маці, аднак не пачула ў сваёй пагрозе нядаўняй яшчэ моцы. Нешта як быццам скранулася

з месца, і ніяк нельга было паставіць усё па-ранейшаму. Нешта з'явілася новае ў яе адносінах з дочкамі. І нечага новага яшчэ, адчувала яна, трэба чакаць...

А ў Ганькі з маткай была свая размова.

— А я, мамачка, таксама буду артысткай, як Аўдоцця?

— Мо і будзеш, калі будзеш такая, як Аўдоцця.

— І камсамолкай таксама буду?

— А чаму ж не.

— І касынку чырвоную і папружку таксама буду насіць?

— Можа і будзеш...

— Буду, вось пабачыш, буду! Толькі ты не сварыся на мяне.

— Чаго ж я буду сварыцца? Будзь сабе камсамолкай. Стаў шпіктаклі. Толькі расці хутчэй...

— Вырасту, ты не бойся! Пабачыш, вырасту!

## ВЯЧОРКІ

Ухадзіўшыся з гаспадаркай, Ганька і маці ідуць на старое падворышча — так кажа маці — на вячоркі да цёткі Іваніхі.

Маці завязвае знадворку палатняным пасачкам дзверы і шчыльна прычыняе варотцы. Не ад злодзея, не ад кепскага чалавека — на што там паквапіцца ў пустой выстылай хаце? — а так, па звычцы.

Наперадзе ідзе Ганька з маленькай праснічкай — падарункам дзядзькі Мікалая. Маці, наставіўшы каўнер і глыбока засунуўшы ў рукавы худыя, заўсёды халодныя рукі, ідзе ззаду. Скрыпіць пад валёнкамі снег. Цікаўна пазіраюць на вуліцу асветленыя вокны хат. Дрыжаць ад марозу ў небе раннія зоркі. Ім, мабыць, таксама, холадна.

Ганьцы хутка надакучае павольная хада, і яна пачынае коўзацца па ўкатаным санным следзе. А калі надакучае і гэта, збочвае з наезджанай дарогі да платоў і, правальваючыся ў снезе па калені, мерае нагамі іскрысты зімовы прысак. Ён сыплецца ёй у валёнкі, ледзяным агнём апякае калені, прабірае ўсё цела.

— Хопіць, дзеткі, прастудзішся,— стомлена і без усякага выразу кажа ўслед Ганьцы маці.

Але Ганька не слухае. Яна прадаўжае сваю дарогу. І сустракае матку ўжо на цёткі Іванішыным парозе. Валёнкі ў снезе, сама ў снезе, і нават невялічкая барадка кудзелі ў праснiцы — і тая іскрыцца ад снегу. А сама Ганька, засопшыся, расчырванеўшыся, тупае нагамі, абівае снег і хукае на тоненькія чырвоныя пальцы. І такая задаволеная!

— Дурненькая ты мая,— кажа маці, а сама думае: «За што яе лаяць?..»

У цёткі Іваніхі хата старая, але прасторная і цёплая. Гэтакая ж прасторная і заўсёды цёплая ў цёткі і печ. Пасля таго, як пахавалі дзеда Грыся,— на печ можа залезці кожны, хто захоча. Ганька свае адносіны да гэтай волі выказвае бясхітрасна і адкрыта:

— Вось як добра, што дзед памёр!

І хоць маці і цётка Іваніха кожны раз сарамацяць яе за гэта, яна ўсё роўна ўпарта паўтарае сваё:

— Бо і добра. Дзед усё роўна быў кепскі...

Нідзе Ганька не адчувае сябе цяпер гэтак добра і лёгка, як у цётчынай хаце. Гэта сваё адчуванне Ганька выказвае адразу ж, як толькі пераступае парог. З валёнкамі справы кароткія: разгойдаўшы на назе, яна шпурляе іх адразу ж, з парога, проста пад стол.



Р-раз — правы! Р-раз — левы!

Гэта ўжо абурае маці.

— Божачка, што гэта за дзіця! Каб яно хоць зважала, што ў чужой хаце...

Але за Ганьку заступаюцца ў чатыры галасы:

— Каб яна ведала, што гэта чужая хата, то гэтак бы не рабіла.

Гэта натхняе Ганьку яшчэ больш: хустку і старэнькую кортавую світачку яна кідае на лаву і, нібы малое жарабя, зрабіўшы выбрык па хаце, падхоплівае сваю праснічку і караскаецца на печ.

Звычайна, як добра нагрэецца, Ганька адсоўваецца на край печы, садзіцца на сваю прасніцу і, спусціўшы, як старая жанчына, ногі, старанна смыча кудзелю — прадзе на зрэб'е. Верацяно толькі вурчыць!

З печы, апрача ўсяго, вельмі зручна назіраць за ўсім, што адбываецца на хаце.

Вось сёстры Анюта і Ніна размотваюць зблытаны маток.

— Што гэта ў вас з матком? — пытаецца Ганьчына маці. Яна сядзіць на лаве, абапёршыся на рог стала, як была — у кажусе. Ёй холадна.

— Гэта ж кацяняты, каб яны павыдыхалі! — злуецца Анюта.— Хоць вазьмі сякеру і пасячы цяпер гэты маток.

— Трымай тужэй,— загадвае малодшая, сур'ёзная Ніна. У яе хапае цярпення на гэтае разблытванне. А ў Анюты яго няма.

— Дальбог, кіну! — кажа Анюта.— Гэтак цэлы вечар дарэмна ўтрубіш. Лепей бы я прала.

— Як маленькая!..— злуецца ўжо і Ніна, але не на маток, не на кацянят, а на сястру.

Старэйшая, Саша, прадзе на матчыным калаўротку кужаль. Саша цёмнавалосая — кроў з малаком — дзяўчына сярэдняй красы і сярэдніх здольнасцей у дзявочых справах. Бацька памёр, калі ёй ішоў толькі дванаццаты год. З таго часу яна і не выпускае з рук ні лейцаў, ні бараны, ні плуга. У хаце да яе некалькі іншыя адносіны, чым да малодшых сясцёр. Апрача ўсяго — так вырашыла маці — Саша павінна застацца за прымачку.

Анюта і Ніна — абедзве русыя, сінявокія. Ніна — яшчэ не апераны цыбаты падлетак, які толькі выбіраецца на дзяўчыну, а Анюта — прыгажуня. Яна больш сочыць за парадкам у хаце і робіць гэта так, што старая Іванішына хата, здаецца, свеціцца ад яе догляду. Падлога і лавы вышараваны да бляску. Тынкаваныя сцены і печ зноў жа выбелены так, што аж коле вочы. Абразы завешаны, стол заслаўны бялюткімі ручнікамі і абрусамі. І на ложках заўсёды лепшыя коўдры, якіх не стрэнеш на ўсёй вёсцы. У іншай дзяўчыны таксама ўсё гэта ёсць (можа нават і больш), ды пашкадуе: няхай лепей ляжыць у куфры на пасаг...

Сама старая Іваніха абірае ў мыцельніку бульбу на заўтра. Як і кожны раз, як і заўсёды, яна звяртаецца да Ганьчынае маткі з адным і тым жа пытаннем:

— Ну, а як ты маешся?

— Ат,— неахвотна адказвае Алена. Яна сама не любіць гаварыць пра сваю хваробу, не любіць, калі пачынаюць гаворку пра яе і другія.— Што ў мяне пераменіцца..

— Наведалася б ты, маладзіца, да Шыловічыхі ў Кублішча. Няхай бы яна табе пашаптала. Горш жа не будзе,— раіць браціха.

Яна ўстае з месца, поўная, замашная, і дзіўна спрытна для свае паўнаты пачынае завіхацца каля вядра з вадой.

— Ат, сто разоў ужо і шапталі і гаварылі, а якая карысць...— раздражнена адмахваецца Алена.
— У Шыловічыхі ж ты не была... Дальбог, Васіля Гурына яна падняла. Ты ж памятаеш, як ён качаўся з жыватом...
— У Васіля было адно, а ў мяне другое...— гледзячы недзе ў кут, панура адказвае Алена.
— І праўда, цётка, узяла б і з'ездзіла. Не пашкодзіць жа,— трымаючы ў зубах нітку і шукаючы яе кірунак, кажа Ніна.
— «Узяла б ды з'ездзіла...»,— перагаворвае яе Алена.— На чым гэта я з'езджу? А пацягнуся пяшком, дык ужо і лекі гэтыя мне непатрэбны будуць.
— Запражэм нашу Сіўку і паедзеш.
Алена нічога не адказвае, толькі твар ніжэй схіляе да стала.
— Давай, цётка, я з табой паеду,— падахвочваецца Анюта.— На Сіўцы мы як бачыш справімся.
— Дзіва што справіцеся,— згаджаецца і Іваніха.
Алена нічога не адказвае, але і не адмаўляецца. Цяжэй, чым згадзіцца ехаць да Шыловічыхі, паверыць у тое, што ўжо ўсё скончана, што ніхто не паможа...
— Мамачка, і я з табой паеду! Я ў Кублішчах яшчэ ніколі не была! — радуецца на печы Ганька.
— У яе сваё ў галаве...— першы раз за ўвесь вечар усміхаецца Алена, і ў голасе яе прабіваецца слабы пробліск нейкай надзеі.
— Паедзь, хто ж цябе не пускае,— за матку дазваляе Ганьцы Іваніха.
— Вось як добра! Вось як добра! — падскоквае ад захаплення на прасніцы Ганька.
Алена скідае свой кажух, сцеле яго на лаве, і перш чым легчы, як гэта яна робіць заўсёды, калі ў хаце няма нікога чужога, пытаецца ў дзяўчат:
— А чаго ж гэта ў вас сёння нікога няма? І самі чаму нікуды не пайшлі?
— А куды ж пойдзеш з гэтым лямцам? — пытаннем адказвае Анюта, паказваючы на маток, напяты на яе выцягнутых руках.
Іваніха кажа да Алены:
— Можа нічога гэтага і не было б, ніякай гэтай хваробы, каб ты тады гэтак не здуравала. Бач, лепш ты сабе зрабіла, што адмовілася. Жартачкі, цягнуць на адной бабскай спіне ўсю работу — і мужчынскую і жаночую.
Пра гэта таксама гаварылася не адзін раз.
— І зараз адмовілася б! Лепей няхай будзе так, як ёсць,— неахвотна адзываецца Алена.
— Ай-яй! Некаму ты лепш зробіш, калі ўсё гэтага свайго анцыхрыста будзеш успамінаць.
— Яго таксама ўжо няма чаго ўспамінаць...
За Алену заступаюцца Саша і Анюта:
— А калі ён ёй не падабаўся...
Але маці не дае ім скончыць:
— «Не падабаўся»! А то, бач, я буду чакаць вам такіх, якія вам, такім разумным, спадабаюцца.
Малодшая, Ніна, маўчыць. Маўчыць і прыслухоўваецца да размовы старэйшых і Ганька. Яна ведае, што «анцыхрыст», пра якога кажа цётка Іваніха, гэта яе бацька. Апошні раз ён прыязджаў да іх мінулым летам. Навёз ёй цэлую скрынку каснікоў — розных-розных колераў! І ў той жа дзень паехаў назад...



Увесь той цудоўны дзень Ганька бегала па вёсцы і ўсім хвалілася бацькавымі падарункамі. А маці глядзела на іх і плакала. Казала, няхай бы ён лепей прывёз дзіцяці крамы на сукенку, а то абарваласе і няма з чаго пашыць.
Таго другога, пра якога ішла гаворка, Ганька не ведала. Яна толькі чула, як маці казала куме Корбуцісе, што ісці замуж за ўсякага прайдзісвета не збіраецца. Значыць, гэта быў нейкі чужы «жаніх». Яго Ганька ненавідзела, не бачачы. Вось, каб свой бацька вярнуўся...
— Хадзем, дачушка, дадому,— не ўстаючы, паклікала Алена.
— Зараз, мамачка, пойдзем.
А Анюта прадзе ўжо кужаль і спявае. Яе моцны прыгожы голас вядзе за сабой слабейшыя галасы Сашы і Ніны. Сярод іх, нібы кацянё пад нагамі, блытаецца тоненькі няроўны Ганьчын галасок. Яны спяваюць спачатку «Цыганку варожку», потым «Пускай могила меня накажет», потым любімую Аленіну «Пасею гурочкі»...

...Нізка над вадою-у...
Сама буду паліваці
Дробнаю слязо-о-ю...

Алена ляжыць усё гэтак жа, як і ляжала, на лаве, накрыўшыся палой кажуха і прыкрыўшы вочы далонню. Яе ніхто не чапае. Не чапае і Ганька. Яна разумее, што маму не трэба трывожыць, што ў яе ўсё баліць, што ёй, як і Ганьцы, не хочацца думаць пра сваю нахаладалую хату, пра земляны ток, пра няўтульную халодную, як гэты ток, пасцель.
І яна спявае разам са сваімі сёстрамі...

Расціце, гурочкі-і,
Шыракі лісточкі-і...
Не бачыла я мілога
Чатыры гадо-о-очкі...

## ПРЫЯЗДЖАЎ КОЛАС

Самыя ўцешныя моманты ў Ганьчыным жыцці бываюць тады, калі ў мацеры нічога не баліць і калі яна можа цэлы вечар расказваць і расказваць Ганьцы — пра што б яна ні пыталася. Вечары такія здараюцца, звычайна, зімою. Калі маці і Ганька ўходзяцца з гаспадаркай, калі ўзлезуць на печ і пачнуць драць пер'е.
Тады і пачынае Ганька:
— Мама, раскажы...
— Я ж табе, дачушка, ужо ўсё на свеце параказвала.
— Не, не ўсё!
— Няўжо ж не ўсё?
— Не!.. А ты прыпомні і спытай у мяне: «А гэта я табе не расказвала?..»
Сапраўды, кожнае сваё апавяданне маці пачынае менавіта з гэтага пытання: «А гэта я табе не расказвала?..»
Так кожны раз.
— Раскажы! — не адступаецца ад свайго Ганька.
— Пачакай... Пра што ж сапраўды мы з табой яшчэ не гаварылі? — задумваецца маці.
Тады спрытныя пальцы яе таксама нібыта задумваюцца і на нейкі час спыняюць сваю работу: шморг-шморг цупкае курынае пяро спачатку з аднаго боку, а потым з другога... Мяккі пух ідзе ў рэшата. Цырбукі — на чарэн. Нядранае пер'е мулкай «гурай» ляжыць

у вялізнай наўлечцы. Паспрабуй перадзяры гэтую «гуру» — уся зіма на яе пойдзе.

— Тады раскажы казку! — не церпіцца Ганьцы.

— Ай, дачушка, няхай яны спрахнуць, гэтыя казкі,— маці не любіць расказваць казкі — адно толькі пачне, як тут жа яе агорне сон. Ганька ведае гэта і таму не вельмі дамагаецца казак.

— Тады раскажы верш! — не адстае яна.

— Які ж табе верш?..— вершы маці любіць, і вершы расказвае яна ахвотна. Праўда, забываюцца і вершы — калі тое было, як яна іх вучыла...

І маці пачынае расказваць Ганьцы вершы. Расказвае «Палтаву». Голас у мацеры робіцца ціхі, плаўны, нібыта яна не расказвае, а спявае. І позірк вачэй у яе таксама мяняецца — ён робіцца нейкі дзіўна задумлівы, летуценны і бліскучы. Ганька вельмі любіць сваю маці ў такія часіны. Тады яна нават не заўважае, якая худая яе маці і як многа сівых валасоў у яе. Тады ёй здаецца, што яе маці самая маладая і самая прыгожая на свеце!

Богат и славен Кочубей,
Его луга необозримы...
Там табуны его коней
Пасутся вольны, не хранимы...

— Пачакай! — адразу ж перабівае маці Ганька.— Я сама...— Яна таксама ведае «Палтаву» на памяць. І яна пачынае «сама»:

Но Кочубей богат и горд
Не долгогривыми конями,
Не златом — данью крымских орд,
Не родовыми хуторами...

Сама Ганька не ўсё разумее ў гэтых вершах, не ўсе словы ведае. Яе, напрыклад, заўсёды здзіўляе слова «злата». Маці тлумачыць ёй, што гэта тое ж самае золата, як і ў яе на абручальным пярсцёнку, што ляжыць у прыскрынку ў куфры. Ганьцы ўсё роўна яно ўяўляецца іначшым. Разам з гэтым «златам» ёй уяўляюцца бліщчастыя шаблі, кінжалы, нажы... Або — «орд». Гэта таксама нешта такое, што трашчыць, грукае, страляе! Але што яно такое? Матчына тлумачэнне Ганьку не задавальняе.

Ганьку захапляе музыка вершаў. Яна хвалюе яе, як і маці, кожны раз інакш. І кожны раз уяўленне яе малюе ўсё новыя і новыя карціны. Ганьцы падабаюцца сады і багацці Качубея. Падабаецца Качубеева дачка Марыя. І Ганька ўяўляе сябе, калі яна вырасце вялікая, вось гэткай жа прыгажуняй, як Марыя. Уяўляе сябе ў палтаўскіх садах, уяўляе, як і яна будзе ўцякаць з дому ноччу вярхом на кані...

Лишь рыбак той ночью слышал топот,
Казачью речь да женский шёпот...

А потым у роспытах і разважаннях — непрыкметна для саміх сябе — Ганька і маці спускаюцца на сваю родную зямлю, да сваіх дзяўчат, ніякіх не багацеек, а хутчэй бяднячак. Такіх звычайных і зразумелых, як цёткі Іванішыны дочкі — Ганьчыны сёстры Саша, Анюта і Ніна... Ім няма калі гуляць. Гадуючыся без бацькі, яны самі і аруць, і касяць, і жнуць, і нават малоцяць цэпам.

— Раскажы «Долю батрачкі»,— зноў просіць маці Ганька.

— Дык ты ж сама яе добра ведаеш...

— Ўсё роўна лепей раскажы ты...

Ганька просіць не ад ляноты. Проста з чужых вуснаў вершы хвалююць яе больш.



І маці зноў расказвае. Як выпраўляла ў службу да чужых людзей родную дачушку маці. Яна навучала яе дагаджаць людзям і быць паслушнай. Як сама выцірала горкую слязіну растання...

Не ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльецца крыніца
З шчочак загарэлых.
Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою.
Твая доля цямней ночкі,
Цяжка быць слугою...

Маці ніколі не магла без слёз дагаварыць гэты верш. А Ганька не магла без слёз яго даслухаць... І абедзве яны, як і тая няшчасная маці, не саромеючыся адна адну, рукавом выціралі слёзы шчырага спачування, што да краёў перапаўняла іх сэрцы.

А потым маці расказвала Ганьцы пра паэта, які склаў гэтыя вершы. Расказвала, што ён нават прыязджаў у іх вёску. Што маці сама нават бачыла і чула, як ён чытаў свае вершы ўсім вясковым жанкам у садзе дзядзькі Мікалая...

Гэты матчын расказ Ганьцы здаецца ўжо зусім неверагодны. Хіба можна ўбачыць таго жывога чалавека, які складае вершы? Вось Пушкін, напрыклад, мог пісаць вершы, бо ён даўно памёр. А як чалавек жывы?..

Далей гэтага Ганьчыны разважанні не ішлі. І яна зноў паўтарала сваё:

— Раскажы...

І маці расказвала далей... Як у тое лета, якраз як нарадзілася Ганька, прыязджаў у іх вёску Якуб Колас. Людзям ён адразу здаўся нейкім вельмі непрыкметным і звычайным — сялянскім. Маці запамятала ўсяго толькі яго руды караткаваты фрэнч...

І з людзьмі Якуб Колас трымаўся вельмі проста і звычайна. Першы вітаўся. Ахвотна гаманіў са старымі... А назаўтра, у нядзелю, як прыгналі кароў наранкі, чытаў у Мікалаевым садзе, у цяньку пад касцянкай каля свірна свае вершы... Чытаў пра раніцу ў нядзельку, пра жніво, пра падгляд пчол... Чытаў пра ўсё такое знаёмае — і сумнае і вясёлае, што жанкі толькі божкалі і дзівіліся: «От бо чалавек! Трэба ж гэтак складна пра ўсё напісаць!..» І калі паехаў, доўга ўсё ўспаміналі: «От Каласок, дык Каласок!..»

Ганька слухала гэта матчына апавяданне і не магла вушам даць веры. Як гэта Якуб Колас, які наскладаў столькі вершаў, мог сядзець поруч з яе маці, поруч з цёткай Іваніхай, ці з цёткай Фядорай. І ўжо ніяк не магла ўявіць яна сабе, каб такі чалавек мог сядзець на траве, ды яшчэ пад касцянкай... З гэтай касцянкі нельга было праглынуць ігрушы — такія кіслыя і даўкія яны былі, пакуль не паляжаць ды не пагніюць....

А жывы Колас сядзеў пад гэтай касцянкай і чытаў свае вершы...

У гэта было нават цяжка паверыць. Як цяжка было наогул уявіць сабе паэта жывым звычайным чалавекам.

## БЛАКІТНЫ КАРАБОК

Член сельсавета Васілёў Іван яшчэ з раніцы абходзіць усе хаты, загадвае на сход.

Заходзіць ён і да Ганьчынае маці.

— Цётка Алена, прыходзьце сёння вечарам на сход. У Мікалаеву хату,— кажа Іван, спыняючыся ў парозе.

— На які сход, Іванка? — пытаецца Ганьчына маці, кідаючы мяшаць ў цэбры паранку карове.

— А чорт іх ведае, на які... З сельсавета загадалі. З Урэчча, кажуць, прыедуць: будуць сход праводзіць — Вігдорчык, Шлёма Хрумін. У калякцію будуць агітаваць.

— Гэта каб усю худобу разам зганяць ды каб пашню ўсю ссыпаць у адзін засек — з усяго засценка? — пытаецца Алена.

Яна ўжо чула пра «калякцівы». Аднак пэўных адносін да гэтых «калякціваў» у яе яшчэ няма. Чорт іх ведае, кажуць, што будзе добра, што ўсё будзе агульнае. І коні, і каровы, і засекі... Клопат бы з тымі засекамі... Як у яе, дык іх ніколі не было, ніколі і не будзе. Чаго там іх шкадаваць. Добра было б, каб і коні былі агульныя. Бо якое яно жыццё, узяць бы хоць і яе самую, без каня... А вось калі і кароў аддаваць — дык як ты яе аддасі, з цяляці дачакаўшыся гэтакай кароўкі. Як ты аддасі яе нейкаму чорту лысаму, у нейчы агульны хлеў, каб нехта там яе даіў, каб малако тваё там мераў на літры ды боўтаў яго па чужых дайніцах...

— Ну, але... У Паўстыні ж пазапісваліся, кажуць, ужо некаторыя. Дык давайце ўсюды запісвацца; — хоць і член сельсавета, хоць і ўлада, як ні кажы, Іван на гэты сход запрашае без асаблівай ахвоты. Самому яму гэтыя «калякцівы» на чорта. Ён і без іх пражыў бы: ёсць зямля, ёсць свае коні, каровы... Яму не патрэбна нічыя дапамога, і ў самога яго няма ахвоты некаму ісці ў памочнікі.

— Ото бо няма жыцця людзям... Няма спакою...— падтаквае Івану Алена. Яна не хоча прызнацца, што і сама запісалася б, каб была ўпэўнена, што будзе палёгка ў тым «калякціве» ёй, бабе, жывучы адной. І яна хоча выведаць у Івана больш, чым яна чула ад людзей і чым ведае.— І хто ж гэта такія ўпраўныя ў тым Паўстыні? — пытаецца яна, падсоўваючы Івану ўслончык сесці.— Пасядзі бо, Іванка...

— Няма калі сядзець. Хто ўпраўныя? Ды тыя, што, як бізуны, голыя: Аўдоцця — як жа без яе абыдзецца? Жукі ды яшчэ Карпіевічы. Тыя, што з пастухоў ніколі не вылазяць па чужых засценках. Што ні кала, ні двара — хлеба зроду не елі ўдоваль.

Алена прыкусвае губу. Яна і сама не багацей за гэтых паўстынскіх пастухоў.

— Дык прыходзьце, цётка,— паўтарае Іван.— Вельмі не пазнецеся. Як сцямнее, дык адразу і прыходзьце. Трэба ж увесь засценак абысці, наказаць.

— Трэба ж прыйсці. Паслухаць, што людзі будуць казаць,— абяцае Алена, і як толькі зачыняюцца за Іванам дзверы, гаворыць да Ганькі:

— Кінь, дзеткі, гэтых сваіх лялек ды злазь з печы. Памажы мне занесці Падласцы паранку. Можа хутка ўжо адбяруць, дык не трэба будзе і насіць...

— Ага, адбяруць... Я ім як дам! — абуваючыся ў валёнкі, грозіць Ганька.

— Чаго ты ім дасі! Кажуць, будуць хадзіць па хлявах, будуць лічыць кароў і забіраць. І коней і свіней.

— І коней?! Вось добра! Вось тады мы з табой запражэм Бурбалкавага стаенніка ў вазок і — як пакоцім!

І Ганька ўжо ўявіла сабе, як гэта будзе. Стаеннік Буланы (Пецькі Бурбалкавага бацькі) запрэжаны ў малінавы вазок дзядзькі Мікалая. Стаеннік вялізны, а вазок маленькі і лёгенькі, як лялька (усе хлопцы,



як едзе хто сватацца ў чужую вёску, заўсёды пазычаюць у Мікалая гэты вазок). Стаеннік як падхопіць вазок! А яны, Ганька з маткай, будуць сядзець на засцеленым коўдрай заднім сядзенні і будуць толькі кіраваць чорнымі раменнымі лейцамі. Выедуць за вёску, на выган, паўз беразак (бярозы ўсе ў інеі так і ззяюць, так і пераліваюцца, як срэбраныя!), паўз могілкі, па граніцы (граніца — дарога, якая аддзяляе поле Зялёнай Дубровы ад таліцкага поля). І проста ў таліцкую вуліцу! А ў Таліцах усе будуць стаяць на вуліцы і будуць дзівіцца: ды гэта ж Алена з дачкою Ганькаю гэтак едуць!..

— Ну, чаго ты гэтак доўга, дачушка? — кажа маці.

— ...А па якой мы дарозе назад паедзем?..— пытаецца Ганька.

— Куды паедзем? — не разумее маці.

— Ну, з Таліц...— у думках Ганька ўсё яшчэ коціць у вазку, на Пецькавым стаенніку, па таліцкай вуліцы. Звіняць палазы, ва ўсе бакі разлятаюцца камы снегу ад конскіх капытоў, сабакі з брэхам хаваюцца ў падваротні. Снежна. Хораша! Весела!

— Пра што ты пляцеш? — злуе маці. Яна ўжо каторую пару трымаецца за вілачнік несці цэбар.

— Ні пра што...— прачынаецца ад сваіх мар Ганька, беручыся таксама за вілачнік.

У хляве абедзве яны, адна з аднаго, а другая з другога боку, гладзяць і лашчаць Падласку — нібыта і сапраўды нехта яе ўжо забірае ў іх.

— Еш, кароўка, еш...— гладзіць нявылінялы, калматы Падласчын бок маці.

— Не бойся, я цябе ні ў які калякцію не аддам! — пяшчотна кратае кароткія тупыя рогі Ганька, забываючы, як некалькі хвілін назад сама гэтак ахвотна каціла на «калякцыйным» стаенніку...

— Што ты з імі, дачушка, зробіш! Будуць забіраць у людзей, забяруць і ў нас. Хто яго там ведае, як яно будзе ў тых калякцівах. Нам з табой мо горш і не было б.

— Толькі Падласку не будзем аддаваць!..— стаіць на сваім Ганька.— Аддамо лепш авечак і рабую свінню. Летам хоць не трэба будзе пасвіць.

Маці маўчыць. Хто яго ведае, як яно што будзе... А вечарам яны абедзве ідуць у Мікалаеву «залу» на сход. Алена выбірае час так, каб не быць вельмі першай (каб не вытыкацца наперад людзей). Аднак каб і апошняй не быць.

У «зале» стаіць стол. Фядора, хоць і клялася, што не дасць стала «гэтым дурным калякцівам», а ўсё ж не дзе дзелася, выставіла стол са «сталовай».

За сталом прыезджыя начальнікі: Ганьчына маці і ўсе ў вёсцы завуць іх «паўнаважныя». Дырэктар урэцкай сямігодкі Дрозд, загадчык смалакурні Вігдорчык і Хрумін Шлёма, сын паўстынскае крамніцы Хрумы.

— Пачнем таварышы,— глядзіць на вялікі, як кола, ручны гадзіннік Дрозд. У адрозненне ад свайго прозвішча, ён нейкі вельмі белы: валасы, вейкі, белымі здаюцца нават яго вочы.— Пачнем, таварышы...— траха не ўдвая перагінаючыся над сталом, паўтарае Дрозд.— Усе ўжо сабраліся?

— Усе-э-э...— не вельмі каб ахвотна адгукваецца сход.

— Ну, дык і выдатна... Мы, таварышы, прыехалі сёння да вас, каб пазнаёміць вас з тымі вялікімі падзеямі, якія адбываюцца ў нашай савецкай дзяржаве і ад якіх мы, свядомыя грамадзяне савецкай дзяржавы, не маем права стаяць у баку.

Дрозд гаворыць доўга і не вельмі зразумела нават дарослым: пра савецкую ўладу, пра сусветны капіталізм, пра калектывізацыю. Людзі слухаюць глухаваты, без усякіх адценняў голас «паўнаважнага» моўчкі, не перабіваюць. Ганька, як дарослая, сядзіць на лаўцы поруч з маткай. Яна таксама слухае Дразда ўважліва, хоць нічога і не разумее з таго, пра што ён кажа. Ганька не адводзіць вачэй ад вялікага блакітнага карабка з папяросамі, які ўвесь час круціць і не выпускае з рук Хрумін Шлёма.

«Вось каб мне такі прыгожы карабок...— з зайздрасцю думае Ганька.— Я б паскладала туды ўсе свае самыя лепшыя стужкі. І быў бы лялькчын куфар. Але ж у ім, напэўна, мільён папярос, і Шлёма іх няскора скурыць...»

Аднак са шлёмавага карабка бярэ і закурвае папяросу Вігдорчык, потым Дрозд, потым карабок падаюць Івану Васілёваму — члену сельсавета, Мішу Няронскаму: яны таксама сядзяць за сталом.

«Можа і пакураць...» — з надзеяй глядзіць на карабок Ганька.

Пасля Дразда выступае Вігдорчык. Ён, як і Дрозд, высокі таксама. Толькі ён тоўсты і чорны, як вугаль.

— Таварышы! Калгасы — адзіны шлях для селяніна. Без калгасаў нас задушаць міравыя капіталісты. А мы не павінны здацца! Мы павінны самі задушыць міравы капіталізм!

Ганька добра ведае капіталістаў. Буквар свой яна ведае ўжо на памяць ад вокладкі да вокладкі. Дык вось у гэтым буквары ўсе капіталісты намаляваны ў капелюшах і з тоўстымі, як падушкі, пузамі. Дзіва, што яны як наваляцца на нас гэтымі тоўстымі пузамі, задушаць... Але хіба мы будзем такія дурныя, будзем чакаць, каб яны нас задушылі... Мы самі на іх як навалімся!

— Каб мы ўсе з гэткімі жыватамі, як у дакладчыка, былі, то дзіва што пазадушвалі б гэтых міравых капіталістаў,— чуецца недзе з кутка голас Алеся-смехуна. (Удасца ж такі чалавек — на ўсё ў яго ў запасе ёсць жарт, ёсць смешка.) Алесь ніколі не вылазіць наперад. Ён заўсёды сядзіць дзе-небудзь у куце. Сход весела падтрымлівае Алеся:

— Мо каб і не ўсе, мо каб хаця і паўзасценка гэтакіх набралася, дык здаўся б, чорт бы яго не ўзяў, таго капіталізма...

Гэта ўжо Іваніха. Яна прыйшла на сход адна — дачок не пусціла: «Малоць абы-што і слухаць пустое будзе каму і без вас... Прадзеце лепей».

Дрозд нездаволена стукае алоўкам па стале. Сход падхоплены зусім не тою, якую хоча ён задаць, а сваёю, зусім не жаданаю плынню.

Выступае таварыш Песін, Хрумін Шлёма. А потым слова зноў бярэ дырэктар школы Дрозд.

— Таварышы! Нам вельмі шкада, што вёска Зялёная Дуброва пляцецца ў раёне па калектывізацыі ў хвасце. Але мы спадзяемся, што ўсе вы сур'ёзна падумаеце, і наступны раз мы пачнем запіс у калгас...

— Усе, як адзін! — смяшком адгукваецца з кутка Алесь-смяхун. Дрозд робіць выгляд, што не чуе.

— Падумайце, таварышы! І сур'ёзна падумайце. Не здавайцеся на варожыя ўгаворы кулакоў і падкулачнікаў...

— Дзе яны ў нас, тыя кулакі? — ажно падскочыла Фядора,— у нас мо толькі дурні ёсць, што ўсё жыццё лапці не зносяць...

— Пашукаем і кулакоў! — паабяцаў Дрозд.

Ганьчына маці, калі ўжо ўсе разыходзіліся, падышла да стала. Яна не была задаволена сходам. Галёкалі, галёкалі, а толку ніякага і не дабіліся...

— Таварыш паўнаважны,— звярнулася яна да Дразда,— дазвольце ў вас спытаць: а што, калякціў будзе забіраць, калі і па адной карове ў людзей?

— Будзе! — жалезна адказаў Дрозд.— Будзе забіраць, грамадзянка! Мы павінны ліквідаваць уласную маёмасць дарэшты. Інакш мы не правядзем калектывізацыю ў нашай краіне.

— Мо і свіней і авец паабагульваеце? — з ваяўнічым выглядам падступілася Іваніха.

— І авец. І свіней. І хатнюю птушку,— з націскам адрэзаў Дрозд.— З уласніцкімі інстынктамі, таварышы, мы павінны скончыць раз і назаўсёды!

— Дык мо і баб каб абагуліў... Мо б яно таксама лепш было? — недзе ўжо за дзвярыма давіўся смехам Алесь-смяхун.

Астатнія мужчыны, пасміхаючыся ў вус, памоўчвалі.

— На сёння ўсё! — вылез з-за стала Дрозд. За ім падаліся Вігдорчык, Шлёма, Іван Васілёў, Міша Няронскі.

На стале застаўся толькі блакітны карабок. Ганька пацягнула маці за руку: пачакай! Але маці не зразумела яе.

— Хадзем, дзеткі, хутчэй дадому. Другія пеўні ўжо хутка будуць спяваць.

І раптам здарыўся цуд.

— Вось яна, будучая калгасніца! — тоўсты чорны Вігдорчык падхапіў Ганьку на рукі, падкінуў яе траха не да столі. Ён паляпаў сябе па кішэнях. Мусіць, каб знайсці які гасцінец. Але ў кішэнях у яго ляжалі толькі карабкі запалак.— Пуста,— пашкадаваў Вігдорчык,— пуста... На вось, хоць гэта...— І падаў Ганьцы са стала блакітны карабок.— Будзеш калгасніцай?

Ганька ў захапленні заківала галавой:

— Буду!

І на вуліцы, калі яны засталіся адны, яна ўсю дарогу дапытвалася ў маткі:

— А ты цяпер запішашся ў калгас?

— Дзіва што, запішуся... Дурное ты маё...

— А вот і не дурное! Бачыла?..— круціла яна блакітным карабком у маці перад тварам.— Бачыла гэта?.. Гэта мой калякціў!

— Дурное...

— Каляк-ціў! — на ўсю вуліцу крычала Ганька.

Каму-каму, а ёй было весела: гэтакая багатая і шчаслівая была яна ў той вечар!

## «КАЛЯКЦІЎ»

Ганьчына маці пайшла да брата Мікалая і там пасварылася з Іваніхай і Фядорай — абедзвюма брацiхамі — за тое, што падала заяву ў калгас.

— Не хацела есці масла, дык будзеш піць сыроватку!..— злавалася Іваніха.

— Ён цябе пракорміць, твой калгас! Думаеш, у калгасе дык будзеш вылежвацца за нечаю спіною? Нехта за цябе нешта будзе рабіць...— секла Фядора.

Цэлы тыдзень яна рэзалася дома і з гаспадаром — з Мікалаем, ела, як іржа жалеза, калі толькі заікнуўся той, што ім таксама трэ-

ба глядзець на людзей, таксама нядобра адным з усяго засценка не пісацца ў калгас.

— Пішыся! Гультаёў будзеш усіх затое абрабляць. Хопіць, што ў цябе сястрыца вельмі актывістка. Вельмі савецкай хоча паказацца... Калгас такім толькі і трэба, што на чужое дабро квапяцца...

Негаваркі Мікалай не мог уставіць слова.

— Не ваша справа. Буду, як усе людзі,— адрэзала Алена адной і другой брацісе і, не развітаўшыся, пайшла з братавае хаты.

А праз тыдзень павялі яны з Ганькай сваю Падласку ў Мікалаеў хлеў-абору, куды зганялі ўсіх абагуленых кароў. Услед за Аленай з праклёнамі і галасам на ўсю вуліцу праводзіла сына Алеся Ларыёніха: ён сам вёў карову ў калгасны хлеў.

— Анцыхрысты! Прыйдзе на вас страшны суд! Апошні кубак малака адабраць у людзей з рук! Каб вы не спажылі яго! Каб вы ім ухлынуліся разам з вашым калякцівам, гаспод даў!

Алесь маўчаў, толькі карову падганяў канцом вяроўкі.

Ганьчыны сёстры везлі ў санях, запрэжаных Сіўкай, запасны хамут і дугу. Таксама на калгасную канюшню.

— Пасаг Сіўчын везяце, дзяўкі? — стрэўся дзяўчатам Алесь-смяхун. Ён гнаў авечак у хлеў да Ванькі Корбута.— Супакойце маці, каб не галасіла. Скажэце, хутка назад будзем калякцыў разбіраць! — зарагатаў ён, спудзіўшы сваіх трох авечак.

А вечарам кароў ужо даілі даяркі, выбраныя на сходзе. Саша Іванішына, Адэля — Грышкава маці і Фядора. («Пішыся! Няхай ім чорт на скуры піша!» — з такім пажаданнем дазволіла Фядора, нарэшце, Мікалаю напісаць тую заяву ў калгас.) Малака было мала, дык хапіла і трох даярак на ўсіх кароў. Жанкі, хто не быў прызначаны даяркай, усе, як адна, стаялі ў варотах, раўніва сочачы, каб даярка каторая не пакрыўдзіла, бронь божа, іх кароў. Стаялі, глядзелі, быццам ніколі не бачылі, як дояць...

Малыя з гладышамі на вочапках чакалі гатовага малака. Тодараў Ігналь, загадчык фермы, таксама чакаў даярак — ужо з малакамерам. Падаілі, змерылі, раздалі па літру на едака калгаснікам — і ў калгасным цынкавым баку амаль нічога не засталося...

— Разбагацеў калгас! — працадзіўшы малако, бразнула дайніцай Фядора.— Наеўся і напіўся! Патрэбны былі мне людскія каровы. Не было ў мяне іншага клопату.

— Няўжо ж! Нібыта я сама не падаіла б сваю карову! — зарагатала Вера Арастовіч.— Але цяпер добра. Ты, Саша, дой маю, а я буду на печы ляжаць.

— Не разлічвай вельмі,— спыніў яе Ігналь.— Заўтра пойдзеш у сячкарню. Сечку каровам трэба даваць ці не?

— І не падумаю! На чорта яна мне, тая сячкарня. Я не прасіла, каб за мяне даілі. Я і сама здольна падаіць. А то яны мяне ў сячкарню будуць папіхаць!..

— Не адну цябе, а ўсіх, хто гуляе.

— На тое і калгас, каб адзін рабіў, а другі гуляў...— Алесь-смяхун быў тут таксама.

— Праўда, Алеська, твая. Праўда! — загукала Ларыёніха. І яна прыйшла з гладышом па малако.

— Не будзе так, як вы думаеце,— Ігналь выйшаў з хлява апошні, замкнуў вароты на замок, ключ перадаў Алесю.— Назначаю цябе сёння вартаўніком па кароўніку!

— Гэта чаму ж? Хіба я лысы? — не чакаў такога загаду Алесь.

Ігналь павярнуўся да гурту жанок і дзяцей:



— Скончылі першы калгасны дзень. А цяпер — па хатах!

Малыя з гоманам і смехам панеслі кожны свой гладыш.

Чырвоная з вуліцы, Ганька віхрам уляцела ў сваю хату.

— Во, мамка! Амаль цэлы гладышык... А заўтра раніцай зноў пайду. Зноў дадуць!

— Як гэта дадуць зноў? Хіба не адзін раз на дзень будуць даваць?

— Не,— сумелася Ганька,—Ігналь казаў — два. А ты чаго гэта — зноў табе нядобра? — цяпер толькі заўважыла яна сумны, заплаканы матчын твар.— Зноў баліць? — умомант пасмутнела яна і сама.

— Ды не... Не баліць. Другое баліць... Як падумаю, што, можа, даяркі забылі пакласці Падласцы нанач сена,— сэрца шчыміць. Каму там у галаве: кожная даярка будзе наравіць сваёй кароўцы падсунуць лепшую латку. У Сашы — у той яшчэ вецер у галаве, дык забудзе. Адэля сваіх ды свёкравых кароў хутчэй прыгледзіць. А пра Фядору і казаць няма чаго. На злосць не дасць Падласцы. І на чорта мне было з ёю сварыцца...

Потым маці пачала скардзіцца, што ёй цэлы дзень рук не было за што заняць. То ж цэлы дзень толькі і тупаеш, толькі і ведаеш: то карове трэба трусянкі прынесці, то авечкам, то свінням. А гэта хлеў — як пустыня. Адны куры ад марозу хаваюцца. Дык і курэй жа абяцалі паабагульваць.

Так маркоцілася і плакала сама з сабою Ганьчына маці нешта мо з тыдзень. Памірылася ўжо і з брацiхамі. Хадзіла да іх і ўжо не сварылася, не хваліла калгас, а толькі маўчала, калі тыя пачыналі, гэтаксама марнеючы без звычнага клопату пра худобу, лаяць калгасы, лаяць тых, хто іх выдумаў і хто першы заявы панапісваў...

А ў суботу пасля паўдня раптам прыбегла з вуліцы Ганька са сваім таварыствам. Чырвоныя, пазасопваліся...

— Мамачка!

— Цётка!

— Хутчэй бярэце вяроўку!

— Якую вяроўку? Навошта?

— Назад забіраць Падласку!

— Як назад?.. А божачка ж мой!..— Алена адчула раптам, як у яе аслаблі ногі, як нейкая незразумелая хваля радаснай разгубленасці заліла ёй сэрца, як рукі яе міжволі, самі сабою, замітусіліся, пачалі завязваць хустку.

— А дзеткі ж мае! А хто ж вам сказаў?

— Усе бяруць! І Адам, і Корбутавы, і нават Тодараў Ігналь — загадчык фермы — забраў сваіх кароў...

— А божа ж мой, хаця ж бы я не спазнілася. Хаця ж бы не перадумалі там... Ганечка! Дзеткі! Бяжэце, ганеце хутчэй Падласачку дадому, а я за вамі следам буду бегчы. Трэба ж яшчэ ў Корбута авечак пазабіраць. І свіней...

Вечарам уся Ганьчына гаспадарка зноў ужо рыкала, бэкала і рохкала дома, у сваім хляве.

## БАЦЬКА

К вясне Ганьчынай маці пагоршала зноў. Не памагалі ўжо ні дактары, ні шэпты. А тут, з першым цяплом, навалілася яшчэ і ўся работа на полі: і араць, і баранаваць, і сеяць... У людзей усё так і кіпела, а яе загончыкі як стаялі пасля зімы нечапаныя, так і стаялі.

Абсеўкамі сярод людскога поля. І прасіць дапамогі не было ў каго. І не было як прасіць. Хто гэта пакіне свой загон, пакіне сваю работу, адарве коней і пойдзе некаму памагаць?

І цяпер Алена ўжо не радавалася, як тады зімою, калі разбіралі калгас. Калі і сама яна, дурніца, гэтак хапалася тады расцягваць яго назад, па сваіх хлявах ды па свірнах... Ці ёй бы з дзіцем, удваіх, не хапала б на дзень таго гладыша малака? Дык не. Трэба было конча, каб свая карова стаяла ў сваім хляве... А цяпер вось няма сілы падаіць нават тую карову, не тое каб некалі яшчэ на ўсю зіму накасіць на яе сена. Або цяпер з сяўбой — адной, без каня, без здароўя — што хочаш рабі, як хочаш папраўся. Калі тое будзе, што можна будзе падысці да Мікалая ці да Тодаравых хлопцаў папрасіць — як самі ўжо адаруцца і адсеюцца — і яе загончыкі ўзараць. Забаранаваць ды засеяць дзяўкі Іванішыны як-небудзь памогуць...

Пакутлівыя думкі прыгняталі, не давалі спакою, нямілым рабілі ўвесь свет. Алена выходзіла на двор і доўга сядзела на прызбе, у кажусе, у валёнках, засунуўшы рукі ў рукавы. Глядзела на свой панылы, прыплясканы зімою агарод і параўноўвала з ім уласнае жыццё... І яно ў яе цяпер было падобна на гэты тлен некалі жывых і цёплых раслін і сцяблінак...

А Ганька з раніцы да вечара не стыкалася дома. У яе быў свой клопат, свае справы. Дзядзька Мікалай спусціў сок з бярозы, і ёй з маткаю трэба было па некалькі разоў на дні бегаць зліваць сок... А як пабяжыш — адтуль ужо хутка не вырвешся. І ніхто вельмі дадому не рвецца, пакуль ужо хіба з дому не паклічуць — палуднаваць ці што-небудзь памагаць на двары ці на агародзе.

І толькі калі прыбяжыць дадому пад'есці і ўбачыць маці, успомніць Ганька, якая маці хворая. І тады ўжо, як толькі яна ўмее, стараецца дагадзіць мацеры. І ў хаце замяце, і курам пасыпле, і свінні дасць.

— Можа ты лепей паляжала б?..— пытаецца Ганька ў мацеры.

— Наляжуся яшчэ... Трэба нешта думаць пра поле, пра грады. Людзі ўжо хутка паадсяваюцца. У людзей ужо грады пароблены. А ў нас...

— А што ты хочаш рабіць?

— Я ўжо нічога не зраблю... Трэба Яўгенісе наказаць, можа б яна прыехала...

Яўгеніха — матчына цётка, жыве недзе пад Слуцкам, жыве адна. Вось маці і спадзяецца, што можа яна прыедзе і паможа ім.

— Дык накажы! — Ганьцы таксама хочацца, каб прыехала Яўгеніха.

І сапраўды, неўзабаве прыязджае цётка Яўгеніха. Сівая, поўная, з добрым ласкавым тварам. Ганьцы яна адразу спадабалася. Цётка Яўгеніха прывезла ёй гасцінцаў і за справы ў хаце і на агародзе ўзялася так, нібыта яна іх тут век рабіла.

А маці раптам паехала лячыцца да дактароў аж у Мінск. Сама яна, вядома, ніколі ў жыцці на гэту паездку не адважылася б, каб не прыехаў у госці Грыша — старэйшы сын дзеда Селівестра. Грыша жыў у Мінску і быў там вялікім доктарам. Некалі Алена з Грышам, як былі яшчэ маладыя, разам на вечарынкі хадзілі, разам гулялі — вядома, як у вёсцы. А потым Грыша неяк паехаў з дому, вучыўся ўсё недзе, многа гадоў вучыўся і цяпер быў у Зялёнай Дуброве самым вучоным чалавекам. Цяпер ён прыязджаў з Мінска ў госці да бацькоў таксама з вельмі вучонаю гарадскою жонкаю і з дзецьмі — гарадскімі хлапчукамі... Грыша доўга слухаў Алену, пераглядзеў



усе яе рэцэпты на ўсе мікстуры, што выпісваў ёй тутэйшы фельчар Пігулеўскі, і, ад'язджаючы ў Мінск, забраў Алену з сабою.

Перад дарогай Алена павесялела, неяк падбадзёрылася. Падбадзёрылі яе і жанкі. Жарты, лячыцца ў гэтакім вялікім горадзе!

— Дасць бог, нябога, там у добрых дактароў як бачыш станеш на ногі! — збіраючы Алену ў дарогу, абнадзейвала яе старая Яўгеніха.

— Дзіва што там, у гэтакім горадзе, дадуць рады! — падтрымлівала Яўгеніху і цётка Іваніха.

— Ганьку даглядайце...— са слязьмі на вачах прасіла Алена і гэтак жа са слязьмі гладзіла па галаве дачку.— Глядзі ж, дзеткі, слухай усіх, памагай цётцы. Бо як я даведаюся, што ты кепская, то мне і лячэнне тое будзе не патрэбна.

— От, не думай абы пра што... Паедзеш, дык лячыся! — строга спынялі Алену старэйшыя сваячкі.

— А што ты мне прывязеш? — Ганька цёрлася аб матчыну руку, і ёй таксама было сумна, што маці едзе гэтак далёка, што невядома, калі яна вернецца назад, што цяпер яна будзе ўжо спаць не з маткай, а з цёткай Яўгеніхай.

— От, сараматніца! Няма, каб падумала, што маці хворая, дык не: «Што ты ёй прывязеш...» — пасарамаціла Ганьку Іваніха.

— Можа што і прывязу...— мацеры шкада было Ганьку: што яна яшчэ разумее?

— А калі ты вернешся?

— Не ведаю, Грыша кажа, што мо давядзецца рабіць яшчэ і апарацу...

Ганька ніколі не чула гэтага незразумелага слова «апараца». Аднак яна здагадваецца, што сэнс яго нядобры і жорсткі.

— А ты не рабі! — раіць яна маці.

— Там такія дактары, што самі будуць ведаць, што ім рабіць, а што не рабіць,—зноў умешваецца Іваніха.

Ганька не слухае яе.

— А ты не рабі...— шэпча яна маці.

Маці слаба ўсміхаецца: каб гэта была яе воля — навошта б ён патрэбны быў ёй, той невядомы далёкі Мінск, тая «апараца». Ды рады ж больш ужо няма ніякай...

...Ад маці доўга няма пісьма, і Ганька паступова адвыкае ад яе і прывыкае да цёткі Яўгеніхі. Цётка корміць яе, мые, абходзіцца ласкава — а чаго больш яшчэ трэба дзіцяці?

Ганька ўспамінае маці і сумуе нейкі час зноў па ёй толькі тады, калі ад мацеры прыходзіць пісьмо. Ёй зрабілі ўжо аперацыю, ёй было вельмі кепска, а цяпер ужо нічога. Цяпер яна ляжыць ў палаце, дзе, апрача яе, яшчэ гэтакіх, як яна, чатырнаццаць жанок. Бальніца іх — аж тры вялізныя паверхі. Лечаць і даглядаюць добра. «Можа, дасць бог, як-небудзь і выкараскаюся...»

Так канчаецца матчына пісьмо. Пасмутнелая Ганька ўяўляе сабе, як выкараскваецца з тае вялізарнае бальніцы яе маці... Спачатку яна пералазае цераз усе чатырнаццаць ложкаў, выбіраецца на падаконнік. З падаконніка яна лезе за акно. А потым па сцяне, па сцяне — на двор. А там цераз высачэзны плот — і на вуліцу. А на вуліцы ўжо ўсё! Няма ніякай хваробы, ніякай апарацы... Садзіся толькі на цягнік — і дадому!

А падвечар, якраз у той дзень, як прыходзіць пісьмо ад мацеры, здараецца яшчэ адна падзея. Падвечар каля Ганьчынае хаты спыняецца падвода. На падводзе два чалавекі: адзін, чырвоны, здаравенны,

у рыжай суконнай світцы і ў лапцях, злазіць з воза і ідзе ў хату. А другі — жоўты, худы, адзін толькі шкілет, застаецца на возе.

Здаравенны, чырвоны пераступае парог Ганьчынае хаты і нерашуча кідае позіркам па сценах. Нібыта тут у хаце яму патрэбны не людзі, а гэтыя сцены.

— Дзень добры вам...— неяк глуха і сіпавата вітаецца, нарэшце, госць.

— Дзень добры,— адказвае цётка Яўгеніха.

— А дзе ж сама... гаспадыня? — пытаецца госць.

— Гаспадыня далёка...— няпэўна адказвае Яўгеніха.

— А калі будзе дома?

— Калі будзе, і сама не ведае. Няма яе ў засценку.

— А... як жа?

Яўгенісе не падабаецца ні гэты госць, ні яго допыт. Яна не запрашае яго праходзіць да стала, не запрашае садзіцца.

— У бальніцы яна. У Мінску,— Яўгеніха хоча хутчэй яго адправіць.

— Ай-яй-яй-яй!..

— А якая ж гэта ў вас патрэба такая да гаспадыні?

— Патрэба пільная... Гаспадара яе прывёз.

— Гаспадара прывезлі?!.

Пры гэтых Яўгенішыных словах Ганька хаваецца за яе спіну.

— Ну, але...

— А дзе ж ён?

— Ды і ён, як і яна... На возе ён. Хворы. Я братам яму даводжуся. Пракоп я.

— Уга! — авалодвае сабой Яўгеніха.— Чаго ж гэта ён не ўспомніў пра яе раней? Пакуль здаровы быў, пакуль яе не ўтрубіў? — Яўгенішын голас набывае моц. У ім ужо гучыць не проста здзіўленне — у ім абурэнне.

— Ды хто ж іх там ведае, як яно там у іх тады атрымалася...— муляецца госць.

— Хто ведае? Мы ўсе добра ведаем — уся радня! Ды і вы павінны добра ведаць свайго братку таксама. Успомніў калі! Пра дзіця таксама, нябось, цяпер успомніў, што яно ў яго ёсць!

Ганька ўжо зусім прыліпла да цётчынае спіны. Яна не хоча бачыць ні гэтага дзядзьку — бацькавага брата, ні самога бацьку.

Госць маўчыць.

— І што ж бы гэта яна з ім цяпер рабіла, сама хворая? — Яўгеніха мае на ўвазе Ганьчыну маці.— Не! Няхай ужо едзе туды, адкуль прыехаў. Прыязджаў некалі не раз, пакуль, як п'яўка, не выпіў з яе ўсяе крыві... А цяпер, бач, заявіўся зноў! Цяпер ужо даглядай яго... Не. Цяпер ужо мы, радня, не дазволім гэтага!

— Дачку мо паказалі б?..

— Дачку? Дзіва што, гэтакі бацька...— бушуе ўжо цётка Яўгеніха.— Але дачку няхай пабачыць, калі сумленне прачнулася. Няхай паглядзіць, якая без яго, без гэтакага бацькі, вырасла ўжо дачка. Хадзем, Ганечка, няхай твой бацька паглядзіць на цябе! — бярэ Ганьку за руку Яўгеніха, намерваючыся весці яе да бацькі.

— Ай, не хачу! Не хачу! — упіраецца, плачучы, Ганька.

— Не трэба вам гэтак пры дзіцяці...— кажа бацькаў брат.

— А бацьку гэтакаму трэба было быць?..

Потым яны ўжо абое, і цётка Яўгеніха і бацькаў брат, доўга ўгаворваюць Ганьку пайсці прывітацца з бацькам.

— Калі ўжо так атрымалася, калі ўжо самое яе няма... То няхай ён хоць з дзіцем пабачыцца,— панура гаворыць Пракоп.— Яму ўжо не сёння-заўтра дамавіну трэ заказваць... Ужо і дактары сказалі: «Забірайце з бальніцы...» А як забралі, дык ён намогся сюды. Кажа, пабачыцца...

— Сюды ўжо няма да каго ехаць! — перабівае Яўгеніха.— Яна і сама ці працягне да восені...

Ганька чуе гэтую гутарку дарослых, і сэрца яе раптам захлынаецца ад жалю, ад слёз. Ёй раптам робіцца шкада бацькі.

І яна за руку з цёткай Яўгеніхай ідзе, каб павітацца з бацькам.

На вуліцы Ганька яшчэ здалёку стрымлівае крок і зноў упіраецца: хіба гэта яе бацька?.. Бацька сядзіць на возе жоўты, высахлы, у запыленым з дарогі чорным адзенні. Слабая-слабая ўсмешка крывіць жоўты бацькаў твар. Высахлая бацькава рука цягнецца, каб пагладзіць Ганьку. Ганька ціснецца да цёткі Яўгеніхі.

— Дачушка...— варушыць шэрымі губамі бацька (у яго зусім няма голасу!) — Ганька... Падыдзі бліжэй...

Але Ганька не кратаецца з месца. Яўгеніха, уражаная смяртэльным выглядам Ганьчынага бацькі, падштурхоўвае яе да воза.

— Няможна гэтак. Падыдзі, павітайся з бацькам.

Ганька падыходзіць да воза. Бацька, крывячыся ад страшэннага болю, нагінаецца да яе, каб пацалаваць...

— А дзе ж?..— адкінуўшыся назад на сядзенне і адышоўшы крыху ад болю, глядзіць ён на брата, на Ганьку, на Яўгеніху.

— На апярацы. У Мінску,— за ўсіх адказвае Яўгеніха.— Вось гэтак вы сваю жытку абое ўладкавалі...— дадае яна.

Бацька доўга нічога не адказвае, сядзіць з заплюшчанымі вачыма, і Ганька бачыць, як па зарослых праваленых шчоках яго коцяцца скупыя слёзы.

— А я думаў...

— Няма...— адказвае Яўгеніха.— А мяне ці пазнаяце вы?

Бацька ківае галавой: пазнаю.

— Колькі тады і я прасіла і ўгаворвала...— не можа стрымацца Яўгеніха.

Бацька зноў толькі ківае галавой: праўда...

— Ну то мо паедзем ужо? — нерашуча топчацца каля воза дзядзька Пракоп.

Бацька слаба ківае галавой: паедзем...

Ён расплюшчвае вочы і зноў знакам падзывае Ганьку падысці да яго. Але ў яго ўжо няма сілы ўзняцца з сядзення. І Ганьку падсаджвае Яўгеніха. Бацька гладзіць Ганьку па галаве і плача...

— Дзякуй...— шэпча ён шэрымі губамі, і гэта ўжо адносіцца не да Ганькі, а да цёткі Яўгеніхі.— І ёй... Алене... скажыце. Усё....

— Скажу,— рогам хусткі выцірае вочы Яўгеніха.

Пракоп садзіцца ў перадок. Заварочвае каня. Бацька спрабуе прыўстаць, але ў яго няма сілы, і ён падае назад, на сядзенне.

Ганька трымаецца за цётчыну спадніцу і глядзіць услед бацьку.

Пракоп паганяе каня.

## УСЁ...

Ганька памагае сястры Сашы звозіць снапы з поля ў гумно. Саша падае сноп двурогімі віламі, а Ганька стаіць на возе і кладзе яго так, як вучыць яе Саша: каласамі на сярэдзіну — гузыром да краю. Да-

мовіліся, што спачатку звязуць снапы з Сашынага поля, потым будуць вазіць з Ганьчынага... Кабыла Сіўка стаіць цярпліва, толькі аваднёў і слепакоў хвастом адмахвае. Сноп за снопам, сноп за снопам — і воз паступова вырастае з хату (прынамсі, так здаецца Ганьцы). Тады Саша ўціскае воз рублём, уціскае яго некалькі разоў кругом вужышчам, адводзіць Сіўку наперад. За возам трэба падгрэбсці, каб не застаўся ніводзін колас. Потым абедзве яны, седзячы на снапах, едуць з возам у гумно.

На другі дзень, падвечар, кладучы апошні ўжо воз, Саша кажа Ганьцы:

— Ну, заўтра будзем вазіць ужо ваша жыта...

Ганька рада. Маці пасля Мінска зноў ужо хворая, дык добра, што сёстры памаглі пажаць ім жыта, добра, што цяпер з Сашай удваіх звязуць яны жыта ў адрыну. (У Ганькі няма сапраўднага гумна — у іх з маткай толькі невялічкая адрынка.) Потым Саша пытаецца ў Ганькі:

— Ты нічога не ведаеш, Ганька?..

Ганька насцярожваецца. Нешта трывожнае чуецца ёй у сястрыным пытанні.

— Не... Не ведаю,— няпэўна адказвае яна.

— Дык я табе скажу, каб ты ведала.

— Скажы...

— Пamрэ твая маці, Ганька...

— Чаму памрэ?..— Ганьцы адразу цяжка зразумець гэта: памрэ яе маці...

— Памрэ. Дактары так сказалі.

Ганька нічога не кажа. Яна ведае, як паміраюць людзі...

Тады чалавека гэтак, як яе дзеда Грыся, кладуць у белую дамавіну. Тады яго накрываюць белым і кладуць пад галаву і пад ногі падушачкі з сена. І яшчэ тады запальваюць свечкі і прывозяць, каб спяваў, папа... А потым дамавіну нясуць на могілкі, забіваюць яе цвікамі і на палотнах спускаюць у яму. Засыпаюць пяском... Але ж так могуць паміраць толькі чужыя. Так мог памерці дзед Грысь. А як жа яе маці?.. Хіба ж яе могуць закапаць гэтак, як усіх, як дзеда?..

— Я... не хачу,— кажа Ганька і пачынае плакаць.

— Што ж ты тут слязьмі паможаш... Усе людзі паміраюць,— супакойвае яе Саша.

Усе паміраюць... Няхай сабе ўсе паміраюць. А яе маці няхай ніколі не памірае!..

— А можа дактары і не ведаюць яшчэ...— абнадзейвае сябе Ганька.

— Ведаюць. Яны ж рабілі ёй апярацу.

— Дык няхай бы не рабілі!

— Дык зрабілі ж, бачыш...

— А дзе я тады буду?..

— Будзеш у нас жыць... Маці просіць, каб мы цябе забралі да сябе.

— А хіба яна ведае?..

— Чаго ж тут не ведаць...

Адразу пасля Мінска маці пачала вельмі хутка правіцца. Яна як быццам памаладзела нават. Неўзабаве садзілася за машыну і пакрысе ўжо шыла. Сядзела патроху ўжо з Яўгеніхай у градах. Не раз прыходзіла на палетак паглядзець, як там без яе што парасло. Не жарты, сама яна, гаспадыня, за ўсю вясну не паказалася нават на



полі. Як ужо людзі ўкінулі што ў зямлю, так яно там без клопату і без свайго вока і расло.

Палетак цешыў Алену. Лета нейкае вельмі ж добрае выдалася: ні свірэпы ў аўсах, ні малачаю ў бульбе (іншы год жанкі пападрываюцца, цягаючы з поля мяхі з зеллем). І жыта, дзякаваць богу, шумела, як лаза, густое. І бульба добра бралася. Лён і той, хоць і было яго ў Алены ўсяго паўзагончыка, гэтак весяліў душу, гэтакім сінім ручаём пераліваўся на ветры...

— Вось колькі работы расце нам з табою, дачушка. На ўсю зіму працы хопіць...— цешылася Алена. Ганька, вядома, не адставала цяпер ад маці ні на крок.— Летась я не здолела, а сёлетнюю зіму абавязкова вытку новыя абрусы. У чатырнаццаць ніто́ў...

Дадому з поля варочалася Алена як быццам яшчэ падужэлай. Сустракаючыся з суседкамі, хвалілася:

— Добра, што я ў Мінску тады адважылася на тую апярацу. Гэта ж не паверыце, нават ногі ў мяне быццам цяпер не тыя...

Суседкі спачувальна ківалі галовамі.

— А то хіба гэтакія дактары не далі б рады...

— І есці цяпер хочацца! Здаецца б, вала з'ела,— смяялася Алена.

— То і еш, на здароўе. Абы елася...

Заходзіла Алена да кумы, да Корбуціхі. Ні з кім у вёсцы Алена ніколі не сварылася, ні з кім не была не ў ласцы. А з кумою яны яшчэ і сябравалі. Яшчэ з дзявоцтва сябравалі, а потым, як пайшлі замуж, як пакуміліся, дык нібыта і зусім парабіліся роднымі.

Сваякі ўтоілі ад Алены, ды і Ганьцы наказалі, каб не прагаварылася мацеры, што прыязджаў бацька. А кума не вытрымала:

— Табе, я бачу, не кажуць. Без цябе ж тут твой прыязджаў... Хацеў застацца.

— Як — прыязджаў? — бялее Алена.— Як хацеў застацца?..

— Хацеў, каб ты дагледзела яго да смерці.

— А што... Хіба ён гэтакі кепскі?!

— І не кажы!.. Я спалохалася, як убачыла... Куды толькі і падзеўся той пан, што некалі на лісапеце раз'язджаў...

— Дык чаму ж... не пакінулі? — у вачах Алены пакута.

— А хто б гэта яго тут пакідаў. Каму ён тут патрэбен быў: Яўгенісе ці Іванісе?.. Гэта ты забыла, а яны ж не забылі, як ён з цябе кроў піў...

Алена не слухае куму. Доўга маўчыць.

— А я, каб была, пакінула б... Няхай бы памёр пры мне...

— Няхай памірае там, дзе красаваўся! — жорстка кажа кума.

Алена зноў маўчыць.

— А як Ганька?..— успамінае яна.

— Нічога Ганька. Ведама, дзіця. Як убачыла — дык адразу заплакала нават. А потым, як з'ехаў з воч, адразу ж і гуляць з дзецьмі пабегла. Пракоп яго прывозіў,— удакладняе Корбуціха.

Алена нічога больш не пытае. Яна маўчыць. І хто ведае, што яна думае, пра што ўспамінае.

Больш гаворкі пра Ганьчынага бацьку няма.

Праз тыдзень нехта, едучы з Паўстыня, прывозіць вестку: бачыў якраз, як яго неслі на могілкі...

Ганька гэтую вестку сустракае хутчэй абыякава, чым трагічна. Тады, калі яна ўбачыла бацьку, гэткага худога і хворага, ёй раптам зрабілася шкада яго. А як паехаў — дык і паехаў. Ён жа ніколі не жыў з ёю і маткаю. Ён пайшоў ад іх, калі Ганьцы не было яшчэ і поўных двух год...

А з Алены раптам усю яе папраўку як рукою зняло. Зноў пачала яна слабець, зноў пачало ёй усё балець. І за які месяц, як злягла яна зноў у пасцель, дык больш ужо і не ўставала. Цяпер ёй ужо цяжка было нават мух адганяць самой. І сядзелі цяпер над ёй і адганялі мух па чарзе то Ганька, то цётка Яўгеніха...

Саша з Ганькай едуць на снапах і маўчаць.

— А можа мама яшчэ і не памрэ...— зноў упарта вяртаецца да свайго Ганька.

— Дурненькая ты... Бачыла, цётка Яўгеніха пашыла мацеры новае плацце? Гэта ж маці сама загадала. На смерць...

Ганька бачыла, як цётка Яўгеніха шыла гэта новае плацце з шэрага паркалю, але ні цётка, ні сама маці нічога не сказалі ёй, хоць самі і ведаюць, хоць і збіраюцца...

Вечарам Ганька адмаўляецца ад вячэры, садзіцца каля маці на ложку і, як дарослая, доўга-доўга маўчыць. Маці таксама моўчкі гладзіць Ганьчыну руку. І плача. Плача і Ганька... Потым яна просіць матку:

— Можа, я сёння з табою пасплю?.. Я не буду кідацца, я ад сцяны...

Як маці захварэла зноў, цётка Яўгеніха пачала слаць Ганьцы пасцель на лаве разам з сабою.

— Паспі, дачушка... Паспі...

І Ганька лажыцца. Асцярожна, каб не патрывожыць маці, лезе да яе пад коўдру, да сцяны... І адчувае, як уздрыгвае ад плачу маці...

Назаўтра раніцай Ганька прачынаецца ад нейкай няяснай трывогі і шуму ў хаце. І ў сне памятаючы, што ў маці ўсё баліць, каб не штурхнуць, Ганька паварочваецца да яе асцярожна, бокам. Расплюшчвае вочы... Але маці на ложку няма... Куды ж гэта яна пайшла? Ганька прыўстае на локці і адразу не здолее зразумець, што гэта адбываецца на хаце... Цётка Яўгеніха чамусьці трымае маці пад рукі над ночвамі, а Іваніха мые... А сама маці звесіла неяк дзіўна галаву на грудзі і нічога не кажа, не падымае галавы і не кратае худымі рукамі, што таксама звешваюцца да зямлі неяк вельмі бездапаможна...

— Што вы робіце?! — здагадваючыся раптам, што здарылася, крычыць на ўсю хату Ганька.— Што вы робіце з маёй мамаю?..

— Ціха, дзетка, ціха!..— спалохана азіраюцца на Ганьку абедзве цёткі.

— Мамачка!.. Мама!..— крычыць Ганька.

— Мама твая, дзетка, памерла... Няможна крычаць. Няможна яе цяпер трывожыць.

— Мамачка!..— не слухае цётак Ганька, баючыся злезці з ложка.

— Няможна гэтак, Ганечка,— просяць яе цёткі.— А то анёлы напалохаюцца і выпусцяць маміну душу, не данясуць яе да неба.

І Ганька змаўкае. Яна ведае, што і сапраўды няможна палохаць анёлаў... Няможна трывожыць маміну душу...

## НОВАЯ КРАІНА...

Гэтай восенню, як пойдуць усе дзеці, пойдзе ў школу і Ганька. Школа ў Паўстыні, за пяць вёрст — бліжэй няма. Ганька пабойваецца школы: чытаць то яна ўмее (яшчэ пры мацеры навучылася), а вось пісаць — аніяк! Колькі ні водзіць яе рукою па лінейцы брат Кордзя — «палачкі» ў Ганькі выходзяць нязграбныя і крывыя, як



качэргі... Дзядзька Мікалай паглядзіць на Ганьчына пісанне, пакруціць галавой і, нічога не сказаўшы, адыдзе. А Ганьцы ад гэтага дзядзькавага маўчання зробіцца толькі яшчэ горш.

Цяпер Ганька жыве ў дзядзькі.

Маці перад смерцю прасіла, каб яе забрала да сябе Іваніха з дочкамі. Але дзядзька, як маці памерла, пасварыўся з Іваніхаю і сказаў, што па закону Ганьчыным апекуном (Ганька ніяк не можа зразумець, што яно азначае гэта слова — апякун) павінен быць ён, родны дзядзька, а не яна — баба, па сутнасці, Ганьцы ніякая і не радня... Апрача таго, у яе самое сваіх трое дачок, няхай дасць ім рады спачатку... А на Аленіна дабро кваліцца няма чаго. Яно і дачцэ Аленінай згодзіцца.

Папракаючы Іваніху, што яна квапіцца на Аленіна дабро, дзядзька меў на ўвазе карову Падласку, свінню Сукалу, трое авечак. Ну, вядома, яшчэ і Ганьчыну хату... Іваніха плакала і бажылася, што ў яе і думак не было пра тое дабро (якое там дабро!), што Алена сама яе прасіла перад смерцю забраць і гадаваць Ганьку і што яна хацела толькі выканаць Аленіну волю... Гэта ж, не раўнуючы, не парася, што пакарміў ды і ўсё. Дзіця ж і апранаць, і абуваць, і вучыць трэба.

— Ну, дык вось я сам пра гэта і паклапачуся: і пра абутак, і пра адзетак, і пра вучэнне,— сказаў, нібыта адсек, Мікалай.

— А божачка мой, клапаціся ты, ці я хачу захапіць яго, гэты клопат, ці ён мне патрэбен!..

Так Ганька засталася жыць у дзядзькі Мікалая.

З першых дзён цётка Фядора была да Ганькі такая добрая, такая добрая, што нават лепшая, чым да сваіх родных дзяцей. І торбачку ў школу загадзя пашыла, і перашыла ёй Валіну сукенку, і хустку новую паказала — гэта ўжо, як у школу пойдзе, будзе насіць. І за сталом усё смачнейшанькае ёй, Ганьцы, давала. І ўсё вучыла, усё падгаворвала не хадзіць гуляць да Іваніхі.

— Гуляй дома. Няма чаго туды хадзіць. Яны з намі пасварыліся.

І Ганька слухала цётку і таксама надзімалася, як ішла паўз Іванішыну хату ці разміноўвалася з сёстрамі...

Дзядзькавы дочкі Вера і Валя, як толькі перайшла да іх Ганька, адразу таксама былі ласкавыя і добрыя з ёю. Валя дазваляла Ганьцы браць яе лялькі, а Вера паказвала ёй свой тоўсты сшытак-пеcеннік. У чорнай цыратавай вокладцы. У гэты сшытак яна запісвала ўсе песні дзе толькі якія чула. Сшытак на кожнай старонцы быў упрыгожаны стракатымі пераздымкамі, і Ганьцы ён здаваўся цудам. Ганька сама ведала многа песень, але тут, у Верыным сшытку, песні гэтыя, здавалася ёй, гучалі зусім інакш, куды прыгажэй, чым калі іх спявалі на вуліцы ці калі нават спявала ёй гэтыя песні яе маці...

Асабліва падабаўся Ганьцы пачатак Верынага сшытка. Пад перазнятай ружай нехта з дзяўчат-сяброўак напісаў Веры:

Ты прекрасна, словно роза,
Только разница одна:
Роза вянет от мороза,
Твоя прелесть никогда...

А ніжэй, нечай другой рукой, пад другой ружай, пісалася зноў:

Цвети, цвети, как роза,
Цвети, не унывай.
В какой стране не будешь —
Меня не забывай!..

Вось каб хто з дзяўчат напісаў гэтак калі ёй, Ганьцы!..

Не падабалася Ганьцы ў дзядзькі толькі тое, што спаць ёй трэба было са старэйшым стрыечным братам Цімам. Ганька ніколі яго

вельмі не любіла. Яна яго чамусьці нават пабойвалася. Ціма недачуваў і таму заўсёды моцна крычаў: «Што? Га?..» І Ганька чамусьці баялася гэтага «га» і «што»... Вось каб ёй спаць з Кордзем. Кордзя добры, ён носіць яе «на гэршках», гушкае на назе, піша і малюе з ёю... Але Кордзя спіць з дзядзькам Мікалаем... Або каб спаць з Верай. Але Вера не любіць ні з кім спаць, і яна сцелецца і спіць заўсёды асобна на канапе. А Валя спіць з цёткай Фядорай. Ганьцы спаць з Цімам нядобра: цесна, холадна. Каб не датыкацца сваёй спіною да Цімавае спіны, Ганька прыціскаецца да голай халоднай сцяны і доўга-доўга не засынае. Яна ўспамінае, як цёпленька і добранька было ёй спаць з маці... І плача. Доўга плача. Добра толькі, што ўсе спяць, і ніхто не чуе, як яна плача...

А раніцай, як угрэешся за ноч у пасцелі, так хочацца спаць!.. Але спаць доўга няма як: усе паўставалі, дык трэба ўставаць і Ганьцы. Трэба цяля пільнаваць за гумном ці свіней гнаць на выган, бо цяпер, як Ганька засталася жыць у дзядзькі, Валя не хоча пасвіць свіней. Яна кажа, што яна ўжо вялікая, а вялікія свіней не пасуць. Пасуць толькі малыя, як Ганька...

Каб была мама, то Ганька не вельмі размаўляла б з Валяй: пасі, калі табе трэба! А як няма мамы, то нічога і не скажаш... Мо хіба школа вызваліць Ганьку ад гэтае пашы.

Школу Ганька чакае, як нейкае асаблівае свята. Да свята гэтага рыхтуецца яна штодня. То складае і перакладае па дзесяць разоў на дні ў сваёй палатнянай торбачцы буквар, нейкія лісты паперы, што даў ёй Кордзя, аловак, пяро. А то пабяжыць на рэчку і пачне адшароўваць глеем ногі. (За лета яны парэпаліся і пачарнелі — за раз не адшаруеш!) Дзядзька Мікалай падстрыг ужо Ганьку да школы (падстрыг «пад польку»), але Ганьцы здаецца, што дзядзька зрабіў гэта няўдала, і яна сама сябе перад люстэркам падстрыгае...

Спраў і клопатаў многа. Яны захапляюць і радуюць. Яны і засмучаюць Ганьку. Вось каб мама не памерла, вось было б добра! Мама радавалася б разам з Ганькай не так, як цётка Фядора... Цётка новыя сукенкі пашыла Веры і Валі, а Ганьцы перашыла толькі са старое Валінае. І кажа, што пашыла ёй таксама новую сукенку. Нібыта Ганька не разумее... Або дзядзька Мікалай кажа, што трэба Ганьцы купіць новую світку і новыя чаравікі, бо ў яе не будзе ў чым хадзіць у школу. А цётка сварыцца на дзядзьку...

— А нашто школа? Школа павінна сірот забяспечваць і адзежаю, і абуткам, і ўсім! На тое яна і савецкая ўласць, каб памагаць.

Ганька і сама ўжо ведае, што савецкая ўлада памагае (як яе маці будавала калодзеж — сельсавет даў ёй аж шэсць цэментавых труб. І без грошай — як бядняччы). Але навошта цётка сварыцца на дзядзьку... І таму Ганьцы зусім не хочацца школьнае дапамогі. Гэта ўсё роўна, як выпрошваць... Няхай бы ў яе гэтаксама, як і ў Валі, і ў Веры, і ў Кордзі (Ціма ўжо не вучыцца, ён робіць з бацькам дома), была свая світка і свае чаравікі. Дзядзька ж Мікалай хоча купіць...

Адвячоркам, перад школай, Ганька бяжыць на могілкі. Яна часта сюды бегае. Носіць мацеры кветкі і вянкі. Цяпер яна ўжо гэтак не плача, як плакала тады, калі маці хавалі. Тады ўсе людзі, гледзячы на яе, плакалі... Цяпер Ганька ўжо ведае, што маці да яе ніколі больш не вернецца. Што сама яна цяпер жыць будзе заўсёды ў дзядзькі Мікалая...

Каб яшчэ ў цёткі Іваніхі... А ў дзядзькі так ёй не хочацца! Так ёй нядобра там. Неяк цесна, няўтульна і вельмі чужа...



—А я ўжо ў школу пайду заўтра,— расказвае Ганька мацеры, прыбіраючы яе магілку кветкамі.— Я ўжо і торбачку склала сваю, і сукенку і хустку падрыхтавала. Цяпер ужо буду вучыцца і не буду пасвіць дзядзькавых свіней. Бо мне цяпер трэба будзе вучыць урокі... А ты не бойся: да цябе я ўсё роўна буду бегаць. Вывучу ўрокі і прыбягу, прынясу кветак, бо ні цяляці, ні свіней ганяць цяпер на выган я ўжо не буду...

Ганька доўга яшчэ расказвае маці пра свае зборы, пра сваю школу, пра тое, як яна будзе вучыцца... І хоць маці маўчыць, хоць маці нічога не адказвае ёй, Ганька і без адказу добра ведае, што сказала б маці:

— Глядзі ж, дачушка, старайся, добра вучыся. Не лянуйся глядзі. Настаўніка слухай і з дзецьмі сябруй... І не зважай, што ў цябе няма новае світкі і новых чаравікаў. Настаўнік не будзе глядзець, у каго з вас новая ці старая світка... Настаўнік будзе глядзець, хто з вас будзе добры вучань. «Вось,— скажа ён,— глядзеце, якая ў мяне прыкладная вучаніца Ганька... Яна і ў класе ўрокі добра слухае, і дома добра вучыць. І таму яна самая лепшая ў мяне вучаніца!..»

Так бы сказала Ганьцы маці. І не дазволіла б ёй цяпер абы-дзе бегаць, абы-што рабіць. Адправіла б дадому, каб Ганька не заспала ў школу.

— А цяпер, дачушка, бяжы дадому. Збярыся як мае быць. Павячэрай. І кладзіся спаць. Бо я цябе заўтра раненька пабуджу...

І Ганька вяртаецца дадому.

Ноччу ў пасцелі яна доўга варочаецца, нешта спрасоння гаворыць, ускоквае... А раніцай, як толькі развіднела, усхопліваецца з пасцелі першая. Ёй здаецца, што яна праспала ўжо, што спазнілася і што яе не прымуць у школу...

Ганька паспешна снедае. Паспешна кладзе ў сваю торбачку, побач з букваром, загорнуты ў капусны ліст дроб сыру з хлебам і хут-



чэй бяжыць да Паўлавае хаты — там будуць збірацца ўсе вучні.

У канцы вуліцы, каля Паўлавае хаты — ужо і сапраўды сабралася амаль усё Ганьчына таварыства: Грышка Адамаў, Пецька Бурбалка, Анюта Корбутава, Маня. А таксама старэйшыя браты і сёстры, што ходзяць у школу па трэцяму ўжо і па чацвёртаму году.

Старэйшыя па ўтаптанай цераз Кляпчанскае балота сцежцы ідуць першыя. Сцежка вузкая, і ўсе ідуць адзін за другім. Рыжая балотная руда чвіркае пад нагамі, пырскае вышэй каленяў. Хлапчукі падкасваюць штаны, а дзяўчаткі, ідучы ззаду, таксама паднімаюць сукенкі, каб не выгнюсіць рудою.

Ганька ідзе самая апошняя. Гэта і добра, бо за вялікімі яна не збеглася б. Але і боязна апошняй: каб не адстаць, каб дзе з-за кустоў не выскачыў воўк...

Нарэшце балота канчаецца. Старэйшыя выйшлі ўжо на грудок і мыюць ногі з краю, у канаве. І чакаюць малых. Выпаўзаюць, нарэшце, і малыя. Выпаўзае з балота і Ганька.

— Ну, малеча, хутчэй вы! — камандуюць старэйшыя. У іх ужо абсохлі ногі, яны ўжо паадкасвалі штаны, дзяўчаты паправілі сукенкі. Яны ўжо нецярпліва чакаюць малых — праз гэтых жабянят можна ў школу спазніцца...

Нарэшце, і «жабяняты» гатовы.

Ганька ніколі яшчэ не была на гэтым грудку. Пасля Кляпчанскага балота, зарослага рудой асакой, ён нейкі асабліва прыветны і вясёлы, гэты грудок. Трава тут зялёная і мяккая, як шоўк. І дубы, як асілкі, як варта, на гэтым грудку. Нібыта яны тут заступілі дарогу змрочнаму рыжаму балоту: «А ну, паспрабуй, вылезь!..» А самае галоўнае: з гэтага грудка, калі азірнуцца назад, як добра відна іх вёска! І якая яна прыгожая адсюль. Хат амаль і не відно: як у вянку, пахаваліся ў садах і прысадах... За вёскаю, сярод поля, чубок бярэзніку — могілкі. І яны адсюль відны, як на далоні. Можа маці якраз устала і глядзіць, як ідзе Ганька ў школу. Кажуць, да шасці тыдняў душа чалавека ўсё яшчэ лётае па зямлі, толькі ніхто яе не бачыць...

— А ну, малыя, хутчэй, марш! — камандуюць старэйшыя.

Ганька хапаецца за торбачку.

— Мы ўжо! — адгукваецца яна і подбежкам даганяе пярэдніх.

А наперадзе,— з грудка ёй добра відно,— сярод высокіх прысад віднеецца чырвоны дах. На ранішнім сонцы ён і блішчыць, і смяецца, і кліча!

— Хутчэй! Хутчэй! — кліча чырвоны дах.

— Хадзем хутчэй! — падганяе ўсіх Ганька.

І сама не здагадваецца, што босыя ногі яе гэтай вераснёўскай раніцай вядуць яе ў новую краіну...



Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ



# РАДЗІМЕ

Не скажу ні слова пра любоў
сваю —
ведаеш мяне ты без размоў.
Ведаеш, бы маці,—
голага і босага,
што ад слёз гарачых
не размок,
што ні зайздрасць
і ні рэўнасць лютая
не звалілі з ног,
не паланілі...
Дай руку, Радзіма:
слухай Рэвалюцыю —
у грудзях,
у левай палавіне.
Твае ўсе трывогі, хваляванні
ў трапяткім кавалачку сабраны.
Маё сэрца — вышыня,
заваяваная
пахаванымі на вышыні сябрамі.
Бой ідзе
між тупасцю і розумам —
барацьба працягваецца
за любоў
у чысціні бярозавай,
за далоні,
да святла працягнутыя.
Я хачу змагацца,
не памерці,—
каб жыццё сяброў не абрывалася...

Твая дужасць
у маім, Радзіма,
сэрцы
прарастае сілай набрынялаю.

# БАЛАДА ПРА ХАТУ

Ул. Паўлаву

Хату
будаваць збіраўся тата,
каб не знацца болей
з буданамі.
А вайна
для бацькі майго
хату
без дзвярэй,
без вокан збудавала.

Мы тады намёрзліся удосталь —
навісала неба
коўдрай белай.
Я ішоў з маленства
у дарослацць
між снягоў
і соснаў карабельных.

У бары,
ля ціхае дарогі,
я з дзядзькамі добрымі сустрэўся:
хто з сякерай,
хто з пілою доўгай,
некаторыя — са стрэльбамі.

Барадатыя, худыя, чорныя,
з чыстымі,
як полымя,
вачыма.
Мне б такія вочы —
нават чорта
палюбіць жыццё
я навучыў бы.

— Ай, хлапец,—
мужчыны спачувалі.
— Ну, герой...—
да вогнішча паклікалі.
Накармілі,
напаілі чаем,
распыталі
пра бяду вялікую.

Палажыў далоні мне
на плечы
дзядзька з пугачоўскай барадой:
— Будзеш, хлопча,
грэцца каля печы —
я з брыгадай пабудую дом.

Вечарамі з дзядзькам Мітрафанам
планаваў я нашу вёску новую...
А вясна прыйшла неспадзявана —
зазвінела стружкамі сасновымі.

Сталі цеслярамі лесарубы.
Урачыста,
быццам на вяселле,
разам з імі крочыў я да зруба
і спраўляў у думках наваселле.

— Глянь, Міколка!..—
рукі брыгадзіравы
распасцерліся увысь,
да воблакаў...
Хата выплывала брыганцінаю
з чыстымі, як вочы,
вокнамі...

●

Плеткары безупынку рэжуць
маё сэрца тупым нажом:
— Ну і хлопец...
Знайшоў жа — рыжую...
Прыгажэй няма няўжо?
О скептыкі!
Вам не ўсё роўна хіба,
каго я ўзяў сабе
ў спадарожнікі?
Дарэмна вы адшукваеце хібы —
маё каханне
самае прыгожае.
О малаверы!
Змыйце з твараў сажу —
на сонца гляньце,
акуляры зняўшы.
Яно таксама рыжае.
Заўважылі?
Чаго без сонца
варта
жыццё ваша...



Сямён БЛАТУН

●

## БУЛЬБА ЦВІЦЕ

Смугу даўніх раніц ніяк не забуду...
Дымяцца срабрыстыя росы,
І мы імчым у поле акучваць бульбу
Чародкай гулліваю, босай.

Навокал бялюткія сцелюцца гоні...
Хутчэй пастронкі раскручвай!
Каб бульбу не елі — зацуглівай коней,
Шырэй лемяхі ў акучнікаў!

Пакуль авадзень яшчэ злы не прыжарыў
І коні не ёрзаюць злюча,
Пад корань, пад корань свірэпку паджарую,
Падрэжам дзядоўнік калючы.

Каб рад не падрэзаць — трымай мацней ручкі.
А клін каму бокам выходзіць?
Сябрук там са злосцю кідае акучнік,
Не хлопец — Мікула дый годзе...

У небе жаўрук рассыпаецца булькатам...
Прыпынак кароткі зрабілі.
Аблуплены спіны, як ранняя бульба,
Насы, як яечкі рабыя.

А вечарам млявым замерае соткі
Дзяўчына. Па сто выйшла з гакам!
...Дымяцца у місцы салонікі сопкія:
Вячэра — з павышаным смакам.





Смугу сноў дзіцячых ніяк не забуду,
Хоць леты мінаюць і вёсны...
Калі хто спытае: а як цвіце бульба?
Яму адкажу я — дзівосна.

## ГУСІНАЕ ПЯРО

Ён быў таксама смелы вынаходнік,
Хто першы выскубнуў з крыла пяро
І вывеў ім рукой дрыжачай слова...

З тае пары ў пашане сталі гусі,
Іх пер'е разляцелася па свеце
Пялёсткамі бялюткімі, як снег,

І мудрацы з мяцеліцай барадаў
Пры свечках селі у сырых пячорах,
Пяром гусіным пачалі скрыпець...

Пяро каўтнула дзюбкаю чарніла,
На міг застыла ў пушкінскай руцэ
І паляцела лёгкай-лёгкай птушкай...

Паручык Лермантаў з сябе здымае шпагу
І падыходзіць хмурны да стала —
І пёры, быццам стрэлы у калчанах,
Па-грознаму тырчаць...

Салдат Шаўчэнка пазірае ў неба —
Там гусі, гусі вольныя ляцяць...
О, хоць адно б яны згубілі пёрка —
Пісаць гатовы ён сваёй крывёй...

Вякі ламалі шмат мільёнаў пёраў,
Вякі падрэзалі мільёны крылляў,
І ўсё ж на іх к нам прыляцела слова
З глыбокай, нібы памяць, далі.

●

Лістапады мае, лістапады,
Залацістыя каруселі,
Падхапілі мяне, панеслі
На агністым сваім кані...

Віражы ён бярэ крутыя
І ўсё скача і скача —
Вось трыццаты ўжо круг.

Стой, імгненне!— хачу я крыкнуць,
Каб людзей да драбніц убачыць,
Ды яны мільгацяць у ваччу,
Бы ў кіно, як заскача плёнка...

Вось ужо замільгалі твары —
Дзядзька, хлопчык, дзяўчына...
Далібог, не паспеў іх разгледзець,
Бо ўсё круціцца, круціцца, круціцца
Залатая мая карусель.

## ЗРЭБНАЯ НІТКА

Вытанчаная з мяккай сівой кудзелі
Пальцамі ўдумлівай маці,
Кожная кастрычынка ў табе
выгрызена зубамі...
Зрэбная нітка!
Цякла ты на верацяно бухатае,
Кружыла ў танцы
нязграбнае матавіла,
Намотвала арбіты на клубок.
Спляталася потым у асновы
Тугія, як дзявочыя косы,
І залацістыя грэбні бёрдаў
Суладна часалі іх...

Ты, нітка зрэбная, трывалая —
Мае дзіцячыя штонікі,
Карою дубоваю фарбаваныя,
Не рваліся
на самых калючых платах...
Ты нітка рэзкая,
Парваць не парвеш —
рукі парэжаш,
І нават перарэжаш ты
Горла бутэльцы —
толькі дзынкне ў вадзе яно!
Ссуканая ў дратву
у некалькі столак,
Навошчаная да скрыпаты,
Ты лямец валёнка прыхопіш,
Нібыта зубамі воўк...

Кажуць, што ты цяпер устарэла,
Больш далікатныя ніткі
лезуць у вушкі іголак,
Што ж, надышоў іх чарод...
І толькі шаршаткі помняць
Цябе, бо для іх ты — радня.



# НАШ, НАРОДНЫ

***Семдзесят гадоў з дня нараджэння Кандрата Крапівы***



У гады Вялікай Айчыннай вайны.

Уздзеншчына... Ціхі шолах сасновых бароў на пясках, працяглы шум бярэзнікаў і ракіты над родным Нёманам. Гэтая цудоўная, пявучая зямля нарадзіла, выгадавала ў маляўнічым кутку над Нёманам, у зялёнай вёсцы Нізок, і майго земляка, цяпер народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Кандратавіча Крапіву. Залатым коласам ён стаў на нашай літаратурнай ніве і на ніву тую, і ў сэрцы нашы пасеяў чароўныя зерняты — свае сардэчныя, ясныя песні. Прарасталі, узыходзілі, рунелі, наліваліся дзівосныя зерні сейбіта-песняра ў сэрцах тамашніх людзей. Паўтара дзесятка празаікаў, паэтаў, драматургаў вырасла на роднай Уздзеншчыне, на берагах бацькі-Нёмана! Гэтым, зразумела, у значнай ступені мы абавязаны нашаму праслаўленаму земляку, песняру з Наднёманшчыны Кандрату Крапіве, папулярнасць якога была найвялікшаю ўжо тады, калі я толькі пачынаў вучыцца ў першым класе пачатковай школы.

Яшчэ і цяпер памяць гартае каляндар майго маленства. З далечыні таго часу бачу нашага сакратара камсамольскай ячэйкі, загадчыка хаты-чытальні Букача, які даў мне пачытаць кніжачку баек Кандрата Крапівы. Прачытаў я тую кніжачку і ўсцешыўся вялікім адкрыццём: ага, вунь яно што! Дык гэтак жа можна пісаць пра ўсё, што адбываецца ў жыцці людзей, у жыцці мае Дуброўкі!.. Ён жа, Кандрат Крапіва, услаўляе добрае, выкрывае благое, што яшчэ жыве ў нашай вёсцы.


Кандрат Атраховіч. 1915 год.

А чаму ж і мне не напісаць байку? І я напісаў штосьці падобнае на байку ці вершаваны фельетон. Толькі ж як, якім прозвішчам падпісаць яго? Па сваёй наіўнасці я тады думаў, што такое можа быць падпісана толькі адным прозвішчам — Крапіва! Так і падпісаў.

Прачытаў Букач і пытае:

— А чаму Крапіва? Ты ж гэта сам напісаў?

— А хто ж яшчэ? Сам...

— Дык і падпішы — Бялевіч. Крапіва ўжо ёсць, хай будзе яшчэ Бялевіч у нас на Уздзеншчыне...

І не пагасла ў сэрцы маім тая жывая іскрынка, якую тады, у юнацкую вясну, запаліў мой зямляк, першы паэт Уздзеншчыны. Магчыма, гэты шчодры сейбіт паэзіі гэтак сама пасеяў дзівосныя жывінкі-іскрынкі і ў сэрцы многіх маіх землякоў? Магчыма, яны таксама думалі: «Піша наш чалавек, з нашага раёна, з тутэйшай вёскі. А чаму б і нам не паспрабаваць?..»

І пачыналі спрабаваць. Пісалі. Раслі.

Я з Кандратам Крапівой яшчэ не страчаўся, ніколі не гаварыў, а ў сваім уяўленні чамусьці бачыў суровага, злоснага чалавека: вельмі вострыя, ёмкія, пякучыя былі яго байкі, вершаваныя фельетоны. А калі я працаваў ужо ў рэдакцыі газеты «Звязда», калі з нейкай просьбай-заказам рэдакцыі прыйшоў да яго на кватэру — аж не верылася, што бачу Кандрата Крапіву: не калючы, не пякучы, а спакойны, нейкі ціхі, добры, сардэчны і нават трошкі сарамлівы чалавек. Аж пачырванеў, калі пачуў тую просьбу рэдакцыі, якую не мог выканаць адразу, у той жа дзень.

— Бачыце,— паказаў мне на незнаёмага чалавека,— рэжысёр мой... Трэба п'есу хутчэй здаваць у тэатр...

То здымаў, то зноў начапляў акуляры, хваляваўся, неяк вінавата, няёмка апраўдваўся.

— Вы там перадайце, калі ласка, таварышам, што я напішу, сам прынясу ў рэдакцыю...

І напісаў. Сам прынёс тое, што трэба было газеце. Паклаў спісаныя лісты паперы на рэдакцыйны стол, сказаў:

— Пачытайце, калі ласка. Паглядзіце. Можа не тое напісалася?..

Ён неяк зноў засаромеўся, пачырванеў і хуценька развітаўся. І тады, ужо ў сталыя гады, у росквіт свае славы, ён вельмі быў падобны на таго маладога Кандрата Крапіву, які праз многа год напісаў у сваёй аўтабіяграфіі: «Праз ноч верш, фельетон на злабадзённую палітычную тэму быў гатоў... раніцай занёс яго ў рэдакцыю і, здаўшы супрацоўніку, хуценька пайшоў, баючыся, каб не пачалі чытаць пры мне. Назаўтра з заміраннем сэрца я падыходзіў да таго рога вуліцы, дзе на сцяне звычайна наклейвалася газета «Советская Белоруссия». І як жа я быў рады, калі ўбачыў свой твор, надрукаваны без ніякіх паправак».

Гэтая сціпласць, ці, больш правільна, гэтая тонкая далікатнасць жыве праз доўгія гады ў ягонай чыстай душы, у шчодрым, добрым сэрцы, дзе гэтак многа ўмясцілася дабраты, пяшчотнасці, гарачай любві да добрых людзей, дзе гэтак многа ўмясцілася і нянавісці, гневу да злыдняў і прайдзісветаў! Пра гэта гавораць кнігі яго вострых, пякучых баек, вершаваных фельетонаў, яго з'едлівыя, праўдзівыя, мудрыя і шчырыя п'есы, якія даўно зрабіліся нашымі вернымі спадарожнікамі, разумнымі дарадчыкамі, мужнымі, баявымі таварышамі!..

Мінула больш за дваццаць гадоў, а ў памяці маёй — суровыя дні вайны, у сэрцы — пякучы боль таго часу, калі гора Радзімы лягло на плечы народа, калі ў сырыя магілы забірала вайна родных, дарагіх, блізкіх. І ў Кандрата Кандратавіча вайна забрала сына Барыса, які загінуў у баях пад Сталінградам за нашу святую праўду. Цяжка перажываў Кандрат Кандратавіч, але нават гора не зламала, не пахіснула ягоную цвёрдую волю, нават чорная скруха не засланіла ягонай яснай мэты. У рыжым, выцвілым на франтах вайны шынялі, у моцных, цяжкіх салдацкіх ботах кожны дзень прыходзіў ён у той халодны, заінелы пакой, што адведзен быў нам у рэдакцыі газеты «Известия», дзе мы выдавалі газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Кандрат Кандратавіч быў адказным рэдактарам таго сатырычнага выдання. У суровыя дні вайны зноў вярнуўся ён да свайго ўлюбёнага жанру. Сатырычныя вершы, фельетоны, памфлеты, эпіграмы, подпісы пад карыкатурамі — вось тая вострая зброя, якою наносіў удары па ворагу праслаўлены сатырык.

Як сёння бачу: сядзіць ён за сталом у халодным пакоі, піша сваё, папраўляе творы многіх аўтараў, якія прыносілі, прысылалі з франтоў,

**На першай Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру: Аркадзь Куляшоў, Міхаіл Ісакоўскі, Шалва Дадзіяні, Максім Танк, Кандрат Крапіва.**



з партызанскіх лясоў вершы, рэпартажы, нарысы пра гераічных воінаў, партызан. Звечарэе, усе пойдуць з рэдакцыі, а ён усё сядзіць, піша, перапісвае, папраўляе, да патрэбнай, высокай якасці, як гаворыцца, даводзіць, баявітасць, вастрыню надае кожнаму твору. Здзіўляла мяне яго вялікая, натхнёная працавітасць, з якою на ўсё жыццё ён парадніўся яшчэ на бацькавым загоне, калі ў чатырнаццаць гадоў пайшоў за плугам.

— У сялянскай гаспадарцы,— гаворыць Кандрат Кандратавіч,— заўсёды было шмат работы — цяжкай і лягчэйшай — і асноўным работнікам заўсёды патрэбны былі памочнікі. Прыходзілася і цяжка часам, але я з удзячнасцю ўспамінаю сваіх бацькоў, якія навучылі мяне працаваць яшчэ ў маладосці, навучылі цаніць працу і паважаць людзей з мазолістымі рукамі...

Яшчэ з маленства спазнаўшы нялёгкае жыццё, ён дамагаўся лепшага ўладкавання жыцця на роднай зямлі.

— Мною валодала не «сусветная туга»,— гаворыць пісьменнік,— а простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць. Пачаў з простай газетнай карэспандэнцыі. Напісаў некалькі фельетонаў на бытавыя і палітычныя тэмы...

Так сціпла, скупа расказвае ён пра сябе, а я добра памятаю, якою навальнічнаю бурай уварваліся ў жыццё ягоныя фельетоны, байкі, якія ў юнацкія гады я завучваў на памяць, дэкламаваў на сялянскіх сходах са сцэны нашага сельскага клуба. Надзвычайным поспехам карысталіся творы нашага паважанага земляка, славутага сатырыка Кандрата Крапівы.

Не меншую славу прынеслі яму і драматычныя творы. Самы вялікі поспех выпаў на долю камедыі «Хто смяецца апошнім», за якую Кандрату Крапіве ў 1941 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія. Гэткай жа высокай узнагароды ўдастоена пасля вайны і другая камедыя Крапівы «Пяюць жаваранкі». Перад вайной на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, дзе тэатр Янкі Купалы паказаў дзве п'есы, «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім», Кандрат Крапіва атрымаў высокую ўзнагароду — ордэн Леніна.

Цяжка нават пералічыць творы, якія даў свайму народу пісьменнік. Апрача баек, п'ес, ён выдаў некалькі зборнікаў апавяданняў і раман «Мядзведзічы», перакладаў творы Астроўскага, Горкага, Шэкспіра, Крылова, Маякоўскага.

Літаратурную працу пісьменнік спалучае з навукова-даследчай. У 1950 годзе ён быў выбраны правадзейным членам Акадэміі навук БССР, а ў 1956 годзе — віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. Яму прысвоена вучоная ступень доктара філалагічных навук. Кандрат Кандратавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і член Мінскага абкома партыі. Шчыра, сумленна выконвае пісьменнік высокія грамадзянскія абавязкі, працуе ў галіне мовазнаўства, прадаўжае пісаць байкі і п'есы, а пра сябе гаворыць:

— Я зрабіў яшчэ мала, каб апраўдаць высокае давер'е партыі і народа, а часу, мяркуючы па гадах, засталося не так многа. Але спадзяюся яшчэ папрацаваць.

І ён працуе шчыра, натхнёна, радуючы нас сваімі высокамастацкімі, глыбока народнымі творамі.

Ад усяго сэрца хочацца пажадаць дарагому земляку, шчыраму чалавеку, цудоўнаму пісьменніку добрага здароўя, натхнёнай творчасці, яснай радасці і шчасця!

**Антон БЯЛЕВІЧ.**

# ТЭАТР КАНДРАТА КРАПІВЫ

Бацька беларускай савецкай байкі, папулярны аўтар дасціпных, сацыяльна вострых вершаў, у якога ў гэтым жанры не было сапернікаў, шырока вядомы празаік Кандрат Крапіва ў першай палове трыццатых гадоў прыходзіць у драматургію. Прыходзіць, пакінуўшы прозу, якая абяцала багаты плён; усё радзей і радзей выступае ён і з вершаванымі творамі, хоць ужо адны яны маглі зрабіць пісьменніка класікам.

Крапіва бярэцца за новы, зусім нязведаны жанр, каб стварыць свой тэатр. Тэатр Кандрата Крапівы. Праўда, у той час ён пра гэта не думаў. Проста пісаў п'есы.

Яго тэатр ствараўся не адразу, а праз гады, нават дзесяцігоддзі — ад п'есы да п'есы. І кожная з іх была цаглінай, а часам нават цэлым паверхам у новым будынку.

**КАРНЕЙЧЫК. Што такое дружба? Ці ёсць яна вечная, пра якую я чытаў некалі ў раманах?**

**«Канец дружбы».**

## 1933.

Кандрат Крапіва - драматург пачынаецца з п'есы «Канец дружбы».

Адзін з галоўных герояў драмы — Карнейчык крыху ўрачыста абяцае Лютынскаму: «Калі ў цябе будзе ў жыцці самы небяспечны момант, самае цяжкае становішча, я хацеў бы тады быць з табою, хоць бы гэта мне самому пагражала смерцю». Гэтыя словы ён гаворыць у цяжкія дні ліхалецця, калі беларускую зямлю тапталі белапольскія акупанты, калі абодвум героям амаль штохвіліны пагражала небяспека.

Прайшло дванаццаць год, наша краіна ўступіла ў новую фазу сацыялістычнага будаўніцтва. Карнейчык з Лютынскім, якіх калісьці разлучыла вайна, сустракаюцца зноў. І той самы Карнейчык, якому ў цяжкую часіну Лютынскі выратаваў жыццё, рэзка, непрымірыма выступіў супраць Лютынскага: ён зразумеў, што дружбы ў іх ужо няма і быць не можа, бо яны ў жыцці стаяць на розных полюсах.

Камуніст Карнейчык абвінавачвае Лютынскага ў тым, што той страціў прынцыповасць, свядома ці не зусім свядома патураючы людзям, якія больш дбаюць пра свае асабістыя інтарэсы, чым пра агульныя. Паняцце дружбы Кандрат Крапіва з маральна-этычнага плану пераводзіць у сацыяльны, і ад гэтага драма набывае ярка вы-



**«Канец дружбы» — першая і, на вялікі жаль, апошняя сустрэча выдатнага беларускага артыста Уладзіміра Крыловіча з драматургіяй Кандрата Крапівы.**

**Вобраз Карнейчыка быў адным з найбольш значных і лепшых у галерэі сцэнічных работ Крыловіча. Гэтаму спрыяла п'еса, якая давала багаты матэрыял для акцёрскай творчасці. Артыст сваім натхнёным выкананнем значна пашырыў і паглыбіў драматургічны вобраз. Было ўзаемаўзбагачэнне акцёра і драматурга.**

**(Паводле ўспамінаў В. Пола пра заслужанага артыста БССР Уладзіміра КРЫЛОВІЧА.)**

ражанае сацыяльнае гучанне. Ужо з гэтай першай п'есы вастрыня, надзённасць стане асноўным пафасам драматургіі Кандрата Крапівы.

П'еса «Канец дружбы» пісалася з пазіцый разумення падзей людзьмі трыццатых гадоў. І яна засталася жыць у сваім часе. Але гісторыя не спісала ў расход першы вопыт Крапівы-драматурга. П'еса зрабіла выразны адбітак у сваім часе, нібы водарасць на марскіх каменнях, каб і праз шмат гадоў засведчыць пра сваю будову.

**ДАНІЛА. Няхай жа гэты гнеў паліць нам грудзі, каб мы не ведалі спакою, пакуль наш народ стогне ў няволі, каб мы не скарыліся і не пайшлі зноў у ярмо.**

**«Партызаны».**



**Драматургія Кандрата Крапівы — гэта цэлая эпоха. І для гледачоў, і для акцёраў. Вобразы з яго п'ес праходзяць праз многія нашы артыстычныя біяграфіі генеральнай лініяй. Для мяне яны — гэта маладосць і творчая сталасць.**

**У драме «Партызаны» я з вялікай радасцю іграў ролю партызанскага кіраўніка Данілы Дрыля. Наогул Крапіва — пясняр народнай мужнасці і гераізму. І мне пашчаслівіла несці са сцэны да гледачоў менавіта гэтыя чалавечыя якасці.**

**Уладзімір УЛАДАМІРСКІ,**
**народны артыст СССР.**

## 1937.

Кандрат Крапіва паказвае найбольш важныя этапы народнага жыцця. Па іх можна скласці цікавы, яркі летапіс змагання і перамог. І адзін з важнейшых этапаў гэтага летапісу — грамадзянская вайна. Удзельнік легендарных паходаў, Крапіва добра ведае ўсю атмасферу вогненных гадоў. І наступны свой твор — «Партызаны» — ён прысвячае падзеям тых часоў. Па свайму жанру гэта хутчэй за ўсё гераічная драма, хоць сам пісьменнік сціпла называе яе проста п'есай.

Сабраўшы сваіх хлопцаў, Даніла Дрыль ідзе ў партызаны. Адно толькі імя Дрыля наводзіць на акупантаў страх. Памагае партызанам Скіба. Вясёлы, дасціпны на слова Батура стаў найлепшым сувязным і агітатарам. Ваююць з белапалякамі Халімон, Міхаль, Кастусь. Урэшце, прыходзіць змагацца і Рыгор. Нават старому дзеду Бадылю знайшліся важныя справы. Народ не скарыўся, не стаў цярпець здзекі, ён падняўся на барацьбу.

Героіка ў творы не пафасная, не гучная. Яна паказваецца без рыторыкі, без знешняй патэтыкі і позы. З узвышаным добра спалучаецца самае звычайнае, зямное. Крапіва тонка адчувае зямлю, па якой ходзяць героі і якая ўзгадавала іх, выпеставала. Так нараджаецца не толькі бытавая верагоднасць — Крапіва паказвае нам самабытную глебу, на якой выраслі глыбока нацыянальныя, менавіта беларускія характары.

У першай сваёй п'есе Крапіва нібы прымерваўся да гэтых характараў, асобныя ярка выражаныя нацыянальныя штрыхі часам свяціліся ўпаасобку, не заўсёды зліваючыся ў цэласныя, пластычныя вобразы.

Драму ж «Партызаны» з поўным правам можна назваць народнай. Пісьменнік маляўніча перадаў беларускі побыт, вывеў цэлую галерэю народных характараў.



Сапраўдная, а не ўяўная каларытнасць, сакавітасць, народнасць — вось найбольш характэрныя якасці «Партызанаў». Прытым, усё гэта ў творы шматколернае, як і само жыццё. Адкрытыя гнеў і нянавісць, ноткі роспачы, адчаю і ціхая стрыманасць, душэўная журба, усплёскі шчодрага народнага гумару, сапраўднай дасціпнасці, — усё гэта пераплецена ў п'есе так моцна і арганічна, як у самім жыцці. Хоць не ўсе эпізоды «Партызанаў» на аднолькавым мастацкім узроўні, але майстэрства Крапівы-драматурга праявілася тут вельмі ярка. Сцэну апошняй сустрэчы вясковага хлопца Рыгора са сваёй каханай дзяўчынай Кацярынай, напрыклад, можна прыводзіць у хрэстаматыях як узор сапраўднага драматызму і глыбіні псіхалагічнага аналізу.

**ЗЁЛКІН. Мне думаецца, паколькі гэта жывёліна сваім выглядам знаходзіцца пасярэдзіне паміж мамантам і свіннёй, а ростам усё ж набліжаецца да маманта, дык яе лепш было б назваць не мамантавай свіннёй, а свінячым мамантам.**

**«Хто смяецца апошнім».**

## 1939.

Калі б Кандрат Крапіва напісаў толькі адзін гэты твор — камедыю «Хто смяецца апошнім», то і тады яго імя назаўсёды засталося б у літаратуры і ў гісторыі тэатра. Гэта п'еса стала класічнай ва ўсёй савецкай шматнацыянальнай драматургіі, а ў жанры сатырычнай камедыі яна з'яўляецца адной з самых лепшых. Побач з ёю могуць стаяць хіба толькі «Лазня» і «Клоп» Маякоўскага.

Вострая, надзённая сатырычная камедыя самая блізкая і арганічная для таленту Крапівы. Пяро дасціпнага сатырыка, якое шмат папрацавала на байкі і вершы, добра служыць пісьменніку і ў драматургіі.

Злосна, саркастычна высмейвае Крапіва прайдзісвета і невука Гарлахвацкага, які шальмуе і тэрарызуе сумленных людзей, ладзіць свой дабрабыт і кар'еру на чалавечых ахвярах. Удар па Гарлахвацкаму моцны і беспамылковы, сатырычны стрэл трапляе ў самую цэль. Выраз «свінтус грандыёзус» стаў народным афарызмам.

Крапіва нанёс сакрушальны ўдар не толькі па гарлахвацкіх, а і па ўсёй гарлахватаўшчыне. як з'яве. Яна была народжана ў перыяд культу асобы і прынесла нашаму грамадству вялікую шкоду. І трэба было мець грамадзянскую мужнасць, каб выступіць супраць яе менавіта ў той час.



**Цяжка пераацаніць плён сустрэчы тэатра з драматургіяй Кандрата Крапівы. Яна мела найвялікшае значэнне для станаўлення ў тэатры перш за ўсё грамадзянскай тэмы. Праблемы, якія ўзнімаюцца ў п'есах Крапівы, маюць агульначалавечае значэнне. Я як акцёр быў вельмі рады сустракацца з тыповымі, дасканала адшліфаванымі вобразамі.**

**Выдатны сатырычны твор «Хто смяецца апошнім» патрабаваў ад нас, выканаўцаў, найвялікшага пранікнення ў задуму пісьменніка, у складаныя працэсы жыцця. У вобразе Зёлкіна мне хацелася не проста пасмяяцца з чалавечых слабасцей, а паказаць вялікую шкоду, якую нясе гэты чалавек. Хацелася, каб смех гэты быў знішчальны.**

**Барыс ПЛАТОНАЎ,**
**народны артыст СССР.**

Гарлахватаўшчына — гэта не толькі гарлахвацкія. Гэта і іх падпявалы, падручныя, падхалімы і ўгоднікі зёлкіны. Зёлкін шчыра служыць свайму начальству... А каб хоць крыху прыхаваць абсалютную бездапаможнасць у навуцы, ён шальмуе шчырых, сапраўдных працаўнікоў. Драматург б'е прамой наводкай і па гэтаму падхаліму і нікчэмнаму плеткару. Словы: «Пра гэта ведаю толькі я ды яшчэ адзін чалавек» — таксама сталі афарызмам.

Для асяроддзя гарлахвацкіх і зёлкіных вельмі характэрны і такі чалавечы тып, як Туляга. Гэты герой стаў у нас назыўным у такой ступені, як Хлестакоў, Манілаў, Наздроў. Ужо адно прозвішча «Туляга» дае нам разгорнутую і даволі поўную псіхалагічную характарыстыку.

Крытыкі, як правіла, перш за ўсё падкрэсліваюць вялікую баязлівасць гэтага чалавека-дзівака, які ў сваім страху дзесьці пераступае мяжу рэальнага. Але амаль зусім ігнаруецца той факт, што Сымон Мікітавіч Туляга з'яўляецца навуковым супрацоўнікам даследчага інстытута, і, як відаць з самой камедыі, ён сапраўдны вучоны, які мае глыбокія, грунтоўныя веды. А гэта ж таксама важная рыса вобраза Тулягі.

Паўстае пытанне — чаму Туляга такі баязлівы, такі напалоханы? Справа тут, відаць, у той маральнай атмасферы запалохвання і падазронасці, якую стваралі вакол сябе ў свой час гарлахвацкія і зёлкіны.

Вядома, і пасля гэтага Туляга не становіцца для нас героем, баязлівасць ніколі не была адзнакай чалавечай сілы. Але яго ўчынкі, яго душэўны стан для нас ужо не толькі смешныя, але драматычныя. І вобраз Тулягі паўстае перад намі не ў падкрэслена камедыйным, а ў трагікамічным святле. У мастацтве гэта — заканамерная з'ява. У кожным сапраўдным класічным творы новыя пакаленні адкрываюць для сябе нешта новае, сугучнае свайму часу, заўважаюць тое, на што раней не звярталася ўвагі. Новую трактоўку класічным творам перш-наперш дае яго вялікасць Час, яго праблемы і надзённыя патрэбы.

Ёсць творы, здавалася б, вельмі надзённыя і патрэбныя, але — праходзіць час, вырашаюцца тыя праблемы, якія яны ставілі, і творы страчваюць сваю вартасць.

Камедыя «Хто смяецца апошнім» не сыходзіць са сцэны тэатраў ужо больш чвэрці стагоддзя. Яна па-ранейшаму з'яўляецца нашай вострай зброяй у барацьбе супраць гарлахвацкіх, зёлкіных і той маральнай атмасферы, якую яны ствараюць. І гэта лішні раз пацвярджае, наколькі глыбокія жыццёвыя праблемы ўзняў драматург сваім творам.

**КАРАНЕВІЧ. Горш за ўсё крыўдна, што ні разу і не пагаварыў з ёю палюдску. Яна і не ведае, што я за чалавек. Так і будзе думаць, што з бервяном пражыла восем год.**

**«Проба агнём».**

## 1943.

У сваёй чацвёртай п'есе Кандрат Крапіва зноў на парадак дня ставіць пытанні дружбы, узаемаадносін паміж людзьмі. Драма «Проба агнём» нават па сваёй кампазіцыйнай будове нечым нагадвае «Канец дружбы». Толькі ў «Канцы дружбы» героі ставіліся ў больш шырокія дачыненні, а ў «Пробе агнём» канфлікт, на першы погляд, крыху лакальны, перанесены ў сферу асабістых пачуццяў.

Камандзір палка маёр Караневіч і яго жонка Наталля Мікалаеўна, як урэшце выявіцца, добрыя людзі. Тым не менш, паміж імі ўзнікаюць непаразуменні, нават сутычкі. Караневіч — сумленны чалавек, аднак не заўсёды тактоўны. Ён, можна сказаць, нізавошта абражае і крыўдзіць Наталлю Мікалаеўну. І робіць ён гэта не толькі з рэўнасці — дзесьці Караневіч эгаіст, душэўна чэрствы чалавек.

Усё гэта ў яго не сваё, наноснае — герой нават не задумваўся над сваімі ўчынкамі. Але гэтае наноснае шкодзіць людзям, псуе іх узаемаадносіны, калечыць іх жыццё.

Вайна для ўсіх з'явілася найвялікшым выпрабаваннем. Выпрабоўваюцца ў яе агні і героі драмы Крапівы. У цяжкім змаганні выкрышталізоўваюцца іх вялікія, сапраўдныя пачуцці, ачышчаючыся ад штучнага, наноснага. Духоўна ачышчаецца маёр Караневіч, узмужнелай становіцца Наталля Мікалаеўна, якая знайшла ў жыцці сваё цвёрдае месца. Сталее, набывае грамадзянскую загартоўку і лейтэнант Перагуд. І ва ўсіх іх асабістае, інтымнае выпрабоўваецца грамадзянскім, сацыяльным. Але ў той час як гэтае сацыяльнае ў іншых драматургаў часам бывае толькі фонам ці дадатковай нагрузкай, у Крапівы яно становіцца асноўным, арганічным зместам твора. І ў гэтым вартасць драмы «Проба агнём».



**Для мяне драматургія Кандрата Крапівы, калі браць яе ў цэлым, уяўляецца вельмі высокай вяршыняй. З роллю Караневіча я сустрэўся ў цяжкія ваенныя гады. Гэты вобраз быў для мяне своеасаблівым гаючым лякарствам, памагаў пераносіць і асабістае гора. І ён назаўсёды застаўся ў памяці, увайшоў у маё жыццё.**

**Павел МАЛЧАНАЎ, народны артыст СССР.**

**ЯЗВА. Мая задача — паказаць тыя балячкі, якія часамі з'яўляюцца на нашым здаровым целе.**

**«Мілы чалавек».**

## 1945.

На нейкі час пакінуўшы гераічную і псіхалагічную драму, Кандрат Крапіва зноў звяртаецца да сатырычнай камедыі.

У Маякоўскага п'еса «Містэрыя-буф» пафасна, урачыста ўслаўляе ў містэрыяльным плане Вялікі Кастрычнік і адначасова ў буфонным плане саркастычна высмейвае, агнём сатыры вынішчае тыя абломкі і трэскі, якія на грэбнях хваляў выносіла рэвалюцыя.

«Мілы чалавек» Кандрата Крапівы — гэта таксама амаль буфанада. Драматург пяром сатырыка наносіць удар па махлярах і блатмайстрах, якія ў часе вайны выплылі на паверхню жыцця. Зрэшты, вайна ўспрымаецца толькі як водгулле далёкага рэха. Падзеі разгортваюцца ў адным з гарадкоў глыбокага тылу.

Жлукта, пускаючы людзям пыл у вочы, выдае сябе за пляменніка



**Без драматургіі Кандрата Крапівы беларускі тэатр быў бы намнога бяднейшы.**

**Асабіста для мяне ролі з п'ес выдатнага нацыянальнага драматурга ме-**

Луначарскага і творчага работніка. Ён спраўляе свой юбілей дваццацігадовай творчасці, а вось у якой галіне мастацтва ён выступае — пра гэта ніхто не ведае. Ды і сам Жлукта не ўстанавіў, за мастака якога жанру лепш за ўсё сябе выдаваць.

Такія прайдзісветы і хлусы сустракаліся не толькі ў той час, у які адбываецца дзеянне п'есы: хлестакоўшчына ж не прывязваецца толькі да аднаго якога-небудзь канкрэтнага часу, і яе пакуль яшчэ рана спісваць у архіў. Крапіва ў асобе Жлукты паказвае менавіта такую жывучую з'яву.

І яшчэ больш жывучая і пашыраная з'ява — гэта Канягін. Антон Макаравіч Канягін займае высокую пасаду. У адрозненне ад Жлукты, гэта не прайдзісвет, не аферыст, а проста недалёкі, абмежаваны чалавек. Найбольшая слабасць Канягіна — пакланенне перад людзьмі, якія ўмеюць сябе важна трымаць. Гэты правінцыялізм абышоўся яму ўрэшце вельмі дорага.

Камедыйныя стрэлы Кандрата Крапівы трапляюць і ў блатмайстра Жлукту і ў яго апекуна, дабрадзея Канягіна. Гэтыя стрэлы аўтар камедыі давярае свайму герою — драматургу Язве.

Кандрат Крапіва ў «Мілым чалавеку» карыстаецца дасціпным прыёмам. Дзеянне ў п'есе вядзе драматург-камедыёграф Язва. Усё, што адбываецца на яго вачах, Язва запісвае на паперу — стварае сваю п'есу. Прытым, ён — не пабочны назіральнік, не ўстаўная асоба, ён такі ж актыўны, як і іншыя героі камедыі. Яго асноўная задача — весці камедыю да канца, скіроўваючы падзеі ў патрэбнае рэчышча.

**лі найвялікшае значэнне. Больш дваццаці пяці год я не разлучаюся з вобразам Тулягі. Цікавай, па-сапраўднаму хвалюючай была мая сустрэча і з камедыёграфам Язвам у творы «Мілы чалавек». Язва выносіць свой прысуд блатмайстру Жлукту не толькі ад свайго імя, але і ад імя самога аўтара. І мне было вельмі прыемна выступаць у гэтай ролі, гаварыць з гледачамі таксама і ад імя драматурга Кандрата Крапівы.**

**Глеб ГЛЕБАЎ,**
**народны артыст СССР.**

Драматургічны прыём сам па сабе ўмоўны. Усё адбываецца на мяжы рэальнага, і калі ацэньваць з пазіцыі бытавой дакладнасці, то гэта можа здацца крыху неверагодным. Але ў тым якраз і заслуга Крапівы, што падзеі, характары, па-камедыйнаму ўзбуйненыя, завостраныя, не пераходзяць у шарж ці карыкатуру. Яны не трацяць сваёй жыццёвай праўды і актуальнасці, і ў гэтым баявая сіла камедыі «Мілы чалавек», аднаго з самых вострых драматычных твораў пісьменніка.

**— Вырадкі праклятыя!**
**— Звяругі!**
**— А нашы — героі. На смерць ідуць з узнятай галавою.**
**— Героі. Шапку перад імі трэба здымаць.**

**«З народам».**

## 1948.

Прайшла вайна, адгрымелі залпы пераможнага салюта. Людзі вярнуліся да мірнага жыцця. Але тэма Вялікай Айчыннай вайны яшчэ надоўга застаецца магістральнай у нашым мастацтве. Усё больш з'яўляецца твораў псіхалагічнага і філасофскага плану: мастакі шукаюць перш-наперш карэнні найвялікшага ўсенароднага гераізму, які здзівіў усё чалавецтва.

У цэнтры драмы Крапівы «З народам» — папулярны кампазітар Павел Андрэевіч Гудовіч. Ён заўсёды — і ў мірныя часы, і ў чорныя дні акупацыі — сваімі справамі, помысламі звязаны з людзьмі. Антыпод Гудовіча — Шкуранкоў. Ужо адно прозвішча гаворыць пра яго ўнутраную сутнасць: ладзіць сваё маленькае шчасце на няшчасці другіх.

Тэма мастак і народ, якую Крапіва ў драме бярэ за генеральную, узнімаецца да праблемы агульначалавечай і вырашаецца з пазіцый народных. Праўда, бывае драматург дэкларатыўны, яго публіцыстычная страснасць не падмацоўваецца псіхалагічнай глыбінёй раскрыцця характараў. Але ўсё гэта — толькі ў асобных выпадках. У цэлым жа драму «З народам» можна лічыць сімвалічнай: назва твора датычыць не толькі канкрэтнага зместу п'есы, але як бы абагульняе кірунак усёй драматургіі Кандрата Крапівы, усяго яго пісьменніцкага шляху.



**Кандрата Крапіву і рэжысёра Канстанціна Саннікава звязвала доўгая асабістая і творчая дружба. Пачынаючы з «Партызанаў», ён ставіў амаль усе новыя п'есы драматурга. У драме «З народам» яго захапляла думка, што кожны патрыёт можа і павінен знайсці сваё месца ў народнай барацьбе з ворагам.**

**(Паводле ўспамінаў Л. Шынко пра К. САННІКАВА.)**

**ПАЎЛІНА. Усё толькі есці ды есці. Гэта жывёла пад'ела, дык нічога ёй больш і не трэба. І то цяперашняя жывёла любіць, каб у яе ў хляве і акно было, каб і электрычнасць гарэла ноччу. А чалавеку ж крыху больш святла патрэбна, чым карове.**

**«Пяюць жаваранкі».**

## 1950—53.

Гэтыя гады былі цяжкія для савецкай драматургіі. Славутая «тэорыя» бесканфліктнасці пладзіла п'есы шэрыя і нудныя. Паслабляўся і нярэдка нівеліраваўся канфлікт, здрабняліся і самі героі.

Кандрат Крапіва, тонкі знаўца душы драматычнага твора, разумеў, што без канфлікту няма руху, няма п'есы. І ён выступае за вострую, напружаную барацьбу думак і пачуццяў у драматычным творы. Адзін з тэарэтычных артыкулаў Крапівы так і называўся: «Канфлікт — аснова п'есы». Але рэалізаваць свае думкі ў мастацкім творы было не вельмі лёгка. «Тэорыя» бесканфліктнасці адбілася таксама і на драмах Крапівы. Асабліва прыкметныя страты былі ў п'есе «Зацікаўленая асоба», якая ўбачыла свет у 1953 годзе.

Адбітак агульнай хваробы, якая лютавала тады ў драматургіі, лёг і на камедыю «Пяюць жаваранкі». Калі больш пільна прыглядзецца да яе, то не цяжка заўважыць, што ў аснове канфлікту ляжыць ба-



**Кандрат Крапіва не толькі выдатны знаўца народных характараў. Ён выдатны знаўца і акцёраў, іх творчых індывідуальнасцей, і свае ролі пісаў менавіта з разлікам на гэта.**

**Мне заўсёды хацелася іграць ролі беларускіх жанчын, нашых сучасніц. Гэта маё асноўнае прызванне. І я атрымлівала такія ролі, дзякуючы дра-**

рацьба выдатнага з добрым.

Падкупляе, захапляе ў камедыі іншае. Крапіва, звяртаючыся да жыцця людзей калгаснай вёскі, зноў натрапляе на сваю залатаносную жылу. Яму вельмі зразумелы і блізкі побыт беларускага сялянства, вельмі родныя вобразы людзей. І ўсё гэта, прайшоўшы праз творчую прызму пісьменніка, становіцца ў камедыі сапраўды народным. У побыце і жыцці людзей, у іх характарах і ўчынках ёсць ярка выражаная самабытнасць. Народнасць свеціцца тут святлом чыстага золата. І менавіта ў гэтым

**матургіі Крапівы. Радаснай была для мяне сустрэча з вобразам Паўліны Бохан у камедыі «Пяюць жаваранкі». Які сакавіты, багаты матэрыял для работы! Творы Крапівы памагалі раскрыцца маёй артыстычнай індывідуальнасці.**

**Вера ПОЛА,**
**народная артыстка БССР.**

каштоўнасць камедыі «Пяюць жаваранкі». Што ж да яе асноўнай думкі — што чалавек жыве не адным толькі хлебам — то яна актуальная і па сённяшні дзень.

ЦЁТКА. Засада не выпадковая. Нехта данёс.

«Людзі і д'яблы».

**1958.** Кандрата Крапіву з поўным правам можна назваць песняром народнага подзвігу і гераізму. Яго апошняя п'еса — «Людзі і д'яблы» — уваскрашае падзеі ваеннага часу, калі гераічнае выяўлялася з асаблівай сілай і штодзень. Вось чаму і героіка тут своеасаблівая — без знешняй патэтыкі, без узнёслай пафаснасці. Каго б з герояў п'есы мы ні ўзялі — усе яны гераічна змагаюцца з ворагам, змагаюцца з такім адчуваннем, нібы робяць штодзённую работу.

У п'есе «Людзі і д'яблы» драматург па-мастацку даследуе чалавечыя характары, раскрывае тыя прычыны і абставіны, калі людзі пераставалі быць людзьмі і станавіліся д'ябламі. Скробат купіў сваё жыццё цаною здрадніцтва, якое вельмі дорага каштавала людзям.

У п'есе «Людзі і д'яблы» ёсць моцнае пачуццё любві да змагароў і нянавісці, агіды да здраднікаў, правакатараў. Драматург змагаецца супраць нелюдзяў гнеўна, страсна, з высокім грамадзянскім пафасам. Бой атрымаўся сапраўдны. Ён не пакідае нікога раўнадушным, таму што вядзецца за сапраўднага чалавека.



**У мяне было некалькі цікавых сустрэч з яго п'есамі, асабліва з вобразамі Юркі («Канец дружбы») і Насці Вярбіцкай («Пяюць жаваранкі»). У п'есе «Людзі і д'яблы» я іграла невялікую ролю падпольшчыцы «Цёткі». Старалася як найлепш данесці да гледача гэты вобраз, бо драматургія Крапівы абавязвае да поўнай творчай аддачы.**

**Ірына ЖДАНОВІЧ,**
**народная артыстка БССР.**

Больш трыццаці год стварае Крапіва свой тэатр. Не ўсе яго драматычныя творы сталі класічнымі. Але ў кожным з іх — самае важнае, самае характэрнае для свайго часу. І, можа, менавіта таму тэатр Кандрата Крапівы такі жыццяздольны і баявіты. Без яго ўжо нельга ўявіць сёння нашу драматургію і наогул нашу нацыянальную культуру.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**



Зінаіда **МАЖЭЙКА**

# ГОЛАС ПАЛЕСКІХ ПРАСТОРАЎ

**Нарыс**

«Паслухайце! Гэта ж ніколі не хлусіць!»

Сэнс гэтых слоў, якія належаць тонкаму знаўцу народнай песні кампазітару Лядаву, глыбей за ўсё раскрываецца пры сустрэчах з народнымі спевакамі: менавіта яны памагаюць глыбей зразумець працэсы нараджэння і жыцця народнай песні, народнае майстэрства і народную эстэтыку.

Нямала выдатных народных спевакоў сустрэлася мне ў палескай вёсцы Тонеж, што раскінулася сярод лясоў непадалёку ад старажытнага Турава. У гэтых нататках мне і хацелася б расказаць пра некаторых з іх.

## ГАННА ПАЎЛАЎНА ВЯНГУРА

У Тонежы ні адно вясковае свята, ні адна сямейная ўрачыстасць не абыходзіцца без Ганны Вянгуры.

— Усе песні знае Ганна, — колішнія і новыя. Знае і казкі, і загадкі, можа развесяліць і ўжалабіць...

Яшчэ ў трыццатыя гады, калі ў Тонежы працавала комплексная экспедыцыя Акадэміі навук СССР і Беларусі, Ганна Вянгура «спявала ў трубу» (фанограф). Гэтым яна вельмі ганарыцца. У апошні свой прыезд у Тонеж я наладзіла праслухоўванне гэтых запісаў, скапіраваных у Ленінградскім фанаграмархіве. Ганна прыйшла задоўга да таго часу, на які дамовіліся. Прывяла з сабою сваякоў і знаёмых не толькі са сваёй, але і з навакольных вёсак, і ўсе яны на дзіва цярпліва чакалі, калі «наладзяць магніт і завядзе Ганна».

У сорак першым годзе Ганнін муж пайшоў на фронт, а яна засталася з траімі дзецьмі, старэйшаму з якіх было сем гадоў. Неўзабаве і чацвёртае нарадзілася. Здзіўляешся, адкуль толькі бралася сіла ў гэтай з выгляду шчуплай, хваравітай жанчыны, калі яна, павесіўшы калыску на хвоі і абвязаўшы дзіцяці горла ручніком, каб «не крычала, ды немцы не ўчулі», паўзла па карчах у спаленую вёску, «каб разгрэбсці попел, назбіраць гарэлых качаноў і картоплі ды дзяцей накарміць...»

— Трапляла я і к немцам, — расказвае Ганна Вянгура, — але парашыла: хай, думаю, вочы павынімаюць, на кускі парэжуць, а ў лес не павяду — там жа дзеці мае, там жа ўсе нашы людзі!

Ва ўражлівай, чэпкай, як у мастака, Ганнінай памяці падзеі тых гадоў захаваліся так ярка, і расказвае пра іх Ганна так жыва і маляўніча, што, здаецца, усё гэта адбываецца на нашых вачах.

Вось яе схапілі эсэсаўцы і прывезлі ў свой штаб.

— Ох, мамачкі! Кінжалы на сценах, кулямёт сярод хаты, куры ў мяшках, а самі ўсе такія рамянячыя! Адзін, мурло, паліць у печы. «Усе вы, рускія, свінні, — кажа ён. — Але ты харошы паненка, і мы цябе расстраляем, як сама захочаш: хочаш — з аўтамата, хочаш — з нагана». Вывелі мяне на двор. Ах, дзетачкі мае! Бачу — уцячы я не ўцяку — гэтулькі немцаў ды паліцаяў! А тут звозчыкі як загалосяць: «Паночкі... паночкі, пусціце яе, яна не партызанка, у яе гіндаляў (кіндэраў) багата!» «Добра, — зноў кажа тое мурло,— пойдзеш к сваім гіндалям, калі ўправішся абскубсці за 8 мінут 8 курэй. Не ўправішся — расстраляем».

— Ох, доля мая горкая! Ухапілася я за тых курэй, але тут падышоў немец, — рукі ў яго чорныя, парэпаныя... Яны ж, немцы, тожа ўсякія бываюць, гэты ўжо не карнік, а так, мусіць, просты, — ухапіў ён тых курэй ды пад плот, а мяне за плот штурхае: «Уцякай да дзяцей»... От тады мяне і ранілі, і шрам на галаве з таго яшчэ. Бягу я, па мне з кулямёта ляскочуць, а я думаю: мне б толькі ў карчы, немец у карчах не ваяка.

А ў лесе пайшла ўжо спавагá. Немцы лесу баяліся, а нам ён — родны дом. Іду я так па лесе, ды ўтамілася. Дайшла да Слабады (суседняя з Тонежам вёска.— **З. М.**)... Ах, божа ж мой, Слабада гарыць! Ці ў мяне сэрца забілася, ці з таго жалю, але ісці далей няма як. Стаю я ды так плачу, што свет у слязах таплю. А Слабада гарыць, і немцы там на гармоніку граюць.

Ах, ліха ж на іх,
Тыя ж паразіты, ды тыя бандзіты!
А дзе ж мая сякера,
Каб усіх іх выбіць ды выразаць,
Каб ні аднаго фашыста не было нідзе!

Так Ганніна апавяданне непрыкметна пераходзіць у сказ-праклён. Ды па сутнасці многія яе апавяданні пра трагічныя падзеі ў вёсцы пад час Айчыннай вайны — гэта і ёсць апавяданні-прычоты з ледзь улоўным пераходам моўнай інтанацыі ў музычную.

Ганна Вянгура — уся светлая. Светлая яе ўсмешка, светлы адкрыты твар з блакітнымі, добрымі, крыху журботнымі вачамі, у якіх то затуманіцца летуценнасць, то ўспыхнуць агеньчыкі мяккага гумару. На першы погляд яна здаецца ціхай, нясмелай, нават пасіўнай. Але як толькі сыдзешся з ёю бліжэй, адразу бачыш, якая яна ўражлівая, назіральная, чулая — нішто не пройдзе міма яе ўвагі.

Прырода шчодра надзяліла Ганну талентам. У ткацкім мастацтве і ў вышыўцы мала хто можа зраўняцца з ёю. Яе андаракі і кабаты здзіўляюць прыгажосцю і тонкім густам. А ў майстэрстве слова — гэта крыніца народнай мудрасці. Слухаеш яе мяккую пявучую гаворку, і здаецца, што тут, пры табе, нараджаецца новая казка, легенда.

Песенны рэпертуар Ганны Вянгуры — цэлая гісторыя ў гукавых вобразах. Ганна перадасць вам усё, пачынаючы ад колішніх вясновых «загуканняў» і канчаючы найноўшай калгаснай прыпеўкай. Яна цікавіцца ўсім новым у песенным быце вёскі, вельмі засмучаецца і бянтэжыцца, калі не ведае якой-небудзь песні. Але самыя любімыя яе песні — «колішнія». «Як была дзеўкай, дык гэтыя песні не ў модзе было спяваць, а цяпер старэю, дык і песня старая вядзецца», — гаворыць яна.

Спявае Ганна Вянгура вольна, песня ў яе «вядзецца сама па сабе». На жаль, ніякімі словамі нельга перадаць тое пачуццё, якое завалодвае душою, калі Ганна заводзіць:

Да було ж (ы) у бацькі-ж (а)
Да дзевяць сыноў,
Да дзевяць сыноў,
Дзесята-ж (ы) дачка...



Спявае яна на свой лад: адны гукі крышачку зацягвае, другія «па-паляску» не выпявае, а ледзь чутна прамаўляе гаварком. Яна нібыта вольна расказвае песню, і адчуваецца, што песня для яе — не забава, а неад'емная частка яе жыцця, выказніца самага запаветнага, што жыве ў яе багатай, шчодрай душы.

Такіх жанчын, як Ганна, у вёсцы, звычайна, бывае некалькі. Усе іх любяць і паважаюць. Некалькі іх і ў Тонежы. Смерць адной з іх — Моці Кондзік — уся вёска ўспрыняла, як вялікае гора. Калі Моцю хавалі, жанкі Тонежа «крычалі на ўсю галаву», бо «спявуха ж была, такая галасная, усюды яе было чутно, голас ляцеў пад самае неба».

## ДАЎГАРАДСКІ ГУРТ

На Палессі больш за ўсё любяць спяваць гуртам. Падбіраюцца такія гурты няпроста. І справа не толькі ў добрых ці благіх спеваках. Апошніх тут, у гэтых саматугам створаных ансамблях, наогул цураюцца. Нялісанай умовай для кожнай спявачкі, якая жадае ўступіць у гурт, з'яўляецца яе творчая вынаходлівасць у спевах, якая, аднак, не павінна выходзіць з рамак, прыймальных для ўсяго калектыву спевакоў. Калі ж новая спявачка не адпавядае гэтай умове, г. зн. калі ў яе выкананні адсутнічае творчы момант, «у кампанію» яе прымаць не хочуць: «З ёй весці пагана, яна спявае прама...»

Не прымаюць у свой гурт спявачку і тады, калі яна імправізуе ў манеры, чужой слухавым навыкам гурту: «Ніхто з ёй спяваць не будзе, яна заводзіць модна».

Сярод ансамбляў, якія склаліся самі па сабе і добра спеліся, у Тонежы славіцца даўгарадская (па назве вуліцы) група спявачак, куды ўваходзяць Ганна Вянгура, Хрысця Дарашэвіч і Вара Раўкоўская. Па знешняму выгляду і па характары гэта зусім розныя людзі. Ганна Вянгура — лірык, натура ўражлівая, паэтычная, з багатай фантазіяй. Заспявае — і ўся нібы расцвіце, засвеціцца, а калі песня будзе «абідлівая», то і слёзы заблішчаць у яе на вачах.

Хрысця — парывістая, неспакойная. Спявае з невыказным захапленнем, уся аддаючыся песні. Закончыўшы спяваць, любіць кінуць рэпліку-каментарый. Вось яна спявае песню «Вы палі, вы палі, вы шырокія», якая ўзнікла ў гады Вялікай Айчыннай вайны:

На германскай зямлі
Там нічога не расце,
Там нічога не расце,
Толькі траўка кустава,—

і тут жа адразу кідае: «Упяклася нам гэта Германія, то там, па-нашаму, ужо нічога і не расце».

Паважная, павольная ў рухах і спакойная па натуры, Вара Раўкоўская ўраўнаважвае гэты невялікі гурт, падтрымлівае яго працавітасць. За ўвесь час работы экспедыцыі яна ні разу не спазнілася на запіс. Мне яшчэ ніколі ў сваіх паездках не даводзілася сустракаць такую надзейную апору.

Нягледзячы на рознасць характараў, Раўкоўская, Дарашэвіч і Вянгура — адзіны цэласны калектыў, у якім знаходзіць сваё яркае праяўленне палеская народная школа спеваў.

Трэба бачыць гэтых жанчын, якія, сабраўшыся ўтраіх пасля нялёгкага працоўнага дня (працаваць у экспедыцыі даводзілася ў летнія месяцы — самую гарачую пару касавіцы і жніва), гатовы спяваць без стомы пры святле лямпы ўсю ноч, каб зразумець, якое месца ў іх жыцці займае песня. А песень яны ведаюць безліч.

Хто ў гэтым калектыве вядучы, сказаць цяжка, кожная са спявачак —

у пэўнай меры творца. Страсная, парывістая Хрысця нібыта імкнецца вырвацца з агульнага ансамбля, ведучы за сабой астатніх, Вара спакойна ўціхамірвае ўсіх, а Ганна паслухмяна вядзе сваю партыю, не ўпускаючы, аднак, магчымасці перахапіць ініцыятыву ў Хрысці, памерацца з ёю ўмельствам весці падгалосак. Але ўсе яны чуйна прыслухоўваюцца адна да другой, тонка адчуваючы агульны лад песні.

Усе песні на Палессі дзеляць на «не падводзячыя» (або «песні на адзін голас») і «з падводкай» (або песні «на два галасы»). Уменне «падводзіць» цэніцца вельмі высока і ў нейкай меры з'яўляецца крытэрыем прафесіяналізму ў палескіх народных спевах. «Чым больш басоўшчыкаў (тых, хто вядзе ніжні голас), тым лягчэй падводзіць», — гавораць народныя спявачкі. У невялікіх калектывах спевакоў «басаваць» выбіраюць «крэпкі голас». У даўгарадскім ансамблі такі голас у Вары: па словах яе таварышак,— яна «басуе, як той вол». Ведучы асноўную мелодыю, Вара дае добрую аснову для імправізацыйнай фантазіі «падводчыцы» (Хрысці або Ганны) і ў залежнасці ад «падводкі» таксама мяняе сваю меладычную лінію. «Падводчыца», у сваю чаргу, таксама вельмі ўважліва прыслухоўваецца да партыі «басуючых». Так верхні акрабат строга каардыніруе кожны свой рух з ніжнім: першы ўзлятае тым вышэй, чым больш устойлівы апошні.

## КРЫВУЛЬСКІ ГУРТ

Старэйшай яго ўдзельніцы — Палагеі Міхайлаўне Алесіч — за 80 гадоў. Вялікі знаўца абрадавай песні, нязменны распарадчык зажынак, калядаванняў, вяселляў, Палагея Міхайлаўна — як бы пачэсны старэйшына свайго калектыву. Тут яе ўсе слухаюць, паважаюць, звяртаюцца да яе за парадаю.

У Крывульскім гурце — чацвёра жанчын з адной вуліцы: Палагея Міхайлаўна Алесіч, Таццяна Аляксееўна Сафонава, Кацярына Пятроўна Вянгура і Настасся Лявонаўна Палуянава. Ахвотней за ўсё крывульскія гуртоўшчыцы спяваюць лірычныя песні, сапернічаючы паміж сабою ва ўмельстве «падводзіць», хоць першае месца адзінадушна прызнаюць за Таццянай Сафонавай. Любяць яны і традыцыйныя абрадавыя песні, толькі ж іх абы-калі не заспяваеш, бо людзі смяяцца будуць: «Во, дурныя, на вялікдзень каляду завялі...» Выключэнне робіцца хіба толькі для жніўных песень: «Жніво можна спяваць і за дзве нядзелі да жніва, і не толькі ў полі, а і сам сабе дома, або пойдзеш у лес ды на ўвесь лес спяваеш...»

У першую ж нашу сустрэчу Сафонава, Вянгура і Палуянава ўхвалілі мой занятак: «Песні мы табе перададзім. Няхай іх учуць. Гэтыя песні ўсе ў жыцця бяруцца». Але «брацца на ленту» яны катэгарычна адмовіліся, нягледзячы на тое, што і ўтраіх спявалі хораша: «Пакліч старую. Без яе ў нас няма парадку».

Прыйшлося ісці зваць Палагею Міхайлаўну. Дзіўнае ўражанне робіць на першы погляд гэтая жанчына. Невысокая, згорбленая, з цёмным, маршчыністым тварам, яна здавалася б вельмі старэчай, калі б не вочы, жывыя, бойкія, разумныя і смяшлівыя, нібыта гады і нялёгкае жыццё, якія расстарылі яе ўсю, не кранулі вачэй. Пазней, калі яна заспявала, такое ж уражанне было і ад яе голасу: нібыта слухаеш не васьмідзесяцігадовую старую, а запіс яе голасу, зроблены гадоў трыццаць назад.

Колькі я ні ўгаворвала Палагею Міхайлаўну, колькі ні прасіла і ад свайго імя, і ад імя ўсяго гурту ісці спяваць яна катэгарычна адмовілася: «Стара, негажá... Няхай пяюць маладыя, а я ўжо сваё адспявала»,— упарта гаварыла яна. Сказаўшы на развітанне, што мы яе будзем



чакаць, я, аднак, была ўпэўнена, што так і не пачую яе голасу.

Прайшло каля гадзіны. Палагеі Міхайлаўны не было. Мы сабраліся рабіць запіс. Я наладзіла мікрафон, спявачкі падселі да яго бліжэй, як раптам у хату паважна ўвайшла, — ды і не ўвайшла, а ўплыла! — Палагея Міхайлаўна Алесіч. Усё на ёй аж ззяла чысцінёй і святочнасцю: прыгожа вышытыя кабат і фартух, упрыгожаная ўнізе каляровымі палосамі спадніца і новы чэпчык, што выглядваў з-пад светлай хусткі. Каля гадзіны спатрэбілася ёй, каб сабрацца «запісваць на магніт голас»: трэба было адшукаць закладзеныя недзе на самым дне скрыні святочныя ўборы, з якіх вышыты кабат і фартух яна насіла, мусіць, яшчэ ў маладыя гады.

З таго разу не было выпадку, каб Палагея Міхайлаўна не прыйшла на запіс або прыйшла, апранутая па-будзённаму. Жанчынай яна аказалася з норавам, і яе трэба было доўга ўгаворваць, робячы выгляд, што ты нібыта і сапраўды верыш, што яна можа не прыйсці спяваць. Абысці ж яе ў запісе Крывульскага гурту хоць бы адзін раз было б, бадай, самай вялікай крыўдай у яе жыцці.

Ад Крывульскага гурту я запісала новыя варыянты песень, якія спяваюць у Даўгарадскім гурце. Здаралася так, што крывульскія спявачкі ведалі некалькі варыянтаў адной і той жа песні. Яны толькі пыталіся: «А заводзіць як — па-колішняму ці па-новаму?» Так было з шырока вядомай у Тонежы песняй «Прымак». І цікавей за ўсё тое, што ўспомніла і перш за ўсіх ўзяла песню «на новы голас» Палагея Міхайлаўна Алесіч, даказаўшы гэтым самым, што песенная эстафета ідзе не толькі ад старэйшага пакалення да малодшага, але, у нейкай ступені, і наадварот.

## СЁСТРЫ САФОНАВЫ

Галя і Феня Сафонавы — вясёлыя, працавітыя дзяўчаты. Калісь іх маці, калі ёй было столькі гадоў, колькі цяпер дочкам, нідзе далей сваёй вёскі не была. Галя ж і Феня пабылі ў многіх гарадах і вёсках, і круг іх уражанняў вельмі шырокі. Звыклая справа для іх — радыё, кіно. Новыя песні яны не толькі слухаюць, але развучваюць і спяваюць у хоры сельскага клуба.

Музычныя здольнасці ў дзяўчат незвычайныя. У хоры яны — вядучыя спявачкі. Талент у Галі такі яркі, што яе музычны аўтарытэт прызнаны ўсёю вёскай. Голас у Галі мяккага, прыгожага тэмбру і шырокага дыяпазону. Выдатна спраўляючыся з нізкімі альтовымі партыямі, яна ў той жа час — лепшая «падводчыца» хору. У 1956 годзе разам з тураўскім народным хорам яна выступала на Другой дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

Па натуры Галя — мастак. Калі яна спявае, твар яе загараецца сапраўдным натхненнем, і тады нічога, акрамя песні, для яе не існуе. Фальшывую ноту яна чуе адразу, «хоць тут сто чалавек пастаў», і сяброўкі часам скардзяцца: «Табе не ўгодзіш...»

Сясцёр Сафонавых можна пачуць не толькі ў хоры, а і ў клубе перад пачаткам кінасеанса або танцаў, ці калі яны проста гуляюць па вуліцы разам з усёй тонежскай моладдзю. Спяваюць яны і «самі па сабе» — дома, на рабоце.

Цікава, што спяванне «для сябе» ў народных спявачак шмат у чым адрозніваецца ад спявання ў хоры: тут найбольш ярка праяўляецца ўсё тое, што ім найбольш блізка, што ўваходзіць у іх свядомасць, як сваё. І калі параўнаць запісы, зробленыя на канцэртах мастацкай самадзейнасці, з запісамі тых жа песень, праспяваных праз некаторы час «для сябе»

(прытым, «для сябе» спяваецца далёка не ўсё, што вывучана ў хоры для канцэртаў), розніца будзе відавочная.

Вывучаныя ў мастацкай самадзейнасці песні савецкіх кампазітараў, якія паводле няпісаных народных крытэрыяў праўды ў мастацтве прызнаны «праўдзівымі», трывала ўваходзяць у песенны быт вёскі, набываючы пры гэтым рысы, характэрныя для народнай выканаўчай манеры. А народны крытэрый праўды вельмі высокі. Гэта варта было б улічваць некаторым нашым самадзейным і прафесіянальным кампазітарам. Вясковыя дзяўчаты часам ахвотней спяваюць «для сябе» колішнюю лірычную песню, чым сучасную. «Колішняя больш праўдзівая», — кажуць яны.

Але бывае і так, што народ прымае песню таго ці іншага кампазітара, як сваю, не мяняючы ў ёй ніводнага гуку. Гэта ў тых выпадках, калі новае ў песні спалучаецца з традыцыяй арганічна і глыбока. Так, «Лясную песню» У. Алоўнікава палескім дзяўчатам доўга вучыць не прыйшлося — яна «сама лягла ў іх на голас», і гэты голас шчасліва супаў з «голасам» кампазітара.

## СЕРАФІМА ПЯТРОВА

Яна — даярка з калгаса «Праца», яшчэ маладая жанчына, разумная, энергічная. Ва ўсім яе вобліку — у прыгожым, мужным твары, у чорных вачах — адчуваецца воля і смеласць. Пра бясстрашныя ўчынкі Серафімы ў гады вайны расказваюць цэлыя легенды. Не раз яна і харчы партызанам вазіла, і ў разведку хадзіла. «Мяне не абдурыш і не зловіш, я жонка лесавая, знаю, што к чаму. Ды і сякера заўсёды пры мне была», — з усмешкаю расказвае яна.

Застаўшыся пасля вайны без мужа, з трыма дочкамі, Серафіма, акрамя работы на ферме, і дома правіць усю работу — і мужчынскую, і жаночую. У першыя ж дні нашага знаёмства яна не без гонару паказала мне ўсю сваю гаспадарку — карову, цяля, свіней, сабак, качак, курэй, пералічыла, колькі душ ёй трэба пракарміць, акрамя сям'і, і тут жа весела ўсміхнулася: «Але нічога страшнага няма, я ўжо як гуляю дык гуляю, а калі раблю, дык пашчады няма — за час зраблю, што каму трэба рабіць два дні».

Серафіма працуе ад цямна да цямна, але скаргі ад яе не дачакаешся. Нават у першыя пасляваенныя гады, калі даводзілася «зямлю засяваць без коней, а хаты ставіць без мужыкоў», калі ля помніка расстраляным немцамі вяскоўцам галасілі асірацелыя дзеці і ўдовы, Серафіма развясельвала людзей задорнай прыпеўкай:

Ой, вайна, вайна, вайна,
Нарабіла што ж яна:

Я карова, я і бык,
Я і баба, і мужык.

Бунтар па натуры, Серафіма не лічыцца з вясковымі звычаямі і прывычкамі, не баіцца ні насмешкі, ні перасудаў. Наадварот — тонежскія жанчыны пабойваюцца яе: «Не дай бог узлаваць Серафіму!».

Не прызнае Серафіма і раздзялення песень на мужчынскія і жаночыя, і нават болей любіць мужчынскія. Ёсць песні, замацаваныя за ёю ў ансамблі з мужчынамі. І хоць іх ведае ўся вёска, але спяваць не хочуць, бо «ніхто гэтую песню не выведзе так, як Серафіма, Змітрок і Адам». Гэта датычыць перш за ўсё вядомай даўняй песні сацыяльнага пратэсту «Галота». Напеў тонежскага варыянту «Галоты» адрозніваецца сваім размахам ад іншых варыянтаў, якія бытуюць у Беларусі, дзе роўная вальсавасць напеву як бы змякчае тэкст. Значна ўзмоцнены вобраз і ў самім тэксце тонежскага варыянту. Супаставім дзве страфы.

| **У зборніку Шырмы, Цітовіча:** | **Тонежскі варыянт:** |
|---|---|
| Дробна драбніца, дробна драбніца;<br>Дробны дождж ідзе.<br>Ой сабралася бедна галота,<br>Мёд-гарэлку п'е. | Ой да пацямнела, ой да пахмурнела,<br>Да стаў дождж накрапаць.<br>Ой да сабралася няшчасна галота<br>У карчму піць-гуляць. |

І раней мне не раз даводзілася чуць гэтую песню, але тут, у мужчынскім выкананні, з запевам Серафімы, яе асноўны сэнс — суровая сіла, стыхійны размах — выступае асабліва ярка. Спявае Серафіма энергічна, размашыста, з рэзкімі націскамі, падкрэслена мяняючы галосную пры распеве на адным складзе:

Ой, пасею хмелю зялёнага,
дый навару мёду салэодкага...

Нават палескія жніўныя песні, гэты сапраўды распеты плач, у выкананні Серафімы — скарга з замахам кулаком. У жніўных песнях, якія спявае Серафіма, на першым плане — сацыяльны пратэст:

А наш пан — баран, баран,
Не пускае дамоў зарань.

Наша пані ды авечая,
Нас дзяржала дый да вечара.

У вас тута не па-нашаму,
Трасца мацер, бацьку вашаму.
Ой снедання — пад абедання,

Ой абед жа да пад вячэру (2),
А вячэра к беламу свету (2),
А жанчыкам отдыху нету.

Пры ўсёй мужнасці, пры энергічнасці сваёй натуры Серафіма ў той жа час глыбока адчувае і любіць традыцыйныя лірычныя песні з іх мяккім, журботным каларытам. І спявае яна іх неяк па-свойму, па-асабліваму, з нечаканымі прыцішэннямі гучнасці, мякка, задушэўна. Гэта асабліва заўважаецца ў жаночых «абідлівых» песнях:

Каму месяц, каму ясны,
А мне ночанька ды туман.

Каму жызня развясёла,
А мне горачка ды пячаль.

Праўда, праспяваўшы такую песню, Серафіма тут жа кіне: «Хваробу! Сама я не загарую. Але песня ўжо такая павялася»...

Першы запявала ў мужчынскіх ансамблях, Серафіма ў той жа час — неафіцыйны дырыжор стыхійнага хору даярак. Нейкая невідочная сіла прыцягвае да яе і пятнаццацігадовых дзяўчынак, і пяцідзесяцігадовых жанчын. Мне не раз даводзілася назіраць, як пры ёй усе яны неяк міжволі падцягваліся, мужнелі, а невысокая Серафіма здавалася між іх высокай і дужай. І да канца песні жанчыны трымалі тон, зададзены Серафімай у запеве «Галоты».

## СЦЯПАН ДУБЕЙКА

Яшчэ ў Тураве даводзілася мне чуць пра тонежскага пастуха Сцяпана Дубейку: «Зыйшоўся ён раз са сваім таварышам у тураўскай сталовай і заспявалі. Што тут было! Людзі проста дзверы ламалі, і афіцыянткі ўсе чыста прыціхлі ды толькі просяць яшчэ праспяваць».

Славай лепшага спевака карыстаецца Дубейка і ў самім Тонежы. «Найдзі ў лесе Сцяпана, і больш нікога шукаць не трэба, ён цэлую торбу (магнітафон «Рэпарцёр».— **З. М.**) запоўніць»,— раілі мне тонежцы. Мужчыны пры гэтым некалькі іранічна ўсміхаліся: ён, маўляў, «і бабскія песні выводзіць», але расказвалі пра яго з гонарам і нават з нейкім здзіўленнем.

Аднак знайсці Дубейку было не так проста. Чалавек ён не гаваркі, і я прыдумляла многа падыходаў, як яго ўгаварыць, каб заспяваў, каб

згадзіўся запісаць свае песні. Але ўсе мае падыходы развеяліся, як дым, пры сустрэчы з самім Дубейкам. Высокі, малады, прыгожы мужчына глядзеў на мяне праніклівымі спакойнымі вачамі мастака, у позірку яго можна было прачытаць спачуванне.

Дубейка сам пачынае размову. Ён просіць прабачэння, што прымусіў сябе доўга шукаць. «У мужчын не заведзена спяваць без прычыны,— кажа ён.— Назбіралася б людзей і смяяліся б з мяне: чаго гэта Сцяпан-дурань ні з таго, ні з сяго распеўся... Вы б адразу дадому да мяне прыйшлі»,— ён вінавата ўсміхаецца, яго сурова-горды, крыху пануры твар становіцца мяккім і добрым. Дубейка не задае звычайныя пытанні, навошта запісваць песні, ён інстынктыўна адчувае, што гэта — трэба. Строгі крытык благіх спевакоў і няўдалых запісаў, Дубейка не адзін раз наводзіў мяне на думку, што народ — не толькі першы мастак-кампазітар, але і першы мастацтвазнаўца: «О-о! Старынную песню як запяеш, дык замячацельна. Не гарачыся, не спяшы, гэтыя песні трэба спавага́ спяваць».

Свет гукаў — яго святыня. Дубейка дасканала валодае майстэрствам імправізацыі: здаецца, ён не спявае, а на вачах стварае песню, тонка расквечваючы сваім багатым на адценні голасам кожную фразу, нібыта той казачнік, які не проста перадае змест казкі, а натхнёна, зрокава адчувальна малюе ўсе яе дзівосы.

Магчыма, з-за гэтай ярка выражанай сваёй манеры спеву ў гурце не могуць з ім «так цягнуць» і дазваляюць яму саліраваць замест невялікага запеву цэлую страфу. Але часцей за ўсё Дубейку просяць спяваць аднаго. І тут ужо знікае і ўзаконены падзел песень на «бабскія і мужчынскія», і іронія мужчын пра спяванне «без прычыны», і многія іншыя вясковыя звычаі. Дубейкава песня ўсіх бярэ ў свой палон, пануе і ўладарыць над людскімі душамі.

Мне запомнілася нямала і вясёлых сцэн, звязаных з Дубейкам. Аднойчы вяскоўцы сышліся да яго паслухаць песні. Дубейка праспяваў і змоўк. У хаце настала цішыня. І раптам самы малодшы Дубейкаў сын (а яму было нешта каля года), седзячы ў калысцы, на вялікае здзіўленне бацькі і ўсіх, хто быў у хаце, пачаў даволі выразна гусці матыў толькі што праспяванай песні. Што смеху было! «І ў мяне маці крэпка спявала, — сказаў Дубейка. — Гэты голас мне сам браўся. Што я ўзяў з маленства, дык не забуду».

А бывалі ў Тонежы і такія выпадкі, калі пастухі, завароржаныя Дубейкавымі песнямі, «гублялі ў лесе тавар» (скаціну.— З. М.). Блукаючы потым па гушчары, яны доўга лаялі Дубейку за гэтыя яго чары, хоць самі ж прызнаваліся, што, «калі цэлы дзень пасці тавар ды не спяваць, дык загінеш»...

Такія самародкі, як Антон Дубейка, не частая з'ява нават у такім песенным краі, як Палессе. І ў той жа час гэта — спявак палескага каларыту. У яго характары, як і ў яго мастацтве, адчуваецца прырода гэтага краю, якая не крычыць, не лезе ў вочы, у фарбы якой трэба ўглядзецца, у гукі—услухацца. Пры беглым позірку можна не заўважыць яе прыгажосці, але, падобна да глыбокіх віроў палескіх рэк, яна зацягвае ўсякага, хто хоць раз ступіў на гэтую зямлю.

Незабыўнае ўражанне пакінулі ў мяне і другія тонежскія народныя спявачкі: Яўгеня Кондзік, якая нават ноччу ўспаміналаа ўсё новыя і новыя песні, каб перадаць іх «на магніт»; Елізавета Забаўка — праслухаўшы яе хоць раз, зноў і зноў прыходзіш да яе, як заварожаны; на дзіва зладжана пяюць суседкі-сяброўкі Ева Ярмольчык і Матруна Акуліч.

Колькі яркіх творчых абліччаў у адной толькі вёсцы! А такіх вёсак на Палессі і па ўсёй Беларусі — мноства. І ў кожнай — нямала цудоўных людзей, носьбітаў незлічоных скарбаў народнага мастацтва.

Дзень сённяшні — дзень заўтрашні

# ЭДЗІК МАЛАДЫ, ДЗЯЎЧАТЫ І СЯРГЕЙ

**Рэпартаж**

Эдзік Малады — брыгадзір.

У яго брыгадзе тры дзяўчыны: Галіна Глекава, Рыма Аўхачова і Зіна Касьянава. Чацвёртая — Аліна Прыбаўкіна ўжо замужняя, але яна, як і раней, актыўна жыве грамадскімі інтарэсамі брыгады.

Калі мы знаёміліся, нехта з боку пажартаваў: «Чатыры жанчыны і адзін мужчына». Адразу ж пачуўся крышку іранічны голас Рымы:

— А Сяргей? Хіба яго з рахунку скінулі?

Усе дружна і весела засмяяліся.

— Сапраўды, чаму пра Сяргея забылі? — неяк сарамліва і стрымана сказаў Эдзік і тут жа дадаў: — Сяргей Гялахаў — законны член нашай брыгады. Яго можна лічыць, як і мяне, за брыгадзіра. На другой змене яму дастаецца гэтак, як і мне на першай...

Увосень 1964 года магілёўскі завод «Строммашына» пачаў выпускаць новую прадукцыю — пасажырскія ліфты. Пераабсталёўваліся цэхі, фарміраваліся новыя ўчасткі і брыгады. Цэху вузлоў спатрэбіліся рэзчыкі пластыку для абшыўкі ліфтоў. Тады гэта была зусім новая справа, якую трэба было асвоіць у кароткі тэрмін, каб не спыняць зборку ліфтоў. Каму даручыць гэтае адказнае заданне?

Начальнік цэха Аркадзь Маркавіч Катляроў прапанаваў узяць на новы ўчастак дзяўчат са штампоўкі.

Першымі ля станка, які рэжа пластык, сталі Рыма і Аліна. Мно-



Калі што не ладзіцца, сябар заўсёды паможа...

гія, вядома, здзівіліся, убачыўшы, што брыгадзіры самых лепшых брыгад, маякі, як іх называлі на

заводзе, згадзіліся на такі крок. У іх добрая спецыяльнасць, высокі заработак, пашана ў калектыве. Рыма Аўхачова выбрана дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, а Галіна Глекава ў другі раз — дэпутатам Ленінскага райсавета ў Магілёве.

Рэзанне — не такая складаная работа. Асвоіць той станок, навучыцца кіраваць фрэзай, каб адрэзваць патрэбным памерам пластыкавыя лісты, — не так ужо і цяжка. А вось прызвычаіцца да гэтага рэзкага, скрыгатлівага шуму, які працінае цябе навылёт, калі праходзіш фрэзай па лісце, не так про-



Эдзік Малады.



Рыма Аўхачова.



Аліна Прыбаўкіна.

ста. Тут патрэбны вялікая вытрымка і сіла волі.

Рэзаць пластык разам з былымі сваімі брыгадзірамі згадзіліся пайсці Аліна Прыбаўкіна і камсамолка Зіна Касьянава, лепшыя штампоўшчыцы.

Першыя дні самі рабілі і разметку і рэзанне. Работы хапала. Ды навічкі не ўмелі яшчэ як належыць абыходзіцца са станком, не ведалі ўсіх «капрызаў» фрэзы...

— Дзяўчаткі, як відаць, не ўправіцца нам адным, — сказала Аля. — Давайце запросім таго слесара, што нам станок зрабіў...

— Эдзіка Маладога!.. — падхапіла Рыма. — Няхай Эдзік будзе ў нас за брыгадзіра. Усё ж ён мужчына. Слесар добры. Калі што якое, ён у гэтым разбіраецца, і такі спакойны, душэўны, адным словам, хлопец!

Так новую маладзёжную брыгаду ўзначаліў камсамолец Эдуард Малады. У рэзчыц была вялікая загрузка, яны не ўпраўляліся апрацоўваць пластык, і брыгадзе давялося падзяліцца на дзве змены. У першую з дзяўчатамі стаў Эдзік Малады, а на другую астаўся Сяргей Гялахаў, таксама слесар, які перайшоў у брыгаду з механічнага ўчастка.

...Эдзік ведае, што дзяўчаты, калі здараюцца перабоі з пластыкам, злосныя: толькі абрані слова, крані каторую, тады не паспееш і адбіцца. І ён стараўся іх не чапаць, а займаўся чым-небудзь сваім, корпаўся ля станка ці браў у рукі газету.

Нядаўна ў цэху быў дыспут на тэму: «Як ты адносішся да сваёй работы». З брыгады на дыспуце быў толькі адзін Эдзік, і яму хацелася прадоўжыць пачатую гаворку з дзяўчатамі. Ён расказаў, як адзін хлопец на пытанне анкеты «Ці мог бы ты не ісці на работу, каб табе не трэба было зарабляць на жыццё», адказаў, што «да такога эксперыменту ён гатовы».

— Я вось іншы раз думаю, — загаварыла Рыма, і вочы яе, цёмныя і бліскучыя, заіскрыліся, выдаючы цвёрдасць натуры. — Хіба ідзеш на завод толькі таму, што трэба нешта рабіць? Гэта ж я ўжо дзесяць год як працую на заводзе. І, ведаеце, не надакучыла. Думаю, ну што я рабіла б, зачыніўшыся ў сваёй кватэры? Не, я не ўяўляю сябе без працы, без справы... Другі раз і натомішся так, што нічога не ідзе ў галаву, а крыху адпачнеш, ачомаешся і ўжо думаеш, як там ды што, бяжыш у цэх...

— Ну, а ты, Аліна, як ты думаеш наконт таго «эксперыменту»? — спытаў Эдзік.

Аліна, строгая і нават крышку хмурая, неяк нелагодна паглядзела на брыгадзіра і, усміхнуўшыся адным куткамі вуснаў, сказала:

— Вы ж ведаеце, у мяне сям'я, хаця і маленькая. Трэба нагатаваць, адправіць мужа на работу, дзіця ў яслі аднесці. Клопатаў больш, як некалі была адна. Калі шчыра сказаць, тут мне падабаецца больш, як на штампоўцы, хаця і скрыгат гэты... А можа гэта та-



Галіна Глекава.



Зіна Касьянава.



Сяргей Гялахаў.

му, што мы неяк здружыліся, як адна сям'я...

— То ўсё Эдзікава заслуга, — не то жартам, не то ўсур'ёз заўважыла Рыма і хітра прыжмурылася.

— Ат, глупства!.. — кінуў Эдзік, зачырванеўшыся. — Калі што якое і ёсць, то гэта заслуга Аркадзя Маркавіча, нашага начальніка цэха. Я як падумаю, дык не дарэмна ён і на паходы ў кіно нас падбіваў, і вечар той у кафэ тады зрабіў... Усё ж гэта здорава, калі людзі адчуваюць патрэбу адзін у адным не толькі ў цэху, але і за прахадной, разам збіраюцца за святочным сталом ці проста ля тэлевізара...

Брыгадзір — гэта такі ж, як і ўсе, рабочы, сем гадзін завіхаецца ля станка. Побач з ім працуюць Рыма і Аліна. Усё як быццам ідзе добра. А ці заўсёды добра? Які настрой сёння ў Рымы? Чаму занадта засяроджаная і хмурая Аліна? Чаму адзін дзень у дзяўчат усё ідзе гладка, а другі — няўдача за няўдачай. Такіх «чаму» ёсць вельмі многа, і над імі задумваецца Эдзік — брыгадзір, турбуецца, каб у сяброў заўсёды быў рабочы настрой.

Эдзіка можна бачыць і сярод камсамольскіх актывістаў цэха, і на спартыўных спаборніцтвах, і на маладзёжных вечарах. У яго хапае часу і на тое, каб арганізаваць мастацкую самадзейнасць у цэху, абсталяваць цэхавы клуб...

Пасля перапынку работа ішла поўным ходам. Увішная таўстушка Рыма падавала на стол лісты пластыку, а ціхманая Аліна ўдакладняла памер, замацоўвала ліст, і фрэза, прарэзліва скрыгочучы, паўзла і паўзла, пакідаючы за сабою тонкі след. Абрэзаныя лісты адзін за другім браў Эдзік, з дапамогай шаблону рабіў разметку, а потым пачынаў арудаваць ля іх свёрдламі.

Кожны заняты сваім. Працуюць моўчкі. Засяроджана і зацята. Нельга спыніцца ні на адну хвіліну. Лістоў гэтых ужо даўно чакаюць, без іх не збярэш ліфт.

І можа давядзецца застацца на другую змену, бо Сяргей са сваімі дзвюма напарніцамі не ўправіцца. Уключылі другі станок. Выракшылі не ісці з цэха, пакуль не зробяць патрэбны запас. Бываюць такія дні ў рэзчыкаў. А потым, калі станучь вядомы вынікі за месяц, Эдзік Малады пачуе знаёмыя словы: «Зноў

рэзчыкі наперадзе — 150 працэнтаў!..»

...Аднойчы на перазменцы нам давялося бліжэй пазнаёміцца з Алінай Глекавай і яе напарніцай Зінай Касьянавай, якія тады працавалі разам з Сяргеем Гялахавым.

Мы ўжо ведалі, што Аліна — дзяўчына з характарам. «Да яе трэба падыход, — неяк папярэджваў нас Эдзік. — Вельмі не любіць размаўляць з карэспандэнтамі. Збянтэжыцца, закрые твар рукамі, і не зглядзіш, як знікне з вачэй...»

— Чаму так, Аліна Фёдараўна, вы знелюбілі нашага брата-журналіста?

Аліна здзіўлена ўзняла бровы, прыязна ўсміхнулася.

— Ды не, хто вам сказаў... — ахвотна загаварыла яна. — Гэта ўсё наш Аркадзь Маркавіч. На яго я злосная. Як толькі хто прыйдзе ў цэх, адразу вядзе. Проста адбою няма...

І змоўкла, пачала перабіраць канцы хусткі, а потым раптам схавала рукі ў кішэні халата, і ў момант зрабілася калючая, непрыступная:

— Дык я, можа, пайду ўжо. Эдзік няхай раскажа, ён усё ведае...

— Не, Аля, не адпірайся, — чуваць за дзвярыма Эдзікаў голас. — Раскажы, як ты ходзіш дзяліць тых, што разводзяцца...

Аліна зноў села, паклала прыгожыя тонкія рукі на калені, прыціхлая, задумлівая. Маўчыць, прыкрыўшы доўгімі вейкамі вялікія шэрыя вочы.

— Раскажыце, Аліна, пра сябе, пра сваё жыццё...

Аліна ўзварухнулася, па твары прабегла лёгкая, іранічная смяшынка.

— Якое ў мяне жыццё... — яна махнула рукою, а потым адразу ж падвесяліла сама сябе. — Жыву нядрэнна! Во нядаўна з сястрою кааператыўным спосабам пабудавала сабе кватэру. Два пакоі. На заводзе пашана. Як вы самі казалі, партрэт мой на заводскай Алеі славы. Я так не люблю фатаграфавацца, а гэта не знаю, дзе яны ўзялі такую картку. Што яшчэ? Ды во хіба магу сказаць пра сваіх братоў — чатыры ў мяне браты. Добрыя такія, дружныя. Усе інжынеры. Працуюць на мінскім заводзе імя Кірава. І сястра Ліда — таксама політэхнічны інстытут скончыла, разам з імі, на тым жа заводзе. А яшчэ дзве сястры мае — адна настаўніца, другая — тэхнік. Нас у сям'і восем, і ўсіх маці выгадавала, добра ў жыццё выправіла. Мы гадаваліся без бацькі, ён загінуў на фронце, недзе ва Усходняй Прусіі. Калгас наш быў бедны. Але ж во неяк маці старалася, і мы ўсе, як бачыш, выйшлі ў людзі. За ўсё мы, вядома, абавязаны сваёй маме. Яна ў нас добрая, мы яе не крыўдзім...

Аліна расказала яшчэ, што яна са школьных год палюбіла, як яна сама назвала, грамадскія нагрузкі. Яе ўсюды выбіралі: і ў камітэт камсамола, і нават у нейкую камісію сельпо, і на заводзе яе не абмінаюць. Аліну двойчы выбіраюць дэпутатам у райсавет, у мясцкоме на ёй дзіцячы сектар.

— А пра дэпутацкія свае справы чаму не раскажаш? — заўважыла Зіна Касьянава, якая ўвесь час моўчкі слухала нашу гутарку.

— Што дэпутацкія? — неяк нездаволена перапытала Аліна і кпліва паглядзела на сяброўку. — Ты ж, Зіна, ведаеш мае дэпутацкія абавязкі... Калі шчыра сказаць, проста цяжка бывае на сэрцы, калі глядзіш, як людзі не ўмеюць жыць, ладзіць сваё шчасце. Я, як дэпутат, прысутнічаю, калі муж і жонка разыходзяцца ды дзеляць свае набыткі. Проста іншы раз агідна на іх глядзець! Як могуць людзі, якія некалі кахаліся, знялюбіць адно аднаму? Я нагледжуся на ўсё гэта, дык мне аж страшна становіцца. Гэта наш Аркадзь Маркавіч думае, што дзяўчатам замужжа — галоўнае. Я ж ніколі не старалася, каб абы як-небудзь выскачыць, як іншыя, толькі б не застацца ў дзеўках...

Аліна паднялася, даючы зразумець, што ёй ужо трэба ісці і, звяртаючыся да Зіны, сказала:

— Цяпер твая чарга, сяброўка, расказвай. Ты ж маладзейшая за ўсіх нас...

— Нічога я не ўмею расказваць, — Зіна старалася трымацца сур'ёзна, але ўвесь час яе разбіраў нейкі смех. — Працую як і ўсе. Я толькі з адпачынку прыйшла, дык не ведаю, што ў нас тут новае.

Праз дзверы данеслася:

— Раскажыце, дзяўчаты, як будзем сёлета жаночае свята адзначаць, — гэта сказаў Сяргей. (Ён усю нашу размову слухаў). — Гэта ж, думаю, што і нас запросіце. На вашым свяце, дальбог, мы ўжо не схібім. Пагуляем!..

— А мы і летась нядрэнна пагулялі, — весела сказала Зіна. — Сабраліся ў Рымы на кватэры. Усёй брыгадай. Спявалі, танцавалі.

— А на гэты раз, можа, рэстаран адкупім, — зноў азваўся Сяргей. — Як, дзяўчаты?

— Ды ўжо ж!..

— Правільна, дзяўчаткі, — Сяргей шырока адчыніў дзверы пакойчыка, задаволена паціраў рукі, жартаваў. А потым сур'ёзна: — А ведаеце, я скажу шчыра: наша брыгада — гэта адна сям'я. Працуем мы ад душы, не лічым, хто зрабіў больш, хто менш. Бывае, што станок закапрызнічае, правалаводзішся, а час бяжыць. Але я ведаю, калі што не паспеў, Эдзік зробіць. У нас яшчэ не было выпадку, каб мы за што пасварыліся...

...Эдзік Малады. Дзяўчаты.



Эдзік — надзейны абаронца варот хакейнай каманды «Строммашына».
Фота В. Ждановіча.

Сяргей... Яны разам — брыгада. Часцінка вялікага заводскага калектыву, у якім гартуецца новы чалавек.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

# ЖАЛЕЗНАЯ БЯРОЗА



У лясах нашай краіны ёсць сорак відаў розных бяроз — ад карлікавай, якая расце на Поўначы і ствол якой сцелецца па зямлі, да бярозы-волата, што расце на Паўночным Каўказе і ў Заходняй Сібіры.

А вось у Прыморскім краі ёсць «жалезная бяроза». Яна амаль нічым не адрозніваецца ад звычайнай — толькі бяроста буравата-шэрая ды лісце ў старых дрэў крыху большых памераў. Драўніна «жалезнай бярозы» вельмі цяжкая: тоне ў вадзе, а трывалая, як метал. Мясцовыя механізатары часам робяць з драўніны «жалезнай бярозы» падшыпнікі для сельскагаспадарчых машын.

Леспрамгасы пачалі разводзіць «жалезную бярозу». Тысячы саджанцаў гэтага каштоўнага дрэва завезены ўжо ў Беларусь і Прыбалтыку.

**Ян МАЙСТАРС.**
Фота аўтара.

# РУКАТВОРНЫ ВОСТРАЎ

Рана-рана ў гарачы бязветраны дзень прыйшоў я на гарадскую прыстань Баку, адкуль адплывае трохпавярховы камфартабельны цеплаход на Нафтавыя Камяні. На прыстані гамана, усе спяшаюцца хутчэй трапіць на цеплаход. Перад пасадкай правяраюць пропускі. Мой самаробны эцюднік здаўся кантралёру падазроным, і ён залішне доўга правяраў мае дакументы. Усё было ў парадку, і мне дазволілі ступіць на трап.

Мы стаім ля борта цеплахода і назіраем, як аддаляецца горад. Неўзабаве даваліся каля так званых Чорных скал. Першыя нафтавікі называлі гэтае месца «Востраў сямі караблёў». Вакол Чорных скал, што выступалі на паверхню мора, было затоплена сем велізарных спісаных баржаў. На іх і жылі нафтавікі.

У пачынальнікаў гэтай цяжкай і складанай справы не раз узнікалі сумненні, расчараванні. Але чалавек перамог. Нафта пайшла, і пачалося будаўніцтва сапраўднага горада.

Нялёгкая гэта справа забіваць велізарныя дзесяці-дванаццаціметровыя па́лі ў дно неўгамоннага Каспія. Яшчэ са школьнай парты я ведаў, што толькі тры месяцы на год Каспій бывае спакойны. Колькі разоў здаралася і такое: толькі паспявалі ўбіць па́лю, як налятаў шторм і ўсё выварочваў. Даводзілася пачынаць нанова. Так дзень за днём і год за годам рос і будаваўся горад. Цяпер ён раскінуўся ў моры аж на сто сорак кіламетраў.



ён зусім знікне ў сіняй дымцы. Я пачынаю распытваць у новых сяброў пра ўсё, што мяне цікавіць: калі ўзнік гэты цікавы горад, чаму яго так назвалі — Нафтавыя Камяні.

Пакуль мы плылі ад Баку да горада на па́лях, мне шмат цікавага расказала дзяўчына Святлана. Яна працуе тут тэлефаністкай і добра ведае гісторыю новага горада. Нафтавыя Камяні ўзніклі ў 1949 годзе, калі пачалі здабываць нафту з дна мора. Размешчаны гэты горад за сорак кіламетраў ад Апшаронскага паўвострава. Хтосьці, слухаючы нашу размову, дадаў, што на цеплаходзе да Нафтавых Камянёў сто дваццаць кіламетраў. Металічныя эстакады горада бу-

Цеплаход прычаліў, падалі трап, і доўгая чарада нафтавікоў пацягнулася да эстакады. Там жа сабраліся і зменшчыкі, якія на гэтым цеплаходзе паедуць дадому. Кожны сустракаў свайго напарніка, расказваў, як і што рабіць.

На перазменку пяць хвілін. І тыя, хто прыехаў, накіроўваюцца ў інтэрнат, пераапранаюцца і на аўтобусах раз'язджаюцца па ўчастках. А тыя, хто ад'язджае, ужо селі на цеплаход і — у Баку, на тыднёвы адпачынак.

Мы сышлі і накіраваліся на цэнтральную плошчу Нафтавых Камянёў да помніка Леніну.

Я ішоў за сваімі сябрамі, якія праводзілі мяне да адміністратара, каб аформіць дакументы. Мы праходзілі паўз магазіны, двухпавярховыя жылыя дамы, пошту, бібліятэку. Тут усё створана для адпачынку нафтавікоў. Прыгожа аформленыя летні і зімні кіназалы, спартыўная зала, кафэ, сталоўкі. Тут жа працуе філіял вытворчага вучылішча нафтавікоў.

Я спыніўся ў гасцініцы. Пакінуў рэчы і паехаў з новым сваім знаёмым Эльханам у гараж. На яго велізарным самазвале я аб'ехаў увесь горад.

Надышоў новы дзень. Рабочы дзень і для мяне, як для ўсіх. Я ўзяў эцюднік і накіраваўся на ўчастку бурэння.

Асабліва ўразіла мяне праца бурыльшчыкаў. Праўда, не менш цікавая і праца тых, хто будуе эстакады. Але ўсё ж найбольш часу я праводзіў з бурыльшчыкамі. Яны вельмі не любяць, калі прыходзіць мастак ці фатограф і адрывае іх ад работы. Але я неяк адразу знайшоў, пра што гаварыць з гэтымі суровымі людзьмі. Неўзабаве здружыўся і нават пасля работы быў разам з імі: хадзіў у бібліятэку, гуляў у валейбол, займаўся ў спартыўнай зале.

У абед мы таксама былі разам: харч нам прывозілі на спецыяльна абсталяванай аўтамашыне проста да месца работы. Нафтавікі заўсёды гасцінна запрашалі мяне да стала. Абед праходзіў у таямнічым маўчанні — кожны думаў пра сваё, адпачываў ад працоўнага шуму. А пад'еўшы, абавязкова весяліліся, спаборнічалі ў дасціпных жартах.

Асабліва вясёлы народ — вадалазы і выратавальнікі. Вельмі цікава адбываецца ў іх пасвячэнне ў вадалазы. Маладым, пачынаючым вадалазам унушаюць, што вадалаз павінен тры дні не есці, тры дні не спаць, тыя, хто правініўся ў чым-небудзь, павінны спаць на гантэлях і на жалязяках. Я быў сведкам, калі аднаго будучага вадалаза ледзь не замучылі гэткімі жартамі, і ён збіраўся ўжо ўцякаць. Але тут з'явіўся суд, які мае свайго сакратара і адваката. Яны пішуць пратакол. Суд пастанаўляе, што вучань прайшоў усе выпрабаванні і прымаецца ў рады загартаваных вадалазаў і выратавальнікаў. Так робяць з кожным, хто вырашыў прысвяціць сваё жыццё гэтай высакароднай справе. Таму ў вадалазаў такая ўзорная дысцыпліна.

Жыццё нафтавікоў поўна нечаканасцей, часам нават вельмі небяспечных. Аднойчы мне пашанцавала прысутнічаць у момант, калі са шчыліны ўдарыў фантан газу і нафты. Колькі радасці было ў гэтыя хвіліны на тварах нафтавікоў! Усе падскоквалі пад гэтым своеасаблівым душам і весела прыпявалі. Два перапэцканыя нафтаю чалавекі падхапілі мяне пад рукі і таксама выкупалі пад струменямі нафты. Я цэлы тыдзень не мог потым адмыцца пасля такога «купання».



Шафёр Эльхан.

Шчыра кажучы, не вельмі хацелася змываць з плячэй і твару чорнае золата, і я ганарыўся тым, што па паху нафты мяне часам прымалі за бурыльшчыка.

Пасля змены нас на машынах везлі да цэнтральнай плошчы. Кожны ішоў да сябе ў інтэрнат, каб вымыцца і пераапрануцца. Праз некаторы час усе, чыстыя і прыгожа апранутыя, разыходзіліся, хто ў спортзалу, хто ў кіно, хто ў чайхану, дзе можна прагнаць смагу, паспрачацца пра ўсё, што цябе хвалюе. Я часта садзіўся дзе-небудзь у кутку і рабіў накіды. Тут можна было сустрэць нафтавікоў усіх узростаў і ўсіх спецыяльнасцей.

Асабліва прыгожыя Нафтавыя Камяні ўвечары, калі запальваюцца агні. Каб лепей убачыць гэтую прыгажосць, я залез на пяцідзесяціметровую вышку. Праўда, спачатку было крыху страшна. Але я ўспомніў прымаўку, што мастацтва патрабуе ахвяр, і рашыўся на такі ўчынак. Калі глядзець зверху, дык на цёмным моры светлыя лямпачкі пражэктараў здаюцца зоркамі, і кожны нафтавік, напэўна, мае сваю зорку не на небе, а ў моры. Кожная такая зорка ў моры — гэта новая нафтавая вышка, новая перамога. Калі зверху бачыш яркія марскія зоркі, дык з эстакады яшчэ больш яркія нябесныя. Крыху страшна і нязвычна сядзець ноччу на вышцы. Пад нагамі, унізе, чуцен усплёск хваляў, асветлена толькі эстакада, а навокал цёмна-цёмна.

На машыне ехаць па эстакадах у такую цемень таксама страшна, асабліва, калі яна мчыцца на вялікай хуткасці. Аднойчы быў сямібальны шторм. Шафёр на паваротку не здолеў выкіравацца, і машына пачала падаць у ваду. Праўда, шафёр паспеў выскачыць з кабіны і ўхапіцца за па́лю. Ён трымаўся, пакуль не падаспела выратавальная



Старэйшы нафтавік.

каманда. Машыну ж выцягнулі толькі праз некалькі дзён.

Чалавек да ўсяго прывыкае. Я за два месяцы прывык да незвычайных умоў жыцця нафтавікоў. Мяне больш не палохалі хвалі, што з разбуральнай сілай, нібы імкнучыся адпомсціць чалавеку за перамогу над морам, перакочваліся праз эстакаду. Я прывык бачыць суровае змаганне людзей з сіламі стыхіі, прывык бачыць гасціннасць нафтавікоў, прывык бачыць кожную суботу выступленні артыстаў з Баку.

Цэлых два месяцы ўсё новае і новае пазнаваў я на Нафтавых Камянях. Прыемна было бачыць, як побач са старэйшымі майстрамі працуюць зусім маладыя, толькі што са школьнай парты, хлопцы. Пройдзе час, і яны стануць вопытнымі. Тады эстакады зойдуць у мора яшчэ на дзесяткі кіламетраў. З'явяцца новыя цікавыя механізмы.

Неўзабаве надышоў час развітання. Цеплаход адплыў, і я адчуў сум па днях, праведзеных на Нафтавых Камянях. Доўга, вельмі доўга, пакуль не знік з вачэй гэты незвычайны горад, я стаяў на верхняй палубе і развітальна махаў рукой.

Цяпер з многімі нафтавікамі я перапісваюся. Пра тое, што я пішу нататкі для «Маладосці», я ім паведаміў. Зусім нядаўна яны прыслалі мне ліст, у якім перадаюць чытачам «Маладосці» свой азербайджанскі салам і запрашаюць пагасцяваць у горад на палях — Нафтавыя Камяні.

**Эльмас ГУСЕЙНАЎ,**
**студэнт Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута.**



# ВЯСНОВАЕ — ЛІРЫЧНАЕ І СВЕТЛАЕ

Фота Юрыя ІВАНОВА і Анатоля КАЛЯДЫ
Тэкст Міхася ПЕНКРАТА

●

— Гэта вечны агонь, дачушка...
— А што такое вечны агонь, мама?

Дзяўчынка не разумее. А як ёй зразумець? Адкуль яна ведае, шчаслівая дзяўчынка, што дваццаць чатыры гады назад, у Вялікую Айчынную, людзі паміралі за Савецкую ўладу, за праўду Леніна, за тое, каб мільёны дзяцей жылі шчаслівa і весела.

Мама! Раскажы дачушцы пра гэта.



Прайшла фашысцкая навала. Загаіліся глыбокія раны на роднай зямлі. Збудаваны новыя школы, інстытуты... Аўдыторыі запоўнілі юнакі і дзяўчаты.

Вось і сёння сядзяць яны недзе за сталамі — студэнты інстытута замежных моваў. Твары іх сур'ёзныя, заклапочаныя. Відаць, нялёгка ім авалодваць чужой мовай, але ж трэба. Каб далучацца да здабыткаў сусветнай культуры, каб пашыраць сувязі з народамі зарубежных краін, каб мацаваць мір на зямлі.





Цяжкая, відаць, задачка трапілася гэтай студэнтцы. Трэба падумаць. Толькі не хвалявацца. Маладосць і настойлівасць памогуць. Прыгадай толькі, як твае бацькі, дзяўчына, таксама не раз станавіліся перад складанымі праблемамі... І вырашалі.

Жыццё ёсць жыццё. Цяжкія задачы трапляюцца не толькі ў вучэбных аўдыторыях. Паглядзіце на гэтую юначку са зборачнага канвеера Мінскага трактарнага завода. Складаная, сучасная тэхніка вымагае высокіх ведаў, кемлівасці. Але маладая работніца — сапраўдная гаспадыня тэхнікі. Новых табе поспехаў, дзяўчына!



Ёй, Галіне Белавусавай, нельга не пазайздросціць. Яна бачыла першы на Беларусі фантан нафты, што вырваўся з-пад зямлі, першы ўсплёск беларускага чорнага золата! Яна, тэхнік-геолаг, стала сведкай хвалюючай старонкі гісторыі роднай Беларусі.

Спявае душа ў Ніны Лісецкай — будаўніка з калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. У вышыню скіраваны яе пагляд. Можа яна цешыцца новай будоўляй, якую памагае ўзводзіць, а можа глядзіць у сіняе веснавое неба, насустрач сваёй мары... А ёй, пэўна ж, ёсць аб чым марыць. Наперадзе вялікае і прывабнае жыццё.

Можа новая дарога...
Можа новая вучоба...
Можа цёплая і ласкавая рука друга...



— Да пабачэння, мілая дачушка,— гаворыць дырэктар саўгаса «Бальшавік» Мінскага раёна Тамара Аляксандраўна Лагунова.— Глядзі толькі — не сумуй.

А чаго ёй сумаваць? У яе светлае дзяцінства. Яна пагуляе з цацкамі ў дзіцячым садзіку. І маці будзе спакайней на сваёй турботнай пасадзе. Вясна завітала, і прыбавілася клопату ў кіраўніка саўгаса...



Ларысе Петрык, школьніцы з Віцебска, вясна прынесла новую радасць. Яна не думала шукаць славу, але слава сама знайшла яе. Ларыса адна з мацнейшых гімнастак Савецкага Саюза. Гэты букет кветак у яе руках — гаворыць сам за сябе...







У кожнага ёсць прызванне ў жыцці, свая любімая прафесія, праца. Ізольда Бацук і Тамара Папко працуюць у аддзеле фотатавараў Мінскага ЦУМа. Прыемна ўзяць з іх добразычлівых рук пакупку і разам з ёй прынесці дадому і ветлівыя ўсмешкі прадаўшчыц. Дзякуй вам, дзяўчаты, за ветлівасць!

Першы дзень вучобы, першы дзень самастойнай працы і першы дзень... кахання. Мы не ведаем імя гэтай дзяўчыны. Ды яго і не абавязкова ведаць. Назавем яе — Вяснянка. І прыкінем — аб чым яна думае. Можа затрымаўся каханы? Можа неасцярожным словам пакрыўдзіў? Хто ведае. Ведаем толькі адно — маладосць загоіць і боль, і трывогу, і крыўду...





●

Жыццё імкліва ідзе наперад. Калі ты, наша сяброўка, вучышся — табе трэба не адстаць у вучобе. Калі ты працуеш — табе сорамна адставаць ад сябровак. А яшчэ ж бывае сорамна адстаць і ад моды. А часу ў цябе так мала! І ты, часам, у марах бачыш жаночую залу цырульні — гэты кабінет хараства вось такім: прыходзь, садзіся без усялякай чаргі і атрымлівай прыгажосць! Хай жа і гэтая мара твая збудзецца як мага хутчэй, бо трэба спяшацца сустракаць вясну, яшчэ адну нашу вясну.



А вясна ідзе па зямлі шырока і ўпэўнена, як сама маладосць. Шырэй расчыняюцца вокны, а ў вокнах — вяснянкі. Маладыя, поўныя нястрымнай радасці.

Добры дзень, Вясна!
Добры дзень, Жыццё!
Добры дзень, Шчасце!






# СЮРПРЫЗ

Звычайна ў дзень 8-га Сакавіка мужчыны збіваюцца з ног, каб знайсці адмысловы падарунак жанчынам. А тут здарылася наадварот. З Гомеля ад Тамары Мекчанкі ў рэдакцыю прыйшоў пакет, а ў ім—прыемны падарунак да жаночага свята. Падарунак Тамары прыемны яшчэ і тым, што яго аўтар працуе на фабрыцы імя 8-га Сакавіка. Такое супадзенне нам здалося знамянальным, і мы спяшаемся здымкі, зробленыя Тамарай Мекчанка, прапанаваць увазе нашых чытачоў.



Парушынка.



Зімовая казка.

*27 сакавіка — восемдзесят гадоў з дня нараджэння выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Сяргея Міронавіча Кірава.*



# ВЕДАЦЬ ТОЕ, ЧАМУ ВУЧЫЎ НАС УЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ

...Я ні на адну хвіліну не сумняваюся, што вы з найвялікшым гонарам носіце імя нашага вялікага камуністычнага настаўніка, але, таварышы, памятайце — мала паважаць гэтага вялікага настаўніка, мала схіляцца перад памяццю вялікага правадыра. Перад вамі стаіць больш цяжкая, больш сур'ёзная, больш адказная задача. Трэба ведаць тое, чаму вучыў нас Уладзімір Ільіч. Вось гэтага, таварышы, трэба сказаць, у нас яшчэ не хапае. Нам яшчэ належыць у гэтых адносінах здзейсніць велізарную работу, і для гэтага трэба прайсці такую загартоўку, якую не ва ўсякай кузні атрымаеш. Вам належыць зрабіць так, каб з вашым юнацкім парывам, з вашымі здольнасцямі сапраўды ахапіць увесь рэвалюцыйны рух і запомніць урокі яго глыбока ў сваёй камуністычнай галаве.

З прамовы С. М. Кірава на VII Бакінскай канферэнцыі камсамола, прысвечанай сямігоддзю арганізацыі, 22 лютага 1925 года.





Сяргей Міронавіч Кіраў на святе ленінградскіх школьнікаў у Цэнтральным парку культуры і адпачынку. Чэрвень. 1934 год.

# НАША ПАРТЫЯ ЦВЁРДАЯ, ЯК ГРАНІТ!

Мы абавязаны, таварышы, нашымі перамогамі таму, што мы маем вялікую камуністычную партыю, у якой сабрана ўсё лепшае, усё творчае і рэвалюцыйнае з асяроддзя слаўнага рабочага класа СССР.

Мы маем такую партыю, якая ўмее святкаваць перамогі сваіх вялікіх работ. Мы маем такую партыю, якая не схіляе сваёй бальшавіцкай галавы ні перад якімі цяжкасцямі, народжанымі знутры і звонку.

Наша партыя цвёрдая, як граніт! Наша партыя адзіная, непадзельная, як маналіт!

З прамовы С. М. Кірава на Краснай плошчы ў Маскве 31 студзеня 1934 года.

# АДЗІН З КАГОРТЫ МЯЦЕЖНЫХ



**З успамінаў**

Усё было незвычайнае... І павольны рух катафалка з труной па вуліцах Варшавы, і невялікая пахавальная працэсія, і загадкава-маўклівае апусканне труны ў магілу, і надмагільны камень з лаканічным надпісам:

**«М. ЛЕЎ.**
**Нарадзіўся ў 1896 годзе.**
**Памёр у 1935 годзе».**

Нечаканай і цяжкай была сама смерць таго чалавека, у галавах якога стаяў надмагільны камень. Таямнічасць і загадкавасць узмацняліся яшчэ і тым, што толкам ніхто з удзельнікаў пахавання не ведаў, каго хавалі. Толькі адзін чалавек, той, які клапаціўся наконт месца на могілках для памершага, — Марэк Бітэр,— ведаў, што М. Леў — гэта камуніст, відны работнік партыі ў падполлі. Між іншым, і ён толькі ўнушаў самому сабе, што ведае памершага. На самай справе, Марэк яго таксама не ведаў: ён гутарыў з ім усяго некалькі разоў. Звычайна, калі Марэк прыходзіў да свайго сябра камуніста Таўмана на Налеўкі, 43, кватэра 54, дзе жыў нелегальна М. Леў, дык стараўся абавязкова пагаварыць з кватарантам, бо заўсёды захапляўся яго розумам і выключнай дабратой.

Яшчэ задоўга да пахавання Марэк зрабіў усё, што толькі мог, каб аблегчыць пакуты хворага перад смерцю. Гэта было яго партыйнае даручэнне.

М. Леў яшчэ ўлетку 1935 года ў часе работы VII кангрэсу Камінтэрна ў Маскве адчуў сябе дрэнна, і нават лепшыя ўрачы не змаглі тады дакладна ўстанавіць дыягназ хваробы. Пасля кангрэсу Камінтэрна яму раілі падлячыцца ў Савецкім Саюзе, але М. Леў не хацеў і слухаць пра лячэнне. Ён гарэў жаданнем хутчэй данесці да камуністаў і камсамольцаў, да працоўных Заходняй Беларусі рашэнні кангрэсу.

І вось ён зноў у Варшаве. Стараецца ўсюды паспець, сустрэцца як мага з большай колькасцю падпольных работнікаў, якія прыязджалі па выкліку Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, пагутарыць з імі, даць самыя апошнія інструкцыі.

Набліжалася васемнаццатая гадавіна Вялікага Кастрычніка. Тэрмінова выдаюцца падпольныя газеты «Чырвоны Сцяг», «Малады камуніст», адозвы з заклікамі да працоўных Заходняй Беларусі святкаваць гадавіну Кастрычніка адначасова з народамі Савецкага Саюза, масава выступаць за паляпшэнне ўмоў жыцця, за свабоду, за правы працоўных, супраць падрыхтоўкі імперыялістычнай вайны, у абарону Краіны Саветаў.

Увечары 6 лістапада М. Леў шчыльна зачыняе дзверы, вокны сваёй нелегальнай кватэры і ўпотай слухае па радыё перадачу з Масквы. Велічна гучыць «Інтэрнацыянал» у канцы ўрачыстага пасяджэння. М. Леў, забыўшыся на ўсё, таксама радуецца... Раптам востры боль у жываце. Ён пачынае расці, пашыраецца, падступае пад самае сэрца, сціскае горла. У гэтую хвіліну, па просьбе сакратарыята ЦК КПЗБ, Марэк Бітэр прыходзіць да хворага з першай дапамогай, прыводзіць свайго знаёмага ўрача.

Раніцай хвораму стала горш. І Марэк Бітэр, нягледзячы на выключна цяжкія ўмовы падполля, рызыкнуў звярнуцца за дапамогай да вядомага ў той час у Варшаве хірурга Гальштэйна.

Славуты хірург разам з асістэнтам прафесарам Радлінскім уступілі ў адзінаборства са смерцю. Аперацыя прадаўжалася тры гадзіны — запаленне дванаццаціперснай кішкі з прарывамі нагноеных месц пацягнула за сабой заражэнне крыві.

Пасля аперацыі хворы не апрытомнеў, ляжаў з высокай тэмпературай і трызніў. Аднак Марэк і Пшысускі, спецыяльны прадстаўнік сакратарыята ЦК КПП, своечасова дамовіліся з хірургам пра тое, каб каля хворага дзяжурыла знаёмая санітарка, якая па сваіх перакананнях была блізкая да камуністаў. Стомленая за трое сутак, яна не адыходзіла ад ложка хворага, клапатліва ахоўваючы палату ад пабочных і выпадковых людзей, бо быў 1935 год — сумны час для Польшчы: камуністаў без суда кідалі ў канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза, забівалі ў засценках ахранкі, адпраўлялі на шыбеніцы.

У такія суровыя і цяжкія дні і перастала біцца палымянае сэрца аднаго з кіраўнікоў КПЗБ — Якаўлева. Гэта і быў той М. Леў, пахаванне якога было такім таямнічым.

У Варшаве ў сакратарыяце ЦК КПЗБ разам з Якаўлевым працавалі ў той час вопытныя таварышы: Іван Сяменнікаў і Люба Янкоўская. Раптоўная смерць Якаўлева была цяжкім ударам перш за ўсё для самога сакратарыята, бо і Сяменнікаў і Янкоўская былі таксама нелегальныя. Самі яны не маглі ні з кім сустракацца, а вядома, што пахаванне падпольшчыка-камуніста патрабавала шмат асцярожнасці. Трэба было ўсё зрабіць хутка, каб паліцыя не ведала, каго хаваюць. Часу для роздуму не было.

Не трацячы ні адной хвіліны, Сяменнікаў і Янкоўская распрацавалі план пахавання, у якім прадугледжвалася ўсё да дробязей. Але адразу ж паўсталі непераадольныя цяжкасці — перш за ўсё з рэгістрацыяй факта смерці, потым з атрыманнем месца на могілках. Добра, што на дапамогу

# НА БАРЫКАДАХ ПАРЫЖА

18 сакавіка — Дзень Парыжскай камуны, першага ў гісторыі ўрада рабочага класа.

Парыжскую камуну ўсхвалявана віталі ўсе перадавыя людзі свайго часу і сярод іх члены Рускай секцыі І Інтэрнацыянала. Тады Руская секцыя, якую па просьбе яе членаў у Генеральным савеце І Інтэрнацыянала прадстаўляў Карл Маркс, ставіла сваёй мэтай развіваць рускі рэвалюцыйны рух з пазіцый І Інтэрнацыянала, згуртоўваць усе дэмакратычныя сілы для падрыхтоўкі рэвалюцыі супраць царызму і капіталізму.

15 красавіка 1871 года на рабочым сходзе ў Жэневе быў прыняты прывітальны зварот да парыжскіх камунараў. У ім гаварылася: «Што б ні здарылася, браты і сёстры Парыжа, ваша справа не загіне, бо гэта справа міжнароднага вызвалення рабочых, і мы выканаем свой абавязак, заўсёды і ўсюды дабіваючыся тых жа мэт, працягваючы заўсёды і ўсюды тую ж барацьбу, якую ўзначальваеце вы...»

Зварот заканчваўся словамі: «Няхай жыве Парыжская камуна! Няхай жыве рэвалюцыя пралетарыяў!» Пад гэтым

прыйшлі таварышы з кіраўніцтва Камуністычнай партыі Польшчы. Пры дапамозе камуністаў, якія нелегальна працавалі ў прафсаюзах грузчыкаў горада Варшавы, Якаўлеў быў афармлены членам гэтага прафсаюза, і ў той жа дзень яго пахавалі.

Паводле канспіратыўных меркаванняў, нават самыя блізкія таварышы Якаўлева не мелі права пайсці за труной нябожчыка. Толькі Сяменнікаў і Янкоўская ішлі да самых могілак, але не за трупою, а ўслед за пахавальнай працэсіяй па тратуары — адзін з аднаго боку вуліцы, другі — з супрацьлеглага.

Марэку Бітэру было даручана адразу ж пасля пахавання паставіць на магіле памершага надмагільны камень.

У мэтах засцярогі вырашана было не выдаваць ніякага афіцыйнага паведамлення пра напаткаўшае партыю няшчасце. Па-ранейшаму сакратарыят ЦК КПЗБ працягваў працаваць. Канспіратыўныя кватэры, якімі ЦК КПЗБ карыстаўся пры жыцці Якаўлева, былі адразу ж заменены новымі, хоць ва ўмовах разгулу белага тэрору і жорсткіх праследаванняў зрабіць гэта было не так лёгка. З акругоў і раёнаў па-ранейшаму прыязджалі ў Варшаву падпольныя работнікі. Адным словам, усё ішло ў строгім парадку, з захаваннем усіх правіл канспірацыі. І тым не менш, паліцэйскія ўлады перапалохаліся. Ім стала вядома пра незвычайнае пахаванне камуніста.

Ахранка лютавала яшчэ і таму, што вельмі позна даведалася пра самы факт пахавання і дакладна нічога не ведала, хто быў арганізатарам пахавання, пры якіх акалічнасцях і як было яно арганізавана.

Нейкім чынам агенты тайнай паліцыі пранюхалі, дзе жыў Якаўлеў. У дзікай злосці накінуліся яны на гаспадара кватэры Таўмана, але ён быў да гэтага добра падрыхтаваны і здолеў даказаць, што з памершым нічога агульнага не меў і наогул не ведаў яго. Кватэру сапраўды здаў яму, але той адразу захварэў, і ён, Таўман, адправіў хворага ў шпіталь. Тое ж самае пацвердзілі шматлікія сведкі.

Тады, з ведама высокага начальства, спешна была створана спецыяльная брыгада з самых вопытных шпікоў. Яны, як выдрэсіраваныя сабакі-сышчыкі, бегалі паміж свежых узгоркаў могілак і вынюхвалі, дзе мог быць пахаваны невядомы ім камуніст, па некалькі разоў спыняліся каля неагледжанай, свежай магілы.

Стомленыя, злосныя, яны адправіліся да вартаўніка:

дакументам стаялі і подпісы кіраўніка Рускай секцыі Н. Уціна, а таксама яе сакратара А. Трусава. Члены секцыі — Е. Дзмітрыева і Г. Корвін-Крукоўская бралі самы актыўны ўдзел у Парыжскай камуне, змагаліся на яе барыкадах.

Калі па даручэнню Рускай секцыі Елізавета Дзмітрыева ўпершыню сустрэлася з Карлам Марксам, ёй было дзевятнаццаць год. Яна расказала яму тады цікавую гісторыю. У жэнеўскім кафэ, дзе сабраліся анархісты, віселі афішы, якія на ўсе лады расхвальвалі Бакуніна. Пустазвонны дыспут пра анархізмператварыўся ў агідны балаган, дзе ўсё магло скончыцца бойкай. І тады Елізавета Дзмітрыева раптам ускочыла на сцэну і праспявала на матыў танцавальнай песні знішчальныя куплеты пра Бакуніна. Галіяф анархізму ганебна ўцёк з дыспуту.

Карл Маркс, удосталь насмяяўшыся, сказаў:

— Дык вось як вы сталі Далілай, якая зняславіла і абяззброіла тоўстага Самсона-Бакуніна на дыспуце анархістаў... Вы знішчылі Бакуніна смехам. Гэта самая неадольная зброя ў барацьбе з людзьмі, у якіх за фразёрствам хаваецца ідэйная пустата...

З таго часу Дзмітрыева стала вялікім сябрам сям'і Карла Маркса. Там яна пазнаёмілася з Фрыдрыхам Энгельсам, які жартам адрэкамендаваўся ёй па-руску Фёдарам Фёдаравічам.

Потым Карл Маркс пачаў даручаць



— Гэй ты, стары грыб! Ты што? Наняўся камуністаў перапраўляць у рай?! — ускіпеў вядомы шпік Шчука, былы белагвардзейскі афіцэр.

— Якіх камуністаў?.. Што ты пляцеш? — ведаючы звычкі паліцыі, вартаўнік прыкінуўся дурнаватым і адкрыта абурачся: — Вы хто такія?.. Камуністы?.. Што вам тут трэба?.. Чаму парушаеце вечны сон памершых?.. Ды я вас, нягоднікаў, зараз жа дастаўлю ў паліцыю!

Вінавата ўсміхаючыся, паліцэйскія, як па камандзе, адвярнулі клапы сваіх касцюмаў, і кожны з іх паказаў металічны жэтон агента тайнай паліцыі.

— А цяпер, стары, вядзі нас да магілы камуніста, якога тайком пахавалі, — ужо ласкава прагаварыў Шчука.

— Да якой магілы?.. Тут магіл многа. А чые яны, толькі сам бог ведае...

— Ну, да той магілы... не прыкідвайся, стары, дурнем...

— Сам знойдзеш дарогу і без мяне... Мне няма часу з вамі балбатнёй займацца, — і стары пайшоў адчыняць вароты новаму нябожчыку.

На наступны дзень шпікі зноў прыйшлі на могілкі, але ўжо ў суправаджэнні ўчастковага агента тайнай паліцыі. Яны не бадзяліся дарэмна па могілках, а адразу накіраваліся да магілы Якаўлева.

— Што гэта? — захліпаючыся ад злосці, накінуўся Шчука на вартаўніка.

— Магіла... Звычайная магіла, — спакойна адказаў вартаўнік.

— Маўчаць!.. Маўчаць, псякрэў!.. Тут тайна пахаваны камуніст... Хто яго хаваў?! — ужо не крычаў, а дзіка вішчаў Шчука.

— Не разумею, чаго вы хочаце ад мяне? То патрабуеце гаварыць, то крычыцё — «маўчаць», — стары махнуў рукой і зноў пайшоў ад іх.

Застаўшыся адны, агенты тайнай паліцыі доўга моўчкі стаялі ля магілы і глядзелі на вянок, на кветкі, на надмагільны камень, нібы да нечага прыслухоўваючыся...

Было ціха. У задуме таямніча перашэптваліся асеннія дрэвы, нячутна раняючы пажоўклае лісце. І раптам зусім непрыкметна набеглі цёмна-шэрыя воблакі. Халодны вецер пачаў злосна трэсці дрэвы.

Адзін з агентаў тайнай паліцыі, нібы разбуджаны пасля кашмарнага сну, пачаў захінаць паліто, другі ўзяў вянок.

— Як разгадаць, — загаварыў ён, — у якой майстэрні зроблены ён? — і пачаў рукамі перабіраць кожную галінку, кожны лісточак вянка.

прадстаўніцы «Маладой Расіі», як ён называў членаў Рускай секцыі, адказныя заданні. Вядома, напрыклад, што Дзмітрыева зрабіла заяву аб падложным характары пісьмаў Генеральнага савета І Інтэрнацыянала, у якіх была просьба прыняць бакунінскі «Альянс сацыялістычнай дэмакратыі» ў склад Інтэрнацыянала. Яна таксама забяспечвала К. Маркса літаратурай пра абшчыннае землеўладанне ў Расіі.

У сакавіку 1871 года Генеральны савет І Інтэрнацыянала па прапанове Карла Маркса накіроўвае Елізавету Дзміт-



Елізавета Лукінічна Дзмітрыева.

Шчука з усіх бакоў аглядаў надмагільны камень. Раптам ён успомніў пра сваю запісную кніжку. Паспешліва раскрыў яе і пачаў чытаць. Потым злосна вылаяўся і прагаварыў:

— А-яй, пане Леў... Як можна так?.. Навошта ж хітрыць?.. Навошта ж пісаць М. Леў, калі ў сапраўднасці Абрам Леў? Гэта спецыяльна, каб паліцыю збіць з толку. Няхай, маўляў, думаюць, што Абрам Леў усё яшчэ жывы і дзесьці працуе. Не, дудкі!.. Хітрыць будзем мы! — і, хапаючыся рукамі за надмагільны камень, пачаў хістаць яго. Яму здавалася, што тайну магілы хавае ў сабе не хто іншы, а гэты надмагільны камень. Пад дзікае завыванне ветру ў прыпадку шаленства Шчука крычаў:

— Бунтаўшчык!.. Баламут!.. Я ўсю Варшаву перавярну, а знайду таго, хто яго зрабіў і паставіў тут!..

О, калі б сапраўды ў тую хвіліну мог загаварыць камень, то Шчука са сваімі агентамі тайнай паліцыі, напэўна, пачуў бы, што сапраўды пад гэтым каменем ляжыць выдатны сын Савецкай Беларусі, які аддаў сваё жыццё за шчасце народнае, ветэран грамадзянскай вайны, былы намеснік начальніка палітаддзела 17-й дывізіі Чырвонай Арміі. Так, гэта ён — Абрам Леў, ён жа Якаўлеў, Ляонцьеў, ён жа Блінчыкаў.

Але камень маўчаў, маўчаў і тады, калі Шчука праз некалькі дзён прывёў да яго майстра, таго самага, які часаў, шліфаваў і паліраваў гэты камень. З ім заадно маўчаў і майстар. Вясёлы, гаваркі, ён толькі паціскаў плячыма і маўчаў. Дарэмна Шчука выклікаў яго на адкрытую размову, даваў розныя абяцанні, пагражаў.

— Я з працы жыву. Хто заказваў гэты надмагільны камень, не ведаю. Здаецца, нейкая старая жанчына... Так, так, старая жанчына. Прыгадваю, яна гаварыла, што выязджае з Варшавы, і прасіла хутчэй гэты камень апрацаваць і тут вось паставіць. Прозвішча сваё яна не называла. Грошы заплаціла пры заказе... І больш яе не бачыў...

Шчука, вядома, не паверыў майстру-каменячосу і адразу ж арыштаваў яго, абвінавачваючы ў прыналежнасці да камуністычнай партыі.

Праз два гады майстар-каменячос, як толькі выйшаў з турмы, пачаў шукаць Марэка Бітэра. Яму хацелася расказаць Марэку пра ўсё, чым цікавілася паліцыя, якіх прызнанняў патрабавала ад яго. Аднойчы ён сустрэў Марэка на вуліцы ў натоўпе, але падысці да яго пабаяўся. Пайшоў услед за ім да кватэры.

— Я з вамі заадно,— паціскаючы руку, вітаў ён Марэка.— Памятаеце, надмагільны камень вы заказвалі?.. У турме сядзеў за яго...

Шчука, вядома, не спыніўся на тым, што арыштаваў майстра-каменячоса. Супраць санітаркі, якая дзяжурыла ля ложка Якаўлева, была таксама ўзбуджана крымінальная справа. Але і тут паліцыю напаткала няўдача. Санітарка аказалася вельмі знаходлівая і здолела адвесці ад сябе небяспеку.

Тым часам рэвалюцыйная барацьба ў Польшчы расла і абвастралася. Адначасова бурна развіваўся нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі. З улікам росту рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы, настрою працоўных камуністы ўсюды стваралі шырокі народны фронт.

Паліцыя вымушана была адмовіцца ад сваёй задумы знайсці арганізатараў пахавання. Але чаму яна так цікавілася самім пахаваннем? Чаму цікавіў яе Абрам Леў?

Для польскіх улад тых часоў Абрам Леў быў не звычайны чалавек, а вялікая загадка. Паводле даносаў, якія меліся ў паліцыі, ён яшчэ 1 мая 1922 года ў Беластоку быў арганізатарам шматлюднай дэманстрацыі. Паліцыі было таксама вядома, што ў калоне дэманстрантаў Абрам Леў тады ішоў нездарма. Ён фактычна кіраваў дэманстрацыяй, а потым і мітынгам на плошчы Касцюшкі. Па яго знаку на мітынгу быў узняты сцяг камуністычнай партыі.

5 мая таго ж года ў Варшаве быў арыштаваны Абрам Леў. Паводле дакументаў ён лічыўся жыхаром Беластока, па перакананню — камуністам. І паліцыя завяла супраць яго крымінальную справу, па якой ён адседзеў шэсць гадоў у турме.

Знаходзячыся ў беластоцкай турме, Абрам Леў быў нелегальным прадстаўніком зняволеных камуністаў, якія выбралі яго старастам турэмнай камуны, і па іх даручэнню вёў перагаворы з турэмнымі ўладамі. Усіх раздаваў і захапляў спакой, такт і ўменне Абрама Льва, з якім ён вёў, бывала, размову з начальнікам турмы і іншымі ўладамі ў абарону правоў палітзняволеных.

Ішоў 1927 год. Пасля прыходу да ўлады Пілсудскага ў Заходняй Беларусі ўсе турмы былі перапоўнены. Палітзняволеныя жылі ў нечувана цяжкіх умовах.

— Хоць камуністы ў беластоцкай турме сядзелі ў камерах па адным, па два чалавекі, але дзякуючы Абраму Льву — аднаму з кіраўнікоў турэмнай камуны — мы былі добра арганізаваны, згуртаваны ў адно цэлае,—

рыеву з Лондана ў Парыж як свайго агента.

У Парыжы Елізавета Дзмітрыева адразу ж пачала працаваць на карысць Камуны. Яна ўвайшла ў склад цэнтральнага камітэта Саюза жанчын для абароны Парыжа і дапамогі раненым. У сувязі з гэтым яна пісала: «Калі Камуна пераможа, то наша арганізацыя з палітычнай ператворыцца ў сацыяльную...»

Елізавета Дзмітрыева разам з французскай гераіняй Луізай Мішэль змагалася на барыкадах. Луі Дзюбрэйль, гісторык Камуны, пісаў: «На плошчы Бланш батальён жанчын, пад камандай гераічнай Луізы Мішэль і рускай Дзмітрыевай, якая ўжо напярэдадні змагалася ў Баціньёлі, праявіў цуды храбрасці... адступаючы з адной барыкады, каб аднавіць гэту жорсткую барацьбу на наступнай...»

А вось як даносіў сакратар рускага пасольства ў Парыжы Абрэзкаў начальніку 3-га аддзялення графу Шувалаву: «Гэтая небяспечная руская падданая ўжо даўно кінулася ў сацыялістычны рух... Можна было прадбачыць, што яна адыграе прыкметную ролю ў канчатковым перыядзе паўстання. Сапраўды... Елізавету Дзмітрыеву бачылі на барыкадах, яна натхняла федэратаў... раздавала ім амуніцыю і сама страляла, стоячы на чале пяцідзесяці магер...»

Дзмітрыева на барыкадах была паранена. Але, не зважаючы на гэта, яна да канца «крывавага тыдня» абараняла сцяг Камуны з надпісам: «Няхай жыве пралетарская сацыялістычная рэспубліка і Парыжская камуна!»

Потым ёй прыйшлося ратавацца ад версальцаў. Яна перайшла граніцу і апынулася ў Жэневе, дзе знаходзілася Руская секцыя Інтэрнацыянала.

Неўзабаве рэвалюцыянерка вярнулася ў Расію, выйшла замуж за асуджанага на пасяленне ў Сібір і пайшла за ім у ссылку. Памерла Елізавета Лукінічна Дзмітрыева на 47-м годзе жыцця.

Вядомы дзеяч рабочага руху Поль Лафарг вельмі добра адзываўся аб другой рускай рэвалюцыянерцы Ганне Васільеўне Корвін-Крукоўскай. Ён называў



**Ганна Васільеўна Корвін-Крукоўская.**

успамінае былы палітзняволены Рудольф.— Кожны з нас адчуваў сябе членам турэмнай камуны. Калі пачалася галадоўка зняволеных, мы ведалі, што яе рыхтаваў і ёю кіраваў турэмны камітэт. Леў быў членам турэмнага камітэта, нашым старастам, прадстаўніком перад турэмнай адміністрацыяй, і мы адчувалі яго стойкасць, цвёрдасць, настойлівасць і ў той жа час душэўную, таварыскую любоў да нас, цеплыню, сардэчнасць...

Паліцыя ведала параўнальна мала пра Абрама Льва. Але ад яе ўвагі не схавалася і тое, што Абрама Льва фактычна ніхто не ведаў у Польшчы. У Беластоку, як ураджэнец, ён з'явіўся толькі ў 1921 годзе.

Хто ж такі быў Абрам Леў?

Як і адкуль ён з'явіўся ў Беластоку?

Абрам Леў не быў ураджэнцам Беластока. Гэта быў Марк Блінчыкаў, жыхар мястэчка Краслаўка Дзвінскага павету былой Віцебскай губерні — чалавек з вялікім жыццёвым вопытам, са стажам дарэвалюцыйнага падполля ў былой царскай Расіі.

Яшчэ ў 1912 годзе, будучы шаснаццацігадовым юнаком, ён пачаў актыўна ўдзельнічаць у рэвалюцыйнай барацьбе, распаўсюджваў нелегальную бальшавіцкую літаратуру, а потым па заданню бальшавікоў наладжваў сувязі з рабочымі, памагаў ім ствараць нелегальныя прафсаюзныя арганізацыі ў гарбарнай прамысловасці і на тытунёвай фабрыцы ў Віцебску.

Царская ахранка неаднаразова арыштоўвала яго.

Напярэдадні 1 Мая 1914 года, семнаццацігадовым юнаком, Марк быў арыштаваны за падрыхтоўку першамайскай забастоўкі, а ў 1915 годзе за антываенную агітацыю. Яго, як добра праверанага падпольшчыка, у канцы 1915 года сацыял-дэмакратычная арганізацыя Віцебска накіравала на сувязь у Кіеў. Але шпікі царскай ахранкі высачылі яго там, арыштавалі і этапным парадкам адправілі на пасяленне ў родную вёску Краслаўку.

Хутка перад ім адкрыліся шырэйшыя далягляды. У 1916 годзе Марк быў прызваны ў царскую армію, дзе таксама выконваў заданні бальшавікоў.

Лютаўская рэвалюцыя застала яго на Украінскім фронце.

Потым прыйшоў кастрычнік 1917 года, першыя дні савецкай улады і цяжкі 1919 год. Марк Блінчыкаў уступае добраахвотнікам у рады Чырвонай Арміі і адразу трапляе на фронт. Вясёлы, старанны, адважны юны баец Чырвонай Арміі звяртае на сябе ўвагу камандавання. Яго прызначаюць намеснікам начальніка палітаддзела 17-й дывізіі. У адной са схватак з белагвардзейскімі бандамі ён атрымлівае цяжкае раненне.

Пасля выздараўлення Марк Блінчыкаў працуе намеснікам народнага камісара працы Беларускай ССР.

Гэта быў цяжкі час. Голад. Разруха. Бандытызм... 24-гадовы намеснік наркома не ведае спакою ні ўдзень, ні ўночы. З мандатам урада № 1056 11 лютага 1921 года ён едзе ў Маскву ў Глаўком Працы з дакладам, а потым у Петраград і Віцебск для ўстанаўлення сувязі і вырашэння пытанняў, звязаных з перакідкай рабочай сілы. 9 мая таго ж года з урадавым мандатам № 3328 Блінчыкаў едзе ў Віцебск для вырашэння пытанняў паліўнай і сплаўной кампаніі.

Неўзабаве баявога, энергічнага камуніста Марка Блінчыкава адклікаюць у Маскву на работу ў Наркамат працы РСФСР.

Натхнёны ідэямі Вялікага Кастрычніка, Марк уважліва сачыў за класавай барацьбой і марыў аб рэвалюцыі ў іншых краінах. У той час у Польшчу і Заходнюю Беларусь ехалі многія жыхары тых гарадоў і вёсак, якія, паводле Рыжскага дагавору, адышлі да Польшчы. З дакументамі на імя Абрама Льва паехаў туды і Марк Блінчыкаў.

У Заходняй Беларусі падпольныя партыйныя арганізацыі яшчэ

---

яе «вельмі рускай вучонай». Яе таксама асабіста ведаў і Карл Маркс. Гэта яна перакладала «Капітал» на французскую мову.

Дзіцячыя і юнацкія гады Корвін-Крукоўскай, як і яе малодшай сястры, геніяльнага матэматыка Соф'і Кавалеўскай, прайшлі ў Віцебскай губерні. Яшчэ там яна пазнаёмілася з творамі М. Г. Чарнышэўскага, там жа яна напісала свае першыя апавяданні, якія былі апублікаваны ў часопісе Ф. М. Дастаеўскага «Эпоха».

«Начытаўшыся тайком рэвалюцыйных брашур, — расказвае пра Ганну Васільеўну польская рэвалюцыянерка М. Залеская-Мендэльсон, — яна мела намер ні больш ні менш, як перавярнуць дагары нагамі ўсю Еўропу».

У 1869 годзе Корвін-Крукоўская едзе за граніцу. У Парыжы і Жэневе яна разам са сваім мужам Віктарам Жакларам, французскім рэвалюцыянерам і членам I Інтэрнацыянала, апынулася ў самай гушчыні рэвалюцыйнага руху. Калі ўспыхнула Парыжская камуна, Ганна Корвін-Крукоўская ўвайшла ў адзін з камітэтаў пільнасці Парыжа, а таксама ў камісію па арганізацыі жаночай адукацыі. Яна выступала ў друку, у клубах жанчын-патрыётак з заклікам ствараць санітарныя атрады для работы на фронце і ў горадзе, арганізоўваць харчаванне на баявых пазіцыях, пасылаць жанчын на пабудову і абарону барыкад і г. д.

Адзначаючы актыўнасць і самаадданасць перадавых жанчын у барацьбе парыжскіх камунараў, Карл Маркс на Лонданскай канферэнцыі I Інтэрнацыянала гаварыў: «У час Парыжскай камуны... яны (жанчыны — **І. Ш.**) праявілі больш запалу, чым мужчыны...»

Сапраўды, падтрымка жанчын зрабіла Парыж мужным і гордым. Справу Парыжскай камуны прадоўжыла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, слаўнае 50-годдзе якой хутка будзе адзначаць усё прагрэсіўнае чалавецтва. Парыж рабочых з яго Камунай, як сказаў Карл Маркс, заўсёды будуць ушаноўваць як слаўнага прадвесніка новага грамадства.

**Іван ШПАДАРУК,**
**аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**





**Марыя Аляксандраўна Васілеўская (Бубнава) — адна з першых тэлефаністак рэвалюцыйнага Магілёва. 1918 год.**

# ЗМАГАРКІ ЗА САВЕТЫ

**Аляксандра Мікалаеўна Цярэнцева была членам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняй вобласці і фронту. У 1917 годзе ўступіла ў партыю бальшавікоў. Яе выбралі членам Мінскага камітэта РСДРП(б) і мінскага Савета.**



не былі згуртаваны і не мелі адзінага кіруючага партыйнага цэнтра. У многіх месцах дзейнічалі на нелегальным становішчы арганізацыі Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі.

Кіруючыся прынцыпамі пралетарскага інтэрнацыяналізму, другі з'езд КПП у канцы 1923 года абвясціў лозунг пра самавызначэнне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны аж да аддзялення ад Польшчы і ўз'яднання са сваімі братамі ў Савецкім Саюзе, вырашыў стварыць аўтаномную Камуністычную партыю Заходняй Беларусі ў складзе адзінай Камуністычнай партыі Польшчы. А тым часам задоўга да з'езду Марк Блінчыкаў узначальваў акруговы камітэт Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, адначасова ён быў членам гарадскога камітэта партыі ў Беластоку.

Марк горача любіў моладзь. Яму прыемна было перадаваць моладзі свой вопыт рэвалюцыйнай барацьбы.

З 1922 па 1928 год Марк Блінчыкаў-Якаўлеў знаходзіўся ў турме. Калі ён выйшаў на волю, у Камуністычнай партыі Польшчы ішла жорсткая ідэалагічная барацьба. Нягледзячы на тое, што Марк доўгі час быў у адрыве ад непасрэднай партыйнай работы, якую праводзілі на волі, ён адразу ж далучыўся да актыўнай дзейнасці ў партыі. Хутка яго дэлегіравалі на першы з'езд Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, дзе яго выбралі ў склад Цэнтральнага Камітэта КПЗБ.

Перыяд з 1928 года да 11 лістапада 1935 года — да дня яго смерці — быў незвычайна напружаны і багаты. М. Блінчыкаву неаднаразова даводзілася ўзначальваць сакратарыят ЦК КПЗБ у Варшаве або ў Вільнюсе. Ён рыхтаваў і праводзіў многія нарады партыйнага актыву ва ўмовах падполля; удзельнічаў у пленумах ЦК КПЗБ, быў дэлегатам шостага з'езду Камуністычнай партыі Польшчы, а потым дэлегатам другога з'езду КПЗБ, а таксама ўдзельнічаў у работах VII кангрэсу Камінтэрна.

Блінчыкаў-Якаўлеў вядомы быў польскай паліцыі як былы палітзняволены Абрам Леў і кожную мінуту мог быць апазнаны і арыштаваны. Тым не менш, заўсёды, калі паўставала пытанне перад кіраўніцтвам партыі аб тым, каб Блінчыкаву-Якаўлеву дaручыць якую-небудзь адказную работу, а ў Польшчу замест яго пасланць каго-небудзь другога з таварышаў, ён заўсёды пярэчыў і дабіваўся, каб яму дазволілі паехаць на работу ў падполле.

Кіруючы сакратарыятам ЦК КПЗБ, Блінчыкаў-Якаўлеў, як правіла, аддаваў шмат увагі рабоце МОПРа — Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам. Праз МОПР ён трымаў сувязь з турмамі.

У жыцці М. Блінчыкаў-Якаўлеў быў выключна сціплы і просты. Сістэматычнае недаяданне, празмерная напружанасць у рабоце выклікалі частыя прыступы хваробы, але ён не любіў пра яе гаварыць і нават злаваў на тых, хто нагадваў яму пра гэта.

Такі быў гэты юнак дваццатых гадоў, той, пра каго доўгія гады нічога не ведалі.

У 1955 годзе тайна магілы была раскрыта.

Кіраўніцтва Польскай Аб'яднанай рабочай партыі аддало найлепшую даніну памяці Марка Блінчыкава. Яго астанкі перавезлі з Акопавых могілак на Ваенныя ў Алею заслужаных людзей Польшчы.

Сакратар Выканаўчага Камітэта ПАРП горада Варшавы Стэфан Сташэвіч, які выступіў на пахаванні, сказаў:

— Гэта магіла будзе вечным помнікам для працоўных Заходняй Беларусі, Польшчы і Заходняй Украіны. Яна будзе нагадваць пра дружбу, любоў і ўзаемную павагу нашых народаў, пра іх сумесную барацьбу, пра слаўнае гераічнае мінулае.

**Сяргей АНІСАЎ.**






# АДКРЫЦЦЁ САМАБЫТНАСЦІ МАСТАКА

**Дзмітры БУГАЁЎ. Уладзімір Дубоўка. Крытыка-біяграфічны нарыс. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965.**

Калі мы сёння шчыра прызнаем, што беларуская савецкая літаратура дасягнула росквіту амаль ва ўсіх жанрах, што многія яе творы сталі здабыткамі сусветнай культуры, то не павінны забывацца і на нядаўнюю яе гісторыю, якая тварылася на працягу паўстагоддзя. І тварылі гэтую гісторыю не толькі тыя, чые імёны ўвайшлі сёння ў школьныя хрэстаматыі і падручнікі, але і тыя сціплыя аратыя літаратурнай нівы, якія вытрымалі самыя цяжкія выпрабаванні часу і засталіся мастакамі з маладым запалам і шчырай душой грамадзяніна. Іменна такім прадстаўляе нам крытык Дзмітры Бугаёў аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры Уладзіміра Дубоўку.

Незвычайная біяграфія паэта, поўны няспынных пошукаў яго творчы шлях далі крытыку багаты матэрыял, каб стварыць змястоўны, тэмпераментны, навукова абгрунтаваны крытычна-біяграфічны нарыс. Партрэт Уладзіміра Дубоўкі напісаны на шырокім і ўражлівым фоне літаратурнага жыцця дваццатых-трыццатых гадоў. І калі гэты фон знікае ў раздзеле «Зноў у літаратурным страі», дык зніжаецца разам з тым у некаторай ступені і выразнасць самога вобраза паэта, для якога даследчык не здолеў вызначыць пэўнага месца ў шматгалоссі літаратурнага жыцця сённяшняга дня. Аўтар нарыса пад канец яго як бы забыўся на выказаную ім ва ўступе слушную накіроўваючую думку: «асабісты мастацкі вопыт Уладзіміра Дубоўкі, яго здабыткі і пралікі могуць быць найлепш зразуметы і вытлумачаны, калі яны будуць суадносіцца з вопытам, пошукамі, дасягненнямі і стратамі ўсёй савецкай літаратуры».

Праз 28 гадоў незаконнага адлучэння ад творчасці і роднай Беларусі вярнуўся як верны сын і грамадзянін яе Уладзімір Дубоўка. Вярнуўся напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя, у сувязі з якім Васіль Вітка даў трапную характарыстыку чалавеку, якога «па праву можна назваць маладым паэтам за маладосць яго паэзіі, за творчую нястомнасць і няўрымслівасць, за смелыя пошукі і за тую задзёрыстасць, якая заўсёды ўласціва толькі маладосці. Паглядзіце ў яго вочы — імклівыя і вясёлыя, праніклівыя і ясныя, — і вам здасца, што за сівой барадой схаваўся чарадзей з душой паэта-юнака. Яму вядомы і таямніцы яшчэ не сказанага слова, і радасць простай нялёгкай людской працы, калі, узяўшы ў рукі сякеру або фуганак, можна ўсім на дзіва

выбудаваць дом, а яго вокны ўпрыгожыць найтанчэйшымі карункамі ліштвы».

І аўтар нарыса паказвае, як бервяно за бервяном штогод кладзе паэт, які занудзіўся без творчасці, у новы зруб беларускай паэзіі. Паэмы «Перад іменем Любові», «Чакае ля берагу човен мяне», «Беларуская Арыядна», кніга вершаў «Палеская рапсодыя», шмат кніжак для дзяцей, пераклады Шэкспіра, Байрана, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы... У кнізе не толькі пералік, а і шчырае імкненне даследчыка выявіць перш за ўсё тое новае, адметнае, што прынёс паэт у агульную скарбніцу беларускай культуры.

Што ж новае прынёс ён? Уменне ўзважыць «цану» працоўных намаганняў чалавека, іх цяжар і ўславіць радасць працы не ў ідылічных танах, а ў суровых, рэалістычных, быццам вугалем пісаных. «Але пад гэтым вугалем,—зазначае даследчык,—гарыць агонь аўтарскага сэрца, яго страсці, яго выпакутаванай ісціны».

Дубоўка (і гэта аўтар нарыса паказвае на яскравых прыкладах) «працягвае плённыя пошукі ў галіне эпічных жанравых форм, узбагачае свой мастацкі стыль за кошт развіцця апавядальных элементаў верша, а таксама за кошт большай абагульненасці і маштабнасці самой лірыкі».

Даследчык не абмінае і тых страт, якімі суправаджаецца напружаная творчая праца паэта. Ён спыняе ўвагу на найбольш характэрнай з'яве, калі імкненне Дубоўкі да гранічнай яснасці думкі ператвараецца ў «залішнюю сухасць і некаторую празаічнасць паэтычнай мовы, як быццам пазбаўленай мускулатуры». Аднак ці варта было апраўдваць вершы, у якіх вельмі прыкметна павярхоўна-публіцыстычнае вырашэнне тэмы, малапераканаўчым довадам, што «усе яны важныя для аўтара», бо «пры ўсёй іх слабасці ў некаторых выпадках з'яўляюцца для паэта крокам наперад, да больш шчыльнага, непасрэднага знітавання з часам і ў гэтым сэнсе адкрываюць перад аўтарам новыя далягляды».

Найлепш удаўся Д. Бугаёву раздзел «У шэрагах «Узвышша», дзе без усялякіх скідак ён вядзе патрабавальную размову, спаганяе з паэта за канкрэтныя творы па вялікаму рахунку і спрабуе расплюшчыць сённяшняму чытачу вочы на многія асаблівасці творчай працы ў канцы 20-х—пачатку 30-х гадоў, калі за неасцярожна аброненае слова ці недакладна сфармуляваную думку або за выразна нацыянальны вобраз крытыкі-вульгарызатары адразу ж прыпісвалі нацыяналістычныя погляды, варожасць да савецкай улады і камуністычнай партыі.

Д. Бугаёў скарыстоўвае неапублікаваныя архіўныя матэрыялы (мемуарныя, эпісталярныя), каб паказаць, што Уладзімір Дубоўка ўвесь час эксперыментаваў, шукаў шляхі да высокай мастацкай дасканаласці, да выкрышталізоўвання самастойнага паэтычнага голасу, але стаяў пры гэтым на здаровым грунце. Творчасць У. Дубоўкі «наследавала лепшыя традыцыі і беларускай, і рускай, і сусветнай культуры, яна ўлівалася ў рэчышча літаратуры сацыялістычнага рэалізму, узбагачаючы пераважна яе рамантычную стылёвую плынь. Гэта была творчасць, якая натхнялася вялікімі ідэямі Кастрычніка, ідэаламі сацыялізма і камунізма».

Гэты вывад пра ўзвышанскі перыяд творчасці У. Дубоўкі грунтуецца на дэталёвым і глыбокім аналізе найбольш значных вех на яго творчым шляху: вершаванай нізкі «Урачыстая дата», прысвечанай дзесяцігоддзю Савецкай Беларусі, паэм «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты». Улічваючы сённяшняе багацце многанацыянальнай савецкай літаратуры, Д. Бугаёў робіць вельмі цікавыя і абгрунтаваныя вывады пра тое, што лейтматыў бясконцай далі, які зноў і зноў адкрываецца перад А. Твардоўскім у паэме «За далячынню—далячынь», ужо «нашчупваўся» Дубоўкам у «Кругах», або што спрэчка Лірыка і Матэматыка ў паэме «І пурпуровых ветразей узвівы» моцна нагадвае нядаўнія сутычкі паміж «лірыкамі» і «фізікамі». Такія назіранні даюць падставу сцвярджаць, што «паэт фактычна адстойвае правы на павагу да таленту, на творчы пошук, на натхненне, на глыбокае самастойнае даследаванне жыцця, на шматграннасць мастацтва».

Даследчык прасачыў і плённы ўплыў, які рабіла творчасць Уладзіміра Дубоўкі на развіццё беларускай літаратуры, на такіх яе прадстаўнікоў, як П. Глебка, М. Лужанін, П. Трус, С. Дарожны і іншых. У нарысе шчыра і адкрыта сказана пра характэрныя для У. Дубоўкі злоўжыванні літаратурнай палемікай, даніну групавой барацьбе, якія, аднак, ніколі не пераступалі мяжы нецярпімых адносін «да тых, хто разважаў і пісаў інакш, чым ягоныя сябры». Зроблены крытыкам і належныя акцэнты на некаторыя памылковыя сцверджанні ў вусных і друкаваных выступленнях У. Дубоўкі таго часу, хоць крытык бывае залішне мнагаслоўным, калі спрабуе бясконца і шырока тлумачыць невінаватасць паэта ў памылках, якія яму незаслужана прыпісваліся з прычыны аднабокага разумення пасобных яго твораў і вобразаў.

Крыху мнагаслоўны Д. Бугаёў і тады, калі спрабуе давесці, што У. Дубоўка ніколі не быў непрыязны да Я. Купалы і Я. Коласа, нібы хто і цяпер сапраўды думае наадварот. Наогул жа, у раздзелах «Першыя крокі. Літаратурныя настаўнікі» і «Маладнякоўскія паэмы, лірыка» крытык выявіў уменне пісаць жыва, захапляльна. З кожнага факта багатага жыццяпісу У. Дубоўкі даследчык умее здабыць вялікі сэнс, выкрасаць той зыркі агеньчык, які на фоне ўсёй жыццёвай разнастайнасці высвечвае выразны, цэльны вобраз паэта і грамадзяніна, чалавека высокай культуры і адметнай мастацкай індывідуальнасці.

Вельмі пераканаўча раскрывае Д. Бугаёў «пахвальнае імкненне Дубоўкі абнаўляць паэтычную лексіку, шукаючы для слова новыя ракурсы, нечаканае акружэнне, незвычайны моўны кантэкст», і робіць зусім слушны вывад пра тое, што «такім шляхам расшыраліся стваральныя магчымасці беларускай літаратурнай мовы». Пошукі формы не былі для У. Дубоўкі самамэтай, і крытык яскрава даводзіць гэта на цэлым шэрагу літаратурных фактаў. Так ён прыводзіць верш «О, Беларусь, мая шыпшына», каб абгрунтаваць, што паэт дасягнуў тут «арганічнага сінтэзу агульнарэвалюцыйнай і нацыянальнай сімволікі, пераканальнасць і трапнасць якой найлепшым чынам даведзены тым, што значна пазней яна стала таксама сімволікай дзяржаўнага сцяга Савецкай Беларусі».

Дзмітры Бугаёў, можна сказаць, **адкрыў** сённяшняму чытачу ва ўсёй сваёй велічы і мудрай прастаце яшчэ аднаго палымянага змагара за беларускую сацыялістычную культуру, выдатнага мастака, адметнасць і непаўторнасць чыйго таленту вельмі трапна заўважыў украінскі пісьменнік Іван Сенчанка: «...Дубоўка **адзін** народны і тады, калі тэрцынамі з Байранам размаўляе, і тады, калі найвышэйшую сучасную паэтычную тэхніку дастасоўвае да апрацоўкі якога-небудзь народнага фантастычнага сюжэта». Гэта было сказана ў сувязі з кнігай «Палеская рапсодыя», адзначанай Рэспубліканскай літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

Крытык заканчвае свой нарыс спадзяваннем на тое, «што новая сустрэча Дубоўкі з чытачом не за гарамі». А пасля гэтай сустрэчы зусім заканамерным будзе чакаць новае слова Д. Бугаёва пра мастака, якога ён прачытаў вельмі ўдумліва і тактоўна.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

Кнігарня „Маладосць“

# ПАДАРУНКІ ДЗЕЦЯМ



Маленькі чытач ужо ведае **Рыгора БАРАДУЛІНА** па кніжцы дзіцячых вершаў «Мех шэрых, мех белых». Нядаўна аўтар парадаваў сваіх юных сяброў новым зборнікам — **«КРАСАВІК»** (выдавецтва «Беларусь», 1965). Паэт умее гаварыць з дзецьмі цікава і займальна, проста і шчыра, дзе з жартам, а дзе сур'ёзна.

Ціха ноч ступае
З зорнаю сявенькай.
Па сінім Дунаі
Дзед плыве сівенькі.
А вязе ён кадку,
Мёд салодкі ў кадцы.
Кожнаму дзіцятку —
Па цікавай казцы.
Мёдам вочкі мажа,
Доўга казку кажа.
А гэтага дзеда
Дзеткам трэба
ведаць...—

так у вершы «Калыханка» расказвае паэт пра дзеда, імя якому — Сон.

Цікаваму зместу кнігі добра імпануе прыгожае мастацкае афармленне мастака В. Ціхановіча.




Новы зборнік вершаў **Кастуся КІРЭЕНКІ «УРАЧЫСТАЯ ПЕСНЯ»** (выдавецтва «Беларусь», 1965) прысвечаны юнацтву. Паэт вучыць моладзь шанаваць вялікія справы бацькоў, якія сваім мужным і гераічным жыццём, сваёй славай стварылі краіну шчаслівай маладосці, «краіну шчаслівай красы». Паэму «Урачыстая песня» паэт прысвяціў юнацтву свайго пакалення, апаленаму вайной.

У зборніку ёсць таксама лірычныя вершы аб прыродзе, аб вясне, аб харастве нашай зямлі.

З новай кніжкі **Івана МУРАВЕЙКІ «СЕМ КОЛЕРАЎ ВЯСЁЛКІ»** (выдавецтва «Беларусь», 1965) маленькі чытач даведаецца пра многае: і як ветрык купаецца, і як Лістапад зрабіўся Снежнем, і пра ручаёк, які заблудзіўся ў лесе. У кнізе ёсць вершы і пра плаксівых і вясёлых дзяўчынак, і пра неахайнага Толю, які пагубляў усе гузікі з паліто, і пра тое, як цяжка непаседу вудзіць рыбу, і пра маленькага майстра, які памагае тату рамантаваць трактар. На пытанне ж, дзе жывуць чараўнікі, аўтар вуснамі дзеда Рыгора паэтычна расказвае аб простых савецкіх людзях, якія сваёй працай твораць самыя вялікія дзівы на свеце.






**«ДЗЕ ВЯСНЫ ПАЧАТАК»** — так назваў сваю новую кнігу вершаў для дзяцей **Паўлюк ПРАНУЗА** (выдавецтва «Беларусь», 1965). Паэт знаёміць юных чытачоў з вялікім светам працы, цікава расказвае, адкуль зімою бяруцца зялёныя агуркі і салата, дзе жыве рэха, адказвае на безліч цікаўных дзіцячых «чаму» і «навошта».

У кнізе ёсць вершы пра дзіцячыя радасці і нягоды, пра хітрыкі і выдумкі, на якія багата дзіцячая фантазія.

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет новую аповесць **Аляксандра АВЕЧКІНА «ЛЯ ДЗІВОСНЫХ ГОР»** (1965). Пісьменнік расказвае пра падарожжа піянера Міхася на Енісей у Сібір, дзе калісьці, пры царызме, гінула многа лепшых людзей Расіі, а цяпер будуюцца гарады, гідраэлектрастанцыі, заводы, фабрыкі. Разам з Міхасём мы даведваемся, адкуль паходзіць назва горада Краснаярска, наведваем бібліятэку Г. В. Юдзіна, у якой у красавіку 1897 года працаваў У. І. Ленін, глядзім, як перакрываецца магутная сібірская рака Енісей. Усё гэта захапляе і хвалюе не толькі юнацтва, для якога напісана кніга, але і дарослых.




## У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ ЧЫТАЙЦЕ:

**Вершы Петруся БРОЎКІ.**

**Аповесць Валянціна МЫСЛІЎЦА «САКАВІК—МЕСЯЦ ВЯСЕЛЬНЫ».**

**Мікалай МІРАШНІЧЭНКА. «СВЯТАЯ ПАСТКА». Расказ былога семінарыста.**

Сур'ёзнае *Кур'ёзнае*

# ПАМЯЦЬ У АМПУЛЕ

Гэта нагадвае ідэю навукова-фантастычнага рамана: памяць, выкрышталізаваную ў матэрыяльную форму, выходзіць, можна пераносіць з аднаго мозгу ў другі. Сапраўды, задума — вартая пяра пісьменніка-фантаста! Напрыклад, памірае чалавек і забірае з сабою таямніцу сваёй смерці. З'яўляюцца людзі ў белых халатах. Яны робяць экстракт з мозгу памершага і пры дапамозе ўколу ўводзяць яго дэтэктыву. Кароткае «азарэнне», і той ужо ведае, што ведаў толькі забіты... Зрэшты, няхай вядомыя майстры жанру фантастыкі займуцца далейшым лёсам пільнага сышчыка. А мы пяройдзем да справы з пункту гледжання факта.

Каб успрыняць і развіць вопыт мінулых пакаленняў, кожная жывая істота павінна нешта памятаць. Што датычыць чалавека, дык аб'ём яго памяці запаўняюць адлюстраванні бачаных прадметаў, уяўленні аб перажытых пачуццях, навыкі ад калісьці зробленых рухаў. Вялікі рускі фізіёлаг І. П. Паўлаў адкрыў фізіялагічныя прадпасылкі ажыўлення адбіткаў мінулых падзей у з'яве так званых умоўных рэфлексаў. А паколькі ў аснове такіх рэфлексаў знаходзіцца электрахімічны нервовы імпульс, паявіліся дзве тэорыі памяці: «электрычная» і «хімічная».

Першую з іх распрацаваў англійскі вучоны-эксперыментатар Янг. Для сваіх доследаў ён выкарыстоўваў... спрутаў. На думку Янга, гэтыя экзатычныя жывёліны маюць фенаменальны талент паглынаць інфармацыю, і памяць іх выключная.

Янг выявіў, што ў мозгу спрута знаходзяцца так званыя «камеры памяці», куды спрут, быццам у багаж, здае адлюстраванні перажытага. І ў чалавека, сцвярджае прафесар Янг, ёсць такія «камеры памяці», бо інакш, чым растлумачыць тое, што пры выдаленні большай часткі мозгу чалавек не заўсёды страчвае памяць? Рызыкоўны вывад! — скажа чытач. Але ў Янга былі падставы для такога рызыкоўнага сцвярджання. Гэта, у першую чаргу, вынікі эксперыментаў амерыканскага псіхолага Лешлі. Яны пацвердзілі гіпотэзу Янга, хоць амерыканец імкнуўся якраз абвергнуць пошукі англійскага прафесара. Аднак Лешлі не ўдалося лакалізаваць «месца» накаплення памяці. Ён выдаляў пяцьдзесят працэнтаў мазгавой кары ў сваіх натрэніраваных пацукоў, і яны забывалі палову таго, чаму іх навучылі.

Прафесар Янг мог трыумфаваць: нельга «адрэзваць» успаміны разам з пэўнымі часткамі мозгу.

# ДЛЯ ВАС, ДЗЯЎЧАТЫ

Перш чым адважыцца расстацца з касой і зрабіць прычоску, добра падумайце над тым — якая больш падыходзіць да авала і сілуэта вашага твару. Самыя лепшыя ўборы і ўпрыгожанні не будуць прымацца пад увагу, калі прычоска зроблена без уліку вашых індывідуальных асаблівасцей. Прычоску трэба падбіраць да твару, да фігуры, да росту і ўзросту, не забываючыся, вядома, і на моду. Самым маладым дзяўчатам лепш насіць



Па-ранейшаму заставалася адкрытым пытанне: што ўяўляюць сабою гэтыя ўражанні з пункту погляду іх структуры? «Электрычная» тэорыя тут была бяссільная. І тады сказаў сваё слова прадстаўнік «хімічнай» тэорыі — амерыканскі вучоны Маконэл, які ў сваіх доследах ішоў ад дасягненняў сучаснай біяхіміі.

Усё пачалося яшчэ ў 1953 годзе з доследаў над прымітыўнымі плоскімі чарвякамі — планарыямі. Гэтыя стварэнні простыя па сваёй будове, але маюць зачаткі мозгу. Механізм перадачы імпульсаў у іх такі, як і ў вышэйшых арганізмаў. Маконэл вырашыў, што планарыі — добры даследчы матэрыял.

Перш за ўсё — ці ўдасца выклікаць у планарый умоўны рэфлекс? Над акварыумам, дзе жылі чарвякі, запальвалі святло і адначасова праз ваду прапускалі малы ток. Планарыі пачыналі курчыцца. Калі эксперымент паўтарылі сотні разоў, планарыі курчыліся пры адным запаленым святле.

Гэтым закончылася першая частка доследаў Маконэла.

Другая прынесла сапраўды ашаламляльныя вынікі. Як вядома, планарыя, перарэзаная напалам, застаецца жывой і ператвараецца ў два самастойныя арганізмы: на частцы з галавой адрастае хвост, а на хваставай частцы з'яўляецца галава з зачаткамі мозгу. Маконэл разрэзваў дрэсіраваных планарый і назіраў, як будуць паводзіць сябе новыя стварэнні, калі на іх уздзейнічаць святлом.

Вынік перасягнуў усе чаканні. Памяць аб тым, што пры ўспышцы святла трэба скурчыцца, бо зараз жа за ёй адбудзецца ўдар токам, захавалі не толькі стварэнні, у якіх засталася ранейшая галава. Гэтак рэагавалі і планарыі, што выраслі з хваставой часткі і раней не мелі мозгу.

У 1961 годзе Маконэл прадоўжыў эксперыменты, і вось што яны прынеслі. Планарыі, калі ім не хапае харчу, пачынаюць паядаць адна другую. Некаторых з ліку «адукаваных», што рэагавалі на святло, парэзалі на дробныя кавалачкі і накармілі імі «неадукаваных», якіх святло не палохала. Вынік быў нечаканы: планарыі, падсілкаваўшыся сваімі родзічамі, пачыналі курчыцца пры ўспышцы святла. Прымітыўныя чарвякі выкарыстоўвалі з'едзеную інфармацыю!

Выходзіць, што памяць — субстанцыя матэрыяльная, і ўласцівасці яе можна прысвойваць праз харч. Адразу ж пасля доследаў Маконэла пачаліся пошукі хімічнай субстанцыі, адказнай за накапленне інфармацыі ў арганізме.

У 1964 годзе шведскі прафесар Хайдэн заявіў, што паміж памяццю і колькасцю рыбануклеінавай кіслаты ў плазме нервовых клетак існуе пэўная і важная сувязь. Ён даказаў, што дрэсіроўка трусоў і пацукоў вядзе да павелічэння канцэнтрацыі гэтай кіслаты ў арганізме. Шведскаму прафесару ўдалося давесці і тое, што колькасць рыбануклеінавай кіслаты мяняецца з... узростам.

Менш за ўсё «субстрату памяці» ў нованароджаных, затым колькасць кіслаты павялічваецца з трох да сарака гадоў, а пасля зноў памяншаецца, прычым у позняй старасці колькасць яе спадае да ўзроўню аднагадовага дзіцяці.

Гэты песімістычны вынік стаў прадметам шырокай навуковай дыскусіі. Амерыканцы адразу кінуліся ў атаку на «субстанцыю памяці». Быў праведзены эксперымент з двума мышкамі — Мітсу і Джэры. Мышка Джэры ведала, што ў хвіліну, калі запаляць святло, яна знойдзе каля сваёй норкі ласунак. Мышка Мітсу, наадварот, баялася святла, яе не навучылі загадзя, што святло з'яўляецца сігналам чагосьці прыемнага. Тады зрабілі такую аперацыю: выразалі ў Джэры частку мозгу, выдалілі з яго рыбануклеінавую кіслату і ўспрыснулі яе ў мозг Мітсу. Мітсу адразу змяніла адносіны да святла — бо ўжо разумела, што гэта сігнал да пачастунку сырам.

Значыць, памяць можна ўводзіць пры дапамозе ўколаў? Адказ на гэтае пытанне дасць час. Цярплівыя пошукі вучоных прадаўжаюцца.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**

# ДЛЯ ВАС, ДЗЯЎЧАТЫ

гладкую прычоску, можна мець доўгія, распушчаныя або сабраныя валасы, што будзе непрыгожа для жанчын пасля трыццаці гадоў. Ім лепш насіць кароткую стрыжку. Жанчынам невысокага росту, схільным паўнець, не трэба рабіць занадта пышныя і асаблівa ўзбітыя прычоскі.

Прыгледзьцеся да нашых малюнкаў і выберыце сабе прычоску, якая найлепшым чынам стасуецца да вас.



## ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА

Гомельскі журналіст М. Васілявіцкі знайшоў у краязнаўцаў абласнога музея медаль: на адным яе баку паказаны французскі капітан Дрэйфус, на другім—пісьменнік Эміль Заля. Так невядомы майстар адгукнуўся на вядомую падзею еўрапейскага жыцця канца XIX стагоддзя.

Як вядома, у канцы 1897 года Эміль Заля атрымаў ад французскага журналіста Бернара Лазара дакументы аб невіноўнасці капітана Дрэйфуса, асуджанага на пажыццёвую катаргу па ілжываму абвінавачанню ў дзяржаўнай здрадзе. Цалкам фальсіфікаваная «справа Дрэйфуса» паслужыла французскай ды і ўсёй еўрапейскай рэакцыі прычынай для распальвання шавінізму і антысемітызму. Пасля ўважлівага вывучэння ўсіх дакументаў «справы» Эміль Заля ў студзені 1898 года звярнуўся з адкрытым пісьмом да прэзідэнта рэспублікі. Гнеўнае «Я абвінавачваю!» Заля мела шырокі рэзананс і перацягнула на бок праўды




і дэмакратыі ўсіх сумленных людзей. Далёка ад Францыі сумленныя людзі падзялялі думку А. П. Чэхава, што «Заля быццам бы вырас на цэлых тры аршыны ад яго пратэстуючых пісем, быццам бы свежым ветрам павеяла».

І вельмі знамянальна, што ў нас, у Беларусі, знайшліся людзі, якія выказалі сваю салідарнасць з Эмілем Заля, сваю «упэўненасць,—як пісаў А. П. Чэхаў,—што ёсць яшчэ справядлівасць на свеце і што, калі асудзяць невіноўнага, ёсць каму заступіцца».

**Д. Фактаровіч.**

## НАЙМЕНШАЯ Ў СВЕЦЕ КНІЖКА




Ніводная з кніжак-малютак, якія вядомы людзям, не можа зраўняцца з той, што зрабіў малады ўжгарадскі аграном Мікола Сядрысты. Памер кніжкі 0,6 міліметра—амаль удвая меншы за макавае зернятка. Кніжка гэтая—«Кабзар» Тараса Шаўчэнкі. Толькі пад моцным мікраскопам можна ўбачыць у кнізе партрэт вялікага паэта і 75 радкоў яго вершаў.

Мікола Сядрысты—аўтар шмат якіх унікальных рэчаў. Ён начарціў карту Закарпацця на зернятку вінаграду, намаляваў партрэт У. І. Леніна на тарцы валасінкі дыяметрам у 125 мікрон, стварыў балалайку, футлярам для якой стала макулінка.






**Раздзел вядзе**
**міжнародны гросмайстар**
**Аляксей СУЭЦІН**

# АТАКУЕ ВІЦЯ КУПРЭЙЧЫК



Мінскі школьнік Віця Купрэйчык рана пачаў захапляцца шахматамі. Захапіўся страсна і сур'ёзна. Разам з заняткамі ў Палацы піянераў ён пачаў наведваць, як дарослы, Рэспубліканскі шахматны клуб. Зусім маленькі, смяшлівы, ён адразу стаў прыкметны нават для выпадковых наведвальнікаў клуба. І палюбілі яго ўсе.

Гэта было, прыкладна, шэсць гадоў таму назад. А праз тры гады Віця Купрэйчык трывала заваяваў аўтарытэт і павагу сярод дарослых наведвальнікаў клуба. Ён выканаў норму кандыдата ў майстры, пачаў нязменна заваёўваць высокія месцы на гарадскіх чэмпіянатах.

У сакавіку 1964 года Віця дэбютаваў у фінале першынства рэспублікі. Спартыўныя вынікі яго былі вельмі сціплыя, але важна не гэта. Зусім зразумела, што цяжка адразу дамагчыся вялікага поспеху на спаборніцтвах, дзе самая меншая катэгорыя—гросмайстар. Дарэчы, з гросмайстрам І. Баляслаўскім па жэрабю Віцю давялося гуляць у апошнім туры, прычым Баляслаўскаму, каб заваяваць званне чэмпіёна рэспублікі, трэба было атрымаць толькі выйгрыш. Але Віця цудоўна абараняўся, і ў эндшпілі вызначылася яўная нічыя. І тут, на здзіўленне і гледачоў і ўдзельнікаў турніру, Віця азартна і заўзята, але не маючы на тое ніякіх аб'ектыўных падстаў, пачаў гуляць на выйгрыш! Пакаранне за такі смелы ўчынак прыйшло адразу ж, і Віця хутка «дагуляўся» да пройгрышу. Але гэты хлапчукоўскі парыў усе зразумелі як належыць і засталіся задаволеныя. У чатырнаццацігадовым узросце куды больш патрэбны азарт і рызыка, чым халодны разлік і асцярога. І хоць Віця прайграў партыю, але вырваўся ўперад у

фармаванні якасцей сапраўднага шахматыста.

Віця імкнецца заўсёды закончыць партыю прыгожай камбінацыяй, вельмі зграбным тактычным ударам. У яго ўзросце гэта значна лепш, чым голая тэхніка і пазіцыйная барацьба.

У свой час выдатны чэшскі гросмайстар Рыхард Рэці даваў маладым шахматыстам вельмі правільную параду: «Перш чым спрабаваць гуляць пазіцыйна, навучыцеся камбінаваць. Магчыма, вы прайграеце некалькі партый, але навучыцеся гуляць у шахматы». Пад такім дэвізам развіваў свае здольнасці і Віця Купрэйчык.

Улетку 1965 года, калі Віцю не было яшчэ і шаснаццаці год, у Ленінградзе на турніры, для ўдзелу ў якім трэба было выканаць норму майстра, ён сустрэўся з сямю майстрамі, і запаветная мэта аказалася дасягнутай — Віця набраў 7,5 ачка з 14 магчымых. Ён атрымаў званне майстра спорту. У такім раннім узросце гэта ўдалося зрабіць аднаму толькі Юрыю Балашову, таксама школьніку з далёкага Кургана.

Віця займаўся ў шахматным гуртку Палаца піянераў, а летась разам са сваімі сябрамі і аднагодкамі кандыдатамі ў майстры Вечаславам Дэдышкам і Сяргеем Бегуном быў у спецыяльнай групе, якой кіраваў І. Баляслаўскі. Аддаючы належнае Віцевым педагогам, трэба адзначыць яшчэ аднаго неацэннага настаўніка — практыку і неабходную для гэтага самастойную працу над шахматным аналізам і літаратурай.

Віця бязмежна захоплены шахматамі, і ў гэтым зарука яго будучых поспехаў. Зразумела, што ні ў якім разе шахматы не павінны быць перашкодай для вучобы. Віця гэта добра разумее. Цяпер ён вучыцца ў дзесятым класе 45-й мінскай школы. Вучыцца добра, але поспехі ў вучобе маглі б быць лепшыя, асабліва па матэматыцы, да якой ён мае вялікую прыхільнасць. Для вучняў-шахматыстаў, і для Віці ў тым ліку, заўсёды прыкладам павінен быць М. Батвіннік і многія шахматысты старэйшага пакалення, якія заўсёды плённа і на поўную сілу сваіх магчымасцей спалучалі шахматы з вучобай і працай па спецыяльнасці.

Добра таксама, што Віця сумяшчае сваё захапленне шахматамі з заняткамі спортам: ён гуляе ў настольны тэніс, уваходзіць у зборную школы і раёна па футболу.

Новы, 1966 год Віця Купрэйчык сустрэў у Галандыі на першым сваім міжнародным, пакуль яшчэ юнацкім, турніры ў Тронінгене. Міжнародны дэбют быў удалым — Віця падзяліў 3—4 месцы, адстаўшы ад пераможцаў толькі на паўачка!

У шахматнай біяграфіі Віці Купрэйчыка нямала добра праведзеных атак, эфектных камбінацый. На турніры ў Тронінгене ён атрымаў цудоўную перамогу над чэмпіёнам Галандыі сярод студэнтаў майстрам Рэе. Але тут мы пазнаёмім нашых чытачоў з партыяй, якая прынесла першую перамогу Віцю Купрэйчыку над міжнародным майстрам, імя якога вядома ў многіх краінах — над В. Багіравым.

Гэтая партыя вельмі характэрная для прадпрыймальнага тактыка Віці Купрэйчыка.

**В. Багіраў — В. Купрэйчык** (Турнір на званне майстра спорту, Ленінград, 1965 год).

Славянская абарона: 1. d4 d5, 2. c4 c6, 3. Kf3 Kf6, 4. Kc3 dc, 5. a4 Cf5, 6. Kh4 Cg4, 7. h3 Ch5, 8. g4 Cg6, 9. K : g6 hg, 10. g5 (Не так небяспечна 10. Cg2, заканчваючы развіццё.) ... Kd5, 11. e4 Kb4, 12. Ce3 e5, 13. de Kd7, 14. f4, Cc5, 15. Cd2.

Пазіцыя белых ужо цяжкая, але, пазбягаючы размену чорна-белых сланоў, В. Багіраў трапляе «з агню ды ў полымя»!

15. ...K : e5!, 16. fe Фd4!, 17. Фe2.

На цікавыя варыянты пасля 17. Лh2 указвае В. Купрэйчык: 17. ... Л : h3!, 18. Лg2 (або 18. C : h3 Фg1+, 19. Cf1 Kd3+, 20. Kpe2 Фg4×!), 18. ... Kd3, 19. C : d3 (19. Kpe2 Лe3+), 19. ... cd, і няма абароны ад 20. ... Лh1+.

17. ... Kc2, 18. Kpd1 K : d1, 19. Ф : c4 000, 20. Лh2 Ф : e5, 21. Лe2 Лd4, 22. Фa2 Фf4, і белыя здаліся.



# ШЛЯХ ДА ПЕРАМОГІ

Некалі, гадоў сто таму назад, матчы былі асноўнай формай спартыўных спаборніцтваў у шахматах. Ішоў час, шахматы заваёўвалі ўсё большую папулярнасць, і спаборніцтвы сталі патрабаваць усё большага ўдзелу раўнацэнных шахматыстаў-майстроў. На змену матчам прыйшла другая, больш сучасная форма спаборніцтваў — турніры, дзе адначасова маглі прымаць удзел шаснаццаць, дваццаць і больш шахматыстаў высокай кваліфікацыі.

І ўсё ж матч застаўся не толькі пачэснай рэліквіяй мінулага. І да гэтага часу іменна ў матчавым спаборніцтве вырашаецца, хто з самых моцных шахматыстаў будзе чэмпіён свету: адзін з іх — уладальнік сусветнай шахматнай кароны, другі — прэтэндэнт на гэтае вышэйшае званне.

Да апошняга часу прэтэндэнт вызначаўся ва ўпартай барацьбе васьмі ці дзесяці мацнейшых гросмайстраў свету. Але вось ФІДЭ (Міжнародная федэрацыя шахмат) прыняла новую сістэму. Матчы сталі асноўнай формай спаборніцтва ўжо на далёкіх подступах да сусветнай шахматнай кароны, пачынаючы з чвэрцьфіналу прэтэндэнтаў. Гэта было цяжкае, многаэтапнае спаборніцтва, дзе гросмайстры вымушаны былі весці «межусобную барацьбу», як кажуць, не на жыццё, а на смерць. Адразу ж пасля жарабёўкі, якая вызначала чатыры чвэрцьфінальныя пары, было нямала невырашальных спрэчак наконт магчымых першых пераможцаў. Гэта зразумела: ужо на першым этапе скрыжавалі сваю шахматную зброю такія выдатныя «матадоры», як П. Керас і Б. Спаскі, Я. Гелер і В. Смыслоў. Лягчэй было ўжо рабіць прагнозы наконт другой «пулькі», дзе савецкі гросмайстар М. Таль сустракаўся з трыма замежнымі гросмайстрамі: Б. Ларсенам, Б. Іўкавым і Л. Порцішам. Здавалася, што перамога будзе за Талем. Але на справе і тут усё было не так проста. Так, у матчы Таль — Ларсен літаральна да апошняга моманту нельга было сказаць, хто пераможца, і толькі бліскучай гульнёй у дзесятай партыі Таль заваяваў перамогу.

Як вядома, савецкая «пулька» закончылася ўпэўненай перамогай другога, пакуль яшчэ самага маладога нашага гросмайстра Б. Спаскага. Спачатку ён атрымаў перамогу над непераможным да гэтага часу ў матчах шматвопытным П. Керасам, а потым пераканаўча разграміў гросмайстра Я. Гелера, які ў сваю чаргу ў першым матчы нанёс ашаламляльнае паражэнне В. Смыслову.

Матчы прэтэндэнтаў ужо на першых двух этапах далі шмат новага ў ацэнцы шахматнага становішча наогул. Стала відавочна, што ў першыя шэрагі барацьбітоў за сусветную шахматную карону выйшла маладое пакаленне гросмайстраў як нашых, так і замежных. Ужо ў міжзанальным турніры былі выціснуты з шэрагаў байцоў ветэраны, якія да апошняга часу лічыліся лепшымі зарубежнымі гросмайстрамі — С. Рашэўскі і С. Глігарыч. Дабравольна адмовіўся ад барацьбы такі фаварыт аматараў шахмат, як М. Найдарф. У сваю чаргу наша «залатая тройка», што была ў 1948 годзе «пачынальніцай» барацьбы за сусветную шахматную карону, выйшла з барацьбы — М. Батвіннік, В. Смыслоў і П. Керас на гэты раз не трапілі нават у паўфінал матча прэтэндэнтаў. М. Батвіннік вырашыў адмовіцца ад гульні наогул, а П. Керас і В. Смыслоў аказаліся ў ліку першых пераможаных.

Для шырокай аўдыторыі было вельмі цікава і павучальна назіраць за надзвычай вострымі і бескампраміснымі паядынкамі лепшых сусветных гросмайстраў. На гэты раз канкурэнты не маглі задаволіцца сяброўскімі поціскамі рук, спадзеючыся здабыць ачкі ў няўдачнікаў, як гэта было, напрыклад, у Кюрасао ў 1962 годзе. Пры гэтым выявіліся не толькі моцныя бакі гросмайстраў, але і слабыя іх месцы, іхнія «ахілесавы пяты».

Нарэшце, надышоў рашаючы паядынак паміж двума фіналістамі — Б. Спаскім і М. Талем. Як нашы, так і зарубежныя спецыялісты гэты матч справядліва называлі «матчам года». У шматлікай колькасці інтэрв'ю буйнейшыя шахматысты нашага часу, ацэньваючы шанцы прэтэндэнтаў перад матчам, як правіла, гаварылі пра перамогу Спаскага. Нават самыя заўзятыя прыхільнікі таленту М. Таля, як, напрыклад, экс-чэмпіён свету М. Эйве, вельмі скептычна ставіліся да магчымасці выйгрышу Талем. Даючы інтэрв'ю газеце «Труд», М. Эйве сказаў: «Таль мацнейшы, але матч, я думаю, выйграе Спаскі. У паядынку гэтых двух выдатнейшых шахматыстаў сучаснасці рашаючай можа быць фізічная падрыхтоўка. А тут перавага на баку Спаскага».

Парадаксальна выглядае інтэрв'ю аргенцінскага гросмайстра М. Найдарфа: «Я стаўлю на Спаскага! — сказаў ён. — Але калі вы таксама хочаце паставіць на яго, я вазьму Таля. Матчы? Калі ласка. Калі ўсе паставяць на Барыса, вядома, выйграе Міхаіл —

гэта закон таталізатара! Шанцы гросмайстраў роўныя, але цяпер мне ўсё ж больш імпануе Спаскі».

Вось у такой усхваляванай атмасферы, да таго ж у надзвычай тэмпераментнай аўдыторыі, якой з'яўляюцца жыхары Тбілісі, праходзіў матч нашых лепшых маладых гросмайстраў. Першая палова матча праходзіла з некаторай адметнай унутранай ініцыятывай у Таля. Неяк залішне скавана адчуваў сябе Спаскі. Мусіць, сапраўды цяжка быць фаварытам! Гэтая ж стадыя матча выявіла некаторую слабасць Спаскага ў стратэгічнай пастаноўцы дэбюта. Наадварот, Таль слабейшым выглядаў у так званых простых пазіцыях, асабліва тады, калі з дошкі знікалі фярзі — гэтыя грозныя вестуны камбінацыі і атакі. З другога боку, Спаскі неяк занадта абмяжоўваў свае камбінацыйныя магчымасці (вядома ж, што перавага Спаскага якраз у яго выключнай рознабаковасці) і гуляў залішне схематычна на эндшпіль. Пасля роўнай, хоць і вельмі вострай з абодвух бакоў барацьбы першая палова закончылася ўнічыю — 3:3.

Крызіс вызначыўся хутка і нечакана ў дзевятай партыі матча. Спачатку тут перавага была на баку Таля, але ён яўна не вытрымаў напружанасці і неўзабаве быў пераможаны. Наступныя дзве партыі — дзесятая і адзінаццатая — праходзілі пад знакам ужо яўнай перавагі Спаскага. Агульны лік 7:4 у карысць Спаскага вельмі пераканаўчы. Калі ж улічыць агульны лік Спаскага ў трох матчах — супраць Кераса, Гелера і Таля — які быў 18,5:10,5 (прыкладна, 63 працэнты!!) у карысць Спаскага, становіцца відавочным яго вялікі, проста-такі сенсацыйны поспех. Нездарма Б. Спаскі быў названы летась адным з самых папулярных спартсменаў нашай краіны.

Цяпер робяць ужо шматлікія прагнозы, якімі будуць паядынкі паміж Петрасянам і Спаскім у матчы на званне чэмпіёна свету. Але не варта гэтым займацца. Можна толькі ўпэўнена сказаць, што гэта будзе барацьба роўных па сіле байцоў. І гэта будзе вельмі складаны матч, дзе будзе пераважаць пазіцыйны стыль гульні.

Прыводзім адну з партый Спаскага. Пазіцыя гэта сустрэлася ў партыі Спаскі — Палугаеўскі (XXV першынство СССР).




Белыя: Крс1, Фd2, Лd1 і е1, Cb3, Кс3 і d4; пп: а2, b2, с2, е5, g3, h2 (13).

Чорныя: Кре8, Фа5, Ла8, Лh8 Cb7 і е7, Кс5; пп: а6, b5, е6, f7, g7, h7 (13).

Б. Спаскі вельмі прыгожа вядзе атаку на караля чорных: 1. С:е6! 0—0 (У выпадку 1. ...fe, 2. К:е6! К:е6, 3. Фd7+ Крf7, 4. Лf1+ атаку белых не адаб'еш, але і цяпер справы чорных дрэнныя), 2. Cb3 Лad8, 3. Фf4 h4, 4. Ка4 h6, 5. К:с5, Ф:с5, 6. h4 Cd5, 7. Кf5 С:b3, 8. ab Л:d1+, 9. Л:d1 Лс8, 10. Фе4, і белыя неўзабаве перамаглі.




# ЗА ДОШКАЙ ШАШЫСТКІ

**Раздзел вядзе майстар спорту СССР Макс ШАВЕЛЬ**

Вельмі часта пасля заканчэння адказнага спаборніцтва пра якога-небудзь няўдачніка турніру гавораць, што ён гуляў мацней за пераможцу. Вядома, і ў вопытных спартсменаў бываюць прыкрыя няўдачы. Аднак ніхто не лічыць С. Агароднікаву, пераможцу перадапошняга першынства, няўдачніцай, хоць яна і страціла тытул чэмпіёнкі краіны на нядаўнім жаночым чэмпіянаце краіны на шашках. Наперадзе вопытнай шашысткі аказаліся рыжанка Іаганна Ціне і ленінградка Ірына Спаская, якія набралі аднолькавую колькасць ачкоў. Пра высокі клас гульні гэтых шашыстак лепш за ўсё гавораць іх спартыўныя званні — яны майстры спорту. І сваё майстэрства яны не аднойчы дэманстравалі ў розных спаборніцтвах.



Надзвычайны быў поспех Іаганны Ціне, якую запрасілі ўдзельнічаць па-за конкурсам у мужчынскім першынстве Літвы. У чэмпіянаце, дзе гуляла шмат майстроў спорту і мацнейшых кандыдатаў у майстры, яна заваявала званне чэмпіёна рэспублікі сярод мужчын.

Выдатных поспехаў у шашачнай гульні дасягнула і юная сястра вядомага шахматнага гросмайстра — Ірына Спаская. Не многія шашысткі адважацца гуляць у класіфікацыйных спаборніцтвах на роўных правах з мужчынамі. Асабліва, калі ў турніры ўдзельнічаюць вопытныя ленінградскія майстры. Але добра натрэніраваная Ірына Спаская была ўпэўнена ў сваіх сілах і рызыкнула згуляць у такім турніры. Пасля заканчэння спаборніцтва выявілася, што яна нічым не рызыкавала. Добрыя веды і дакладны разлік памаглі ёй абыграць многіх удзельнікаў турніру і выканаць норму майстра спорту. У апошнім чэмпіянаце краіны сярод жанчын Спаская гуляла бездакорна і не прайграла ніводнай сустрэчы.

У паядынку паміж Спаскай і Ціне вырашалася, хто будзе ўладальнікам залатога медаля чэмпіёна краіны. Ім стала Ірына Спаская.

Беларускім шашысткам таксама часта прыходзіцца сустракацца за дошкай з мацнейшымі спартсменкамі краіны ў камандных і асабістых спаборніцтвах. Лепшыя нашы шашысткі заўсёды аказваюць упартае супраціўленне вядомым майстрам. А студэнткі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Алена Соркіна і Ганна Хапалюк здолелі пацясніць некаторых майстроў спорту і ўвайсці ў дзесятку мацнейшых шашыстак краіны.

Нямала спартыўных і творчых поспехаў у адной з мацнейшых першаразрадніц Лілі Лесінай. Гуляючы ў паўфінале першынства краіны ў горадзе Сумгаіце, яна ў бліскучым камбінацыйным стылі выйграла ў будучай чэмпіёнкі Спаскай. Гэта партыя атрымала спецыяльны прыз за эфектную камбінацыю.




**І. Спаская** — **Л. Лесіна**

1. c3—b4 f6—e5
2. g3—h4 b6—a5

Тут чорныя ўхіляюцца ад добра вядомага дэбюту «зваротны ход», які атрымліваецца пасля ходу 2... e5—f4.

3. h2—g3 a5—c3
4. b2—f6 g7—e5
5. a3—b4 h8—g7
6. e3—f4 a7—b6

Хутка прайграваў натуральны ход 6. ...e5—d4 з-за 7. d2—e3 c7—b6, 8. e3 : c5 b6 : d4, 9. g1—h2!! d6—e5 (вымушаны ход), 10. f4 : d6 a7 : a3, 11. c1—b2! a3 : c1, 12. g3—f4 c1 : g5, 13. h4 : h8 з выйгрышам.

7. b4—a5 b6—c5
8. a1—b2 g7—f6
9. b2—c3?

Гэта няправільны ход. Трэба было гуляць 9. f2—e3.

9. ... c5—d4

Чорныя смела ўрываюцца на палавіну дошкі праціўніка.

10. f2—e3??

Гэты ход прайграе партыю. Ад паражэння мог вырataваць толькі ход 10. c3—b4.

Хутка прайграваў таксама і ход 10. g1—h2 d4 : b2, 11. c1 : a3 з-за 11. ... f6—g5!, 12. h4 : d4 d6—e5, 13. f4 : d6 e7 : g1 з выйгрышам.

# СОРАК БАЕК КРАПІВЫ

Кніга пад такой назвай выйдзе сёлета з друку ў выдавецтве «Беларусь». Малюнкі да баек зрабіў мастак Анатоль Волкаў. Падаем некаторыя з іх.



Крычыць: — Бабулечка, — жывот!
Зязюлька, — паясніца! —
Аж з твару зменіцца і з голасу спадзе,
Пакуль малое Жонка прывядзе.
**«Кувада» (1929).**



І вось пачуў аднойчы бог —
Ды што за ліха! —
Пяюць удвох!
А гэта перад службай Поп трэніраваўся,
І папугай пад лад прыстасаваўся.
**«Поп і Папугай» (1949).**

## ПРОСЬБА СЭРЦАЕДА



Не падступіцца, не падысці.
Пазыч мне яблык, браце
Адам,
Клянуся, чэсным буду
ў жыцці
І толькі яблык той...
не аддам.

## ПАСЫЛКА Ў МАГІЛЁЎ



### АЛЯКСЕЮ ПЫСІНУ

**Без барады і без залысін,**
**А ў класіку цаляе.**
**Бо з халастых паэт А. Пысін**
**Ніколі не страляе.**



### ВАСІЛЮ МАТЭВУШАВУ

«Сышлі кудысьці крыгаў статкі»
(«Сярэбраная кладка»)

**Сышлі кудысьці крыгаў статкі,**
**З Лахвы прыпёрла многа сіл.**
**Любога грымне на лапаткі,**
**Але не хоча наш Васіль.**



### ПЯТРУ ШАСЦЕРЫКОВУ

**Камень за камнем, год**
**за годам.**
**Восень мінула, растала зіма.**
**Палацу б з'явіцца якраз нагода,**
**Ды цэгла ў падмурку, а блокаў**
**няма.**

### АНАТОЛЮ КАНАПЕЛЬКУ

**Месік, быццам бы каток,**
**Цёплая пасцелька.**
**Баю-баінькі, сынок,**
**Толік Канапелька.**



Павел **ЧАРОМХА.**

Сяброўскія шаржы **М. ЛІСОЎСКАГА.**




**ШУРПА Уладзімір** нарадзіўся ў 1939 годзе на Скідэльшчыне. Працаваў электрыкам на цукровым заводзе, а потым скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы. Настаўнічае ў Іўеўскім раёне.

●

**ПІНЧУК Аркадзь** нарадзіўся ў 1930 годзе ў мястэчку Васілевічы на Гомельшчыне. Скончыў ваеннае вучылішча і працуе ваенным журналістам.
Вучыцца завочна ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага.

●

**ТУЛУПАВА Нэла** нарадзілася ў 1938 годзе ў Рэчыцкім раёне. Скончыла Гомельскае медыцынскае вучылішча, працавала медсястрой. Цяпер — на камсамольскай рабоце.

●

**ВАСІЛЕВІЧ Алена** нарадзілася 22 снежня 1922 года ў вёсцы Ліпнікі на Случчыне. Першы празаічны твор пісьменніцы — аповесць «У прасторах жыцця» з'явілася ў друку ў 1947 годзе. А. Васілевіч належыць кнігі аповесцей і апавяданняў: «Шляхі-дарогі», «Блізкія знаёмыя», «Сябры», «Я з вамі» і іншыя.
Алена Васілевіч працуе ў рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка».

●

**ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна. Працаваў у рэдакцыях раённых газет, служыў у Савецкай Арміі.
Вучыцца ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага ў Маскве.

●

**БЛАТУН Сямён** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Кавака на Брагіншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Вожык».

# ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

## ЗАПРАШАЕМ ВАС ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІС «МАЛАДОСЦЬ» ДА КАНЦА ГОДА.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ», № 3**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ** і **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.II.66 г. Падпісана да друку 26.II.66 г.
АТ 08558. Тыраж 8336. Зак. 54. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



Нафтавік Азбек.



Нафта пайшла.

## РУКАТВОРНЫ ВОСТРАЎ

Малюнкі Э. Гусейнава.

З Баку ў мора.



